**Т. В. Кабржыцкая**
**В. П. Рагойша**

# Карані дружбы

*Беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемасувязі пачатку XX стагоддзя*

Выдавецтва БДУ
імя У. Леніна
Мінск, 1976

**Кабржыцкая Т. В., Рагойша В. П.**

Карані дружбы. Беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемасувязі пачатку XX ст. Мн., Выд-ва БДУ, 1976. - 256 с.

У кнізе на аснове шматлікіх друкаваных і архіўных матэрыялаў асвятляюцца малавядомыя і невядомыя факты беларуска-украінскіх літаратурных узаемасувязей пачатку XX ст., вызначаюцца іх заканамернасці і эвалюцыя, характар беларуска-ўкраінскага мастацкага перакладу, сувязі творчасці беларускіх пісьменнікаў (Купала, Колас, Багдановіч, Цётка і інш.) з украінскай культурай і ўкраінскіх (Шаўчэнка, Фрайко, Крапіўніцкі, Стэфанік і інш.)— з беларускай.

Разлічана на філолагаў, выкладчыкаў ВНУ, аспірантаў і студэнтаў, а таксама ўсіх тых, хто цікавіцца пытаннямі літаратурных сувязей, тэорыяй і гісторыяй перакладу.

# ПРАДМОВА

Сёння «пралетарскі інтэрнацыяналізм набывае асаблівую актуальнасць, робіцца важнейшай перадумовай сацыяльнага прагрэсу, згуртавання ўсіх рэвалюцыйных сіл для далейшага наступлення на імперыялізм»[1]. Мы — сведкі небывалых раней актыўнейшых міжнацыянальных і міжнародных сувязей ва ўсіх галінах чалавечай дзейнасці — палітыцы, эканоміцы, навуцы, культуры. З асаблівай сілай і дзейснасцю пралетарскі інтэрнацыяналізм выявіў сябе ў першай сацыялістычнай краіне свету, шматнацыянальнай па сваім складзе,— Савецкім Саюзе.

У цесным яднанні савецкіх народаў, у тым ліку ўкраінскага і беларускага, надзвычай вялікую ролю адыграла мастацкая літаратура. Літаратура — мова нацыі. Дзякуючы ёй нацыя не толькі выяўляе сябе як пэўную сацыяльна-этнічную агульнасдь, але і прамаўляе да іншых нацый і народнасцей, наладжвае з імі сувязь. Менавіта таму вывучэнне літаратурных сувязей было, ёсць і будзе адной з галоўнейшых задач нашага літаратуразнаўства.

Савецкія вучоныя, кіруючыся ленінскімі прынцыпамі раўнапраўя народаў і іх культур, еднасці нацыянальнага і інтэрнацыянальнага, актыўна выкрываюць буржуазныя тэорыі як нацыяналістычнага, так і касмапалітычнага гатункаў. Буржуазна-кампаратывісцкай уплывалогіі, тэорыі іерархіі народаў, ідэям самаізаляцыі і адасобленасці нацыянальных літаратур, а таксама тэорыі нівеляцыі нацый, ідэям «еўрапейскай», «сусветнай» літаратуры савецкае літаратуразнаўства супрацьпастаўляе канцэпцыю культурнага ўзаемаабмену, ідэю самабытнасці нацыянальнай культуры, якая пастаянна ўзбагачаецца дзякуючы самым розным формам сувязей з іншымі літаратурамі свету. Навука пра літаратуру краін сацыялістычнай садружнасці не толькі вывучае, але і ўплывае на працэс культурнай інтэграцыі народаў, сама ўключаецца ў яго. Як падкрэслена ў Справаздачным дакладзе ЦК КПСС XXIV з'езду Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, развіццё навукі, культуры і літаратуры ў нашай краіне, выхаванне працоўных і далей будзе адбывацца «ў духу сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, непрымірымасці да праяў нацыяналізму і шавінізму, нацыянальнай абмежаванасці і фанабэрыстасці ў якой бы там ні было форме, у духу глыбокай павагі да ўсіх нацый і народнасцей»[2].

---

[1] Да 100-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна. Тэзісы Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Мінск, 1969, с. 41.

[2] Брэжнеў Л. І. Справаздачны даклад Цэнтральнага Камітэта КПСС XXIV з'езду Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Мінск, 1971, с. 90.

Увага савецкага літаратуразнаўства да пытанняў міжлітаратурных узаемасувязей значна ўзрасла ў апошнія дзесяцігоддзі. Даследаванні вучоных высвятляюць у асноўным тры тыпы такіх сувязей: кантактныя (прамыя і апасродкаваныя), генетычныя (факты разглядаюцца па агульнасці паходжання ці набытых у іпрацэсе ўплываў своеасаблівых рыс), гісторыка-тыпалагічныя (адзінства гістарычных і духоўных працэсаў у развіцці чалавецтва). Сярод лепшых прац неабходна перш за ўсё назваць асобныя калектыўныя зборнікі, выдадзеныя Акадэміяй навук СССР і акадэміямі саюзных рэспублік, працы В. Жырмунскага, Г. Ламідзе, І. Неупакоевай, М. Храпчанкі, Г. Вервеса, П. Прыгадзія, Н. Перкіна, М.Ларчанкі, А. Мальдзіса і інш.[1]

Вывучэнне беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей пачалося больш за сто гадоў таму назад. Зараз гістарыяграфія гэтага пытання налічвае сотні работ, розных па сваім характары, памеры і якасці,— ад невялікіх газетных паведамленняў да асобных манаграфій, ад фактаграфічных апісанняў да тэарэтычных абагульненняў, ад эпігонскага перапісвання фактаў да прац наватарскіх і арыгінальных[2].

У 1969 г. у Гомелі і ў 1972 г. у Львове адбыліся першая і другая навуковыя канферэнцыі па вывучэнні ўкраінска-беларускіх літаратурных і фальклорных сувязей, якія яшчэ больш актывізавалі працу вучоных у гэтым напрамку[3]. У маі 1973 г. у Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна была праведзена рэспубліканская славістычная канферэнцыя, на якой беларуска-ўкраінскаму літаратурнаму ўзаемадзеянню таксама ўдзялялася значная ўвага[4]. І ўсё ж патрэбна падкрэсліць: багата аспектаў гэтай праблемы яшчэ не знайшло сваёй належнай распрацоўкі. Да гэтага часу большасць публікацый не выходзіць за межы эмпірычных назіранняў, апісальнасці і звычайнай фактаграфічнасці. Не распрацавана стройная методыка аналізу беларуска-ўкраінскіх сувязей, няма адзінага тэрміналагічнага апарату (як, зрэшты, пры вывучэнні міжлітаратурных сувязей увогуле). Усё гэта ў значнай ступені вызначылася на вывучэнні апошняга перадкастрычніцкага перыяду ў гісторыі беларуска-ўкраінскіх літара-

---

[1] Гл.: бібліяграфічныя даведнікі «Взаимосвязи и взаимодействие национальных культур». Библиография (1945-1960), ч. 1-3. М„ 1962; «Взаимосвязи и взаимодействия литератур мира» (1961-1965), ч. 1. М., 1967, а таксама перыядычнае выданне, што выпускаецца Кніжнай палатай СССР,— бібліяграфічны двухмесячнік «Литература и искусство народов СССР и зарубежных стран» (выдаецца з 1957 г.)

[2] Гл.: Бібліяграфічны ўказальнік прац аб беларуска-ўкраінскіх літаратурна-фальклорных сувязях (1865-1965). Складальнік — П. П. Ахрыменка (Гомель, 1967).

[3] Гл.: Матэрыялы першай навуковай канферэнцыі па вывучэнні беларуска-ўкраінскіх літаратурных і фальклорных сувязей. Гомель, 1969; Тези доповідей і повідомлень другої' коііференції' по вивченню украі'нсько-білоруських літературних зв'язків, прйсвяченоі 50-річчю СРСР. Львів, 1972.

[4] Гл.: Тыпалогія і ўзаемадзеянне славянскіх моў і літаратур. Тэзісы дакладаў другой рэспубліканскай славістычнай канферэнцыі. Мінск, 1973.

турных узаемасувязей, акрэсленага датамі вялікіх рэвалюцый 1905 і 1917 гг.

Пачатак XX стагоддзя — адзін з найбольш цікавых і разам з тым складаных перыядаў у гісторыі літаратурнага яднання беларускага і ўкраінскага народаў. Высвятленне асобных яго момантаў знаходзім у кнігах і артыкулах С. Александрова, П. Ахрыменкі, І. Баса, Л. Бондар, У. Дарашэнкі, І. Дзенісюка, Л. Жыдзяк, В. Лесіна, А. Лойкі, Э. Мартынавай, В. Маторнага, Л. Мішчанка, Ф. Небарачка, В. Піўтарадні, Ю. Пшыркова, Ю. Ступака і некаторых іншых беларускіх і ўкраінскіх вучоных. Аднак да гэтага часу няма спецыяльнага даследавання, у якім бы сістэматызавана разглядаліся па мажлівасці ўсе віды і формы сувязей пачатку стагоддзя, рабілася спроба ўстанавіць заканамернасці развіцця гэтых сувязей, іх месца ў гісторыі ўкраінска-беларускага літаратурнага яднання. Кніга «Карані дружбы» і мае на мэце ў пэўнай ступені запоўніць гэты прабел у навуковым асэнсаванні гісторыі літаратурных сувязей двух брацкіх народаў.

У лісце да І. Арманд ад 30 лістапада 1916 г. У. І. Ленін пісаў: «Увесь дух марксізму, уся яго сістэма патрабуе, каб кожнае палажэнне разглядаць толькі (α) гістарычна; (β ) толькі ў сувязі з іншымі; (γ) толькі ў сувязі з канкрэтным вопытам гісторыі»[1]. У сваёй кнізе працэсы, якія адбываліся ва ўкраінскай і беларускай літаратурах дакастрычніцкага часу, аўтары імкнуцца вытлумачыць гістарычнымі абставінамі жыцця ўкраінскага і беларускага народаў, асаблівасцямі грамадскага развіцця тагачаснай Расіі, актывізацыяй сацыяльнай і нацыянальнай барацьбы працоўных, што ўрэшце прывяла да перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Улічваючы словы У. І. Леніна, што «факты, калі ўзяць іх у іх цэлым, у іх сувязі, не толькі «ўпартая», але і безумоўна доказальная рэч»[2], аўтары значную ўвагу звяртаюць на новыя, да гэтага часу мала або зусім невядомыя факты з гісторыі беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей і на абагульненне ўжо вядомых, раскіданых па розных газетных і часопісных публікацыях.

Разам з тым факты, якімі яны значнымі ні былі б, самі па сабе яшчэ мала што значаць. Вага іх значна ўзрастае, калі яны становяцца падставай для пэўных роздумаў, служаць фундаментам для пабудовы пэўнай навуковай канцэпцыі. «Без гісторыі прадмета няма тэорыі прадмета,— пісаў рэвалюцыйны дэмакрат М. Г. Чарнышэўскі, і тут жа дадаваў:— але і без тэорыі прадмета няма нават і думкі пра яго гісторыю, таму што няма разумення яго прадмета, яго значэння і яго

[1] Ленін У. І. Творы, т. 35, с. 202.
[2] Ленін У. І. Творы, т. 23, с. 265.

межаў»[1]. Укнізе на аснове фактычнага матэрыялу робяцца неабходныя тэарэтычныя высновы, звязапыя з высвятленнем заканамернасцей і спецыфікі беларуска-ўкраінскіх узаемасувязей невялікага па часе, але багатага па выніках гістарычнага перыяду.

Аўтары кнігі спрабуюць устанавіць эвалюцыю сувязей, паказаць іх пашырэнне, якасныя змены. Гэта тым больш неабходна, што з 1917 года пачынаецца новы, савецкі этап беларуска-ўкраінскіх сувязей, які можна вызначыць як перыяд літаратурнага ўзаемадзеяння.

Беларуская і ўкраінская літаратуры ў савецкі час сустрэліся як роўныя, на аснове адзінага метаду — сацыялістычнага рэалізму. Літаратурныя ўзаемаадносіны не толькі непараўнана абагаціліся новымі формамі і відамі сувязей, але і кожны від паасобку перажыў абнаўленне, своеасаблівы якасны «скачок». Сувязі пачалі ажыццяўляцца планамерна, сталі адной з вызначальных заканамернасцей самога літаратурнага працэсу. Зразумела, глыбока спасцігнуць усё гэта немагчыма без уліку беларуска-ўкраінскіх міжлітаратурных кантактаў дарэвалюцыйнага часу, і асабліва — на пачатку XX ст.

Аўтары выказваюць шчырую падзяку кандыдатам філалагічных навук І. Дзенісюку, Ф. Небарачку, Э. Мартынавай, А. Мальдзісу, К. Хромчанку, калектыву кафедры беларускай літаратуры БДУ імя У. І. Леніна, дзе абмяркоўвалася кніга, за добразычлівыя і карысныя парады, накіраваныя на паляпшэнне гэтага выдання.

Асноўная работа па збору і апрацоўцы фактычнага матэрыялу кнігі выканана Т. В. Кабржыцкай.

Аўтары будуць удзячны кожнаму, хто з увагай аднясецца да выказаных тут думак і палажэнняў і прышле свае водгукі і прапановы.

---

[1] Чернышевский Н. Г. Полн. собр. соч., т. 11. М., 1949, с. 265—266.

## ШЛЯХАМ І ЎЗАЕМААЗНАЯМЛЕННЯ

Калісьці паміж двух шнуроў пшаніцы
спынілі двое на мяжы плугі.
І з іх адзін назваўся уам
і беларусам вызнаўся другі.

Абое селі і на родных мовах
паміж сабой гамонку павялі.
І стала іх ратайская размова
найпершай дыпламатыяй зямлі...

Невядома, ці менавіта такімі былі першыя беларуска-ўкраінскія зносіны, як гэта ўявіў сабе паэт Сяргей Панізнік. Аднак добра вядома, што заўсёды, пры ўсіх акалічнасцях, узаемадачыненні беларусаў і ўаў, як і наогул трох усходнеславянскіх народаў-братоў, засноўваліся на няпісаных законах сапраўднага пабрацімства, карані якога — у глыбінных пластах мінулых эпох.

Калі мець на ўвазе пачатак XX ст., то і ён не «бязбацькавіч», і ён не без роду і племені. Многія з'явы, у тым ліку працэс беларуска-ўкраінскага літаратурнага яднання, стануць больш акрэсленымі і зразумелымі, калі адгарнуць крыху покрыва часу, заглянуць у папярэднія стагоддзі і перш за ўсё — у XIX. Яно — непасрэдны папярэднік XX веку. З таго, чым яно скончылася, пачаўся новы век — век нябачаных дагэтуль сацыяльных зрухаў у гісторыі не толькі шматлікіх народаў Расіі, але і ўсяго чалавецтва.

Яшчэ раней, знаходзячыся ў межах адзінага Вялікага княства Літоўската (Літоўскай Русі, як назваў гэту дзяржаву Маркс), беларусы і ўы былі не толькі палітычна, але і культурна цесна звязаны паміж сабой. Дастаткова сказаць, што яны карысталіся адной і той жа «заходнерускай» літаратурнай мовай, у іх культуры часам уносілі ўклад адны і тыя ж дзеячы (Л. Зізаній, Мялецій і Герасім Сматрыцкія, А. Рымша і інш.). І ўсё ж у XVIII ст. духоўная еднасць народаў была амаль поўнасцю перапынена. Езуіцкая палітыка Рэчы Паспалітай, што актыўна пачала праводзіцца пасля Люблінскай уніі (1569), шмат у чым дасягнула сваёй мэты: беларускае і ўкраінскае пісьменства прыходзідь у заняпад, мова — выгнана з дзяржаўнага ўжытку, культуры — раз'яднаны. І калі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793 і 1795) Беларусь і Правабярэжная Украіна былі далучаны да Расіі, то пачалося не толькі нараджэнне новых беларускай і ўкраінскай літаратур, але і станаўленне, па сутнасці,

новых літаратурных сувязей паміж двума брацкімі народамі. Патрэбна было ўстанавіць новыя кантакты паміж пісьменнікамі, абмен культурнымі каштоўнасцямі, неабходнай інфармацыяй і г. д.

Калі прыняць пад увагу тагачасную маладосць абедзвюх літаратур, то стане зразумелым, што зрабіць усё гэта было не лёгка. Да таго ж царызм перашкаджаў не толькі развіццю нацыянальнай свядомасці народаў, але і іх культурнаму збліжэнню. Праклятае царысцкае мінулае, пісаў У. І. Ленін, «усё зрабіла для ўзаемаадчужэння народаў, такіх блізкіх і па мове, і па месцу жыхарства, і па характару, і па гісторыі»[1]. Усе пастановы пра забарону ўкраінскага друку механічна пераносіліся і на друк беларускі. Калі ў 1887 г. студэнт Палінкоўскі прадставіў пецярбургскаму цэнзурнаму камітэту рукапіс перакладу на беларускую мову апавядання ліберальнага ўкраінскага пісьменніка А. Старажэнкі «Вучы лянівага не молатам, а голадам», камітэт забараніў друкаваць яго. Забараняючы праз некалькі гадоў «Беларускія расказы» Ф. Багушэвіча (рукапіс кнігі дагэтуль не адшуканы), цэнзары зноў жа баяліся, каб не прыхоўвалася ў «такого рода сочинениях тенденция, кроме «малорусской», создать еще и «белорусскую» литературу и таким образом разбить и ослабить литературное и национальное единство, а впоследствии этого и политическое могущество русского народа»[2]. Усё гэта пепамерна ўскладняла міжлітаратурныя сувязі ўкраінскага і беларускага народаў.

Беларуска-ўкраінскія сувязі XIX ст., у адрозненне, скажам, ад руска-ўкраінскіх ці беларуска-польскіх сувязей таго часу, не праходзілі як працэс[3]. Яны вызначаліся спарадычнасцю, выпадковасцю, а адсюль і адносна нязначнай прадукцыйнасцю. Узаемаперакладаў літаратурных твораў амаль не існавала. Вядомы, напрыклад, толькі пераклад на беларускую мову «Гімна» («Вечны рэвалюцыяпер») І. Франка, выкананы А. Гурыновічам. Але уплыву ні на літаратуру, ні па характар сувязей аказаць ён не мог, бо ўпершыню ўбачыў свет ажно пасля Вялікай Айчыннай вайны, у 1956 г. Поўная адсутнасць нацыянальнай беларускай перыёдыкі і ў вялікай ступені (на Усходняй Украіне) украінскай не дазваляла хаця б зводьшага знаёміць чытачоў з дасягненнямі суседзяў у галіне мастацтва слова, выступаць з рэцэнзіямі і аглядамі іх мастацкіх твораў.

Уплывы адной літаратуры на другую былі вельмі нязначнымі. Як прыклад можна нагадаць хіба што беларускую «Энеіду навыварат»,

---

[1] Ленін У. І. Творы, т. 25, с. 76.
[2] Гл.: Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя. Мінск, 1956, с. 317—318.
[3] Слова «працэс» мы ўжываем у яго непасрэдным значэнні — як «сукупнасць паслядоўных дзеянняў, накіраваных на дасягненне пэўнага выніку» (гл.: «БСЭ», т. 35. М., 1955, с. 177).

створаную пад уплывам розных перапрацовак «Энеіды» Вергілія і, у першую чаргу, «Энеіды» І. Катлярэўскага, ды яшчэ некаторыя творы Ф. Багушэвіча, якія ўзніклі, відаць, у выніку знаёмства паэта з творчасцю Тараса Шаўчэнкі[1]. Нават працяглае пражыванне некаторых украінскіх пісьменнікаў (А. Старажэнка, Я. Галавацкі) на Беларусі, а беларускіх (Ян Баршчэўскі, Ф. Багушэвіч) на Украіне не прывяло да наладжвання непасрэдных літаратурных кантактаў — настолькі адчувальным было культурнае размежаванне народаў, настолькі маламі і раскіданымі былі літаратурныя сілы. Менавіта таму найбольш актуальнай задачай беларуска-ўкраінскіх сувязей XIX ст. была ліквідацыя духоўнага бар'ера, што аддзяляў адзін народ ад другога. Калі вызначыць асноўныя асаблівасці гэтых сувязей, то мінулае стагоддзе можна ахарактарызаваць як час беларуска-ўкраінскага агульнакультурнага ўзаемаазнаямлення. Яно поўнасцю ўвабрала, акумулявала ў сабе і тыя адзінкавыя факты ўласна літаратурных узаемаадносін, на якія XIX ст. было надта бедным.

Узаемаазнаямленне найбольш яскрава выявілася ў галіне гуманітарных навук — гісторыі, этнаграфіі, фальклярыстыкі і мовазнаўства. Асабліва ўзмацнілася ўвага да быту, вуснай народнай творчасці ўаў і беларусаў у апошняе саракагоддзе XIX ст.

Беларусазнаўцы цікавіліся працамі сваіх украінскіх калег; уы, у сваю чаргу, сачылі за дасягненнямі даследчыкаў беларускай славеснасці. Так, М. Доўнар-Запольскі, Я. Карскі, Е. Раманаў і іншыя вучоныя пісалі пра помнікі ўкраінскай пісьменнасці, культуры і літаратуры, рэцэнзавалі ў друку розныя навуковыя публікацыі, уключаючы і артыкулы, што датычыліся Украіны. М. Драгаманаў, А. Патабня, У. Гнацюк, разглядаючы тыя ці іншыя праблемы гісторыі, філасофіі, мовы, заўсёды выкарыстоўвалі беларускі матэрыял, уводзілі яго ў навуковы ўжытак.

Этнаграфічныя матэрыялы пра Беларусь трапляюць і на старонкі некаторых заходнеўкраінскіх перыядычных выданняў. Так, «Зоря галицька» ў 1856 г. (№ 50) друкуе гісторыка-культурную нататку «Бела-Вежа» (падаём у тагачасным напісанні). Газета «Денница» (1880, № 7) надрукавала ў арыгінальным гучанні дзве беларускія народныя песні: «Та чом ты, лосю!» і «Туман, туман па даліне». «Школьна часопись» (1887, № 13-16) друкавала з працягам раздзел «Беларусіны» з «Этнаграфіі славяншчыны» Стадольскага. Этнаграфічныя беларускія матэрыялы змяшчалі і іншыя выданні — «Товариш» (М. Драгаманаў.

[1] Ёсць звесткі, што Ф. Багушэвіч, відаць, пад уплывам Кабзара, пачаў сваю творчасць яшчэ ў часы вучобы і працы на Украіне (1864-1884) і на ўкраінскай мове (гл.: Запісы беларускага навуковага таварыства, сш. 1. Вільня, 1938, с. 21). Аднак шырокі дабратворны ўплыў Шаўчэнкі на беларускую літаратуру пачынаецца толькі на пачатку XX ст.

«Навуковы метад у этнаграфіі» — 1888, № 1), «Галицька Русь» («Свята вялікадня ў беларусаў і літоўцаў», без подпісу — 1891, № 24-25), «Народ» (А. Хванько — А. Крымскі. «Тое-сёе пра беларусафільства ў Расіі» — 1892, №5-6). Іх шырока выкарыстоўваў у сваіх падарожных замалёўках А. Старажэнка («Убачанае ў Нясвіжскім замку» — «Слово», 1866, №55; «Эпізод з паездак па Літве і Беларусі» — «Слово», 1877, № 24). Можна было б назваць яшчэ некалькі характэрных матэрыялаў. Аднак, думаецца, даволі і гэтага, каб убачыць, што хоць і з вялікай цяжкасцю, але ўсё ж веды пра Беларусь і беларусаў пачалі нарэшце даходзіць і да ўаў.

Для навукова-культурнага ўзаемаазнаямлення беларусаў і ўаў асаблівую каштоўнасць мелі тыя публікацыі, у якіх украінскія і беларускія матэрыялы стаялі поруч. Яшчэ Аляксандр Рыпінскі ў сваім даследаванні «Беларусь» (Парыж, 1840) родныя песні часта параўноўваў з украінскімі, узнаўляючы іх па памяці або беручы з кнігі «Pieśni polskie i ruskie ludu galicyjskiego» (Львоў, 1833) Вац. Залескага. Украінскія песні ў кнізе выдзелены ўасобны раздзел. Іх суправаджаў надзвычай хвалебны водгук А. Рыпінскага, які нельга не прыгадаць. «Нямала ўкраінскіх песень,— пісаў беларускі пісьменнік,— спяваюць нашы беларусы... Прызнаюся шчыра, што ўкраінскія люблю больш, чым усе іншыя. У іх ёсць нейкая няўлоўная сіла, што раптам бярэ ў палон сэрца, дагаджае пачуццю, а простая, натуральная іх паэзія, высокая гармонія іх мелодыі, жывасць выразаў і дасціпнасць зваротаў робяць цуд!»[1] Знамянальны водгук, асабліва калі прыняць да ўвагі час яго з'яўлення!

Цікава, што, характарызуючы «шалёнага маскоўскага цара» Мікалая І, А. Рыпінскі згадвае словы ўкраінскай песні і адносіць іх непасрэдна да самадзержда:

Чоловіче Мйколаю!
Де ж я тебе поховаю?..
Поховаю на могилі,
Щоб по тобі вовки вили![2]

Адважыцца на такі палітычны выпад мог толькі мужны і смелы чалавек, актыўны барацьбіт супраць самадзяржаўя. І ў гэтым яму, як бачым, дапамог украінскі фальклор, які станавіўся адным з дзейсных сродкаў грамадскага змагання.

Беларускія і ўкраінскія песні стаялі побач і ў многіх іншых выданнях. З іх трэба ў першую чаргу назваць «Сборник памятников

[1] A. Rypiński. Białoruś. Парыж, 1840, с. 136-137.
[2] Там жа, с. 149.

народного творчества в Северо-Западном крае» (Вільня, 1860; тут прыводзяцца 162 украінскія песні), «Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западно-русский край», т. I-VII, П. Чубінскага (Спб., 1872-1879), «Сборник малорусских « белорусских песен (Гомельского уезда), записанных для голоса с аккомпанементом фортепиано» (Спб., 1880) З. Радчанка, «Гомельские народные песни (белорусские и малорусские)» З. Радчанка і Е. Раманава і інш. Гэта стасуецца таксама і матэрыялаў па гісторыі і этнаграфіі. Акрамя асобных выданняў, такія матэрыялы, што аб'ядноўвалі ўкраінскую і беларускую тэматыку, публікаваліся на старонках шматлікіх рускіх («Вестник Европы», «Отечественные записки», «Русское богатство» і інш.) і польскіх («Wisla», «Ateneum», «Źbiór wiadomości do antropologiji krajowej» і інш.) часопісаў і газет, якія мелі вялікае пашырэнне на Украіне і ў Беларусі[1].

Часопіс «Киевская старина» (1882-1906) таксама неаднойчы публікаваў даследаванні, аглядныя артыкулы, прысвечаныя беларускаму фальклору, рэцэнзаваў працы П. Шэйна, Е. Раманава, М. Доўнар-Запольскага, А. Багдановіча, Я. Карскага[2].

У другой палове 80-х гадоў у польскім пецярбургскім часопісе «Kraj» (1882-1909) адначасова супрацоўнічалі Іван Франко і беларускія пісьменнікі Ф. Багушэвіч, А. Ельскі. Янка Лучына. Франко высылаў з Галіцыі галоўным чынам допісы грамадска-палітычнага і культурнага характару. Часопіс друкаваў матэрыялы пра ўкраінскую мову, літаратуру, гісторыю і фальклор, хоць, трэба адзначыць, далёка не ўсё, што дасылалася, трапляла на яго старонкі. Так, у 1882 г. цэнзар Касовіч забараніў публікацыю ў «Kraju» верша Яна Каспровіча пра ўкраінскага Кабзара, «пробудившего,— як значылася ў даносе цэнзара,— в малороссах народное самосознание»[3]. Аднак і тое, што з'ўлялася ў часопісе, давала пэўную магчымасць чытачам, у тым ліку і беларускім, пазнаёміцца з развіццём украінскай навукі і культуры.

Разам з тым друкаваліся ў «Kraju» матэрыялы пра тагачасную Беларусь, якіх не маглі не заўважаць украінскія чытачы часопіса і, у першую чаргу, адзін з яго аўтараў — І. Франко. Адно толькі ў 1885 г. тут пабачылі свет грунтоўныя даследаванні «Пра беларускую гаворку»

---

[1] Гл., у прыватнасці: Фон-Компенгаузен. Замечания о Молдавии, Бессарабии, Крыме, Белоруссии и Украине.— «Журнал новейших путешествий», 1810, № 1-2; Головацкий Я. Львов и Могилев,— «Слово», 1879, № 125; Рождественские обряды и обычаи в Тавричской губернии (у малоросов, белорусов и греков).— «Московские ведомости», 1890, № 356; Ящуржинский Х. Обрядности и песни, касающиеся жатвы хлеба (преимущественно в Малороссии и Белоруссии).— «Известия XI Археологического съезда в Киеве», 1899, № 9 і г. д.

[2] Гл.: Іоаніді А. Л. Питания міжслов'янськйх фольклористичних зв'язків на сгорінках «Киевской старины».— «Слов'янське літературознавство і фольклористика», ввп. 4. Київ, 1968, с. 156, 156.

[3] Гл.: Прокофьева Д. С. Царская цензура и польская литература второй половины XIX — начала XX ст.— «Советское славяноведение», 1970, № 1.

(№ 4-5), «Міцкевіч і беларуская літаратура» (№ 46) А. Ельскага, некралог на смерць В. І. Дуніна-Марцінкевіча (№ 10) і інш. Ф. Багушэвіч, які пісаў у «Kraju» пад рознымі псеўданімамі, часта выступаў у часопісе па пытаннях эканомікі, юрыспрудэнцыі, гісторыі, паведамляў навіны культурнага жыцця беларусаў. У 1890 г. «Kraj» стаў адкрыта супрацоўнічаць з царызмам. У тым жа годзе з часопісам канчаткова парывае І. Франко, годам пазней — Ф. Багушэвіч.

Такім чынам, да высакароднай справы развіцця беларуска-украінскіх культурных сувязей далучыўся рускі, а таксама польскі друк, як перыядычны, так і неперыядычны. Ва ўмовах амаль поўнай адсутнасці нацыянальнага ўкраінскага і беларускага друку гэта мела велізарнае, непераходзячае значэнне.

Арыгінальнай з'явай у працэсе культурнага ўзаемаазнаямлення двух брацкіх народаў былі тэатральныя сувязі. Яшчэ ў першай палове XIX ст. у Беларусі гастралявалі ўкраінскія вандроўныя драматычныя трупы. Яны ставілі п'есы Катлярэўскага, Квіткі-Аснаўяненкі. Калі ж на пачатку 80-х гг. XIX ст. ствараецца ўкраінскі прафесійны тэатр, гастролі ўкраінскіх акцёраў становяцца больш трывалымі, рэгулярнымі[1]. Пастаноўкі ўаў заўсёды карысталіся вялікім поспехам, яны спрыялі станаўленню беларускай драматургіі і беларускага нацыянальнага тэатра. Аднак сапраўды творчыя беларуска-ўкраінскія тэатральныя і драматургічныя сувязі сталі магчымымі толькі на пачатку XX ст., калі быў створаны тэатр і ў беларусаў, калі на поўны голас заявіла пра сябе беларуская драматургія.

Зараджаюцца ў мінулым стагоддзі музычныя і мастацка-выяўленчыя сувязі. Яны таксама не набылі яшчэ самастойнага значэння і ўліваліся ў рэчышча агульнакультурнага ўзаемаазнаямлення народаў. Вялікую ролю пры гэтым адыграла рускае і польскае культурнае пасрэдніцтва. У Беларусі не было ў той час спецыяльных музычных і мастацкіх навучальных устаноў. Таму таленавітая моладзь у пошуках ведаў выязджала ў гарады Расіі, Польшчы, а таксама ў Кіеў і Адэсу, дзе знаходзіліся кансерваторыі і школы жывапісу. Беларусы і ўы навучаліся разам і ў Віленскай школе малявання, якая рыхтавала мастакоў для ўсяго «Северо-Западного края». За 35 гадоў існавання школа дала асвету тром тысячам чалавек, у тым ліку многім беларусам і ўам[2]. Усё гэта спрыяла станаўленню міжнацыянальных мастацкіх сувязей. Так, на выстаўцы ў Віленскай школе малявання ў 1891 г. былі паказаны пейзажы не толькі Беларусі, Літвы і Польшчы,

---

[1] Гл.: Охріменко FI. П. Шляхами братання. Кіів, 1968, с. 31-61

[2] Кацер М. С. Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода. Минск, 1968, с. 165.

але і Украіны. На мастацкай выстаўцы ў Львове ў 1894 г. пейзажысту з Беларусі Г. В. Вейсенгофу (1859-1922) за палотны «Літоўскі луг» і «Куточак у Поўным» быў прысуджаны залаты медаль[1].

Цікавую старонку ў гісторыі беларуска-ўкраінскіх мастацкіх сувязей упісаў вядомы скульптар М. Ф. Мікешын — беларус па паходжанні,— які быў блізкім сябрам Т. Шаўчэнкі яшчэ ў час навучання ў пецярбургскай Акадэміі мастацтваў. Аўтар славутага помніка «Тысячагоддзе Расіі» ў Ноўгарадзе прыгадваў надзвычай цёплае стаўленне да яго з боку Кабзара і растлумачваў гэта наступным чынам: «Галоўную прычыну ўступак з яго боку па часці прастаты і даверу да мяне знаходзіў ён у маім беларускім паходжанні, што радніла мяне з любімым і апетым ім героем гайдамацкай бойкі («передряги») страшным Гонтай. Таму ён узвёў мяне ледзьве не ў маларосы...»[2] Мікешын зрабіў выдатныя па пранікненні ў дух твораў ілюстрацыі да «Вія» М. Гогаля і «Кабзара» Т. Шаўчэнкі. Але найбольшае, што ён пакінуў нам,— гэта адліты ў бронзе сімвал яднання ўсходнеславянскіх народаў — помнік Багдану Хмяльніцкаму ў Кіеве. Сапраўды, ці не сімвалічна гэта: беларус Мікешын стварыў помнік вялікаму ўу, які ўз'яднаў родны народ з адзінакроўнымі рускімі братамі!

Яскравым прыкладам беларуска-ўкраінскіх музычных сувязей можа стаць творчасць выдатнага гітарыста мінулага стагоддзя, «Байрана гітары», як называлі яго сучаснікі,— Марка Сакалоўскага. Нарадзіўся ён на Валыні. Гастралюючы па гарадах Расіі, Польшчы, Украіны і Беларусі, ён садзейнічаў развіццю культурных сувязей паміж рознымі славянскімі народамі. У 1859 г. М. Сакалоўскі рабіў вялікае турнэ па Беларусі. З гэтага выпадку беларускі пісьменнік А. Вярыга-Дарэўскі пісаў у газеце «Kurjer Wileński» (1859, № 92): «З асалодай мы думаем пра тое, што неўзабаве будзем слухаць ігру нашага славутага гітарыста... Задаволіўшыся лаўрамі Кароны, Літвы, Украіны, Вены і Масквы, ён згадаў і пра братоў сваіх з-над Дняпра і Дзвіны».

Цікава, што «Могилевскне губернские ведомости», друкуючы водгукі пра М. Сакалоўскага, змясцілі цытату не з якога-небудзь нямецкага выдання, а з украінскага — часопіса «Вісник. Урядова часопись для русинів Австрійськоі Державы»— і набралі яе паўкраінску[3]. Факт гэты на той час вельмі паказальны. Ён неаспрэчна сведчыць, што некаторыя выданні на ўкраінскай мове яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя былі вядомы на тэрыторыі Беларусі. Разам з тым у самой апеляцыі да такога выдання, у цытаванні матэрыялу на

[1] Там жа, с. 173.
[2] Гл.: Т. Шевченко в воспоминаниях современников. М., 1962, с. 312.
[3] «Могилевские губернские ведомости», 1859, № 90.

выгнанай у Расіі з афіцыйнага ўжытку ўкраінскай мове ці не хаваўся тайны выклік царызму: вы не лічыце ўаў за народ, іх мову — за самастойную мову, а паглядзіце, на гэтай мове за мяжой выдаецца ўрадавая газета і як хораша гучыць гэта мова! Зрэшты, пазней пра такое становішча ў вядомай працы «Аб праве нацый на самавызначэнне» (1914) адкрыта скажа У. І. Ленін, зазначаючы, што «ў цэлым радзе выпадкаў прыгнечаныя народнасці, што жывуць па ўскраінах (Расіі.— аўт.), маюць па той бок мяжы сваіх суродзічаў, якія карыстаюцца большай нацыянальнай незалежнасцю (дастаткова ўспомніць хоць бы па заходняй і паўднёвай граніцы дзяржавы — фінаў, шведаў, палякаў, уаў, румынаў)»[1].

Зразумела, усё тое, што прама ці ўскосна гаварылася пра ўаў, самым непасрэдным чынам датычылася беларусаў, і не толькі Магілёўскай губерні, але і ўсёй тагачаснай Беларусі, бо становішча народаў было бадай аднолькавым.

Што датычыць М. Сакалоўскага, то ён у час музычных гастроляў пазнаёміўся і пасябраваў з некаторымі дзеячамі беларускай культуры, у тым ліку з А. Вярыгам-Дарэўскім. Безумоўна, падчас сяброўскіх гутарак ён расказваў і пра культурнае жыццё Украіны — краю, дзе ён нарадзіўся, дзе неаднаразова выступаў з канцэртамі.

Музычныя сувязі беларусаў і ўаў асабліва яскрава выявіліся ў народным меласе. У Беларусі здаўна вялікае пашыранне набылі ўкраінскія народныя песні. Некаторыя беларускія песні сталі вядомы і ўам. У мінулым стагоддзі гэты факт быў засведчаны і друкам. Словы і мелодыі беларускіх народных песень траплялі на старонкі некоторых украінскіх выданняў. Так, С. Гулак-Арцямоўскі (1813-1873) уключыў у сваю кнігу «Народні українські пісні з голосом» (Кіеў, 1868) некалькі запісаў такіх песень. Збіраў шэдэўры беларускага народнага меласу і ўкраінскі кампазітар П. Сакалоўскі (1832-1887). Ужо пасля яго смерці выйшлі ў Пецярбурзе «Малорусские и белорусские песни, собранные П. П. Соколовским» (1903). Песні аранжыраваны кампазітарам для голасу з фартэпіяна. Зразумела, што гэтыя засведчаныя друкам, але колькасна нязначныя факты не могуць даць поўнага ўяўлення пра сапраўднае пашырэнне беларускай народнай песні на Украіне, а ўкраінскай — у Беларусі, якое было, несумненна, больш значным і плённым.

Беларуска-ўкраінскае агульнакультурнае ўзаемаазнаямленне (тэатральнае, мастацкае, музычнае і ўласна літаратурнае) значна дапаўняла рэвалюцыйныя сувязі двух брацкіх народаў. У вызваленчай

[1] Ленін У. І. Творы, т. 20, с. 384.

сацыяльнай і нацыянальнай барацьбе беларусаў і ўаў, што праходзіла ў цесным яднанні з рускім і польскім рэвалюцыйным рухам, было нямала момантаў, якія спрыялі збліжэнню народаў, іх садружнасці. Пачынаючы з 60-х гадоў мінулага стагоддзя беларуска-ўкраінскія рэвалюцыйныя сувязі набываюць больш выразны характар. У выніку гэтага ствараецца важкая перадумова ўзімаднення і паглыблення культурных сувязей паміж народамі, пашырэння ўплыву рэвалюцыйных ідэй на самі нацыянальныя літаратуры.

Пра палітычную сітуацыю ў Расіі на пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя У. І. Ленін пісаў, што ў той час «... самы асцярожны і цвярозы палітык павінен быў бы прызнаць рэвалюцыйны ўзрыў зусім магчымым і сялянскае паўстанне — небяспекай вельмі сур'ёзнай»[1]. Неўзабаве такое паўстанне выбухнула. У Беларусі і Літве яно набыло выразна аграрны характар. Узначаліў яго палкі рэвалюцыянер, бясстрашны барацьбіт за шчасце працоўных Кастусь Каліноўскі.

На фарміраванне светапогляду К. Каліноўскага ўплывала знаёмства беларускага рэвалюцыянера з эканамічным і палітычным становішчам не толькі заняволенага роднага, але і іншых народаў царскай Расіі, у тым ліку ўкраінскага, з асобнымі прадстаўнікамі ўкраінскай культуры. Падчас навучання ў Пецярбургскім універсітэце (1856-1860) Каліноўскі прымаў актыўны ўдзел у нелегальнай студэнцкай рэвалюцыйнай арганізацыі «Огул», якая аб'ядноўвала перадавую моладзь Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы. Арганізацыя падтрымлівала цесную сувязь з Украінай, у прыватнасці з Кіевам.

Зусім магчыма, што Каліноўскі быў асабіста знаёмы з Шаўчэнкам, які ў той час таксама жыў у Пецярбурзе. Ва ўсякім разе ён не мог не ведаць вядучых ідэй паэта-трыбуна, сялянскага дэмакрата хаця б таму, што падтрымліваў дружалюбныя адносіны з людзьмі, якія былі блізка знаёмы з Кабзаром,— М. Кастамаравым, З. Сераkоўскім, інспектарам універсітэта А. Фіцтумам фон Экстэдгам. Чыталі і ведалі Кабзара таксама калегі Каліноўскага па універсітэту — Д. Пісараў, А. Цэрэтэлі, І. Чаўчавадзе і інш. Усё гэта дапамагло Каліноўскаму ў выпрацоўцы яго ўласнай рэвалюцыйнай праграмы, у аснове якой была «падрыхтоўка народа да рэвалюцыі і сувязь заваёвы нацыянальнай незалежнасці з вызваленнем ад прыгонніцтва і знішчэннем паншчыны»[2].

У адрозненне ад польскіх шавіністаў, якія марылі пра адраджэнне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г., «Каліноўскі,— па словах

[1] Ленін У. І. Творы, т. 5, с. 27.
[2] W czterdziestą rocznicę powstania styczniowego. 1863-1903. Lwów, 1903, c. 327.

аднаго з удзельнікаў паўстання 1863 г.,— бачыў узаемаадносіны Літвы (г. зн. Беларусі.— аўт.) і Польшчы толькі на федэратыўнай аснове з поўнай незалежнасцю Літвы»[1]. Зразумела, што такая рэвалюцыйная стратэгія аўтара «Мужыцкай праўды» мела нямала агульнага з сацыяльнай і нацыянальна-вызваленчай праграмай А. Герцэна, М. Чарнышэўскага, з ідэямі Т. Шаўчэнкі.

У паўстанні 1863 г. прымалі актыўны ўдзел вядомыя беларускія пісьменнікі В. Дунін-Марцінкевіч, А. Вярыга-Дарэўскі, Ф. Багушэвіч і інш. Нягледзячы на тое што на Украіне асаблівага пашырэння паўстанне не набыло, усё ж тыя памятныя падзеі ў пэўнай ступені спрыялі рэвалюцыйнаму яднанню беларускага і ўкраінскага народаў. Побач з палякамі, рускімі і беларусамі ў атрадах паўстанцаў нярэдка змагаліся і ўы. Збліжэнню народаў спрыяла і рэвалюцыйная публіцыстыка. Ход паўстання асвятляў на сваіх старонках шырокавядомы ў Беларусі і на Украіне «Колокол» А. Герцэна. Там расказвалася і пра «лятучыя лісткі» — «Мужыцкую праўду» Каліноўскага. У 1863 г. у Кіеве нелегальна выходзіць беларуская рэвалюцыйная брашура «Перадсмяротны разгавор Пустэльніка Пятра». Пашыралася на Украіне і вершаваная агітацыйная «Гутарка старога дзеда» В. Каратынскага (?), якая друкавалася асобнымі выданнямі ў 1861 і 1862 гг. Дарэчы, у брашуры, апрача «Гутаркі», змяшчаўся і беларускі верш У. Сыракомлі «Добрыя весці»— непасрэдны водгук на паўстанне сялян у Галіцыі ў 1848 г. У 1861 г. львоўскі часопіс «Dziennik Literacki» (№ 89) перадрукаваў твор пад назвай «Гутарка старога бедняка з Літвы».

Нягледзячы на вялікую самаахвярнасдь многіх тысяч людзей, паўстанне пацярпела паражэнне. На гэта былі свае як аб'ектыўныя, так і суб'ектыўныя прычыны, адна з якіх — тая, што «позна звярнулі ўвагу на народ, рана — на зброю»[2]. Аднак і пасля паражэння паўстання рэвалюдыйныя сувязі беларусаў і ўаў не перапыняліся. Ф. Багушэвіч, як вядоіма, ад праследаванняў мясцовай паліцыі знайшоў прытулак менавіта на Украіне. Сасланаму ў Сібір А. Вярыгу-Дарэўскаму выказваў у Іркуцку «падзяку і глыбокую прыхільнасць» пакараны за ўдзел у падзеях 1863 года нехта «Паплаўскі з Украіны»[3].

У 1870 г. палітычныя эмігранты з Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны вырашылі выдавадь у Парыжы агульную газету рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку, якая заклікала да ліквідацыі існуючага грамадскага ладу шляхам узброенага паўстання народа,

[1] Janowski J.. Pamiątniki o powstaniu styczniowym, t. 1. Lwów, 1923, c. 426.
[2] Pawłowicz E.. Wspomnienia. Lwów, 1887, c. 127.
[3] З запісаў у «Дзённіку» Л. Вярыгі-Дарэўскага. Гл.: Кісялёў Г. Арцём Вярыга-Дарэўскі.— «Полымя», 1966, № 5, с. 174.

устанаўлення свабоды, роўнасці і братэрства. Што датычыцца нацыянальнай праграмы, то ў ёй падкрэслівалася: «Беларускія і ўкраінскія землі ні Маскве, ні Польшчы, а самім сабе належаць павінны»[1]. Газета павінна была выходзіць на трох мовах — польскай, літоўскай і беларускай, пра што сведчыць нават яе назва: «Zmowa. — Kupos sustarimas. — Hramadski zhowar». Планаваўся таксама і дадатак на ўкраінскай мове. Аднак, на жаль, па невядомых прычынах задуму здзейсніць не ўдалося. Выйшаў толькі першы нумар газеты на польскай мове, прыпіска на апошняй старонцы яе сведчыць, што ўкраінскі дадатак меўся выйсці пад назвай «З рук у рукі»[2].

У 70-80-х гг. рэвалюцыйны рух у Расіі, у тым ліку на беларускіх і ўкраінскіх землях, набывае новы размах і новыя формы. «Падзенне прыгоннага права,— пісаў У. І. Ленін,— выклікала паяўленне разначынца, як галоўнага, масавага дзеяча і вызваленчага руху наогул і дэмакратычнага, бесцэнзурнага друку ў прыватнасці. Пануючым напрамкам, які адпавядае пункту гледжання разначынца, стала народніцтва»[3]. Народніцтва пусціла на Беларусі і Украіне глыбокія карані. Так, «Народная воля» паведамляла ў адным са сваіх нумароў (1881, № 5), што толькі за 1875-1880 гг. сярод арыштаваных народнікаў 91 чалавек быў з «заходніх» губерняў. Сацыяльнай базай народніцтва з'яўлялася беднае сялянства, дробныя гарадскія рамеснікі. Народнікі, стаўшы ідэолагамі сялянскай дэмакратыі, верылі ў магчымасць сялянскай сацыялістычнай рэвалюцыі ў Расіі. Як ідэалогія народніцтва неаднойчы перажывала арганізацыйныя і ідэйныя крызісы. Гераізму, самаахвярнасці, рэвалюцыйнай палкасці народнікаў 70-х гадоў (іх разам з Герцэнам, Бялінскім і Чарнышэўскім У. І. Ленін залічваў да папярэднікаў расійскай сацыял-дэмакратыі) на змену прыйшлі ў 80-х гадах ідэі мірнага прагрэсу ў межах законнасці так званых ліберальных народнікаў, якія зусім адмовіліся ад рэвалюцыйнай барацьбы. І толькі невялікая група эмагароў засталася вернай ідэям рэвалюцыйнага пераўтварэння існуючага ладу. Да іх належаць і члены гуртка нарадавольцаў «Гоман», што ўзнік у 1881 г. сярод студэнтаў-беларусаў Пецярбурга.

Гоманаўцы былі звязаны з першай рускай марксісцкай арганізацыяй «Освобождение труда». За кароткі прамежак часу яны надрукавалі на гектографе заклікі і пасланні да землякоў-беларусаў, а таксама артыкулы тэарэтычнага характару. Апрача таго, яны выпусцілі два нумары часопіса «Гомон» (1884), у якім выкладзены асноўныя

---

[1] Избранные произведения польских мыслителей, т. 3. М., 1958, с. 1018.
[2] Гл.: Александровіч С. Пуцявіны роднага слова. Мінск, 1971, с. 49.
[3] Ленін У. І. Творы, т. 20, с. 226.

палажэнні іх праграмы. «Мы — беларусы, таму што павінны змагацца ў імя мясцовых інтарэсаў беларускага народа і федэратыўнай аўтаноміі краіны,— пісалі гоманаўцы,— мы — рэвалюцыянеры, таму што, падзяляючы праграму барацьбы «Народной Воли», лічым патрэбным прыняць удзел у гэтай барацьбе[1]; мы — сацыялісты, таму што нашай галоўнай мэтай з'яўляецца эканамічнае паляпшэнне жыцця краіны на аснове навуковага сацыялізму»[2]. Члены «Гомана» не супрацьпастаўлялі сябе іншым нацыянальным групам, выразна заяўлялі пра абавязковасць «найцяснейшых сувязей і поўнай салідарнасці паміж асобнымі групамі дзеля ўзаемнай падтрымкі і ўзгаднення дзейнасці адной групы з дзейнасцю іншых»[3].

Гэтыя ж думкі, па сутнасці, развівалі і ўкраінскія рэвалюцыянеры-дэмакраты І. Франко і М. Паўлык, калі ў чэрвені 1885 г. складалі праект дзейнасці «Украінска-польска-літоўска-беларускага брацтва» і «Выдавецкай суполкі». Украіну, Польшчу, Літву і Беларусь яны таксама патрабавалі лічыць «раўнапраўнымі, з усімі кансеквенцыямі такога прызначэння»[4]. «Выдавецкая суполка», у адпаведнасці з яе праграмай, павінна была друкаваць кніжкі на розных мовах, у тым ліку і на беларускай. І калі б гэты намер ажыццявіўся, выдавецтва мела б, несумненна, вялікае значэнне для ўздыму нацыянальнай свядомасці заняволеных народаў Расіі, для вызваленчай барацьбы наогул.

Рэвалюдыйны рух у Расіі ў XIX ст. быў інтэрнацыянальным па сваёй сутнасці, ён ахопліваў усе нацыі і народнасці. Таму, зразумела, беларускія рэвалюцыянеры мелі сувязь з антысамадзяржаўным рухам па ўсёй Расіі, у тым ліку і на Украіне. Пра гэта, у прыватнасці, сведчаць карэспандэнцыі з Кіева і Харкава, змешчаныя ў № 1 часопіса «Гоман» за 1884 г. Ведалі яны і ўкраінскую рэвалюцыйную публіцыстыку, выкарыстоўвалі прады М. Драгаманава. Што да апошняга, то члены «Гоману» нават крытыкавалі ўкраінскага рэвалюцыянера за тое, што ён, падтрымліваючы нацыянальныя рухі, усё ж «працу для дасягнення федэратыўнай самастойнасді абласцей супрацьпастаўляў барацьбе з урадам у цэнтры»[5]. Усё гэта абумовіла пэўную папулярнасць выданняў беларускіх нарадавольцаў і на ўкраінскай зямлі.

---

[1] «З «Народной Волей» мы ўжо звязаны традыцыямі: Грынявіцкі, бомбай якога пакараны Аляксандр II, быў адным з актыўных заснавальнікаў беларускай мясцовай групы» (заўвага аўтараў «Гомона»).
[2] Гл.: Беларуская літаратура XIX стагоддзя. Хрэстаматыя. Мінск, 1971, с. 199.
[3] Там жа, с. 193.
[4] Переписка Михайла Драгоманова з Михайлом Павликом, т. 4. Чернівци, 1910, с. 408.
[5] «Гомон», 1884, № 1, с. 6-7.

Украінскія рэвалюцыянеры таксама звярталі ўвагу на барацьбу беларускіх працоўных супраць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску. Часта ўы разам з рускімі і беларусамі праводзілі агульную рэвалюцыйную агітацыю за «зямлю і волю». Так, студэнт Адэскага універсітэта М. Велер арганізаваў сярод інтэлігенцыі Мінска народніцкі гурток[1]. Гістарычнай доляй беларускага народа пастаянна цікавіўся М. Драгаманаў[2]. Менавіта пры яго садзейнічанні і з яго прадмовай выйшаўу 1881 г. у Жэневе пераклад на беларускую мову агітацыйнай брашуры ўкраінскага прапагандыста навуковага сацыялізму П. Падалінскага «Пра багацтва ды беднасць»[3]. У кнізе, што ў даступнай форме выкладала вучэнне Маркса пра дадатковую вартасць, было нямала адступленняў ад арыгінала, усе ўкраінскія рэаліі (месца дзеяння, статыстычныя дадзеныя, падзеі, прозвішчы дзейных асоб) заменены беларускімі. Тым самым «зроблены беларусамі для свайго люду пераклад кніжкі «Про богатство та бідність»[4] станавіўся найбольш даступным, пабудаваным на вядомых фактах выкладам палітэканоміі каіпіталізму.

Кніга карысталася вялікім поспехам. Праз М. Паўлыка частка тыражу трапіла да студэнтаў-беларусаў Дублянскай сельскагаспадарчай акадэміі (прыгарад Львова)[5]. Украінскі грамадскі дзеяч К. Арабажын прасіў выслаць «Пра батацтва ды беднасць» на Усходнюю Украіну: «...у Кіеве склалася купка беларусаў, таму ці не можна было б дастаць гэтай кніжкі экземпляраў з 5»[6]. Кнігу чыталі і распаўсюджвалі ў Пецярбурзе. Яе, у прыватнасці, добра ведаў вядомы беларускі пісьменнік і рэвалюдыянер Адам Гурыновіч.

Рэвалюцыйная дзейнаець Адама Гурыновіча і членаў «Гуртка моладзі польска-літоўска-беларускай і маларускай» (1889-1893) — яшчэ адна цікавая старонка рэвалюцыйных (а тым самым і агульнакультурных) беларуска-ўкраінскіх сувязей. У «Гурток» уваходзілі студэнты многіх вышэйшых навучальных устаноў Пецярбурга: універсітэта, тэхналагічнага і ляснога інстытутаў, інстытута грамадзянскіх інжынераў і інш. Гурткоўцы праводзілі сацыялістычную прапаганду не толькі сярод студэнцтва, але і сярод рабочых фабрык і заводаў тагачаснай сталіцы Расійскай дзяржавы, Рэвалюцыйную літаратуру атрымлівалі з-за мяжы, прычым у значнай колькасці. Так, у адным з

---

[1] Гл.: Очерки истории Коммунистичеслой партии Белоруссии, ч. 1. Минск, 1968, с. 25.
[2] Гл.: Злупко С. М. М. П. Драгоманов про Білорусь і білорусів.— У кн.: Матэрыялы першай навуковай канферэнцыі.., с. 41-48.
[3] Пра багацтво та бьеднасць. Переклад з українського. Женьева. Друкарня «Работника» «Громади», 1881
[4] «Громада», 1881, число 2, с. 240 (інфармацыя М.Драгаманава).
[5] Переписка Михайла Драгоманова з Михайлом Павликом, т. 4, с. 365, 369.
[6] Ліст К. І. Арабажына да М. Паўлыка ад 1 жніўня 1884 г.— Дзяржаўны гістарычны архіў УССР у Львове (далей — ДзГАУ), ф. 663, воп. 1, адз. зах. 206.

лістоў (ад 12 лістапада 1892 г.), адрасаваных у Цюрых (Швейцарыя) да С. Пяткевіч, А. Гурыновіч просіць выслаць кнігі на рускай, польскай, украінскай і беларускай мовах. Сярод іх — творы Маркса і Энгельса, Пляханава, Бебеля, Лібкнехта, Засуліч і інш. З беларускіх кніг адзначаюцца «Пра багацтва ды беднасць» і «Дудка беларуская» Ф. Багушэвіча. Украінскія кніжкі выдзелены ў асобны раздзел і пранумараваны:

1) «Як земля поділена і як ії треба поділити» (Падалінскі) — 15 экз.;

2) «Про те, як земля наша та й стала не наша» (Драгаманаў) — 16 экз.;

3) «Життя і здоров'я людей на Украіні» (Падалінскі) — 5 экз.;

4) «Про богацтво та бідність» (яго ж) — 5 экз.;

5) «Чудацькі думки» (Драгаманаў);

6) «Громада», т. 1 (Драгаманаў)[1].

А. Гурыновіч раіць таксама, дзе атрымаць кніжкі: польскія — у Цюрыху, рускія — «выпісаць з Лондана ад Пляханава», «маларускія на ўкраінскай мове у п. Франка»[2].

Здавалася, прасцей было б звярнуцца па ўкраінскую літаратуру не у Львоў да Франка, а прыдбаць яе ў Жэневе, паблізу ад Цюрыха, дзе гэту літаратуру друкавалі ў той час

А. Драгаманаў і С. Падалінскі (месца выдання звычайна называлася на тытулах кніг). Аднак, відавочна, з Франком у Гурыновіча былі нейкія больш блізкія стасункі, пакуль што нам невядомыя. Пра гэта сведчыць і той факт, што адзіны пераклад Гурыновіча з украінскай літаратуры — гэта, як ужо згадвалася, верш Франка, яго славуты «Гімн».

Дзейнасць «Гуртка моладзі польска-літоўска-беларускай і маларускай», выкрытага царскімі жандарамі ў 1893 г., храналагічна прыпадае на канец разначыннага перыяду вызваленчага руху ў Раісіі. З узнікненнем ленінскага «Саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа» (1895) зараджаецца новы, пралетарскі перыяд. У гэты час беларуска-ўкраінскія рэвалюцыйныя сувязі набываюць больш шырокі размах, праходзяць пад сцягам пралетарскага інтэрнацыяналізму, адзінства працоўных усіх нацый і народнасцей Расіі ў барацьбе з царызмам. Упершыню з найбольшай паўнатой і дзейснасцю пралетарскі інтэрнацыяналізм знайшоў сваё ўвасабленне ў факце правядзення ў Мінску I з'езда РСДРП (сакавік 1898 г.).

---

[1] Архіўныя дакументы пра А. Гурыновіча.— У кн.: Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя, с. 325-326.
[2] Там жа.

Знамянальна ўжо тое, што з'езд, які рыхтавалі рускія сацыял-дэмакраты на чале з У. І. Леніным[1] і ў правядзенні якога самы актыўны ўдзел прынялі ўкраінскія, у прыватнаісці кіеўскія, рэвалюцыянеры[2], адбываўся на беларускай зямлі, на кватэры мінскага сацыял-дэмакрата П. В. Румянцава. Ужо сам гэты факт сведчыў пра еднаець народаў-братоў, адзінства іх імкіненняў. Інтэрнацыянальным духам былі прасякнуты таксама і рашэнні з'езда. «Партыя,— пісаў У. І. Ленін,— каб знішчыць усякую думку аб яе нацыянальным характары, дала сабе назву не рускай, а расійскай»[3]. У рэзалюцыі І з'езда Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі было запісана: «Партыя прызнае за кожнай нацыянальнасцю права на самавызначэнне». Толькі РСДРП, адзіная партыя ў Еўропе, напісала ў той час на сваім сцягу лозунг аб раўнапраўнасці народаў. З'езд закончыўся спяваннем украінскіх песень — гэтым дадатковым пацвярджэннем сяброўскай інтэрнацыянальнай атмасферы, што панавала на ім[4].

Тыя памятныя гады канца мінулага стагоддзя пакінулі для нас яшчэ адно надзвычай яскравае сведчанне непарушных міжнацыянальных сувязей — і не толькі рэвалюцыйных, культурных, але і чыста прыватных, асабістых. Гэта — шчырая дружба выдатнай украінскай паэтэсы Лесі Украінкі і беларускага сацыял-дэмакрата Сяргея Кастанцінавіча Мяржынскага.

С. Мяржынскі, гэты «надзвычай заслужаны піянер расійскага марксізму ў кіеўскім і мінскім падполлі»[5], адзін з актыўных арганізатараў І з'езда РСДРП, быў не толькі, кажучы словамі Лесі Украінкі, «другам яе ідэй». Ён сам спрыяў фарміраванню марксісцкага светапогляду паэтэсы. Менавіта пад яго ўплывам Леся Украінка пірымае ўдзел у перакладзе на ўкраінскую мову «Маніфеста Камуністычнай партыі», выдае сацыялістычную брашуру Дзікштэйна «Хто з чаго жыве» і піша да яе пасляслоўе, дапамагае дастаўляць з-за мяжы нелегальную марксісцкую літаратуру. Мяржынскі, які быў блізкім да культурнага асяроддзя Мінска, клапаціўся пра пастаноўку ў мясцовым тэатры п'есы Лесі Украінкі «Блакітная ружа». Дзякуючы яго пасрэдніцтву паэтэса наладзіла цесны кантакт з рэдакцыяй прагрэсіўнага пецярбургскага часопіса «Жизнь», дзе апублікавала некалькі значных прац.

---

[1] Яшчэ ў чэрвені 1896 г. на Украіну для абмеркавання некаторых пытанняў, звязаных з арганізацыяй з'езда, па даручэнні У. І. Леніна выязджала Н. К. Крупская.

[2] З 9 дэлегатаў з'езда 4 былі прадстаўнікамі ўкраінскіх сацыял-дэмакратычных арганізацый: трое (Б. П. Эйдэльман, Н. А. Вігдорчык, П. Л. Тучапскі) — кіеўскай і адзін (К. А. Петрусевіч) - екацерынаслаўскай. Практычную работу па арганізацыі з'езда правялі сацыял-дэмакраты Кіева.

[3] Ленін У. І. Творы, т. 8, с. 462.

[4] Первый съезд РСДРП. Март 1898 года. Документы и материалы. М., 1958, с. 83.

[5] Мошинский И. Н. На путях к I съезду РСДРП. М., 1928, с. 124.

З Мяржынскім пазнаёміў Лесю Украінку ў 1897 г. адзін з будучых дэлегатаў І з'езда РСДРП П. Л. Тучанскі. І з таго часу аж да самай смерці Мяржынскага беларускі рэвалюцыянер быў для паэтэсы самым блізкім чалавекам. Пра гэта сведчаць, у прыватнасці, не так даўно адшуканыя два яе лісты да В. Д. Аляксандравай — дачкі пісьменніка Д. Мардоўца[1]. Леся Украінка тройчы прыязджала да С. Мяржынскага ў Мінск, правяла каля ложка хворага сябра апошнія два месяцы яго жыцця[2]. «Пакутуючы сама, яна пайшла насустрач чужым пакутам, адкінуўшы асабістае,— успамінала пазней В. Г. Крыжаноўская, удзельніца кіеўскага рэвалюцыйнага падполля,— і сваім мяккім і асцярожным стаўленнем яна сагрэла самотнае жыццё і апошнія дні чалавека выключнай духоўнай тонкасці»[3].

Жыццё і смерць С. Мяржынскага, асабістыя ўзаемаадносіны паэтэсы і беларускага рэвалюцыянера знайшлі ўвасабленне ў многіх творах Лесі Украінкі, у прыватнасці такіх, як паэма «Апантаная» (напісаная за адну ноч на 18 студзеня 1901 г. у Мінску)[4], «Віласястроўка», вершы «Імправізацыя», «Усходняя мелодыя», «Урыўкі з ліста», «Я бачыла, як ты хіліўся долу», «Ты не хацеў мяне ўзяць...», «Кветак, кветак, як можна болей кветак», «Каліна» і інш.[5] Магчыма, што верш у прозе «Ліст у далячынь», нядаўна знойдзены на старонках нямецкай перыёдыкі і «напісаны Лесяй Украінкай не раней 1897 г.»[6], таксама ўзнік у выніку знаёмства з Мяржынскім. Дружба Лесі Украінкі з С. Мяржынскім — адна з самых яскравых старонак беларуска-ўкраінскіх сувязей XIX ст. Тут паўсталі ў сваёй непадзельнасці літаратура і палітыка, мастацтва і ідэалогія, нацыянальнае і інтэрнацыянальнае.

Такім чынам, мы разглядзелі розныя па сваім характары (адзінкавыя літаратурныя, тэатральныя, выяўленча-мастацкія, музычныя і, нарэшце, грамадска-палітычныя, рэвалюцыйныя) сувязі паміж беларускім і ўкраінскім народамі ў мінулым стагоддзі (пераважна ў яго другой палове). Сувязі гэтыя — маладыя, яшчэ даволі кволыя — уліваліся ў рэчышча агульнакультурнага беларуска-ўкраінскага ўзаемаазнаямлення. Выключэннем не з'яўляюцца і ўласна літаратурныя кантакты. Нават на пераломе двух стагоддзяў — мінулага і сён-

[1] Гл.: «Вітчизна», 1970, № 9.
[2] М. Мельнікаў у «БелСЭ» (т. 7, с. 341) памылкова сцвярджае, што Леся Украінка «двойчы прыязджала ў Мінск да свайго сябра і апошні тыдзень правяла каля цяжка хворага М[яржынскага]»
[3] Цыт. па арт.: Міценко Л. Друзі ii ідей.— «Літературна Украіна», 1970, 3 сакавіка.
[4] У «БелСЭ» (т. 7, с. 341) — недакладнасць таксама і ў даце напісання твора: «У дзень смерці М. яна напісала паэму «Апантаная», г. зн. 16 (29). 3. 1901 г.
[5] Гл. пра гэта больш падрабязна: Мішчанка Л. Вобраз С. К. Мяржынскага ў творчасці Лесі Украінкі.— «Веснік БДУ імя У. І. Леніна. Філалогія. Журналістыка, серыя IV», 1970, № 1, с. 23-28.
[6] Мороз Мирослав. Нарис Лесі Украінки.— «Літературна Украіна», 1970, № 88.

няшняга — працэс беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей яшчэ не ўзнік. Не было сукупнасці, узаемазвязанасці і ўзаемаабумоўленасці пэўных з'яў кантактнага або генетычнага характару, не было іх паслядоўнага, заканамернага росту і развіцця. Патрэбны былі глыбінныя сацыяльныя зрухі, якія б пазначыліся і на літаратуры як адной з форм ідэалогіі, у тым ліку на канкрэтных праявах яе сувязей з літаратурамі іншых народаў.

Такім магутным сацыяльным зрухам, своеасаблівым каталізатарам усіх грамадскіх працэсаў стала першая руская буржуазна-дэмакратычмая рэвалюцыя 1905-1907 гг., якая паскорыла развіццё беларускай і ўкраінскай літаратур. Менавіта яна стварыла перадумовы і для ўзнікнення працэсу трывалых беларуска-ўкраінскіх міжлітаратурных узаемасувязей.

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА НА УКРАІНЕ І ПРАБЛЕМА КАНТАКТНЫХ СУВЯЗЕЙ

## Культурнае пасрэдніцтва

Пачатак XX ст. прынёс істотныя змены ў гісторыю беларуска-ўкраінскага літаратурна-культурнага яднання. Яны выявіліся як у новым змесце, так і ў новых формах сувязей паміж двума братнімі народамі.

Рэвалюцыя 1905 г., якая паставіла на павестку дня патрабаванні марксісцкай праграмы па нацыянальным пытанні: «...па-першае, раўнапраўе нацый і моваў, недапушчальнасць якіх бы там ні было прывілей у гэтых адносінах (а таксама права нацый на самавызначэнне...), а па-другое, прынцып інтэрнацыяналізму і непрымірымай барацьбы супраць заражэння пралетарыяту буржуазным нацыяналізмам, хоць бы і самым утончаным»[1],— аб'яднала на аснове сапраўднага дэмакратызму і інтэрнацыяналізму рабочых усіх нацый, у тым ліку беларусаў і ўкраінцаў. У адным са сваіх нумароў бальшавіцкая газета «Правда», друкуючы «Зварот да ўкраінскіх рабочых» украінскага марксіста Лола[2], змясціла побач заўвагу У. І. Леніна. Уладзімір Ільіч пісаў, што, насуперак буржуазным нацыяналістам розных масцей, якія намагаюцца любым спосабам раз'яднаць брацкія народы, «... мы будзем рабіць справу інтэрнацыянальных рабочых: згуртоўваць, з'ядноўваць, зліваць рабочых усіх нацый для адзінай сумеснай работы»[3].

Адначасовая актывізацыя арганізаванай сацыяльнай барацьбы ўкраінскіх і беларускіх працоўных мас, кансалідацыя прагрэсіўных рэвалюцыйных сіл гэтых народаў з'яўляецца адной з важнейшых асаблівасцей беларуска-ўкраінскага яднання пачатку XX ст. Разам з уздымам нацыянальна-вызваленчага руху, які, як адзначаў У. І. Ленін, для беларусаў і ўкраінцаў «яшчэ можа быць... абаронай дэмакратыі, роднай мовы, палітычнай свабоды супраць прыгнятаючых нацый, супраць сярэднявякоўя...»[4], сацыяльна-класавая барацьба працоўных абумовіла тое, што цікавасць на Украіне да беларускага грамадскага і культурнага адраджэння становіцца на пачатку XX ст., у адрозненне ад мінулага стагоддзя, пастаяннай, значна глыбейшай і ўсебаковай. І ўсё ж нават звычайнаму азнаямленню ўкраінцаў з беларускай культурай

---

[1] Ленін У. І. Творы, т. 20, с. 11.
[2] «Трудовая правда», 1914, 29 июня.
[3] Ленін У. І. Творы, т. 20, с. 466.
[4] Ленін У. І. Творы, т. 23, с. 28.

перашкаджалі яшчэ многія акалічнасці. Перш за ўсё — разгул чарнасоценнай рэакцыі ў Расіі.

Як вядома, пасля паражэння першай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі і выступлення на грамадскай арэне чарнасоценцаў многія прадстаўнікі ліберальнай буржуазіі сталі на шлях рэнегацтва і здрадніцтва. Маскіруючыся раней пад «сяброў народа», падзяляючы на словах яго сацыяльныя і нацыянальна-вызваленчыя імкненні, цяпер яны пачалі адкрыта прапагандаваць варожую антынародную праграму.

У рэакцыйнай рускай прэсе разгортваецца шырокі паход супраць беларускай мовы. З катэгарычным запярэчаннем права беларускага народа на развіццё нацыянальнай літаратуры выступаюць «Виленский вестник», «Минское слово», пецярбургская «Новая Русь». «Московские ведомости» (1912, № 108) друкуюць напісаны з чарнасоценскіх пазіцый артыкул Л. Волкава «Украінства і беларускі сепаратызм». Рэакцыйны «Киевлянин», адкрыўшы вострую псеўданавуковую палеміку з «Киевской стариной», яшчэ ў 1900 г. даводзіў, што ў выпрацоўцы сваёй нацыянальнай мовы, літаратуры і культуры быццам бы «няма ніякай патрэбы ні для большай часткі маларусаў, ні для ўсіх беларусаў»[1]. Цалкам у духу вернападданага царскага сатрапа спяшаліся сказаць сваё слова і галіцкія масквафілы, што яскрава пацвярджае выдадзеная ў 1908 г. у Львове кніга Н. Антаневіча «Гісторыя Белай Русі і Беларусы».

Барацьбу супраць наступлення рэакцыйнай ідэалогіі ўзначаліла партыя бальшавікоў. Выкарыстоўваючы, поруч з нелегальнымі, усе магчымыя формы легальнай дзейнасці, яна выступіла на старонках прагрэсіўнага друку з растлумачэннем марксісцкага разумення нацыянальнага пытання, са сцвярджэннем пралетарскай ідэалогіі ў галіне культуры, літаратуры і мастацтва. Асаблівае значэнне ў гэтым мела з'яўленне вядомага артыкула У. І. Леніна «Паіртыйная арганізацыя і партыйная літаратура» (1905). Як украінскія, так і беларускія перадавыя дзеячы друку, культуры, літаратуры з гэтага часу атрымалі яскравае ўяўленне аб той дарозе, якая вяла мастацтва да сапраўднага служэння народу, працоўным масам.

Выданні Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі змяшчалі матэрыялы пра вызваленчую барацьбу працоўных Украіны і Беларусі, шырока высвятлялі сацыяльна-эканамічнае і грамадска-культурнае становішча народаў царскай Расіі. Газеты «Вперед», «Пролетарий», «Новая жизнь», «Правда» і іншыя легальныя і нелегальныя

---

[1] Гл.: «Киевлянин», 1900, № 293-295, 300 і інш.

тагачасныя партыйныя выданні былі вырашальнай сілай у еднасці беларускага і ўкраінскага народаў, спрыялі ўстанаўленню атмасферы дружбы, узаемаразумення і ўзаемазбліжэння.

Апрача партыйнага, шмат зрабіў для збліжэння і азнаямлення брацкіх народаў рускі дэмакратычны друк. Творчая руская інтэлігенцыя, прадстаўленая імёнамі многіх прагрэсіўных вучоных і літаратараў, выступіла ў абарону нацыянальна-вызваленчай барацьбы народаў царскай Расіі. Вядома, з якой рашучасцю падтрымліваў нацыянальнае адраджэнне беларусаў М. Горкі, прапагандуючы маладую беларускую літаратуру сярод рускіх і ўкранскіх пісьменнікаў. Менавіта ў лісце да М. Кацюбінскага яшчэ да напісання артыкула «Аб пісьменніках-самавуках» ён даў высокую ацэнку творчасці Я. Купалы і Я. Коласа, прыклаў да ліста верш Купалы «А хто там ідзе?» са сваім захопленым водгукам пра яго[1]. Выдатны руска-польскі вучоны Бадуэн дэ Куртэнэ ў сваіх шматлікіх публіцыстычных выступленнях на старонках рускай прэсы таксама адстойваў правы ўаў і беларусаў на развіццё ўласнай нацыянальнай культуры, мовы і літаратуры. У 1915 г. за работу «Нацыянальная і тэрытарыяльная прыкмета ў аўтаноміі» вучоны быў асуджаны царызмам на доўгатэрміновае зняволенне ў казематах Петрапаўлаўскай крэпасці. Узаемаазнаямленню беларусаў і ўаў спрыялі таксама навуковыя і публіцыстычныя працы прафесараў У.Ператца, А. Пагодзіна і многіх іншых прагрэсіўных вучоных. Гэтыя вучоныя па колькасці, якасці, а галоўнае — ідэйным гучанні сваіх украіназнаўчых і беларусазнаўчых работ далёка пераўзышлі публікацыі даследчыкаў XIX ст.

Такім чынам, перадавая руская інтэлігенцыя на пачатку XX ст. адыграла ролю своеасаблівага пасрэдніка і каталізатара ў працэсе беларуска-ўкраінскага культурнага яднання.

Діругім важным каналам інфармацыі пра Беларусь, яе народ і культуру становіцца для ўаў на пачатку новага стагоддзя польскі друк. Гэта, перш за ўсё, добра вядомы на Левабярэжнай Украіне часопіс «Przegląd Krajowy», што выходзіў у Кіеве, а таксама розныя выданні на польскай (і часткова на нямецкай) мове, шырокавядомыя на тэрыторыі былой Заходняй Украіны як часткі Аўстра-Венгерскай імперыі.

Паўз увагу ўкраінскай інтэлігенцыі, несумненна, не маглі прайсці беларусазнаўчыя публікацыі перадавых польскіх пісьменнікаў і публіцыстаў, асабліва іх выступленні ў абарону беларускага слова, некаторыя з якіх не страцілі сваёй цікавасці да нашых дзён. Так,

[1] Гл.: Максім Горкі і Беларусь. Мінск, 1968, с. 9—10.

кіеўскі «Przegląd Krajowy» у 1909 г. (№ 7-8) друкуе вялікае даследаванне Ежы Янкоўскага «Паэты маладой Беларусі», у якім даецца адзін з першых шырокіх аглядаў творчага даробку класікаў беларускай літаратуры Я. Купалы і Я. Коласа. У тым жа годзе, крыху раней (№ 6), часопіс надрукаваў артыкул гістарычнага характару «Літва і Беларусь». А яшчэ раней «Przegląd Krajowy» пазнаёміў чытачоў з развіццём беларускай літаратуры ад старажытнага часу і да пачатку XX ст. У артыкуле «Адраджэінне Беларусі» (№ 3) з вялікай сімпатыяй гаворыцца, у прыватінасці, пра Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча, Лучыну, Купалу. Такім чынам, за адносна невялікі прамежак часу чытачам часопіса быў, па сутнасці, прадстаўлены цэлы курс гісторыі беларускай літаратуры.

Галіцкія беларусы шчырае слова пра беларускі народ і яго культуру маглі прачытаць у прагрэсіўным украінскім двухтыднёвіку на нямецкаи мове «Ukrainische Rundschau» (1909, № 6), які ў свой час меў выключна важнае зіначэнне для развіцця ўкраінскай літаратуры і культуры. Прыхільныя водгукі пра беларускую літаратуру час ад часу змяшчаў і вядомы ў Галіцыі «Kurier Warszawski». У прыватнасці, менавіта ён надрукаваў 8 снежня 1910 г. рэцэнзію Ч. Янкоўскага на «Адвечную песню» Я. Купалы, якая ў многім пераклікаецца з ацэнкай гэтага твора М. Горкім. Львоўскі часопіс «Неділя» (1912, № 37) прапанаваў сваім чытачам пазнаёміцца з пражскім выданнем «Rusky obzor» — «прагрэсіўным часопісам, прысвечаным усебаковаму азнаямленню славянства з жыццём і культурай паўночна-ўсходніх славянскіх народаў». У гэтым часопісе польскі вучоны В. Ветняровіч у 1911 г. друкаваў, паралельна са сваімі артыкуламі на ўкраінскую тэматыку, вялікую працу пра духоўнае адраджэнне Беларусі. У наступным годзе гэты ж вучоны змясціў у польскім часопісе «Swiat słowiański» (1912, № 1-2) працу «Маладая Беларусь». У даследаванні расказваецца пра ўздым беларускай культуры ў выніку рэвалюцыі 1905-1907 гг., пра нараджэнне новых перыядычных выданняў на беларускай мове і г. д.

Зразумела, як рускі, так і польскі друк пачатку XX ст. не быў класава аднародным. Далека не ўсе матэрыялы, што выходзілі з-пад польскага друкарскага станка, былі напісаны з прагрэсіўных пазіцый. Перадавая навуковая і палітычная думка заўсёды прабівала сабе шлях у зацятай барацьбе з ідэалогіяй пануючых класаў. У кожнай нацыянальнай культуры, як адзначаў У. І. Ленін, поруч з элементамі дэмакратычнай і сацыялістычнай культуры, «...ёсць таксама культура буржуазная... прытым не ў выглядзе толькі «элементаў», а ў выглядзе

пануючай культуры»[1]. Трубадуры польскага шавінізму, марачы пра «недзялімую», «ад мора да мора», Польшчу, запярэчвалі само існаванне беларускага народа, лічачы яго «прыдаткам» польскай нацыі. Так, Р. Дмоўскі ў кнізе «Немцы, Расія і польскае пытанне» змяшчае нямала негатыўных водгукаў пра беларусаў, называе іх народам духоўна недасканалым, які патрабуе апякунства і нянек, абураецца тым, што сярод сялян і інтэлігенцыі пачалі пашырацца творы, напісаныя пабеларуску. «Витебские губернские ведомости», знаёмячы сваіх чытачоў з рознымі шавіністычнымі выпадамі, скіраванымі супраць беларускай культуры, падкрэслівалі і намаганне Дмоўскага «даказаць», быццам «беларусы не маюць ніякіх вольных духоўных сіл», быццам выкладанне і вывучэнне беларускай мовы і літаратуры — «легкаважнае і культурнае донкіхоцтва»[2].

З шавіністычных і ваяўніча нацыяналістычных пазіцый выступала супраць беларусаў і варшаўская «Prawda». Нават асобныя перадавыя польскія вучоныя, будучы пад уплывам афіцыйнай думкі пра невуцтва, цемнату і забітасць беларускага народа, не хацелі заўважаць яго нацыянальна-духоўнага адраджэння. Так, вядомы польскі літаратар Ян Карловіч, з якім, дарэчы, у свой час сябраваў Ф. Багушэвіч, пісаў у 1906 г.: «Беларускае племя... не мае ні літаратуры, ні інтэлігенцыі, ні спогадаў з мінулага, ні нават усведамлення сваёй нацыянальнай асобнасці»[3].

Ёсць усе падставы лічыць, што прыгаданыя тут польскія выданні былі добра вядомы ўам, асабліва на Заходняй Украіне. Так, Р. Дмоўскі выдаў сваю «працу» менавіта ў Львове, прытым двойчы, на рускай (1908) і польскай (1913) мовах. Апрача таго, ён сам жыў у Львове, быў прафесарам Львоўскага універсітэта. Свае псеўданавуковыя, нацыяналістычныя сцверджанні Дмоўскі высоўваў насуперак прагрэсіўнай дзейнасді прафесараў Іл. Свянціцкага, К. Студзінскага і іншых вучоных, якія намагаліся ўвесці ва універсітэцкую праграму для філолагаў парауўнальнае вывучэнне ўсходнеславянскіх моў і літаратур. «Витебские губернские ведомости» (1908, N° 33) і «Наша ніва» (1908, № 12) пісалі нават, што ў Львоўскім універсітэце вырашана адкрыць «катэдру аб беларушчыне» і што адзін з выпускнікоў гісторыка-філалагічнага факультэта Пецярбургскага універсітэта, ураджэнец Мінскай губерні, збіраецца паехаць працавадь на гэтай кафедры. Зразумела, дмоўскія зрабілі ўсё, каб гэтага не здарылася.

[1] Ленін У. І. Творы, т. 20, с. 8.
[2] «Витебские губернские ведомости», 1908, № 33.
[3] Polska. Obrazy i opisy, t. 1. Lwów, 1906, c. 198.

Артыкул Яна Карловіча «Беларусы» быў змешчаны ў кнізе, якая выйшла ў Львове. Кніга гэта пачынаецца вялікім артыкулам М. Канапніцкай «Польскія малюнкі». Побач з артыкулам Карловіча «Беларусы» ідзе вялікае даследаванне А. Яблонскага «Маларусы». Безумоўна, і гэта выданне не засталося па-за ўвагай украінскага чытача.

Такім чынам, беларуская культура і літаратура, якую ў першае дзесяцігоддзе XX ст. сталі ўсё часцей заўважаць на карце еўрапейскай мастацкай літаратуры, даходзіла да ўаў у значнай ступені праз рускае і польскае друкаванае слова. Гэта культурнае пасрэдніцтва, вядомае яшчэ ў XIX ст., значна пашыраецца, паглыбляецца, набывае выразны класавы характар. «Беларуская тэма» ўсё часцей становіцца полем бітвы прагрэсіўных і рэакцыйных сіл у рускай і польскай грамадскай думцы. Гэта ажыўляла цікавасць да яе, жаданне грунтоўней разабрацца ў яе сутнасці, азнаёміцца з ёй.

Аднак, цалкам зразумела, разам з нараджэннем (у выніку рэвалюцыі 1905-1907 гг.) украінскага нацыянальнага друку менавіта ён становіцца на Украіне найглыбейшай крыніцай звестак пра беларускі народ, яго мову, культуру і літаратуру. Менавіта ён бярэ на свае плечы галоўны цяжар працы па наладжванні пастаянных, трывалых украінска-беларускіх сувязей.

### Роля нацыянальнай перыёдыкі

Паміж асобнымі ўкраінскімі і беларускімі выданнямі з першых год іх існавання адразу ж пачалі наладжвацца цесныя суівязі. 1 верасня 1906 г. выйшаў першы нумар першай (калі не лічыць нелегальнай «Мужыцкай праўды» К. Каліноўскага) беларускай газеты «Наша доля». Газета мела выразны антыдзяржаўны, рэвалюдыйны характар. Дастаткова сказаць, што ў гэтым жа нумары было змешчана апавяданне Цёткі «Прысяга над крывавымі разорамі»— адкрыты заклік аб'яднаць намаганні рабочых, сялян і салдат дзеля звяржэння існуючага ладу. Вядома, выданне было адразу канфіскавана паліцыяй.

Не паспеў выйсці з друку другі нумар «Нашай долі», як украінская кіеўская газета «Рада» (за 19 верасня) паведаміла чытачам: «1 верасня выйшла ў Вільні газета «Наша доля»... Пра напрамак газеты яскрава сведчыць наступнае: першы нумар канфіскаваны па загаду губернатара... разышлося 5000 экземпляраў, 5000 было забрана паліцыяй». Тут жа гаварылася пра адкрыццё ў Пецярбурзе выдавецкай Суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», якая «надрукавала ўжо каляндар і чытанку».

«Наша доля» выходзіла ў неймаверна цяжкіх умовах: з шасці нумароў чатыры былі адразу канфіскаваны, на палосах іншых двух святлелі белыя цэнзурныя плямы. Таму на змену сваёй адкрыта рэвалюцыйнай папярэдніцы, яшчэ да канчатковага закрыцця яе, прыйшла больш умераная «Наша ніва». 22 лістапада, па гарачых слядах падзей, «Рада» друкуе інфарімацыю пра выхад у свет новай беларускай газеты. З таго часу паміж гэтымі газетамі наладжваецца прадяглы кантакт.

На аснове нашаніўскіх матэрыялаў «Рада» змяшчае паведамленні пра ўсе больш-менш значныя падзеі ў культурным жыцці беларусаў, асаблівую ўвагу надаючы культурна-асветніцкім захадам беларускай інтэлігенцыі. Яна паведамляе пра заснаванне ў Вільні школьнага таварыства «Беларуская Маці», «што мае на мэце асноўваць беларускія школы» (1907, № 15), а таксама выдавецкай суполкі «Наша хата», «якая будзе друкаваць кніжкі, патрэбныя для беларускай пачатковай навукі» (1909, № 22). Газета адразу ж расказала сваім чытачам пра выхад у свет першых беларускіх часопісаў: у Пецярбурзе —«Белорусский учитель» (1909, № 81) і «Маладая Беларусь» (1912, № 39), у Вільні — «Саха», у Мінску — «Лучынка» (1912, № 45). На тэму друку «Рада» змясціла таксама некалькі асобных артыкулаў. У адным з іх — «Асветніцкія захады беларусаў» Е. Вічэнкі — пісалася: «Беларусы ступілі на пэўны шлях, што выведзе іх у вольны, шырокі свет паміж культурнымі народамі, і ўы, якія робяць тую самую справу сярод свайго народа, могуць толькі прывітаць асветніцкія захады беларускай інтэліганцыі і пажадаць ёй поспеху. У добры час!» (1907, № 56). У раздзеле «Тэатр і музыка» ўкраінская газета часта расказвала пра «беларускія вячоркі», арганізацыю першага беларускага драматычнага тэатр а І. Буйніцкага і пастаноўку твораў М. Крапіўніцкага на беларускай сцэне (1910, № 34, 42, 50 і інш.). У гэтым жа раздзеле была надрукавана за подпісам М-генка П. рэцэнзія на выданне беларускага песенніка з нотамі Л. Рагоўскага (1911, № 68).

Як відаць з пераліку матэрыялаў, «Рада» звяртала, бадай, выключную ўвагу на культурна-аеветніцкую работу, што праводзілася маладой нацыянальнай інтэлігенцыяй Беларусі. Гэта і не дзіўна: па сваім характары «Рада»— газета ліберальная, асноўны напрамак яе — асветніцкая дзейнасць. Што большага можна было чакаць ад такога выдання!

Нямала аналагічных беларусазнаўчых допісаў змяшчаў на сваіх старонках і львоўскі «Руслан». Калі ў 1909 г. «Наша ніва» адкрывае асобную рубрыку «Лісты з Украіны», то некаторыя публікаіцыі, зробленыя тагачасным студэнтаім Глухаўскага настаўніцкага інстытута Я.

Журбою, «Руслан» перадрукоўвае поўнасцю, суправаджаючы іх цікавымі рэдакцыйнымі заўвагамі (1909, № 77, 85, 115). У апошняй з іх, у прыіватнасці, выказваецца падзяка аўтару за збор і даследаванне фактаў з гісторыі нацыянальнай школы на Украіне (пастанова земскіх сходаў Чарнігаўскай, Палтаўскай і інш. губерняў). У «Руслане» сустракаем матэрыялы і гістарычнага напрамку. Сярод іх заслугоўвае ўвагі перадрукаваны з літоўскай газеты «Viltis» артыкул «Наблізімся да ўаў», у якім гаворыцца пра гістарычна прадвызначаную дружбу літоўцаў, беларусаў і ўкраіндаў, што сваімі каранямі дасягае даўніх часоў Вялікага княства Літоўскага (1910, № 37, 38). Апрача таго, «Руслан» амаль рэгулярна інфармаваў пра ўсе ўкраінскія матэрыялы, якія з'яўляліся на староінках беларускай перыёдыкі, у прыватнасці пра пераклады на беларускую мову асобных навел В. Стэфаніка.

Такое пастаяннае, менш ці больш шырокае азнаямленне сваіх чытачоў з гісторыяй і культурай Беларусі, мінулай і тагачаснай, ажыццяўлялі, бадай, усе ўкраінскія выданні як ва Усходняй, так і ў Заходняй Украіне. Асабліва актыўна прапанавалі сваім чытачам «беларускую тэму» ўжо згаданыя «Рада» і «Руслан», а таксама «Українська хата», «Літературно-науковий вістнйк», «Записки наукового товариства ім. Шевченка», «Рідний край», «Дніпрові хвилі». Нічога падобнага раней, да пачатку XX ст., не было.

Аднак нас, зусім зразумела, найбольш цікавяць матэрыялы выключна літаратурныя, пытанне, як і ў яікіх формах у 1905-1917 гг. адбываліся міжлітаратурныя ўзаемаадносіны двух народаў.

Ва ўкраініцаў, як і ў беларусаў, абуджэнне нацыянальнай свядомасці ішло ў рэчышчы магутнага агульнадэмакратычнага руху, які ахапіў усе народы Расіі ў час першай рускай рэвалюцыі. Але, як слушна падкрэсліў Н. Перкін, «у тых з'явах культурнага жыцця, грамадска-палітычнай дзейнасці, што былі выразнікамі гэтага нацыянальнага ўздыму, вызначыліся неаднародныя ідэйна-класавыя плыні. Пафас заклікаў, з якімі інтэлігенцыя звярталася да народа, залежаў... ад таго, наколькі аўтары былі дзейсна звязаны з працоўнымі масамі, выказвалі іх імкненні, выяўлялі іх жыццёвыя інтарэсы»[1].

Сталася так, што на Украіне беларускім нацыянальным рухам зацікавіліся не толькі прагрэсіўная інтэлігенцыя і рэвалюцыйныя колы працоўных. Прадстаўнікі ўкраінскай нацыяналістычнай буржуазіі таксама спяшаліся сказаць сваё слова ў падтрымку нацыянальна-вызваленчага руху беларусаў. Які ва ўсёй сваёй дзейнасці, яны і тут зыходзілі са сваіх ваяўніча нацыяналістычных і шавіністычных погля-

[1] Перкин Н. С. В семье братских литератур. Минск, 1967, с. 7.

даў. Разам з тым у гэтым друку, зразумела, яны заўважалі і падтрымлівалі перш за ўсё нездаровае, рэакцыйнае, нацыяналістычнае. Нездарма паэтэса-рэвалюцыянерка Цётка, праслухаўшы універсітэцкі курс лекцый М. Грушэўскага, які звысоку, зняважліва ставіўся да беларусаў, інацыяналістычіна трактаваў некаторыя факты гісторыі, назвала яго «несумленным чалавекам», «несумленным палітыкам і езуітам»[1].

Украінская інтэлігенцыя буржуазна-нацыяналістычнага напрамку падтрымлівала беларускі інацыянальны рух галоўным чынам з-за яго апазіцыі да рускай дзяржавы. Ніякіх сацыяльных, класавых перадумоў нацыянальна-вызваленчага руху як на Украіне, так і на Беларусі яна заўважаць не хацела. У беларускай літаратуры ўкраінскія нацыяналісты і дэкадэнты знаходзілі толькі тэмы і матывы агульначалавечага характару — прырода, пакута, каханне. Заўсёды тэндэнцыйна высоўваючы на першы план ідэю нацыянальнага ўваскрэсення, яны ўпарта замоўчвалі рзвалюцыйна-дэмакратычныя творы беларускіх пісьменнікаў, як і наогул саму барацьбу рускага, украінскага і беларускага пралетарыяту з варожым памешчыцка-буржуазным ладам.

Так, Д. Дарашэнка ў сваім вялікім артыкуле «Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне»[2] даводзіў, што рухаючай сілай у грамадстве выступае «нацыянальная ідэя», узятая прытым у «чистым», пазакласавым і пазагістарычным выглядзе. Ён не бачыў асноўнай крыніцы гэтага развіцця — класаў і класавай барацьбы. Таму не дзіўна, што Дарашэнка нідзе (а яму належыць некалькі выступленняў пра беларускае нацыянальнае адраджэнне) нават не згадвае імя беларускай паэтэсы-рэвалюцыянеркі Цёткі. А яна ж у той час жыла ў Львове, і творы яе ён, безумоўна, ведаў — хаця б па брашуры Іл. Свянціцкага «Адраджэнне беларускага пісьменства» (Львоў, 1908). У артыкуле Дарашэнкі гэта брашура ўпамінаецца неаднойчы.

Другі літаратар, прадстаўнік дэкадэнцкага лагера М. Шапавал, часовая «беларусаманія» якога выявілася ў перакладчыдкай дзейнасці, прадстаўляючы чытачу беларускую літаратуру, таксама свядома абмінаў творы выразнага сацыяльна-вызваленчата зместу. У прыватнасці, з творчага даробку Цёткі ён выбраў толькі адзін верш — «Грайка», на якім пазначыліся асабістыя перажыванні аўтаркі, звязаныя з цяжкай хваробай. У той жа час і Шапавал не мог не ведаць напоўненага палкім рэвалюцыйным пафасам зборніка Цёткі «Хрэст на свабоду», які быў выдадзены не дзе-небудзь, а ў Львове ў 1906 г. Падкрэслена

[1] Гл.: Хлябцэвіч Я. Цётка.—«Беларусь», 1945, №2, с. 14.
[2] «Рада», 1908, № 246, 247, 249. У 1909 г. брашура выйшла асобным выданнем.

незаўважанымі перакладчыкам засталіся і вершы Я. Купалы «Там», «Што ты спіш?..», а таксама «Суседзям у няволі» Цёткі — непасрэдны зварот да ўкраінцаў, у якіх выразна гучаў заклік да барацьбы з царызмам. Гэтыя вершы ў арыгінале былі змешчаны ў брашуры Іл. Свянціцкага, што, дарэчы, паслужыла прычынай яе забароны ў межах Расійскай імперыі.

Аднак, відавочна, неправамерна было б поўнасцю выкрэсліваць з летапісу беларуска-ўкраінскага літаратурнага яднання артыкулы Д. Дарашэнкі, пераклады М. Шапавала, матэрыялы, змешчаныя ў «Радзе». У свой час яны ў пэўнай ступені таксама служылі справе азнаямлення ўкраінцаў з грамадскім і літаратурным жыццём беларусаў. Так, у выступленнях Дарашэнкі, якія неслі адбітак суб'ектывісцкіх і нацыяналістычных ацэнак і меркаванняў, змяшчаўся ўсё-такі даволі значны фактычны матэрыял. У прыватнасці, у артыкуле «Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне» надрукаваны поўнасцю на мове арыгінала вершы Ф. Багушэвіча «Не чурайся мяне, панічок» і Я. Лучыны «Не я пяю — народ божы», а таксама верш Я. Купалы «А хто там ідзе?». Да гэтага, упершыню ва ўкраінскім друку тут названы многія імёны і творы беларускіх літаратараў, даследчыкаў гісторыі, фальклору і мовы Беларусі. Гэта, зразумела, пашырала беларусазнаўчыя звесткі на Украіне, дапамагала пераадолець усталяваныя думкі пра Беларусь як пра своеасаблівую „terram incognitam" на літаіратурнай карце Еўропы.

У гісторыі беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей, у наладжванні працэсу гэтых сувязей значную ролю адыгралі працы перадавых заходнеўкраінскіх літаратараў і вучоных. Агульнавядома, з якой сімпатыяй і прыязнасцю ставіўся да беларускага народа і яго культуры І. Франко[1]. Яго паплечнік М. Паўлык, які, як мы ўжо бачылі, яшчэ ў XIX ст. цікавіўся беларускім грамадскім і культурным жыццём, заставаўся добрым другам беларусаў на працягу ўсяго жыцця. Так, адшуканыя намі архіўныя дакументы сведчаць, што пераклад і выданне «Эрфурцкай праграмы» Каўцкага і яшчэ некалькіх сацыялістычных твораў Паўлык зрабіў па просьбе віленскіх рэвалюцыянераў[2]. Едучы ў 1906 г. у Беларусь, Іл. Свянціцкі менавіта ад М. Паўлыка атрымоўвае адрас мінскага археолага і збіральніка даўнейшых каштоўнасцей М. Татура[3].

---

[1] Гл. пра гэта больш падрабязна: Охріменко П. Франко і Білорусь.— У зб.: Українське літературознавство, вип. 5. Львів, 1968,
[2] ДзГАУ у Львове, ф. 663, воп. 1, адз. зах. 213, арк. 45-48.
[3] Гл. там жа, ф. 3с/309, вон. 1, № 69, адз. зах. 1004.

А выязджаючы ў Мінск, Іл. Свянціцкі, апрача свайго асноўнага занятку — збору матэрыяльнай культуры беларусаў для аднаго з львоўскіх музеяў, меў намер глыбока азнаёміцца і з духоўнай культурай беларускага народа. Намер свой вучоны поўнасцю ажыццявіў, і ў 1908 г. у Львове выходзіць яго славутая кніжка «Адраджэнне беларускага пісьменства»— першае глыбокае даследаванне, своеасаблівы кароткі курс беларускай літаратуры не толькі на Украіне, але і ва ўсім славянскім свеце. Пра Свянціцкага і яго кніжку мы падрабязна раскажам некалькі пазней, у раздзеле пра асабістыя кантакты – беларускіх і ўкраінскіх літаратараў. Тут жа адзначым толькі тое, што менавіта з Сівянціцкага пачынаецца дзейнасць цэлай плеяды ўкраінскіх даследчыкаў літаратуры, для якіх беларусазнаўства стала справай усяго жыцця.

На пачатку статоддзя адзін з буйнейшых украінскіх гісторыкаў, у будучым правадзейны член АН УССР, Іван Крып'якевіч таксама (услед за Іл. Сівянціцкім) пачынае стала цікавіцца беларусістыкай. За сваё доўгае жыццё (памёр у канцы 60-х гг.) ён напісаў нямала даследаванняў, прысвечаных розным пытанням гістарычных сувязей Украіны і Беларусі.

Закончыўшы ў 1899 г. Львоўскі універсітэт, ён адну з першых сваіх навуковых прац прысвячае беларускаму народу. Спачатку ў газеце «Діло», а годам пазней у друкарні Навуковага таварыства імя Шаўчэнкі выходзіць яго праца «Беларусы» (1909). Аўтар, пачынаючы ад сівой даўніны і канчаючы падзеямі пачатку XX ст., расказвае пра спрадвечныя цесныя сувязі паміж украінскім і беларускім народамі, паказвае іх еднасць у барацьбе з агульнымі ворагамі — ляхамі, татарамі, нямецкімі псамі-рыцарамі. Даследчык спыняецца на літаратурных украінска-беларускіх сувязях, прыгадвае першыя здабыткі ў галіне перакладу мастацкіх твораў з адной мовы на другую. Праца Крып'якевіча значна пашырала ўяўленні ўкраінскага чытача пра беларускую літаратуру канца XIX — пачатку XX ст. Вучоны разглядае творчасць Ф. Багушэвіча і Я. Лучыны, гаворыць пра вялікае значэнне першых беларускіх газет «Наша доля» і «Наша ніва» для развіцця новай беларускай літаратуры. З асаблівай дакладнасцю і падрабязнасцю ён расказвае пра грамадскую і літаратурную дзейнасць Я. Купалы, змяшчае пераклады яго вершаў «А кто там ідзе?» і «Памяці Шаўчэнкі».

У 1913 г. у Львове выходзіць кніга вядомага славяназнаўца В. Шчурата «Літаратурныя нарысы», у якой змяшчаецца праца «Шаўчанка — Жалітоўскі — Чачот» (раней яна была надрукавана на старонках газеты «Діло», 1910, № 117, 118). Праца гэта сведчыць, што

яе аўтар быў глыбока дасведчаны ў беларускіх літаратурна-фальклорных выданнях. Іншыя даследаванні львоўската паэта-прафесара Шчурата, у будучым акадэміка АН УССР, даюць падставу гаварыць пра яго як пра сапраўднага папулярызатара беларускай літаратуры на Украіне. У часопісе «Неділя» (1911, № 1), які ён выдаваў, была надрукавана яго анатацыя на першы паэтычны зборнік Я. Коласа «Песні жальбы». Змешчаныя тут жа два пераклады твораў беларускага паэта таксама належаць яму. Апрача гэтага, Шчурат надрукаваў вялікі артыкул, прысвечаны 25-годдзю з дня смерці В. Дуніна-Марцінкевіча («Недаля», 1910, № 2), пазнаёміў украінскіх чытачоў з ананімнымі творамі беларускай літаратуры XIX ст. «Тарас на Парнасе» і «Песня» («Неділя», 1911,№ 3).

Цікавасць да беларускай літаратуры жывым струменем заіскрылася на старонках прагрэсіўнага львоўската выдання «Записки наукового товариства ім. Шевченка». Яшчэ ў канцы мінулага і на самым пачатку гэтага стагоддзя ўкраінскі фалькларыст У. Гнацюк цёпла адгукнуўся на працы па беларускім фальклоры і этнаграфіі, у прыватнасці на выданні Нікіфароўскага, Доўнар-Запольскага («ЗНТШ», 1889, кн. I; 1902, кн. III; 1903, кн. III). Вучоны звярнуў увагу літаратурнай грамадскасці і на брашуру М. Косіч «Літвіны-беларусы Чарнігаўскай губерні, іх быт і песні» («ЗНТШ», 1903, кн. V).

З асаблівай увагай пастаівіліся галіцкія вучоныя да навуковага даследаваяня беларускай мовы, фальклору і пісьмовай літаратуры Я. Карскага. З рэцэнзіямі і шырокімі водгукамі на шматтоімнае выданне «Беларусаў» Карската выступіў не толькі У. Гнацюк, але і малады яшчэ ў той час літаратар, таксама будучы акадэмік АН УССР, М. Вазняк («ЗНТШ», 1911, кн. V; 1913, кн. IV і інш.). Мевавіта тады вучоны пачынае цікавіцца старажытнай беларускай літаратурай («ЗНТШ», 1913, кн. V).

Наогул, прагрэсіўныя львоўскія вучоныя і літаратары на пачатку стагоддзя так многа зрабілі для азнаямлення ўкраінцаў з гісторыяй, культурай і літаратурай беларускага народа, што цалкам правамерным было б гаварыць пра асаблівае значэнне Львова як культурнага асяродка ў гісторыі беларуска-ўкраінскага яднання. І калі прыгадаць, што менавіта ў Львове доўгі час жыла, вучылася, тварыла беларуская паэтэса-рэівалюцыянерка Цётка, што львоўскі вучоны Іл. Свянціцкі стаў «піянерам беларусістыкі на Украіне і адным з самых значных дзеячаў еўрапейскай беларусістыкі»[1], то такая думка не здаеца «нацягнутай» і суб'ектыўнай.

[1] Панізнік С. Іларыён Свянціцкі. Іван Крып'якевіч.— «Полымя», 1968, № 3, с. 250.

## Першыя спробы перакладу

Як мы ўжо каізалі, у XIX ст. перакладаў літаратуірных твораў з беларускай мовы на ўкраінскую (і наадварот), за рэдкім выключэннем, не існавала. У пачатку ж XX ст. узнікае пераклад як адзін з відаў беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей.

Апрача ўжо згаданых перакладаў М. Шапавала, беларуская літаратура была прадстаўлена на Украіне ва ўзнаўленні Б. Заклінскага, В. Супраніўскага, П. Гая (Гайчанкі), М. Удавічэнкі, А. Алеся і некаторых іншых пісьменнікаў. Пераклад і ў пачатку XX ст. яшчэ не стаў асноўным відам сувязей. Але ўсё ж дзякуючы агульным намаганням невялічкай кагорты перакладчыкаў украінскі чытач змог ужо хоць збольшага пазнаёміцца як з беларускай літаратурай XIX ст. («Тарас на Парнасе», В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, Я. Лучына і інш.), так і з Я. Купалам, Я. Коласам, М. Багдановічам, некаторымі іншымі літаратарамі пачатку XX ст.

Украінскай чытацкай аўдыторыі да Кастрычніка найшырэй быў прадстаўлены Я. Купала. Яго вершы «Там» і «Што ты спіш?..», як вядома, увайшлі ў 1908 г. у даследаванне Іл. Свянціцкага «Адраджэнне беларускага пісьменства». У тым жа годзе газета «Рада» змяшчае «А хто там ідзе?»— верш, які пазней набыў шырокі рэзананс сярод іншых славянскіх народаў. Але друкаваліся гэтыя творы на мове арыгінала. На ўкраінскай мове Купала ўпершыню загаварыў са старонак «Літературно-наукового вісника» (1909, кн. IX). Тут былі змешчаны яго вершы «Спі, браце» і «Вольха». У 1909 г. «Рада» друкуе пераклад Купалавага верша «Я бачыў...»

Цікава высвятляе генезіс гэтага ранняга твора паэта беларускі літаратуразнавец Э. Мартынава[1].

У 1887 г. ва ўкраінскім альманаху «Складка» быў надрукаваны пераклад В. Аляксандрава нямецкай песні Лівенштэйна «Разбітае сэрца». Пазней гэты пераклад увайшоў у паэтычную анталогію «Українська муза» (Кіеў, 1908), дзе адзначалася, што ён стаў папулярнай народнай песняй не толькі сярод украінцаў, але і па ўсёй Расіі. Агульнасць не толькі танальнасці, але і вобразаў, паэтычнага памеру твора Я. Купалы і ўкраінскай песні «Я бачыў» паказвае, што першакрыніцай для паэта з'явіўся ўкраінскі пераклад. Такім чынам, калі на старонках «Рады» ўбачыў свет перакладзены М. Шапавалам купалаўскі твор, то гэта азначала, па сутнасці, з'яўленіне яшчэ аднаго ўкраін-

[1] Гл.: Мартынава Э. М. Беларуска-ўкраінскі паэтычны ўзаемапераклад. Мінск, 1973, с. 122—123.

скага варыянта нямецкай песні. Рэха вярнулася дадому. Факт у міжлітаратурных сувязях, бадай, выключны.

У 1914 г. у навукова-педагагічным часопісе «Наша школа» Іл. Свянціцкі пісаў: «У апошнія гады Шаўчэнку пільна перакладаюць беларусы, а іх найвыдатнейшы паэт Янка Купала відавочна стаіць пад вельмі моцным уплывам украінскага генія, творы якога любіць і цэніць не менш Міцкевіча і Пушкіна»[1]. У вялікай лавазе і любові Купалы да славутага сына Украіны мы маглі пераканацца, азнаёміўшыся з творамі беларускага паэта «Памяці Т. Шаўчэнкі» і «Памяці Шаўчэнкі». Вершы ўвайшлі ў анталогію «Вянок Т. Шаўчэнку з вершаў украінскіх, галіцкіх, рускіх, беларускіх і польскіх», што была выдадзена ў Адэсе (1911) М. Камаровым. У «Вянку» беларускія творы-прысвячэнні друкаваліся ў арыгінале. Апрача таго, тут жа ішоў і пераклад верша «Памяці Шаўчэнкі» на ўкраінскую мову, выкананы П. Канапніцкім. Львоўскі «Руслан» таксама звярнуў увагу на Янку Купалу, надрукаваўшы ў юбілейныя шаўчэнкаўскія дні яго верш «Памяці Шаўчэнкі» (на мове арыгінала).

З Я. Купалам украінскія чытачы знаёміліся і праз рэцэнзіі на «Беларускі каляндар» «Нашай нівы», у літаратурным аддзеле якога часта змяшчаліся творы паэта, а таксама праз некаторыя атлядныя артыкулы пра беларускую літаратуру, што з'яўляліся ва ўкраінскай перыёдыцы. У прыватнасці, вядомая ўкраінская пісьменніца Алена Пчылка (маці Лесі Украінкі), пазнаёміўшыся ў 1910 г. са зборнікам «Гусляр», вельмі цёпла пісала пра Купалу, прарочачы яму будучае сапраўднага народнага паэта[2]. І Янка Купала, як вядома, стаў ім.

«Другое сонца беларускай літаратуры» (Іл. Свянціцкі) — Я. Колас быў таксама вядомы ў дняпроўскім краі. Як і Купалу, Коласа на ўкраінскай мове ўпершыню прадставіў львоўскі друк: у 1909 г. газета «Слово» надрукавала яго верш «Вярба». У наступным годзе кіеўская «Рада» (1910, № 42), а за ёй і львоўскі «Руслан» (1910, № 271) публікуюць у перакладзе П. Гая верш Коласа «Неман». Украінская перыёдыка адгукнулася і на першы зборнік Коласа «Песні жальбы» (1910). Ужо першы нумар львоўскай «Неділі» за 1911 г. друкуе анатацыю на гэту кніжку. Яшчэ раней, у верасні 1910 г., з цёплай і прыхільнай рэцэнзіяй на яе выступіў П. Гай у газеце «Рада» (№ 238).

Да гэтага часу яшчэ не атрымала належнай сваёй ацэнкі вялікая рэцэнзія на «Песні жальбы» дэкадэнцкага крытыка М. Еўшана, змешчаная ў першай кніжцы «Літературно-наукового вісника» за 1911

---

[1] Свенціцькийй Іл. Шевченко в ряді слов'янских літератур.—«Наша школа», 1914, № 2—3, с. 106.
[2] Гл.: Грышын-Грышчук А. Янка Купала на Букавіне.—«Літаратура і мастацтв а», 1961, 14 ліпеня.

г.[1] Прапаведуючы на старонках «Українськоі хати» індывідуалізм і знявагу да грамадства, Еўшан выступае з тых жа пазіцый і ў рэцэнзіі як зборнік Я. Коласа. У прыватнасці, ён намагаецца давесці, што аўтар твораў — прамая супрацьлегласць свайму лірычнаму герою, пясняр не ўласнага, а толькі чужога гора: «...сам ён смяяўся б, жартаваў бы, *сам ён не мае прычын сумаваць...*» (курсіў наш.— аўт.). Рэцэнзент вышуквае ў зборніку «пэўнага роду цішыню і лагодную пакору», элегічнасць, расплывістасць вобразаў. Паколькі ўся кніга Коласа — гэта не корпанне ва ўласнай, прычына хворай душы, якога так прагнулі дэкадэнты, а жывая, хвалюючая турбота пра знядоленых і пакрыўджаных хлебаробаў, Еўшан вымушаны прызнаць, што паэзія Коласа — «тыповая». Але і гэта апошняе ён ставіць паэту ў дакор. Вернасць Коласа абранай тэме нервуе рэцэнзента. «Ён не можа выйсці з пэўнага замкнутага круга, не мае ні смеласці, ні сілы для таго, каб «забыцца»,— піша Еўшан. Знамянальнае патрабаванне! Яно з галавой выдае крытыка-дэкадэнта.

У рэцэнзіі, у цэлым супярэчлівай і суб'ектывісцкай, сустракаецца і некалькі слушных думак. Маецца на ўвазе ацэнка рэцэнзантам мастацкай формы твораў беларускага паэта. Так, адзін з першых у крытыцы М. Еўшан звярнуў увагу на схільнаісдь Я. Коласа да эпічнага адлюстравання жыцця. Ён выказаў меркаванне, якое пазней пацвердзілася творчай практыкай Коласа-празаіка, што «лірызм Коласа з часам павінен увайсці як адзін з элементаў у нейкую іншую форму творчасці». Рэцэнзія Еўшана магла быць цікавай чытачам яшчэ і тым, што ў ёй прыводзіліся ў арыгінале нямала ўрыўкаў з твораў самога паэта.

Найбольшай дакладнасцю, шырынёй і аб'ектыўнасцю аналізу творчасці Я. Коласа вызначаецда рэдэнзія В. Гермайзэ («Українська хата», 1911, № 1). Праанalізаваўшы кожны з пяці раздзелаў зборніка, аўтар рэцэнзіі дае яму ў цэлым высокую ацэнку. Падкрэсліўшы грамадскае гучанне лірыкі Коласа, Гермайзэ спыняецца і на асаблівасцях яго творчай манеры, якая выявілася, на думку рэцэнзента, перш за ўсё ў выключнай шчырасці зместу і прастаце паэтычнай формы. У заключэнне Гермайзэ падкрэсліў, што «песні Коласа не маюць у сабе ваяўнічых элементаў, яго муза — не «муза мести и печали». Колас... сумуе, але, сумуючы, ён напэўна знае, што яго браты «ўсё ж такі хоць некалі, а праўды дапытаюцца». Гэта моцная вера ў лепшае будучае

[1] Увагу на гэты матэрыял звярнула ўпершыню Э. Мартынава. Гл.: Матэрыялы першай навуковай канферэнцыі.., с. 52.

захапляе чытача, і, прачытаўшы гэты невялічкі зборнічак, хочацца вымавіць разам з аўтарам:

> ...Быць не можа,
> Каб не грэла цёпла сонца —
> Блісне свет і к нам ў аконца!»

Пэўную дадатковую інфармацыю пра творчасць Я. Купалы і Я. Коласа ўкраінскія чытачы атрымлівалі таксама з аглядных артыкулаў на штогадовыя календары «Нашай нівы». «Беларускія календары» змяшчалі цікавыя літаратурныя аддзелы, якія заўсёды былі аб'ектам спецыяльнай размовы ўкраінскіх рэцэнзентаў[1]. Дзякуючы гэтаму беларускі літаратурны працэс пачатку XX ст. паўставаў перад украінскімі чытачамі паўней і шырэй. Іх увазе прапаноўваліся новыя імёны: Ядвігіна Ш., Ц. Гартнага, З. Бядулі і інш. Асобныя творы гэтых і іншых беларускіх паэтаў і празаікаў з'яўляліся на старонках украінскай перыёдыкі ў арыгінале, часцей — у перакладах. У прыватнасці, «Руслан» (1910, № 47) і «Рада» (1910, № 42) друкуюць апавяданне Ядвігіна Ш. «Суд» у перакладзе В. Супраніўскага. Гэтыя ж газеты змяшчаюць верш нашаніўскага аўтара Э. Буйло «Сасна» ў перакладзе М. Удавічэнкі («Рада», 1911, № 105; «Руслан», 1911, № 187). У 1913 г. у «Руслані» з'яўляецца апавяданне Власта «Разбойник» (1913, № 284). Ілюстраваны каляндар «Просвіти» на 1914 г. пад агульным загалоўкам «З беларускага» падае апавяданне «Як аслеп Прохар» і фальклорную апрацоўку А. Сержпутоўскага «Над немаччу». Апрача гэтага, былі надрукаваны асобныя творы Г. Леўчыка, Ю. Шчупака («Літературно-науковий вісник», 1909, кн. X), П. Простага («Громадській голос», 1910, № 8; «Українська хата», 1909, № 7—8). А. Алесь пераклаў абразок невядомага беларускага аўтара «Ліпы» («Рідний край», 1907, № 5).

На жаль, да рэвалюцыі вельмі мала быў перакладзены на ўкраінскую мову М. Багдановіч. З усяго вельмі цікавага і арыгінальнага творчага даробку пісьменніка на ўкраінскай мове з'явілася толькі некалькі яго вершаў. Так, у «Літературно-науковому вісніку» (1909, кн. X) былі апублікаваны вершы «Над магілай» і «Прыйдзе вясна» ў перакладзе М. Шапавала. Другі з названых вершаў быў, апрача таго, перакладзены яшчэ і М. Удавічэнкам («Рада», 1909, № 105; «Руслан», 1909, № 160). Як удалося нам устанавіць, газета «Живое слово», што выдавалася ў свой час ва Усурыйскім краі і мела асобны ўкраінскі аддзел, надрукавала ў № 4 за 1910 г. пераклад яшчэ аднаго верша Багдановіча — «Пугач». С. Панізнік выявіў украінскія пераклады (А.

---

[1] Гл., у прыватнасці, рэцэнзіі: на «Беларускі каляндар» на 1910 г.—«Українська хата», 1910, № 1; «Рада», 1910, № 42; на 1911 г.—«Українська хата», 1911, № 1; на 1912 г.—«Світло», 1912, № 5; «Засів», 1912, № 8; на 1913 г.—«Рада», 1913, № 8 і г. д.

Ярэмчанкі) некалькіх вершаў Багдановіча, змешчаныя ў 1916 г. ва ўкраінскай газеце «Воля», што выходзіла ў сталіцы Аўстрыі Вене. Вось, бадай, і ўсё. Гэтага, зразумела, вельмі мала. Трэці класік беларускай дарэвалюцыйнай літаратуры ва ўсёй сваёй шматграннасці і велічы паўстане перад украінскім чытачом пазней, ужо ў саівецкі час.

Мастацкі ўзровень украінскіх дарэвалюцыйных перакладаў з беларускай мовы быў вельмі розным, аднак у цэлым яшчэ надта нізкім. Пераклады А. Алеся, некаторыя з перакладаў М. Шапавала (калі мець на ўвазе, што рэалістычны пераклад на Украіне знаходзіўся ў той час яшчэ ў працэсе свайго станаўлення) выкананы адносна добра. У той жа час большасць перакладаў грашыла ці літаралізмам, ці — яшчэ часцей — адвольнасцю. Нярэдка скажаліся не толькі паасобныя рэаліі арыгінала, але і сама думка твора. Якіх-небудзь заканамернасцей перакладу на такой малой колькасці пасрэдна перакладзеных твораў выявіць проста немагчыма.

Выразна дэмакратычная, сацыяльна-грамадская скіраванасць новай беларускай літаратуры, багацце яе выяўленчых сродкаў і форм, нацыянальна-вызваленчы пафас — усё гэта было данесена да ўкраінскага чытача толькі ў паслярэвалюцыйны час, калі ў шэрагі перакладчыкаў пачалі прыходзіць людзі не толькі з літаратурнымі здольнасцямі, але і з новым, сацыялістычным светапоглядам. Што датычыцца дарэвалюцыйнага ўкраінскага перакладу, то пачэсная і адказная функцыя паўнапраўнага прадстаўніка беларускай літаратуры на Украіне ім была выканана далёка не поўнасцю.

## Плён асабістых кантактаў

Пачатак XX ст.— гэта час станаўлення непасрэдных асабістых сувязей паміж прадстаўнікамі ўкраінскай і беларускай творчай інтэлігенцыі. Асабістыя кантакты з'явіліся новай формай культурных сувязей, якая прадугледжвае не толькі ўзаемаазнаямленне, але і ўзаемаўплыў (калі разумець пад ім творчае ўзаемазапазычанне і ўзаемаўзбагачэнне). Наладжванню такіх кантактаў спрыяў сам час — чае палітычнай і эканамічнай кансалідацыі працоўных Беларусі і Украіны.

Сувязі беларускай і ўкраінскай культур на пераломе двух стагоддзяў асветлены шчырай дружбай, асабістымі сімпатыямі Лесі Украінкі і Сяргея Мяржынскага. Мы ўжо казалі, які глыбокі след у душы і творчасці ўкраінскай паэтэсы пакінуў вобраз беларускага рэвалюцыянера. Прыезды яе ў Мінск, да свайго сябра, з другога боку, не маглі не выклікаць цікавасці перадавой інтэлігенцыі горада да творчасці аўтаркі «Досвітных агнёў», украінскай літаратуры наогул. Аднак Мяр-

жынскі быў яшчэ далёкі ад нацыянальных патрэб беларускага народа, яго культурнага адраджэння, развіцця мовы і літаратуры. Таму ён, хоць, зразумела, і не раздзяляў вялікадзяржаўных поглядаў, усё-такі не змог стаць для Лесі Украінкі крыніцай ведаў пра беларускую культуру і літаратуру, не змог паслужыць справе азнаямлення ўкраінцаў з духоўнымі скарбамі народа, сярод якога жыў. Смерць, што перапыніла жыццё Мяржынскага на самай зары стагоддзя, у сакавіку 1901 г., не дала яму магчымасці ўбачыць абуджэнне сацыяльнай і нацыянальнай свядомасці беларусаў, на паўслове абарвала цікавую старонку з летапісу беларуска-ўкраінскіх узаемасувязей.

Але самі сувязі не перапыніліся. Для іх умацавання нямала зрабіў вядомы ўкраінскі грамадскі дзеяч Аляксандр Русаў. Адшуканыя намі ў рукапісным аддзеле бібліятэкі АН УССР (Кіеў) матэрыялы ўдакладняюць некаторыя моманты біяграфіі гэтага цікавага чалавека, уносяць асобныя новыя штрыхі ў агульны малюнак тагачасных беларуска-ўкраінскіх сувязей.

Вучань і паплечнік М. Драгаманава А. Русаў быў шчырым прыяцелем беларусаў. У сваёй дзейнасці ён кіраваўся прынцыпамі дэмакратызму, ідэямі ўсеславянскага яднання і ўзаемаразумення. Далёкі ад нацыянальнай абмежаванасці, Русаў лічыў, што кожны чалавек павінен аднолькава прысвячаць сябе як нацыянальным, так і інтэрнацыянальным справам. У адным з лістоў да жонкі Соф'і Ліндфорс-Русавай, таксама вядомай дзяячкі вызваленчага руху, ён пісаў, што калі трэць свайго часу чалавек вымушаны прысвяціць сямейным і бытавым справам, то другую трэць ён павінен аддаць грамадству. «Што мы зробім дзеля грамадства, то і будзе зроблена дзеля Украіны. Помніце, што гэтай нашай патрыятычнай або народнай справе мы павінны... аддаваць увесь свой розум і ўсе свае пачуцці цалкам». Апошнюю трэць часу, падкрэсліваў Русаў, «кожны чалавек павінен траціць на абавязкі яго чыста чалавечыя, як кажуць папрэчаску — касмапалітычныя (г. зн. інтэрнацыянальныя.— аўт.). Расія, Славяне, увесь Свет таксама спытаюць у нас, а што мы для іх зраібілі?!»[1]

Доўгі час жывучы на Чарнігаўшчыне, А. Русаў добра пазнаёміўся з жыццём і бытам беларусаў, якія засялялі паўночную частку Чарнігаўскай губерні. Характар працы даваў яму магчымасць пазнаць жыццё сялян і на тэрыторыі самой Беларусі. Працуючы статыстам, Русаў рабіў папярэднія падлікі розных магчымых выдаткаў на пракладку шасейных дарог, якія б звязалі Кіеў, Чарнігаў з гарадамі і вёскамі Беларускага Палесся. Ён таксама збіраў (і выдаў у 1912 г.)

[1] Рукапісны аддзел бібліятэкі АН УССР (далей — РАБАУ), ф 1, № 12 604, арк. 13, 14.

матэрыялы для эканамічнага абгрунтавання Чарнаморска-Балтыйскага воднага шляху, значная частка якога павінна была пралегчы праз Беларусь. Пад статыстыкай Русаў, як і мнóгія тагачасныя вучоныя, разумеў вельмі шырокае вывучэнне жыцця. Яго статыстычныя працы паядноўвалі ў сабе і этнаграфію, і фалькларыстыку, і геаграфію, і псіхалогію.

Наколькі А. Русаў быў глыбокім і грунтоўным даследчыкам, сведчаць, між іншым, і такі факты. Украінскі кампазітар Мікола Лысенка, сам цудоўны знаўца народнага жыцця, яго фальклору і быту, раіўся з ім пры пастаноўцы сваіх опер. Другі выдатны музычны дзеяч, М. Мусаргскі, імкнучыся ў сваёй оперы «Чаравічкі» як найлепш адлюстраваць украінскі нацыянальны побыт, таксама абраў сабе кансультантам Аляксандра Русава.

Аднак А. Русаў ніколі не абмяжоўваўся толькі вывучэннем жыцця. Усялякімі магчымымі спосабамі ён намагаўся палепшыць яго, і ў першую чаргу — сваімі навуковымі даследаваннямі. Канечне, асветніцкія сродкі былі надта нязначнай зброяй у параўнанні, скажам, з планамернай і арганізаванай работай па рэвалюцыйным выхаванні пралетарыяту. Таму нельга перабольшваць значэння культурна-асветніцкай працы Русава. Але разам з тым мы не павінны і прымяншаць яго.

А. Русаў пераконіваў іншых, што ідэалы будучага трэба выхоўваць на фактах дяперашняга жыцця, крытычна іх асэнсоўваючы. Жывучы на Чарнігаўшчыне, ён арганізоўваў аматарскія паказы ўкраінскіх п'ес, сам даваў сольныя канцэрты, чытаў лекцыі па розных галінах ведаў і на сабраныя такім чынам грошы адкрываў чытальні, камплектаваў бібліятэкі, лячыў хворых сялян.

Другая палова 90-х гг. была для А. Русава часам асабліва інтэнсіўната вывучэння Чарнігаўшчыны. Ён месяцамі ездзіць па вёсках, начуе ў сялянiскіх хатах. У 1898 г. Чарнігаўская губернская ўправа выдае яго двухтомнае апісанне Чарнігаўскай губерні. Апрача таго, у розных губернскіх зборніках, у перыёдыцы ён публікуе артыкулы і нататкі па розных пытаннях, у прыватмасці, пра асобныя гарады і сёлы краю, стан народнай асветы і г. д. Грамадская дзейнасць Русава насцярожвае паліцыю. Хутка за ім устанаўліваецца паліцэйскі нагляд, а пражыванне на Чарнігаўшчыне дазваляецца яму «без права даследавання народнага жыцця...».

Прыблізна ў той самы час, у 1897 г., прыступае да сістэматычнага збору і запісу песень беларусаў Чарнігаўскай губерні і беларуская пісьменніца М. Косіч. Яна жыла на Чарнігаўшчыне ў сяле Расуха, якое знаходзілася за некалькі вёрст ад «хутара Рабінзона», дзе

на некаторы час пасяліўся з сям'ёй А. Русаў. Знаёмства з ім падштурхнула Косіч да літаратурнай дзейнасці. Малады запал, з якім заўсёды працаваў Русаў, яго нястомная энергія, глыбокая любоў да простага народа, выступленні ў абарону сацыяльных і нацыянальных правоў сялян не маглі не зрабіць глыбокага ўражання на пісьменніцу. Яе літаратурны талент не вызначаецца асаблівым узроўнем. Але менавіта за нарадалюбства, за старанны збор і вывучэнне фальклору цаніў Косіч Я. Карскі, назваўшы яе даследаванне «Літвіны-беларусы Чарнігаўскай губерні, іх быт і песні» (Пецярбург, 1902) «даволі каштоўнай этнаграфічнай працай». Думаецца, у выданні працы дапамог Косіч не хто іншы, як Русаў, які ў канцы 1899 г. пераехаў у Пецярбург і сімпатыі да беларусаў імкнуўся выявіць на справе. У рукапісным аддзеле бібліятэкі АН УССР захаіваліся матэрыялы[1], якія сведчаць, што менавіта ў гэты час Русаў клапоціцца пра выданне ў тагачаснай сталіцы Расіі розных твораў этнаграфічна-статыстычнага характару.

Пра знаёмства М. Косіч з А. Русавым сведчыць і такая дэталь. Другая кніжка Косіч — «Пералажэнне некаторых баек Крылова на беларускую мову» (Чарнігаў, 1903)— адкрываецца «пералажэннем» байкі І. Крылова «Варона і лісіца», пад назвай якой значыцца: «Прысвячаецца А. А. Русаву». У кнізе ёсць і некатарыя іншыя творы з прысвячэннямі — але толькі блізкім людзям або родзічам. Няўжо магла паэтэса ў такім разе прысвячаць верш незнаёмаму чалавеку?..

У аддзеле рукапісаў Інстытута ўкраінскай літаратуры імя Т. Шаўчэнкі ў Кіеве нам пашчасціла адшукаць рукапіс «Пералажэння» М. Косіч, надасланы аўтаркай кіеўскай цэнзуры. На ім — запіс пра атрыманне рукапісу 1 верасня 1901 г., а таксама рэзалюцыя цэнзара: «Забараніць згодна прапанове Галоўнага ўпраўлення па справах друку ад 29 ліпеня 1902 г. № 6632»[2]. Як бачым, цэнзары не спяшаліся з разглядам рукапісу, дачакаліся-такі адпаведнага. забарончага цыркуляра. І ўсё ж, мы ведаем, аўтарцы ўдалося нейкім чынам абмінуць «забарону»— кніга Косіч выйшла ў Чарнігаве ў 1903 г. Ці не дапамог і тут беларускай пісьменніцы Русаў? Цалкам верагодна, бо кніта выйшла ў друкарні Чарнігаўскага земства, дзе ён працаваў пэўны час. І хоць Русаў на пачатку стагоддзя ўжо быў у Пецярбурзе, усё ж ранейшыя знаёмствы і ўплывы заставаліся. Дарэчы, скарыстаўшы нагоду, у той жа земскай друкарні Косіч выдала адначасова і другую кніжку — вершаванае апавяданне «На перасяленне» (1903). Неспа-

[1] Гл.: РАБАУ, ф. 11, № 3359.
[2] Рукапісны аддзел Іьстытута літаратуры імя Т. Шаўчэнкі АН УССР, ф. 70, № 226, арк. 1.

дзявана знойдзеная магчымасць друкавацца выкарыстоўвалася, як бачым, на поўную моц.

Працуючы ў Пецярбурзе, А. Русаў праводзіць актыўную грамадскую работу, скіраваную на абарону культурнага развіцця нацыянальных меншасцей Расіі. Ен прымае ўдзел у складанні запіскі ўраду, у якой Расійская акадэмія навук выступіла за навучанне дзяцей на роднай мове, у абарону роднай мовы ў школе і вышэйшых навучальных установах, прэсе і мастацкай літаратуры. Абараняючы ўкраінскую культуру ад розных шавіністычных выпадаў, ён адначасова з глыбокай павагай выказваецца пра вялікую рускую культуру, абараняе права на нацыянальнае развіццё не толькі беларускага, але і літоўскага, яўрэйскага і іншых народаў царскай Раоіі.

Апошнія гады свайго жыцця А. Русаў працуе прафесарам Кіеўскага камерцыйнага інстытута, рэдагуе «Известия Коммерческого института». Поўнасцю аддаючыся педагагічнай працы, ён і тут пашырае сярод студэнтаў ідэі дружбы, узаемапавагі, узаемаразумення паміж народаім. Таму не дзіўна, што менавіта ў Камерцыйным інстытуце, як пісаў у адным з «Лістоў з Украіны» С. Палуян, было нямала студэнтаў-беларусаў, што вывучалі гісторыю, культуру і літаратуру роднага народа, пашыралі свае веды сярод знаёмых і сяброў-украінцаў (Гл.: «Наша ніва», 1909, № 34).

Асаблівай увагі заслугоўвае навуковы артыкул А. Русава «Два беларускія паэты», надрукаваны ў кіеўскім часопісе «Нова громада» (1906, № 11), дзе вучоны выявіў даволі шырокую дасведчанасць у беларускай літаратуры. Ён адным з першых пазнаёміў украінскую грамадскасць з творчасцю Ф. Багушэвіча і Я. Лучыны, даў кваліфікаваны аналіз паасобных іх твораў. Правільнасць, выключная пісьменнасць у напісанні беларускіх тэкстаў-цытат сведчыць пра тое, што аўтар пранік у стыхію беларускай мовы, адчуў і зразумеў яе фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці. Заканчваючы артыкул, Русаў пісаў: «Што найдаражэй у кароткіх песнях і большых вершаваных творах Лучыны і Бурачка, дык гэта чыста народны спосаб выкладаць прагрэсіўныя думкі і крытычна, з гумарам ставіцца да непарадкаў палітычнага ладу нашага, выказваць пажаданні асветы і дабрабыту роднаму народу... Багушэвіч і Лучына — сапраўдныя паэты свайго народа».

Папулярызацыі беларускай культуры і літаратуры сярод рускіх і ўкраінцаў сваёй грамадскай і крытычна-публіцыстычнай дзейнасцю спрыяла таксама жонка А. Русава — С. Ліндфорс-Русава. У 1909 г. яна друкуе ў пецярбургскім часопісе «Познание России» (кн. III) артыкул «Адраджэнне беларускай літаратуры», дзе прыводзіць шэраг

статыстычных дадзеных пра Беларусь, гаворыць пра значэнне беларускай мовы ў жыцці Вялікага княства Літоўскага, робіць агляд літаратуры ад старажытнасці і да пачатку XX ст. З асаблівай прыхільнасцю адгукаецца Русава пра творчасць Коласа. Яна, у прыватнасці, праводзіць паралель паміж вершам Якуба Коласа «Пясняр» і Шаўчэнкавым «Перабендзем», падкрэслівае, што абодва паэты аднолькава разумеюць праблему служэння мастака народу.

У той час Я. Колас за ўдзел у арганізацыі нелегальнага настаўніцката з'езда сядзеў у Мінскім астрозе. З'яўленне артыкула С. Русавай ды яшчэ параўнанне маладога паэта з Шаўчэнкам падбадзёрыла вязня, прыдало яму новыя сілы ў змаганні са змрочнай турэмнай рэчаіснасцю. У адным з лістоў будучага народнага паэта Беларусі да знаёмай А. Г. Рамановіч ад 30 мая 1909 г. чытаем: «Товарищ из Сибири поздравляет меня с литературным успехом — читал в журнале «Познание России» статью о возрождении белорусского языка. Меня, между прочим, по словам товарища, называют вторым Шевченко, белорусским, конечно. Вероятно, он смешал меня с Я. Купалой. Если же, сверх всякого чаяния... слова сии предназначены мне, будет великое ликование в моей душе. Это и будет единственный источник моей радости и смысла моей жизни...»[1]

Пазней С. Русава актыўна супрацоўнічае ў прагрэсіўным украінскім педагагічным часопісе «Світло». Тут яна змяшчае рэцэнзіі на «Беларускі песеннік з нотамі для народных і школьных хораў» Л. Рагоўскага (1911, № 7), а таксама на «Беларускі каляндар на 1912 год» (1912, № 5). Апрача таго, відаць, не без спрыяння Русавай часопіс друкаваў аб'явы на выданні «Белорусский учительский вестник», газету «Наша ніва» і інш.

У абедзвюх сваіх рэцэвзіях С. Русава выразна падкрэслівае, што беларуская літаратура пастаянна развіваецца, што яна можа пахваліцца многімі імёнамі. Поруч з Я. Купалам і Я. Коласам «з'яўляюцца новыя імёны беларускіх пісьменнікаў, якія выступаюць у абарону прыгнечанага народа», закладваюць «новыя лепшыя падваліны асветы» «свядомай пашаны да свайго, роднага». Цёплым словам згадвае Русава і «вядомага пісьменніка» С. Палуяна.

Гаворачы пра выданні беларускіх песень, рэдэнзентка звяртае ўвагу на блізкасць беларускага і ўкраінскага фальклору, аднак не адмаўляе беларускім песням у іх самабытнасці і арыгінальнасці. Яны ўражваюць прастатой зместу і мелодыі, «нейкай архаічнай мастацкасцю... Нейкая старажытная краса вее ад тых простых, наогул

[1] Колас Якуб. Збор твораў у 12-ці тамах, т. 12. Мінск, 1964, с. 11.

сумных залеваў, і паўстаюць лясы і пясчаныя нівы, дзе вякамі працуе ў поце чала працаўнік, бядняк-беларус».

Як бачым, асабістае знаёмства, творчыя кантакты беларускіх і ўкраінскіх літаратараў прыносілі значны плён, які пастаянна, з году ў год, узбагачаўся. Вялікае значэнне ў гэтым мела жыццё (праца, навучанне) на Украіне такіх беларускіх пісьменнікаў, як Кандрат Лейка, Янка Журба, Сяргей Палуян, Цётка. Знойдзеныя ў беларускіх і ўкраінскіх архівах новыя дакументы яскрава пацвярджаюць гэта.

Пра К. Лейку вядома вельмі мала. У Дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва БССР (Мінск) зберагаецца ліст пісьменніка, пасланы ім у 1921 г. у Варшаўскі беларускі камітэт. Ён дазваляе ўдакладніць і пашырыць некаторыя моманты біяграфіі адрасанта. Так, у лісце чытаем: «Я, Кандрат Тодараў Лейка, беларус, грамадзянін Гродзенскай губ., Слонімскага пав., в. Збочна. Большую частку свайго жыцця я правёў за межамі сваёй бацькаўшчыны, «а Украіне, у Харкаўшчыне, дзе на працягу больш як 35 гадоў займаў розныя настаўніцкія пасады. З 1917 г. па прычыне цяжкай хваробы (параліч ног) я пакінуў службу і з Харкаўшчыны пераехаў на Валынь у мястэчка Здалбунова Ровенскага пав., дзе дяпер і жыву...»[1] Як бачым, большая частка жыцця і ўся творчая біяграфія К. Лейкі звязана з Украінай. Праўда, сёння вядома няшмат з творчай спадчыны пісьменніка — толькі тое, што было надрукавана ў «Нашай ніве». Аднак з ліста даведваемся, што, будучы ўжо цяжка хворым, К. Лейка напісаў нямала вершаў, казак і апавяданняў. Восем сшыткаў са сваімі творамі ён выслаў на адрас Беларускага навуковага таварыства (Вільня)[2]. Творы ў свой час не з'явіліся ў друку, і зараз іх лёс невядомы.

Несумненна, многае з напісанага К. Лейкам абумоўлена ўкраінскай рэчаіснасцю і, магчыма, украінскай літаратурай. Тэксталагічныя пошукі, публікацыі невядомых твораў пісьменніка дапамогуць у будучым гэта канкрэтна даследаваць. Тыя ж апавяданні, што з'явіліся ў «Нашай ніве», на першы погляд, нічога агульнага з Украінай не маюць. Больш таго, аўтар нават старанна падкрэслівае іх «беларускасць». Так, у падзагалоўку апавяданняў «Кульгавы дзед Раман» (1912, № 15-16), «Таклюся-сухотніца» (1912, № 26) значыцца: «Беларускія тыпы». Да загалоўка апавядання «Панас Крэнт» (1913, №45-46) дададзена растлумачэнне: «З беларускага жыцця». Але ж ці не ўкраінская рэчаіснасць, ці не ўзнікшае на Украіне пачуццё настальгіі

[1] Дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва БССР (далей — ДзАЛМ), ф. 3, воп. 1, адз. зах. 199, арк. 61.
[2] ДзАЛМ, ф. 3, воп. 1, адз. зах. 199, арк. 59—60.

звалі пісьменніка да роздуму над жыццём беларусаў, роднай Бацькаўшчыны?

Калі на творчасці К. Лейкі (маем на ўвазе апублікаваныя творы) уплыў украінскай грамадскай думкі, украінскага жыцця пазначыўся апасродкавана, то непасрэдна ён выявіўся ва ўсім, што зрабіў і напісаў другі беларускі пісьменнік — Янка Журба (Іван Якаўлевіч Івашын).

У Дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва БССР, у фондзе Я. Журбы, захоўваецца аўтабіяіграфія пісьменніка[1], яго працоўная кніжка і іншыя дакументы. На падставе гэтых архіўных, а таксама некаторых друкаваных матэрыялаў можна ўзнавіць гісторыю вучобы і працы Журбы на Украіне, характар яго сувязей з украінскім грамадскім і культурным жыццём.

Пасля заканчэння Полацкай настаўніцкай семінарыі (1902) і працы ў пачатковых школах Віцебскай губерні Я. Журба ў 1906 г. паступае ў Глухаўскі настаўніцкі інстытут. У адным з лістоў паэт так матываваў свой намер паступіць у інстытут: «Я хацеў як мага паўней пазнаёміцца з украінскім народам, яго мовай, літаратурай, украінскімі народнымі песнямі і маляўнічай прыродай Украіны»[2]. Канечіне, не меншае значэнне мела і цяга да ведаў, імкненне атрымаць вышэйшую асвету. У інстытуце існавала некалькі нелегальных гурткоў. Будучы паэт адразу стаў удзельнікам украінскага гуртка, у якім «вывучалася ўкраінская літаратура, а таксама абмяркоўваліся і некаторыя палітычныя пытанні»[3]. Удзел у гуртку абуджаў не толькі ў Журбы, але і ў іншых студэнтаў-беларусаў пачуццё нацыянальнай свядомасці. І таму калі ў сцены інстытута трапіла газета «Наша ніва», яны адразу ж ствараюць свой — таксама нелегальны — беларускі гурток.

Інстытут Я. Журба скончыў 7 чэрвеня 1909 г.[4], і з 1 ліпеня 1909 г. па 1 жніўня 1911 г. настаўнічаў у г. Канстанцінаградзе (цяпер Чырванаград Харкаўскай вобласці). Папрацаваўшы два гады ў Беларусі, ён у 1913 г. Паступае на Вышэйшыя Камерцыйныя курсы (Харкаў). Аднак грошы, сабраныя за гады настаўніцтва, вельмі хутка скончыліся, і, правучыўшыся крыху больш за год, паэт-настаўнік вяртаецца на пастаянную працу ў Мінскую губерню.

[1] У скарочаным выглядзе яна змешчана ў зборніку «Пра час і пра сябе» (Мінск, 1966, с. 164—166).

[2] Цыт. па арт.: Кривко нка Журба і Укра'їна.— «Літературна газета», 1958, 25 лістапада,

[3] ДзАЛМ, ф. 70, воп. 1, адз. зах. 71, арк. 14.

[4] «Аттестат об окончании Глуховского учительского института».— ДзАЛМ, ф. 70, воп. 1, адз. зах. 72. Цікава, што праз два гады (1911) у гэты інстытут прыйдзе Аляксандр Даўжэнка, каб закончыць яго ў 1914 г. На жаль, не хапіла ўсяго пару гадоў, каб магчымасць узнікнення яшчэ адных беларуска-ўкраінскіх літаратурных кантактаў стала рэальнасцю.

Жыццё паэта на Украіне адыграла вялікую ролю ў станаўленні яго творчай біяграфіі. Менавіта ў час вучобы ў Глухаўскім настаўніцкім інстытуце Я. Журба сфарміраваўся як беларускі літаратар. Тут ён упершыню пачаў пісаць вершы на беларускай мове, адзін з якіх («На беразе Дзвіны») быў надрукаваны 16 ліпеня 1909 г. у «Нашай ніве». Да гэтага паэт пісаў па-руску і публікаваўся ў «Витебских губернских ведомостях» и «Витебском голосе»[1]. Украінскі перыяд жыцця паэта абумовіў нямала тэм яго паэтычных твораў, крытычных прац, газетных допісаў і г. д. Украінская тэма становіцца адной з вядучых у яго творчасці.

Разам з тым Я. Журба стаў і прапагандыстам украінскай культуры ў Беларусі. У «Нашай ніве» было апублікавана некалькі яго цікавых «Лістоў з Украіны». Гэта ён пераклаў на беларускую мову і прапанаваў для публікацыі ў «Нашай ніве» працу Д. Дарашэнкі «Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне». Жывучы на Украіне, пісьменнік мог непасрэдна сачыць за ўкраінскім літаратурным рухам. Усё станоўчае, што ён заўважаў у грамадскім жыцці ўкраінскага народа, тут жа папулярызаваў сярод беларусаў. У вялікай ступені дзякуючы менавіта Журбе беларусы былі няблага азнаёмлены з тым, што адбывалася на Украіне на пачатку нашага стагоддзя. Я. Журба, такім чынам, саслужыў добрую службу і ўкраінскай культуры.

Справу, распачатую Я. Журбой, працягваў яшчэ адзін сын беларускага народа — С. Палуян. На Украіну ён прыехаў восенню 1908 г. (магчыма, ён быў тут і раней). Праз год Палуян выехаў на некалькі месяцаў на радзіму, а потым зноў вярнуўся, каб працягваць навучанне ў Кіеўскім універсітэце. «Тут у вас багатая культура,— гаварыў ён сябрам-украінцам.— Перайму яе і павязу да сваіх».

Наладзіўшы сувязь з «Нашай нівай», С. Палуян пасылае ў газету разнастайныя матэрыялы літаратурна-крытычнага і інфармацыйнага характару. У газеце ён надрукаваў тры артыкулы пад агульнай назвай «З нашага жыцця», пяць допісаў-лістоў з Украіны (на разглядзе іх мы спынімся ў другой палове кніжкі). Апрача таго, яго пяру належаць надрукаваныя ў «Нашай ніве» артыкулы навукова-гістарычнага характару «Нацыянальнае адраджэнне чувашоў», «Якуцкі нацыянальны рух», а таксама агляд беларускай літаратуры за 1909 г. Апошняя праца, цікавая асобнымі назіраннямі і крытычнымі заўвагамі, найбольш уражвае чытача сваім выразным грамадзянскім пафасам.

---

[1] П. Ротач памыляецца, калі піша, што «ў перыяд навучання ў інстытуце пачынаецца літаратурная дзейнасць Янкі Журбы».— Гл.: Матэрыялы першай. навуковай канферэнцыі.., с. 64

Вось, уласна, і ўсё з крытычнага даробку пісьменніка, што збераглі для нас старонкі «Нашай нівы». А што па-за гэтымі старонкамі? На жаль, пра гэта мы ведаем вельмі мала. Аднак ёсць усе падставы сцвярджадь, што дзейнасць С. Палуяна як арганізатара беларускага літаратурнага працэсу, аднаго з актыўнейшых дзеячаў беларуска-ўкраінскага літаратурнага яднання, была намнога багацейшай і цікавейшай. Так, першы ўкраінскі багдановічазнавец М. Драй-Хмара, спасылаючыся на рукапісныя ўспаміны аднаго з супрацоўнікаў «Нашай нівы», гаворыць пра Палуяна як пра настаўніка і сябра М. Багдановіча. Ужо з самага пачатку літаратурнай творчасці аўтара «Вянка» Палуян, разам з Купалам, адчуў у ім сапраўднага мастака, падтрымліваў паэта, усімі сродкамі абараняючы яго першыя літаратурныя спробы ад нападак розных вульгарызатараў. У прыватнасці, Палуян выступіў супраць сцвярджэнняў, што творы Багдановіча — дэкадэнцкія, не для народу пісаныя, беззмястоўныя[1].

Са старонак тагачасных украінскіх газет і часопісаў, прызабытых, пакрытых пылам больш як паўстогадовай нашай няўважлівасці, паўстае перад намі вобраз С. Палуяна — чалавека таленавітага, надзвычайнай шырыні грамадзянскіх інтарэсаў і навуковых зацікаўленняў. Ва ўкраінскай перыёдыцы надрукавана каля дзесяці прац гэтага пісьменніка. Дагэтуль, застаючыся малавядомымі, яны да апошняга часу не былі ўведзены ў навуковы ўжытак і належным чынам не ацэнены літаратуразнаўцамі.

Першы артыкул «Пра нацыянальную школу на Беларусі», які надрукаваў С. Палуян на старонках «Українськоі хати» з нагоды выхаду ў Пецярбурзе зборніка «Белорусский учитель», суправаджаўся наступнай рэдакцыйнай нататкай: «З прыемнасцю змяшчаем артыкул таварыша-беларуса і будзем надалей сістэматычна адкрываць старонкі нашага часопіса для абмеркавання спраў нацыянальнага беларускага адраджэння, зважаючы на тое, што: 1) адраджэнне суседняга брацкага народа цікавае і павучальнае для ўкраінцаў, 2) жадаючы сваім часопісам канкрэтна дапамагчы ў абмеркаванні чарговых спраў і задач беларускай свядомай інтэлігенцыі, якая не мае пакуль што свайго органа, прызначанага для гэтай ролі». У часопісе, а таксама ў газеце «Рада» С. Палуян пад уласным прозвішчам, псеўданімам П. Ян, крыптанімам С. П. змяшчаў свае працы[2]. Сярод іх — рэцэнзіі на выданні віленскай выдавецкай суполкі «Наша хата», ананімную паэму XIX ст. «Тарас на Парнасе», кнігу Ядвігіна Ш. «Дзед

---

[1] Гл.: Драй-Хмара М. Життя і творчість Максима Богдановича.— У кн.: М. Богданович. Вінок. Кйів, 1929.
[2] Гл.: «Українська хата», 1909, № 5; 1910, № 1—5; «Рада», 1910, № 100.

Завала», анатацыя на «Першы беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1910 г. і інш.

Асабліва важнай для характарыстыкі самога С. Палуяна з'яўляецца яго рэцэнзія на «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» Я. Коласа (Пецярбург, 1910). Тут рэцэнзент выступае не толькі як удумлівы крытык, але і як чалавек, якому добра вядомы асноўныя патрабаванні педагогікі. Менавіта з гэтымі патрабаваннямі ён і прыступае да ўсебаковай ацэнкі выдання. «Якуб Колас,— піша ён,— вядомы беларускі паэт, былы народны настаўнік. І тое і другое зрабіла харошы ўплыў яа яго кніжку, бо і складзена яна ў адпаведнасці з вымогай і педагогікі, і прываблівае сваёй паэтычнасцю. Апрача таго, мае ў сабе і асноўныя прыкметы Коласа — яго народнасць і патрыятызм» («Українська хата», 1910, № 2). Як адну з пазітыўных якасцей кнігі Палуян адзначае адсутнасць у ёй голай дыдактыкі, чыстага маралізавання і прапаведавання голых ісцін. «Тут тэндэнцыя не вылазіць наверх, як шыла з мяшка, а ляжыць у самой сутнасці паэтычнай здольнаісці аўтара... Патрыятызм і нарадалюбіства пірышчэпліваюцца дзіцячай душы не гучнымі словамі, а паэтычнымі вобразамі».

С. Палуян пачаў таксама друкаваць вялікае даследаванне «Беларуская паэзія ў яе тыловых прадстаўніках». Апублікавана была толькі першая частка пад назвай «Народная славеснасць і першыя спробы штучнай паэзіі»— агляд беларускай літаратуры, пачынаючы з часоў старажытнасці і да творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча ўключна.

Такім чынам, С. Палуян не толькі даследаваў, але і прапагандаваў сярод украінцаў здабыткі беларускага прыгожага пісьменства, робячы тым самым значны ўклад у справу беларуска-ўкраінскага культурната ўзаемаазнаямлення. Разам з тым, жывучы ў Кіеве, «у эміграцыі», як ён сам казаў жартам, Палуян не толькі ўважліва сачыў за развіццём літаратурнага і культурнага жыцця на Украіне, але і актыўна ўмешваўся ў гэты працэс, даследаваў пытанні развіцця нацыянальнай украінскай мастацкай літаратуры і прэсы, намагаўся ўплываць на фарміраванне грамадскай думкі. Беларус Сяргей Палуян становіцца таксама і ўкраінскім крытыкам, змагаром за літаратуру праўдзівую і дэмакратычную. І ў гэтым ён стаў папярэднікам другога беларуса — Максіма Багдановіча, які з новым запалам і з большымі, чым у Палуяна, здольнасцямі і эрудыцыяй працягваў даследаваць і прапагандаваць літаратуру ўкраінскага народа.

Сярод шырокай плыні ўкраінскай літаратурнай прадукцыі С. Палуян здолеў выдзеліць і належным чынам ацаніць творчасць І. Франка, М. Кацюбінскага, В. Стэфаніка. Так, характарызуючы дзейнасць найбольш папулярнага тады выдавецтва «Час», Палуян, як

прадстаўнік дэмакратычнага крыла ў крытыцы, адзначае: перакладныя і арыгінальныя творы, што пабачылі свет у гэтым выдавецтве, «уражваюць тэндэнцыйным падборам сюжэтаў і іх апрацоўкі. Сюжэты трагічныя, а апрацоўка саладжавая, сентыментальная. Можна было б адшукаць шмат чаго лепшага, калі б нашы выдаўцы пазбавіліся дуімкі, што народ можна карміць толькі салодзенькай юшкай з навару народніцка-сентыментальнай пісаніны». А дзе ж творы сапраўды народных пісьменнікаў?— пытаецца крытык. «Дзе... Кацюбінскі, Стэфанік (асабліва Стэфанік), Франко і іншыя?»

З той жа вымогай улічваць патрэбы чытача з народа, у прыватнасці чытача-селяніна, выступае С. Палуян і ў рэцэнзіі «Народны каляндар «Село» на 1910 год», у якой дае агляд і іншых украінскіх і ўкраінска-рускіх календароў.

Цікавіўся С. Палуян і развіццём украінскай драматурігіі. Так, яго ўвагу звярнула на сябе драма Г. Вашчанкі «Сляпы». І хоць нічога з творчасці гэтага пладавітага пісьменніка не вытрымала выпрабаванне часам, усё ж менавіта да гэтай драмы звяртаюцца часта даследчыкі ўкраінскай драматургіі, паколькі яна цікавая сваімі жанравымі асаблівасцямі. Гэта — псіхалагічная п'еса, што па форме нагадвае сучасны сцэнарый.

Пауз увагу С. Палуяна не прайшла і творчасць пісьменніка-дэкадэнта У. Віннічэнкі. Аддаючы належнае майстэрству пісьменніка, яго ўменню закрануць хворае сумленне сучасніка, выявіць пратэст супраць будзёншчыны і фальшу, даследчык адначасова выступае з вострай крытыкай так званага новага парыяду ў яго творчасці. «Віннічэнка, яшчэ далёка не дайшоўшы да вяршынь творчасці, пачаў даваць запаветы, новыя ісціны... Імкненне сказаць нешта павучальнае, зрабіць апошні лагічны вывад з твора... зводзяць яго драмы да якіхсьці этычных трактатаў. Праз гэта дзейныя асобы здаюцца не праўдзівымі жыццёвымі тыпамі, не людзьмі, а маральнымі схемамі, публіцыстычнымі доказамі... Віннічэнка захацеў блажэнным словам загаварыць да сучаснікаў,— падводзіць выснову С. Палуян.— Але ж яшчэ вялікае пытанне, ці зможа ён (не захоча, а зможа!) пачуць грознае слова натоўпу ў вялікім шуме жыцця?» («Рада», 1910, № 100).

У. Віннічэнка зрабіць гэтага якіраз не здолеў. І для самога С. Палуяна безліч пытанняў засталіся нявырашанымі. Ранняя трагічная смерць (7 красавіка 1910 г.) не дала яму магчымасці ні прадугледзець гістарычнай развязкі тых праблем, што стаялі перад ім, ні прасачыць за далейшым ажыццяўленнем сваёй мары — культурным, эканамічным, палітычным росквітам калісьці сумнай, зажуранай на «пясках-дзірванах» роднай яму Беларусі. Апошняй працай Палуяна, якую ён

выслаў напярэдадні сваёй смерці ў «Раду», быў артыкул «Беларускія вячоркі» — пра зараджэнне і развіццё беларускага нацыянальнага драматычнага тэатра. Пісьменнік намагаўся працаваць на ўсіх даступных яму дзялянках культуры і навукі. «Не, нам трэба адразу раўняцца на людзей. Тварыць так, каб у нас усё было»,— гаварыў ён. На старонках «Українськоі хати» і «Нашай нівы» мы знаходзім два мастацкія творы Палуяна — апавяданні «Хутар» і «Хрыстос уваскрос»[1]. А наогул, як сведчылі яго кіеўскія знаёмыя, Палуян зрабіў значна больш: ён пісаў вершы з багатым зместам, апавяданні («цалкам на сучасны лад — каб душу было відаць!»), пісаў п'есы для тэатра, складаў навукова-папулярныя кніжкі, падручнікі, браўся нават за напісанне гісторыі роднага краю.

Асобную старонку ў гісторыі беларуска-ўкраінскага культурнага і літаратурнага яднання, летапісе брацтва двух народаў складае дружба Цёткі з львавянінам, выдатным вучоным-славістам Іларыёнам Свянціцкім.

Іл. Свянціцкі і Цётка пазнаёміліся ў 1906 г. у Вільні. Ён — вядомы ўкраінскі славяназнавец, музеявнавед, будучы прафесар Львоўскага дзяржаўнага універсітэта, яна — паэтэса-рэвалюцыянерка. На першы погляд зусім розныя людзі, хоць і равеснікі: нарадзіліся абое ў 1876 г. Ён — удумлівы вучоны, які, здавалася, апрача розных рэліктаў ды музейных рэдкасцей, ні пра што не хацеў больш ведаць. Аднак гэта толькі на першы погляд. На самай справе ен, па характарыстыцы аднаго сучасніка,— «як агонь»: рухавы, актыўны. Яна — няўрымслівая паэтэса з ярка выражаным рэвалюцыйным запалам, актыўны грамадскі дзеяч, чалавек з неспакойным характарам, мройная і ўражлівая, у сваіх дзеяннях кіруецца больш пачуццём, чым развагай.

У абодвух была агульная мэта — барацьба за разняволенне родных народаў, развіццё родных культур і агульны сродак гэтай барацьбы — друкаванае слова. І гэта стала асновай узаемаразумення, парадзіла шчырае сяброўства.

Матэрыялы, якія ўдалося знайсці ў архівах Мінска і Львова, дадаюць некаторыя новыя штрыхі да ўжо вядомага, дазваляюць яскравей убачыць гэтыя дзве постаці, аднолькава дарагія нам.

Радзіма Іл. Свянціцкага (1876-1956) — Львоўшчына, аднак ён заўсёды памятаў, што продкі ято паходзяць з Беларусі, і ўсё сваё жыццё пачуваў сябе крышачку беларусам. Відаць, у гэтым — таксама

---

[1] «Українська хата», 1909, № 6; «Наша ніва», 1910, № 16—17.

адна з прычын яго нязменнай зацікаўленасці беларусістыкай, беларускай гісторыяй, мовай і літаратурай.

Філолаг і археолаг (скончыў філасофскі факультэт Львоўскага універсітэта і Пецярбургскі археалатічны інстытут), Іл. Свянціцкі цікавіцца духоўнымі і матэрыяльнымі каштоўнасцямі беларускага народа. Стаўшы ў 1905 г. дырэктарам Украінскага Нацыянальнага музея (цяпер Музей украінскага мастацтва ў Львове), ён арганізуе і камплектуе спецыяльны беларускі аддзел і ў 1905, 1906 і 1908 гг. наведвае Беларусь, набывае беларускія старадрукі, слуцкія паясы, розныя этнаграфічныя матэрыялы. Ён пільна сочыць за культурным жыццём беларусаў, развіццём літаратуры беларускага народа, беларусазнаўства як навукі.

Наколькі Іл. Свяінціцкі быў блізкі да таго, што дзеелася ў Беларусі, за сотні кіламетраў ад Львова, сведчыць яго ліст да рэдактара газеты А. Уласава (арыгінал напісаны па-руску): «Глыбокапаважаны Аляксандр Мікітавіч! З Новым Годам — з чацвёртым годам выдання «Нашай нівы»! Прашу Вас прыняць мае сардэчныя віншаванні і душэўныя пажаданні. Няхай натхняе Вас і надалей гарачая любоў вялікай справы, няхай жа мацнеюць і растуць Вашы сілы так хутка і глыбока, як хутка і глыбока развіваецца народнае жыццё; няхай прынясуць Вашы турботы багаты плён і ўвянчаюць дарагую гаспадыню нашу Белую Русь залатым вянком перамогі святла над цемрай, праўды над маной, свабоды над рабствам і агульнага дабра над беднасцю. Віншуючы Вас у гэты знамянальны момант, я прашу Вас перадаць маё сардэчнае сяброўскае прывітанне і песнярам народнай долі — Янку Купалу і Якубу Коласу, якія песнямі сіваімі над горам народным плачуць, і свету пра яго гаворацць, і народ ад сну абуджаюць. Дай бог дачакацца ім шчаслівай гадзіны, калі іх песня адгукнецца вясёлым рэхам па ўсёй зямлі Беларускай і пакліча адроджаны народ у рады стваральнікаў агульначалавечай культуры. Хай дае Вам бог шчасце!»

Далей Іл. Свянціцкі пытаецца пра выдавецкую суполку «Наша хата», пра яе паявы ўзнос. Ён збіраецца стаць яе членам, каб «хоть таким путем мог исполнить долг ввиду родины прадедов»[1].

Пад лістом стаіць дата: 3.1.1909. Як вядома, годам раней Іл. Свянціцкі выдаў у Львове кнігу «Адраджэнне беларускага пісьменства», адразу заўважаную і станоўча ацэненую Ў Беларусі. Напісаць кнігу, безумоўна, многа памагала Цётка. Яна, хаваючыся ад праследавання царскіх жандараў і тайных атентаў, прыехала на пачатку

---

[1] ДзАЛМ, ф. 3, вон. 1, адз. зах. 89, арк. 8—9.

1906 г. у Львоў. У гэтым жа годзе ў Жоўкве (цяпер — Несцераў, раённы гарадок непадалёку ад Львова) Цётка выдае невялікія памерам, але поўныя рэвалюцыйнага запалу і патрыятычнага пафасу кнігі «Скрыпка беларуская», «Хрэст на свабоду», «Як мужыку палепшыць жыццё» і «Гасцінец для малых дзяцей» (пераклад з украінскай мовы). Дагэтуль дакладна невядома, чаму іменна ў Жоўкве друкаваліся кнігі і хто памог Цётцы іх выдаваць. Аднак хутчэй за ўсё прычыніўся да гэтай справы Іл. Свянціцкі. Прыгадаем радкі з ліста Цёткі да Б. Эпімах-Шыпілы ад 28 чэрвеня 1906 г.: «... Во то ж цяпер жыву ў Львове, з украінцамі, русінамі і уніятамі заводжу злаёмства. Шмат нам спрыяюць, памогуць, у чом сіла. Цяпер покі што будуць друкаваць па-беларуску»[1]. Словы «з уніятамі заводжу знаёмства» набываюць асаблівы сэнс, калі ўспомніць, што кнігі паэтэсы ўбачылі свет менавіта ў царкоўнай уніяцкай друкарні. Свянціцкі ж быў у той час дырэктарам Нацыянальнага музея, які спачатку арганізоўваўся на царкоўныя сродкі і нават меўся называцца царкоўным. Безумоўна, вучоны быў добра знаёмы з сваім непасрэдным начальствам і мог спагадаць паэтэсе-эмігрантцы. Ды ён і сам як аўтар кніг быў многім абавязаны той жа друкарні ў Жоўкве, дзе нават у 1924 г. выдаў працу «Пачаткі кнігадрукавання на землях Украіны».

Цікава, што зборнік вершаў Цёткі «Скрыпка беларуская» і даследаванне Іл. Свянціцкага «Адраджэнне беларускага пісьменства» напаткаў у царскай Расіі аднолькавы лёс. Цётка ўлетку 1906 г. патаемна прыехала ў Беларусь і прывезла сюды толькі што аддрукаваныя экземпляры сваёй кнігі. Паэтэсе важна было не толькі выдаць яе, але і данесці да чытача. 3 жніўня 1906 г. 100 экземпляраў «Скрыпкі беларускай» яна пакідае ў віленскай кнігарні Пясецкай, яшчэ 10 — у кніжным магазіне Макоўскага. Толькі праз год, 16 чэрвеня 1907 г., паліцэйскаму інспеіктару друкарняў і кніжнага гандлю пад час рэвізіі кнігарні Пясецкай удалося натрапіць на 32 кнігі Цёткі — астатнія былі прададзены. Адразу быў складзены акт на гаспадара кнігарні, дзе «Скрыпка беларуская» характарызавалася як твор, «возбуждающий к учинению бунтовщичеокого деяния». Паліцэйскі інспектар кіраваўся інструкцыяй: прытрымліваўся спіса кніг, забароненых Санкт-Пецярбургскім Камітэтам па справах друку. Цэнзар камітэта Васянцовіч-Макарэвіч, уносячы кнігу ў гэты спіс, як на адзін з яскравых «антыдзяржаўных» фактаў спасылаўся на верш «Суседзям у няволі». Як вядома, у гэтым вершы Цётка выразна гаворыць, што толькі

[1] Запіскі аддзела гуманітарных навук Інстытута Беларускай Культуры, кн. 2. Працы класа філалогіі, т. 1. Мінск, 1928, с. 29.

аб'яднанымі сіламі ўсіх народаў Расійскай дзяржавы можна знішчыць царызм.

Здарылася так, што ў рукі гэтата ж самага цэнзара трапіла і кніга Іл. Свянціцкага «Адраджэнне беларускага пісьменства». Можна сабе ўявіць, якое было яго абурэнне, калі там ён убачыў... верш Цёткі «Суседзям у няволі»!

Так яшчэ раз перакрыжаваліся шляхі Цёткі і Свянціцкага, яшчэ раз прозвішчы іх сталі побач. На гэты раз — з ласкі царскіх цэнзараў і паліцэйіскіх.

Пераехаўшы ў Львоў, Цётка не толькі піша вершы, выдае кніжкі, але і імкнецца набыць вышэйшую адукацыю, паступіць у Львоўскі універсітэт. Спачатку ёй адмаўляюць у прыёме, але пасля ўсё ж запісваюць вольнай слухачкай на філасофскі факультэт. Можна думаць, што і тут паэтэсе памог Іл. Свянціцкі. Ён скончыў гэты ж факультэт незадоўга да таго, у 1899 годзе, і быў знаёмы з многімі выкладчыкамі. Ды і ў Львове яго ведалі і паважалі многія.

Нам пашчаслівіла знайсці ўспаміны Іл. Свянціцкага пра Цётку перыяду яе жыцця і навучання ў Львове. Успаміны гэтыя вучоны напісаў у 1946 ,г. у адказ на ліст-просьбу М. Клімковіча, які ў той час працаваў рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі і рыхтаваў новае выданне твораў паэтэсы. Яны цікавыя перш за ўсё як сведчанне чалавека, што блізка ведаў Цётку, і разам з успамінамі Аніссі Свянціцкай і Меланні Бордун, апублікаванымі С. Панізнікам («Полымя», 1966, № 9 і «Маладосць», 1969, № 2), істотна дапаўняюць наша ўяўленне пра жыццё і дзейнасць Цёткі ў львоўскі перыяд. Машынапісны варыянт успамінаў напісаны на ўкраінскай мове. Падаём іх у перакладзе:

«Вельмі шаноўны Рэдактар.

У адказ на Ваш ліст 13 чэрвеня 1946 г. паведамляю, што, згодна асабістых папер Алаізы Пашкевіч-Кейрыс у актах філасофскага факультэта ц(энтральнай) к(анцылярыі) Львоўскага універсітэта 1908/10, яна нарадзілася 2 мая 1883 г.[1] у Песчыне, на Беларусі, у бацькі Стафана. Яе асабістыя універсітэцкія паперы (індэкс, пасведчанне) былі выдадзены з абменных фондаў Нацыянальнага музея 19 мая 1931 г. для Беларускага музея ў Вільні...

Цётка жыла тады на вул. Ябланоўскіх (цяпер вуліца Ш. Руставелі), д. 46, з нейкай сяброўкай-медычкай, брала ў мяне ўрокі грэчаскай мовы, каб здаць такім чынам свой даўні экзамен на атэстат сталасці і стаць звычайнай студэнткай універсітэта. Экзамен здала

[1] На самай справе Цётка нарадзілася ў 1876 г., 3 ліпеня.

яна ў гімназіі св. Кацярыны (?) у С.-Пецярбурзе ў 1909 г.[1], экзаменаваў вядомы аўтар па класічнай філалоігіі член Беларускай Грамады Цыбульскі (?).

У Львоў прыехала Цётка ў лютым 1908 г.[2] з Вільні, дзе яе перадалі мне пад апёку беларускія грамадзяне перад адыходам цягніка. Была яна па-асабліваму разгубленая, неспакойная, у гутарцы пераскаквала з тэмы на тэму, ва ўсім выяўляла сваю нервовасць і нейкую неўраўнаважанасць. Толькі з цягам часу я заўважыў, што гэты стан быў вынікам яе недамагання, ад якога яна і лячылася недзе ў кіргізаў кумысам. Летам 1910 г. паехала яна ў Вену, дзе правяла пэўны час з маёй жонкай, якая вадзіла яе па музеях[3]. Тады ж яна была захоплена элегантнасцю венцаў, якіх, аднак, надзвычай ураждвала яе няўвага да ўласнага адзення і да стрыманай цішыні ў размове. У нас дома яна бывала часта, маючы добрага таварыша ў асобе маёй жонкі...

Неяк у маі 1911 г. Цётка прыходзіць да мяне ў музей ужо надвечар: «Дзядзька, пайдзём слухаць салаўёў, у мяне ёсць беларуская кілбаса»[4]. Пайшлі ў Стрыйскі парк[5], знайшлі месца каля гайка, людзі снуюць парамі і гуртамі, салавейкі тут і там цёхкаюць і заліваюцца. Цётка глядзіць у зорнае неба, жуе кілбасу і марыць. Сёння разумею яе настрой — жанчыны з тэмпераментам, дрэмлючым дарам творчага ўяўлення, але бяссільнай супраць нейкай далёкай небяспекі.

Мая жонка так характарызуе Цётку: асоба арыгінальная, экзальтаваная, неспакойны дух, студэнтка-багема, падатлівая да дыскусій; з пачуццём прыгажосці, разумная і не без вясёлых хітрыкаў. Сваёй манерай паводзін яна не ўжывалася ні ў якім таварыстве, звяртаючыся да мужчын «ты, дзядзька». У Вене жыла яна некалькі дзён у жонкі і яе сяброукі[6], разам хадзілі па горадзе і ў музеі. Цётка не стрымлівала свайго ўзрушэння, уголас радавалася, у захапленні яна кіравалаея сваім характарам; венцы бачылі ў ёй тып «курсісткі-нігілісткі». Часамі яе праставатасць здавалася напускною, бо ад прыроды ў яе была тонкасць паводзін.

Вершы Янкі Купалы дастаў я ў Пецярбурзе ў Браніслава Шапілы, у якога я нейкі час жыў у 1906 або 1907 г. і меў нагоду сустрэцца з

---

[1] Недакладнасць. Экзамен па грэчаскай мове Цётка здала ў «Особом Испытательном Комитете при С.-Петербургском учебном округе», выявіўшы пры гэтым «удовлетворительные познания», 6 лютага 1910 г. Як відаць з тэксту, Іл. Свянціцкі сумняваўся ў дакладнасці некаторых сваіх звестак і таму ставіў пытальнікі.
[2] Магчыма, памылка друку. Іл. Свянціцкі, відаць, меў на ўвазе 1906 г.
[3] Ва ўспамінах жонкі Іл. Свянціцкага Аніссіі Мацвееўны называецца іншая дата — 1912 г. Прычым сцвярджаецца, што Цётка «не бачыла да гэтага часу Вены» («Полымя», 1966, № 9, с. 156). Меланія Бордун, прыяцелька Цёткі, гаворыць, што гэта паездка адбылася ў 1911 г. («Маладосць», 1969, 1№ 2, с. 149). Некаторыя ўскосныя дадзеныя, у тым ліку лісты самой Цёткі, дазваляюць лічыць дату Іл. Свянціцкага (1910 г.) найбольш правільнай.
[4] Словы Цёткі Іл. Свянціцкі прыводзіць у беларуекім вымаўленні.
[5] Вялікі, надзвычай прыгожы Львоўскі парк. Захаваўся да сённяшняга дня.
[6] Меланні Бордун.

дужа мілым, нясмелым малайчынай-аўтарам. Наша размова датычылася паэзіі ўвогуле, яе вагі ў жыцці народа, таварыства «Загляне сонца і ў наша аконца»... З Шыпілам і Янкам Купалам ды Якубам Коласам бачыўся я апошні раз у Мінску ў 1927 г.

Дазвольце папрасіць Вас дапамагчы мне дастаць добрую граматыку беларускую, гісторыю і анталогію беларускай літаратуры, выдадзеныя пасля 1928 г. Патрэбны мне таксама слоўнік беларуска-рускі і руска-беларускі навейшым правапісам. Хачу закончыць адну працу пра беларусаў па-ўкраінску.

Прашу Вас прыняць і перадаць усім Беларусам маё шчырае прывітанне і сардэчнае пажаданне як найхутчэйшай адбудовы Цудоўнай Беларусі.

Львоў, дня 12 ліпеня 1946 г.

Ваш І. Свянціцкі — Свяціцкі»[1].

У Дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва БССР зберагаюцца дакументы Цёткі, пра якія згадвае Іл. Свянціцкі. У папцы — арыгіналы пасведчанняў аб сканчэнні Алаізай Пашкевіч Віленскага прыватнага сямікласнага вучылішча (1901), Аляксандраўскай жаночай гімназіі (1904), здачы экзаменаў па лацінскай (1904) і грэчаскай (1910) мовах. Тут жа — пасведчанне аб шлюбе з інжынерам Стэфанам Кейрысам, што адбыўся 7 лютага 1911 г. у Вільні. Разам з арыгіналамі гэтых дакументаў — вялікая колькасць іх копій-перакладаў на польскую і нямецкую мовы. Усе яны былі прызначаны канцылярыі Львоўскага універсітэта. Львоў у тыя часы адміністрацыйна падпарадкоўваўся Вене — сталіцы Аўстра-Венгрыі, і таму дакументацыя вялася па-нямецку ці, часткова, па-польску.

Сярод папер вылучаецца невялікая кніжачка ў цвёрдай вокладцы, з фотакарткай і асабістым подпісам паэтэсы — яе «Index Lektionum», студэнцкая кніжка. Дакумент выдадзены студэнтцы філасофскага факультэта універсітэта Алаізе Кейрыс 12 верасня 1912 г. і мае адзнакі пра наведванне лекцый па васемнаццаці розных дысцыплінах: гісторыі, філасофіі, гісторыі Польшчы і Усходняй Еўропы, тэорыі літаратуры, гісторыі польскай лірыкі, семінараў па педагогіцы, філасофіі, гісторыі і інш.

Цётка прысутнічала на семінары па ўкраінска-рускай філалогіі, якім кіраваў Філарэт Калэса, слухала лекцыі вядомага польскага літаратара Яна Каспровіча па гісторыі паэзіі. Увогуле, павучыцца было чаму і было ў каго. І тым не менш гады вучобы для Цёткі былі не толькі радасныя, але і надзвычай клопатныя, цяжкія. У гэты час яна

[1] ДзАЛМ, ф. 44, воп. 1, адз. зах. 341, арк. 2—3.

друкуе свае кнігі, кожны год, ды часам і па некалькі разоў у год, ухітраецца нелегальна наведаць радзіму, падтрымлівае актыўную сувязь з беларускімі выданнямі, асобнымі пісьменнікамі і грамадскімі дзеячамі. А тут — неадступна мучаць хваробы: анемія, запаленне лёгкіх, урэшце — сухоты, часам няма за што паснедаць...

Увесь час вучобы паэтэсы ў Львоўскім універсітэце — гэта гісторыя змагання за тое, каб быць паўнапраўнай студэнткай стацыянара. Толькі стацыянарнік мог пісаць і потым абараняць доктарскую працу, каб атрымаць дыплом аб вышэйшай адукацыі і малодшую навуковую ступень. Часам у гэтым змаганні Цётка не выкарыстоўвала ўсіх магчымасцей, якія мела і магла мець. Аднак у большасці выпадкаў яна проста не магла прайсці праз розныя бюракратычныя рагаткі, не ведала, як адолець законы, што абмяжоўвалі набыццё вышэйшай адукацыі людзьмі неаўстрыйскага падданства.

І вось у гэты час, акрамя Іл. Свянціцкага, на дапамогу ёй прыходзяць новыя знаёмыя — некаторыя выкладчыкі універсітэта. У Львоўскім абласным архіве захоўваецца ліст Цёткі да выкладчыка ўкраінскай літаратуры К. Студзінскага, пасланы з Пецярбурга 2 снежня 1911 г. У ім той жа клопат пра «ўзвычайненне»:

«Вельмі паважаны Пане Прафесар!

Не сярдуйце на мяне, што так смела да Вас зварочваюся з просьбай, але мая універсітэцкая справа вымагае таго. Пан Мазуркевіч у Ведні (Вене,— аўт.) абязаўся памысльне павесці мае дзела з узвычайненнем, калі шаноўны Прафесар напіша да яго картку. З усяе гаворкі з Панам Мазуркевічам я зразумела, што ён Панска (е) слова цэніць як золата. Дзеля таго, у страху, каб не прапала ма(й)го паупята года ў ун(іверсітэце), пішу з просьбай да П(ана) Прафесара: мая справа цяпер у Ведні і будзе залежаць, хто і як яе павядзе. П(ан) Маз(уркевіч) мог бы шмат зрабіць... Дык можа Пан Прафесар быў бы ласкаў да яго напісаць. Перапрашаю і астаюся з вялікай пашанаю Алаіза Пашкевіч.

Пецярбург, 2 грудзеня 1911 г.»[1]

Невядома, ці напісаў К. Студзінскі «картку» да сталічнага чыноўніка, відаць, свайго знаёмага. Магчыма, што напісаў. Аднак дакладна ведаем, што другі выкладчык, В. Брухнальскі, які добра ведаў Алаізу Пашкевіч-Кейрыс (яна наведвала яго заняткі па гісторыі старажытнай польскай мовы, гісторыі старажытнай і сярэдневяковай польскай літаратуры), паклапаціўся пра яе далейшы лёс. Ён выдаў «слухачцы

[1] ДзГАУ, ф. 51/362, адз. зах, 242, арк. 232. Упершыню гэты ліст апублікаваў В. Піўтар адні («Літаратура і мастацтва», 1958, 14 мая).

надзвычайнай» даведку для Міністэрства асветы, дзе паведамляў, што яна працуе над навуковай тэмай «Шопка і батлейка на Белай Русі ў іх сувязі з польскай літаратурай драматычнай». Пры гэтым тагачасны дэкан філасофскага факультэта Львоўскага універсітэта, яўна спагадаючы студэнтцы, прасіў дапамагчы перавесці А. Пашкевіч на стацыянар, каб у будучым яна магла здаць экзамены «на ступень доктара філасофіі».

Заручыўшыся гэтай даведкай, Цётка 5 красавіка 1912 г. піша па-польску ліст у Вену: «У Высокае Міністэрства асветы і навукі ў Вене ад слухачкі надзвычайнай V года філасофскага факультэта Універсітэта Алаізы Пашкевіч.

Вышэйназваная слухачка філасофіі Львоўскага універсітэта Алаіза Пашкевіч мае гонар звярнуцца з ласкавай просьбай у Высокае Міністэрства аб узвычайненні яе ў Львоўскім універсітэце. Адначасова маю гонар давесці да ведама Высокае Міністэрства, што ў 1910 годзе атрымала ўзвычанненне ў зімовым семестры, але ў выніку хваробы (для гэтага прыкладаю даведку) у вызначаны тэрмін не магла ўладзіць фармальнасцей запісу і таму страціла права на ўзвычайненне. Пасля выздараўлення я не перапыняла вучобы, для чаго прадстаўляю пасведчанне яго магніф(іцэнцыі) в. а. прафесара Вільгельма Брухнальскага. Мэтай маіх імкненняў з'яўляецца здача доктарскіх экзаменаў. Над навуковай тэмай працую даўно, у яе, не лічачы ўласнай працы, уклала і пэўную суму на збор матэрыялаў пра батлейкі і шопкі сярод народа Літвы і Белай Русі. Мне было б вельмі крыўдна, калі б цяпер мусіла страціць пяць гадоў універсітэцкай вучобы і не магла б належлым чынам выкарыстаць матэрыялаў маіх прац і давесці да канца апрацоўку абранай мной тэмы.

Алаіза Пашкевіч»[1].

Дазвол на заіпіс у лік студэнтаў стацыянара прыйшоў з Міністэрства 29 ліпеня, паведамілі ж пра гэта паэтэсе толькі 2 верасня. Прычым запіс дазваляўся не пазней 30 верасня. Аднак Цётка яшчэ за тыдзень перад гэтым завярае ў натарыўса копію пасведчання пра шлюб, а 26 верасня ёй выпісваюць на прозвішча Кейрыс доўгачаканы «Index Lectionum».

Са студэнцікай кніжкі відаць, што аўтарка «Скрыпкі беларускай» правучылася ўвесь зімовы семестр 1912/13 навучальнага года, аб чым сведчыць таксама подпіс дэкана ў адпаведнай графе і дата: 19. III. 1913 г. Пасля гэтага, а не восенню 1912 г., як піша С. Панізнік[2],

---

[1] ДзАЛМ, ф. 3, воп. 1, адз. зах. 225, арк. 10.
[2] Гл. «Полымя», 1966, № 9, с. 156.

яна з дакументамі на імя Кейрыс выязджае да радзіму. Спачатку, відаць, едзе проста адпачыць у час канікулаў. Але чамусьці назад больш не вяртаецца.

Такая гісторыя непасрэдных сувязей Цёткі з Львовам, у прыватнасці з Львоўскім універсітэтам. Як бачым, у эміграцыі, чакаючы лепшых часоў, калі можна будзе вярнуцца на Бацькаўшчыну і зноў аддацца вызваленчай барацьбе, паэтэса не сумуе ў пасіўнай бяздзейнасці. Яна прагне прадоўжыць навучанне, паглыбіць і пашырыць веды, атрыманыя калісьці ў Пецярбурзе на курсах Лесгафта. Апрача таго, Цётка наведвае заняткі драматычнай студыі пры тэатры, зарабляючы на жыццё, пэўны час працуе медсястрой, а затым канчае і курсы масажыстак. Усё гэта паглыбляла яе жыццёвы вопыт, дапамагала бліжэй азнаёміцца з жыццём, культурай і бытам украінцаў.

Гады жыцця на Украіне істотна пашыраюць тэматычныя гарызонты творчасці паэтэсы. Так, жыва і таленавіта апісваючы ў апавяданні «Зялёнка» (1910-1912) пецярбургскае інтэрнацыянальнае студэнцтва, пісьменніца, несумненна, перш за ўсё мела прататыпамі львоўскіх студэнтаў, з якімі яна была знаёма на працягу амаль сямі гадоў. Цікавы вобраз украінца Хведарчука, які ў апавяданні размаўляе выключна па-ўкраінску, быў задуманы, відавочна, у выніку львоўскіх назіранняў. І хаця характарыстыка яго даецца ўсяго ў некалькіх радках, яна вельмі выразная, вобраз адразу запамінаецца: «Украінец Хведарчук нат бандуру прывалок. Рыжаватая чупрына аж па струнах вехаціць, а ён выкідвае раменам, запяваючы: «Ах, мамка, мамка, нашчо мене народыла?» Так галосе шчыра, што быццам сапраўдны сірата ўбіваецца на памінках роднай мацеры»[1].

У адносна невялікай паэтычнай спадчыне Цёткі таксама гучыць украінская тэма («На чужой старонцы», «Суседзям у няволі»), Асабліва вылучаецца ў гэтым сэнсе невялічкі верш «Суседзям у няволі» (1906). У ім паэтэса дае яскравы малюнак заняволенай Беларусі, над якой навісла цёмная ноч рэакцыі: «Ад сваіх хат... нясу нагаек царскіх звон. У нас там ноч, у нас там стук, мы ацямнелі з страшных мук... Нас катуюць! Чуйце, людзі!» «Чуйце, людзі!» — у гэтым звароце Цёткі да дэмакратычнага ўкраінскага грамадства — крык набалелай душы, і просьба, і заклік адначасова. Энергія паэтычнай экспрэсіі выбухае ўнаступных радках, непасрэдна адрасаваных «суседзям у няволі».

Чуйце, чуйце, руку дайце!
Мы вам ровны. Праўду знайце:
Ці у долі, ці ў нядолі —

[1] Цётка. Выбраныя творы. Мінск, 1967, с. 132.

З вамі станем ў адным полі,
Рука ў руку з вашым братам
За свабоду перад катам[1].

Кат з пятлёй стаяў не толькі над беларускім народам. Украінцы, у тым ліку і тыя, што знаходзіліся пад уладай Аўстра-Венгрыі, таксама адчувалі страшны сацыяльны і нацыянальны ўціск. І таму верш Цёткі, які заклікаў да інтэрнацыянальнага яднання працоўных двух братніх народаў, набываў значную рэвалюцыянізуючую сілу, аказваў вялікае ўздзеянне на чытачоў.

Не толькі ўкраінская рэчаіснасць, але нават мова (у выглядзе паасобных украінізмаў: лышэнь, мара і інш.) прыйшлі ў творчасць Цёткі разам з пераездам яе на Украіну. Тут паэтэса пазнаёмілася з выдатнымі ўкраінскімі пісьменнікамі, творчасць якіх вывучала як на спецыяльных універсітэцкіх занятках, так і самастойна. І хоць цяжка знайсці прамое сведчанне ўздзеяння на Цётку Шаўчэнкі, Франка, Лесі Украінкі і іншых літаратараў, аднак агульны ўплыў гэтых пісьменнікаў на станаўленне яе творчасці несумненны. Усе апавяданні пісьменніцы, якія яна напісала ў часе львоўскай пабыўкі,— гэта, па сутнасці, або псіхалагічныя абразкі («Прысяга над крывавымі разорамі», «Навагодні ліст»), або невялікія навелы з яскрава выражаным сацыяльным ухілам («Зялёнка», «Міхаська»), Менавіта ў распрацоўцы гэтых жанравых форм вызначыўся на пачатку XX ст. Васіль Стэфанік. Цяжка ўявіць, каб Цётка, жывучы ў Львове, не была знаёма з творамі гэтага славутага навеліста. Але што ўжо зусім не выклікае сумнення, дык гэта вучоба беларускай паэтэсы ва ўкраінскіх прагрэсіўных пісьменнікаў паслядоўнай барацьбе з любым сацыяльным злом, барацьбе за нацыянальнае разняволенне роднага народа. (Паэтэса магла ўвачавідкі бачыць, якую вялікую ролю адыгрывае літаратура і мова ў нацыянальным адраджэнні заняволенага народа, у станаўленні і развіцці ўсіх яго духоўных сіл і магчымаецей. У гэтым сэнсе ўкраінская літаратура для Цёткі стала добрым і незаменным падручнікам.

Як мы ўжо, казалі, на Львоўшчыне, у Жоўкве, Цётка знайшла магчымасць выдаць некалькі рэвалюцыйных кніг на беларускай мове, што, зразумела, у тагачаснай Расіі зрабіць было нельга. Вось іх дакладныя назвы: 1. Гаўрыла з Полацка. Скрыпка Беларуская. 1906; 2. Напісаў Гаўрыла. Хрэст на свабоду. 1906; 3. Як мужыку палепшыць сваё жыццё, № 3, год 1906; 4. Гасцінец для малых дзяцей. Пералажыў з украінскага языка на беларускі з малымі пераменамі Тымчасовы (без года выдання).

---

[1] Там жа, с. 66.

Трэцяя кніжка надрукавана кірыліцай, астатнія — і лацінкаю, і кірыліцаю. Прычым зборнікі вершаў «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская» рускім алфавітам друкаваліся пазней, і таму ў іх другое выданне Цётка ўнесла некаторыя нязначныя змены, а да «Скрыпкі» нават дадала невялікую прадмову. Што датычыць дзіцячай кніжкі «Гасцінец для малых дзяцей», то яна, відавочна, з'яўляецца перакладам украінскай чытанкі «Гостинець для чемних дітей», выдадзенай у 1885 г. у Львове Рускім таварыствам педагагічным. Пераклад-перапрацоўка Цёткі з'явіўся нібы першым этапам у рэалізацыі задуманых ёй планаў асветы роднага народа, своеасаблівай падрыхтоўчай працай перад выданнем у тым жа 1906 т. у Пецярбурзе «Першага чытання для дзетак беларусаў».

Складаючы зборнікі «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская», Цётка кіравалася пры адборы вершаў строгім крытэрыем ідэйна-тэматычнай цэласнасці выдання. Менавіта таму кніжкі выйшлі цэласнымі па сваім ідэйным гучанні, пафасе, танальнасці. У «Хрэст на свабоду» ўвайшлі пераважна творы рэвалюцыйнага гучання, напісаныя яшчэ да пераезду паэтэсы ў Львоў. Зіборнік ад першага і да апошняга верша — гэта апафеоз надзеям 1905 г. ў Расіі, выяўлены ў пафасных паэтычных радках, бадзёрым рытме. Адзін з найбольш паказальных твораў — верш, які даў назву ўсёй кніжцы. Гэта непасрэдны водгук на «крывавую нядзелю» — падзеі 9 студзеня 1905 г. у Педярбурзе:

Дурняў хрысціць на свабоду.
Цар навуку даў народу.
Паказаў ім, як бы з неба,
Што больш цара непатрэба.

Хворая, з тонкай паэтычнай душой, Цётка становіцца цвёрдай, як сталь, калі справа даходзіць да барацьбы з прыгнятальнікамі працоўнага люду. Яна звяртаецца да працоўных з мужным і катэгарычным наказам — адзіным падобным наказам у тагачаснай паэзіі не толькі беларускай, але і ўсходнеславянскай увогуле:

Трэ злізаць усіх міністраў,
Бюракратаў, антыхрыстаў.
Чую яшчэ голас з неба,
Што цара павесць трэба!

Гэта жанчына на поўную моц выказала тое, што не адважыліся сказаць уголас многія мужчыны. Не дзіўна таму, што гэты і некаторыя іншыя вершы Цёткі вільнюскія сацыял-дэмакраты распаўсюджвалі ў выглядзе лістовак-пракламацый.

Рэвалюцыю паэтэса ўяўляла сабе не толькі як руйнуючую, але і як усемагутную ачышчальную сілу («Мора», «Бура ідзе»), як свядомую зацятую барацьбу народных мас супраць цара і яго паслугачоў, «пачынаючы в сената і аж да стражнікова брата» («Ласы», «Пад штандарам», «Бунтаўнік»), Цётка не верыла, што рэвалюцыйная хваля 1905 г. паднялася толькі часова. Ужо ў Львове яна напісала і ўключыла ў «Хрэст на свабоду» (гэтым творам і заканчваецца зборнік) верш «Бура ідзе». У ім яна з упэўненасцю заявіла:

Зноў надходзіць для вас бура,
Зноў маланкі бягуць радам,
Зноў шалее ўся натура,—
Зноў засыпле свежым градам.

Некалькі ў іншай танальнасці вытрыман зборнік «Скрыпка беларуская». Любоў да бацькаўшчыны Беларусі, апяванне яе красы, імкненне хаця б песняй вярнуцца да яе палёў і лясоў, вера ў лепшае будучае роднага краю — вось асноўныя матывы кніжкі. У «Прадмове» Цётка адкрыта называе сябе прадаўжальніцай Ф. Багушэвіча, які, выдаючы «Дудку беларускую» і «Смык беларускі», спадзяваўся, што «хтосьці скрыпку, можа, даробіць...». «Прачытаўшы тую «Дудку», я сказаў,— піша паэтэса, хаваючыся над мужчынскім прозвішчам:— «Дзякую табе, М. Бурачок, чэсць і хвала твайму слову. А ты, дудка, грай і мне голас дай». З таго часу пачаў і я майстраваць інструменты. Выйшла з-пад рук скрыпка».

«Скрыпка беларуская» выдавалася ў адзін час са зборнікам «Хрэст на свабоду». І ўжо адно гэтае дазваляе дакараць Цётку, як гэта ў свой час рабілася, у тым, што ў «Скрыпцы» яна нібыта «страчвае ранейшую рэвалюцыйную упэўненасць»[1]. Перакананасць у перамозе народнай справы выразна гучыць і ў гэтай увогуле спакойнай, разважлівай кніжцы. Царская цэнзура, як мы бачылі, вельмі хутка і беспамылкова вызначыла «антыдзяржаўны» дух выдання, адразу канфіскаваўшы яго.

Творы Цёткі, поўныя рэвалюцыйнага пафасу, не маглі не ўплываць на тых, хто з імі знаёміўся. А гэта перш за ўсё — тагачасныя львоўскія літаратары і вучоныя, асобныя супрацоўнікі «Літературно-наукового вісника» і «Наукового товариства ім'я Т. Г. Шевченка». Беларуская паэтэса, у якой слова ніколі не разыходзілася са справай, пэўным чынам уплывала на напрамак думкі таго калектыву, сярод якога знаходзілася. Як прыгадваў Іл. Свянціцкі, Цётка «заўсёды ўносіла ў гурткі, у якіх з'яўлялася, асаблівы грамадзянскі пафас на-

[1] Гл.: Пятровіч М. Прадмова,— У кн.: Цётка. Творы, Мінск, 1934, с. 11,

прамак думкі... выступала скрозь як заўзятая рэвалюцыянерка супраць усялякага гнёту і ўсялякай няпраўды»[1]. Паэтэса «ў размовах са знаёмымі выказвала свае сацыялістычныя погляды»[2]. І хіба маглі ідэі абнаўлення старога свету і пабудовы новага, справядлівага грамадства застацца незаўважанымі сярод львоўскіх рабочых, прагрэсіўна настроенай студэнцкай моладзі, перадавой інтэлігенцыі?!

Такім чынам, Цётка — непасрэдная ўдзельніца рэвалюцыйных падзей у Расіі — разам з тагачаснымі львоўскімі сацыял-дэмакратамі ўносіла ў свядомасць працоўных ідэю рэвалюцыйнага абнаўлення жыцця на асновах навуковага сацыялізму. Цалкам магчыма, што яна чытала сваім знаёмым алегарычны абразок «Прысяга над крывавымі разорамі», перасланы ў 1906 г. з Львова для першага нумара віленскай «Нашай долі». У творы з асаблівай выразнасцю ўвасобілася ленінскае палажэнне пра тое, што толькі атульнымі намаганнямі рабочых, салдат і вясковай беднаты можна дамагчыся лепшай долі, экспрапрыяцыі зямлі ў памешчыкаў.

Найбольш плённым аказаўся ўплыў Цёткі на ўкраінскую навуку пра літаратуру, на станаўленне беларусазнаўства як асобнай яе галіны, на актывізацыю ўкраінска-беларускіх літаратурных кантактаў. Іл. Свянціцкі, хоць і заўсёды памятаў пра сваю «беларускую радаслоўную», усё ж пачаў даследаваць беларускую гісторыю і літаратуру не раней, як пазнаёміўся і пасябраваў з Цёткай. Наогул, перадавая галіцкая інтэлігенцыя заўсёды прыхільна ставілася да беларусаў, цікавілася гісторыяй, культурай і літаратурай беларускага народа. Аднак толькі з прыездам у Львоў Цёткі гэтыя зацікаўленні становяцца найбольш трывалымі і пастаяннымі.

Мы ўжо адзначалі, што Іл. Свянціцкі ў пошуках неабходных экспанатаў для Украінскага нацыянальнага музея некалькі разоў наведваў Пецярбург і асобныя гарады Беларусі. Улетку 1907 г. ён пэўны час жыў (відавочна, па рэкамендацыі сваёй беларускай сяброўкі) на кватэры пецярбургскага прафесара, добрага знаёмага Цёткі Б. Эпімах-Шыпілы. Менавіта тады ён пазнаёміўся і з Я. Купалам, які таксама знайшоў прытулак у прафесара. Адсюль, з кватэры Эшмах-Шыпілы, Свянціцкі высылаў лісты ў Львоў да Франка, у якіх паведамляў пра архіўныя пошукі[3]. Безумоўна, пасля вяртання з падарожжа вучоны расказваў Каменяру пра свае пецярбургскія сустрэчы і ўражанні. І хто ведае, ці не ад Свянціцкага пачуў ўпер-

[1] Свенціцький Іл. Розквіт культурно-національного життя Східної Білорусі. Львів, 1928, с. 21.
[2] Успаміны М. Бордун. Гл.: Панізнік С. З бунтарнай душой.—«Маладосць», 1969, № 2, с. 149.
[3] Гл.: Архіў Івана Франка у Рукапісным аддзеле Інстытута літаратуры імя Т. Шаўчэнкі АН УССР, ф. 3, № 1634, арк. 137.

шыню Франко імёны Купалы, Коласа, Цёткі і іншых выдатных беларускіх пісьменнікаў. Дарэчы, па ўспамінах самога Свянціцкага, ён непасрэдна ад Купалы атрымаў вершы «Там» і «Што ты спіш?..», якія казней уключыў у брашуру «Адраджэнне беларускага Пісьменства».

Для беларусіста Іл. Свянціцкага Цётка, якая падтрымлівала цесныя сувязі з Беларуссю, стала жывой энцыклапедыяй беларускага грамадска-культурнага і літаратурнага жыцця, самым верным і дасведчаным кансультантам. Дзякуючы Цётцы вучоны часам даведваўся пра цікавыя з'явы беларускай літаратуры значна раней, чым пра гэта дазнавалася шырокая літаратурная грамадскасць у самой Беларусі. Уладзіслава Францаўна Луцэвіч прыгадвала, што Янка Купала пасылаў Цётцы ў Львоў амаль усе свае новыя вершы, а тая ў сваю чаргу знаёміла з імі ўкраінскіх і польскіх сяброў[1]. Беларуская паэтэса знаёміла Свянціцкага з усімі выдавецкімі захадамі беларусаў, расказвала пра першыя ластаўкі беларускай нацыянальнай прэсы — газеты «Наша доля» і «Наша ніва». Вучоны адразу ж стаў іх пастаянным падпісчыкам. Усё гэта, разам узятае, і прадвызначыла навуковую дакладнасць, грунтоўнасць і першапраходчы характер яго працы «Адраджэнне беларускага пісьменства».

У даследаванні Іл. Свянціцкага асабліва каштоўным з'яўляецца тое, што факты літаратурнага жыцця не адрываюцца ад грамадскага, паказваецца спадкаемнасць тэндэнцый духоўнага развіцця народа. Чырвонай датай у адраджэнні беларускай літаратуры вучоны слушна лічыць 1905 г. Вялікае жыццесдвярджальнае значэнне першай рускай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі Свянціцкаму дапамаглі спасцігнуць паездкі ў Расію, гутаркі з непасрэднай удзельніцай рэвалюцыйных падзей Цёткай. Рэвалюцыя ўзняла з небыцця цэлую кагорту выдатных беларускіх майстроў слова на чале з Я. Купалам і Я. Коласам, якім у «Адраджэнні беларускага пісьменства» даецца высокая і ўзнёслая характарыстыка. «Важнейшая вызначальная рыса сучаснай беларускай паэзіі,— слушна адзначае даследчык,— гэта жыццёвая праўда... і шчырая вера ў светлае будучае, якое народ заваюе ўласнымі сіламі»[2].

Падрабязна аналізуе Іл. Свянціцкі і вершы Цёткі са зборнікаў «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская». Цытаты ён прыводзідь у арыгінале. У кнізе поўнасцю перадрукоўваецца верш паэтэсы «Суседзям у няволі». А наогул жа ў сваёй працы вучоны ўпершыню дае

---

[1] Гл.: Луцэвіч У. Успаміны пра Цётку.—«Полымя», 1966, № 4, с. 130.
[2] Свенціцький Іл. Відродження білоруського письменства, Львів, 1908, с. 26.

сістэматызаваны, лагічна стройны, агляд усёй беларускай літаратуры, пачынаючы са старажытнасці і канчаючы 1907 г. уключна.

Характарыстыку кнігі Іл. Свянціцкага надзвычай добра дапаўняе пастанова Пецярбургскага цэнзурнага камітэта. Вось беларуская копія гэтага малавядомага, але назвычай цікавага дакумента, арыгінал якога зараз захоўваецца ў фондах Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Мінску: «У гэтай брашуры трактуецца аб заўважаным у апошнія гады адраджэнні беларускай літаратуры. Пры гэтым аўтар прыводзіць вялікія вытрымкі з беларускіх вершаў, напісаныя як рускім, так і польскім шрыфтам. Большая частка вершаў апявае нешчаслівую долю беларускага мужыка, які прыгнятаецца панамі і адміністрацыяй; на стар. 13 апяваецца (так і напісана — «воспевается».— аўт.) верш «Susiedziam u niawoli», пра які мне даводзілася ўжо дакладваць Камітэту. У гэтым вершы заключаецца заклік да барацьбы за свабоду супраць тырана-ката, прычым апісваецца сучаснае жыццё беларуса як цёмная ноч, сярод якой раздаюцца слёзы, стогны і свіст «царскіх» бізуноў.

У канцы ж брашуры аўтар змясціў два вершы:

1. «Што ты спіш?» Марка Бяздольнага (стар. 54-57).

2. «Там» Янкі Купалы (стар. 57-58), адносна якіх ён сам сумняваецца, ці змогуць яны хутка ўбачыць свет у Расіі. Сапраўды, у першым вершы звяртаецца ўвага мужыка на тое, што на яго грошы робіцца ўсё: цар і палац сабе будуе, і вайну вядзе, а мужык з дзецьмі гіне з голаду. Дык няхай жа ён ідзе з касою ў руцэ і патрабуе вяртання сабе ўсяго, што яму належыць, хай крычыць на ўвесь свет, што з ім зрабіў цар! У другім вершы апісваецца, як «там» барацьбіты за свабоду ідуць на вісельні, а цар стаіць з бізуном над тымі, што сваім потам залiваюць зямлю. Паўстаньце ж, пакуль цар яшчэ не выссаў усёй крыві в вас!

Лічу, што гэтага зусім дастаткова для забароны брашуры з нявыдачай просьбітам.

Васянцовіч -Макарэвіч.

5 сакавіка 1908 г.»

На дакуменце — рэзалюцыя цэнзурнага ўпраўлення: «Забараніць згодна дакладу і не выдавадь. Старш. Гр. А. Мураўёў»[1].

Цікава, што яшчэ да надрукавання брашуры з ёй азнаёміліся некаторыя перадавыя львоўскія вучоныя. Так, у лісце да дырэктара бібліятэкі Навуковага таварыства імя Т. Шаўчэнкі Івана Крывецкага ад 18 жніўня 1907 г. Іл. Свянціцкі паведамляў: «Артыкул пра

[1] Літаратурны музей Янкі Купалы. Фонды архіўных матэрыялаў, спр. 121.

беларусаў ужо даў п. Шчурату»[1]. Праз два месяцы ён піша да таго ж адрасата: «Беларусы мае пакуль што сланяюцца, шукаюць прыстанку: настаўніку (г. зн. Шчурату.— аўт.) здаліся яны заспецыяльныя і завялікія, цяпер узяў іх Вазняк»[2]. В. Шчурат і М. Вазняк, як мы ўжо бачылі, самі нямала пісалі пра беларусаў і таму маглі шмат чаго падказаць свайму калегу, маладому вучонаму. Некаторыя іх заўвагі Іл. Свянціцкі, безумоўна, улічыў. І ўжо на самым пачатку 1908 г. «Адраджэнне беларускага пісьменства» друкуецца з працягам на старонках газеты «Діло», а ў студзені — лютым выходзіць асобным выданнем. Некалькі пазней працу перадрукавала «Наша ніва». А праз дзесяць гадоў у перакладзе на рускую мову яна ўвайшла ў складзены М. Янчуком «Сборник белорусоведения» (Масква, 1918), а таксама ў «Очерки белорусской литературы, вып. 1», што выйшлі пад рэдакцыяй таго ж М. Янчука (Масква, 1920).

Калі б Іл. Свялціцкі напісаў толькі «Адраджэнне беларускага пісьменства», то і тады б ён застаўся назаўсёды ў гісторыі беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей. Аднак яму належаць, апрача гэтага даследавання, яшчэ дзве арыгінальныя і важныя працы — артыкул «Асновы адраджэння беларускага пісьменства» (1913) і ккіга «Росквіт культурна-нацыянальнага жыцця Усходняй Беларусі» (Львоў, 1928). Першая з іх непасрэдна датычыць тэмы нашай размовы.

Даследаванне «Асновы адраджэння беларускага пісьменства» спачатку друкавалася ў «Записках наукового товариства ім'я Т. Г. Шевченка», а крыху пазней, поруч з творамі М. Горкага, У. Караленкі, Лесі Украінкі і іншых вядучых пісьменнікаў пачатку XX ст., увайшло ў юбілейны зборнік, прысвечаны саракагоддзю творчай працы І. Франка[3]. Ужо адно гэта забяспечыла працы Іл. Свянціцкага шырокую чытацкую аўдыторыю, рабіла яе неардынарнай з'явай заходнеўкраінскага літаратурна-крытычнага жыцця. Дзякуючы такой прадстаўнічай публікацыі заканамернасці і асобныя новыя факты развіцця беларускай літаратуры сталі добра вядомымі многім выдатным пісьменнікам XX ст., у тым ліку М. Горкаму, І. Франку і інш.

У сваім артыкуле Іл. Свянціцкі абгрунтоўвае заканамернасць узнікнення такой з'явы, як беларуская нацыянальная літаратура, вызначае паасобныя напрамкі яе развіцця (польска-беларуская «школа», руска-беларуская «школа», пісьменнікі-беларусы). Гэта выключна тэарэтычная праца нібыта дапаўняе гісторыка-літаратурны агляд «Адраджэнне беларускага пісьменства», узбагачае яго пэўнымі думкамі і

[1] ДзГАУ, ф. 3/309, воп. 1, спр. 69, адз. зах. 1004.
[2] Там жа.
[3] Гл. у зб.: Привіт Іванові Франкові в сороколіття його пнсьменницькоі праці. Львів, 1916, с. 291-301.

назіранняімі. «Новае беларускае пісьменства, як кожная нацыянальная літаратура,— Слушна адзначае вучоны,— з'яўляецца натуральным плодам унутраных духоўных сіл народа, а як такое яно з'яўляецца выразнікам натуральнага развіцця нацыі, а праз яе — усяго Усходняга Славянства».

У той жа час Свянціцкі не абсалютызуе нацыянальную самабытнасць беларускай літаратуры, не аддзяляе яе ад развіцця літаратур іншых народаў. Больш таго, даследчык, па сутнасці, упершыню ў літаратуразнаўстве ўзнімае праблему тыпалагічнага падабенства беларускай і іншых славянскіх літаратур, вызначаючы тым самым яшчэ адзін шлях вывучэння міжлітаратурных сувязей. Так, «сваімі ступенямі паступовага развіцця ад польска-беларускіх спробаў, праз руска-беларускі напрамак да народнага беларускага пісьменства беларуская літаратура,— на думку Свянціцкага,— вельмі нагадвае развіццё галіцкага пісьменства, што на зары свайто адраджэння мела польска-ўкраінсікую школу (Вацлаў з Алеська, Паулі, Вагілевіч) і расійска-рускі напрамак (Зубрыцкі, Петрушэвіч, Галавацкі, Гушалевіч, Хіляк), ды з часам прыйшло да перамогі ўкраінскага нацыянальнага напрамку (Шашкевіч, Усціновіч, Магільніцкі, Фядзьковіч, Франко)». Вучоны заўважае падобнасць беларускага пісьменства да славацкага (барацьба за родную мову, правапіс), да нацыянальных літаратур усіх еўрапейскіх народаў наогул.

У «Асновах адраджэння беларускага пісьменства» Іл. Свянціцкі супастаўляе асобныя вершы Я. Купалы і Я. Коласа з творамі рускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў (Лермантаў, Някрасаў, Шаўчанка), але ён скрозь падкрэслівае, што гэта не запазычанні, а тыпалагічнае падабенства. Праўда, даследчык пакуль што яшчэ не развівае свайго тэзіса, а толькі канстатуе яго. Аднак менавіта ў гэтай працы вучонага зараджаецца плённая думка пра неабходнасць тыпалагічнага вывучэння літаратур. Пазней, развіваючы і канкрэтызуючы яе, параўноўваючы вершы І. Франка «На судзе» і Я. Коласа «Перад судом», Іл. Свянціцкі выразна падкрэсліць, што «не столькі пра ўплывы чужыя... даводзіцца гаварыць, колькі пра аднолькавы падыход паасобных паэтаў з пэўным светапоглядам да аднародных з'яў»[1]. Гэта думка вучонага актуальная і сёння як важны метадалагічны пастулат тэорыі літаратурных сувязей.

Да фактаў гісторыі, мовы, літаратуры і культуры Беларусі Іл. Свянціцкі звяртаўся неаднаразора. Так, у «Пачатках кнігадрукавання на землях Украіны» (1926) вучоны расказаў пра Ф. Скарыну, яго

---

[1] Свенціцький Іл. Розквіт культурно-національного життя Східної Білорусі, с. 39.

ўплыў на развіццё ўкраінскай кініжнай справы, пра старажытныя беларускія друкарні. У «Вопісе музея Стаўрапігійскага інстытута ў Львове» (1908) даследчык называе беларускія старадрукі, што трапілі ў Львоў, гаворыць пра перапіску львоўскіх і беларускіх брацтваў. Асобныя пытанні гісторыі беларускай мовы ён закрануў у працах «Смаленская грамата 1929 г...», «Назва «Русь» у гістарычным развіцці да XIII ст.» (1936), «Агляд гісторыі славянскага пісьменства на працягу 1826-1938 гадоў», «Нарысы пра мову помнікаў стараруcкага пісьмеества XI-XII ст.» (1948) і інш.

Сваімі даследаваннямі Іл. Свянціцкі ўнёс значны ўклад у развіццё як украінскай, так і беларускай навукі і культуры, сцвердзіўшы яшчэ раз жыццядзейнасць і плённасць яднання двух братніх народаў. «Агульная культура народу, племені, краіны, дзяржавы, чалавецтва будзе тым большай,— пісаў вучоны,— чым больш свядомых і самастойных працаўнікоў будзе працаваць на культурнай ніве». Іл. Свянціцкі, а таксама беларуская паэтэса Цётка былі менавіта такімі працаўнікамі.

## Сувязны народаў і культур

Пытанне пра формы міжнацыянальных літаратурных сувязей даволі складанае. Якімі яны бываюць? Што галоўнае і што другараднае ў сувязях адной літаратуры з іншымі? Вучоныя адказваюць на гэтыя пытанні па-рознаму. Так, прафесар П. Беркаў выказаўся катэгарычна: «У паняцце літаратурных кантактаў я ўключаю ўсе віды і формы пераходу літаратурных з'яў, якія выніклі ў адных народаў, да другіх народаў»[1]. Іншай думкі трымаецца, у прыватнасці, славацкі літаратуразнавец Д. Дурышын. Ён налічвае больш дзесяці відаў і форм сувязей: вонкавыя, або экстэрныя, і ўнутраныя, або інтэрныя; прамыя і апасродкаваныя; уплыў актыўны і пасіўны, сутнасны і частковы, інтэграцыйны, дыферэнцыйны і камплементарны (узаемадапаўняльны) і г. д.[2] Не прымаючы пэўную вузкасць першай класіфікацыі і залішнюю раздробленасць матэрыялу другой, мы не можам не далучыцца да тых вучоных (В. Жырмунскі, Г. Вервес), якія вызначаюць наступныя асноўныя тыпы сувязей: гісторыка-тыпалагічныя, кантактныя і генетычныя.

Гэтыя тыпы сувязей у літаратурным працэсе ўвесь час перапляaтаюцца, узаемадапаўняюць адзін аднаго. У кожным канкрэтным

[1] Гл.: Берков П. Об историческом подходе к изучению международных литературных контактов.— У кн.: Чешско-русские и словацко-русские литературные отношения. М„ 1968, с. 42—143.
[2] Гл. Durisin D. Problemy literarnej komparatistiky. Bratislawa, 1967.

выпадку на першы план выходзіць кантактны ці генетычны тып сувязей. Таму нельга пагадзіцца з Г. Вервесам, калі ён, слушна крытыкуючы буржуазны кампаратывізм і розных «уплыволагаў», піша далей наступнае: «Праблема ўплываў — цэнтральнае месца ў літаратурных узаемаадносінах»[1]. Сапраўды, генетычны тып сувязей (а менавіта ён вызначае ўплыў адной літаратуры на іншую) можа ў пэўны час заняць вядучае месца ў развіцці пэўнай нацыянальнай літаратуры (асабліва ў перыяд яе станаўлення ці авалодання новым метадам). Аднак гэта адбываецца далёка не ўсюды і не заўсёды. Да таго ж, генетычныя сувязі не могуць існаваць без кантактных (прамых або апасродкаваных), без знаёмства з іншамоўнай літаратурай непасрэдна або праз пераклад, розныя водгукі ў прэсе і г. д.

Гаворачы пра беларускую літаратуру на Украіне пачатку XX ст., мы раскрывалі перш за ўсё розныя віды і формы кантактных сувязей. У прыватнасці, былі сістэматызаваны беларусазнаўчыя матэрыялы ў рускім і польскім друку, што выдаваўся у той час на Украіне ці меў там пашырэнне, разгледжаны пераклады на ўкраінскую мову асобных твораў беларускіх паэтаў і празаікаў (Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, Ядвігіна Ш. і інш.), рэцэнзіі і водгукі на беларускія выданні ва ўкраінскай перыёдыцы, беларусазнаўчыя працы І. Франка, Іл. Свянціцкага, В. Шчурата, І. Крып'якевіча, М. Вазняка, У. Гнацюка і г. д. Асобна мы спыняліся на творчасці беларускіх літаратараў (К. Лейка, Я. Журба, С. Палуян), якія пэўны час жылі і працавалі на Украіне, звярнулі ўвагу на такую форму сувязей, што вынікла толькі на пачатку XX ст., як асабістыя кантакты паміж беларускімі і ўкраінскімі літаратарамі (М. Косіч і А. Русаў, Цётка і Іл. Свянціцкі). Былі высветлены некаторыя невядомыя дагэтуль факты гэтых сувязей, іх своеасаблівасць і творчыя вынікі. Усё гэта, паўтараем,— віды і формы кантактных сувязей. Аднак імі беларуска-ўкраінскія сувязі пачатку XX ст. (калі прыняць пад увагу нават толькі адзін бок праблемы: беларуская літаратура на Украіне) не абмяжоўваюцца. І асноўны доказ гэтаму — творчая практыка аднаго з найвыдатнейшых беларускіх паэтаў дарэвалюцыйнага часу Максіма Багдановіча.

М. Багдановіч і Украіна — гэта тэма чакае яшчэ свайго самастойнага даследавання. Мы ж тут абмяжуемся толькі выяўленнем месца Багдановіча ў развіцці беларуска-ўкраінскіх (наогул усходнеславянскіх) літаратурных сувязей, іх асаблівасцей.

Творчасць М. Багдановіча ў асобных сваіх праявах выразна сугучная з тым, што рабілі, да чаго імкнуліся на пачатку стагоддзя

[1] Вервес Г. Д. Проедність національного і інтернаціонального.—«Радянське літературознавство», 1970, № 4, с. 53.

многія ўкраінскія літаратары. Гэта няцяжка вытлумачыць: задачы, якія стаялі перад абодвума народамі і іх літаратурамі ў перыяд актыўнейшых сацыяльных і нацыянальных рухаў, былі амаль аднолькавымі. Менавіта таму можна праводзіць гісторыка-тыпалагічныя паралелі як паміж літаратурамі ў цэлым, так і паміж большасцю іх прадстаўнікоў. Аднак што да Багдановіча, то такія паралелі найбольш неабходныя і паказальныя: яны могуць не толькі праліць дадатковае святло на важныя працэсы літаратурнага развіцця, але і растлумачыць некаторыя моманты ў творчай біяграфіі паэта, у прыватнасці, асаблівую, выключную улюбёнасць Багдановіча ва Украіну, яе гісторыю, мову, літаратуру і фальклор.

Адна з асаблівасцей паскоранага развіцця беларускай літаратуры пачатку XX ст.— адначасовы прыход у яе трох пісьменнікаў геніяльных творчых мажлівасцей: Я. Купалы, Я. Коласа і М. Багдановіча. Купала ўпершыню заявіў пра сябе як паэт у 1905, Колас — у 1906, Багдановіч — у 1907 г. Вобразна кажучы, на небасхіле роднай літаратуры адначасова ўзышлі тры яркія зоркі аднолькавай велічыні. Купала і Колас выказалі самыя запаветныя думкі беларусаў, праўдзіва, глыбока, рэалістычна даследавалі жыццё працоўных у іх шырокай сувязі з эканамічнымі, палітычнымі і культурнымі працэсамі свайго часу. Але творчасць гэтых двух вялікіх мастакоў, моцных перш за ўсё грунтоўнасцю і шырынёй ахопу народнай рэчаіснасці, пакідала вакантнае месца паэта, першаступеннай мэтай якога было б, гаворачы словамі Бялінскага, «ажыццяўленне ідэі паэзіі як мастацтва». Такім паэтам у беларускай літаратуры стаў на пачатку XX ст. Багдановіч. Аб'ектыўныя заканамернасці літаратурнага развіцця стварылі найлепшыя ўмовы для выяўлення яго суб'ектыўных імкненняў і пошукаў.

Здзяйсненне «ідэі паэзіі як мастацтва» было свядомым, «запраграмаваным» актам творчасці. Сам М. Багдановіч, кажучы пра вершы, што ўвайшлі ў «Вянок» (1913), прызнаваўся: «Мая творчасць была скіравана галоўным чынам на пашырэнне кола тэм і форм беларускай паэзіі»[1]. Гэта, аднак, не азначае, што яна быццам бы і абмяжоўваецца чыста эстэтычнымі задачамі. Творчасць Багдановіча не менш моцная і сваім пафасам сцвярджэння ідэалаў сацыяльнай і нацыянальнай справядлівасці, што глыбока хвалявалі паэта. У той жа час яны дапаўняліся ў яго свядомасці «тымі «законамі прыгажосці», пра якія ў свой час гаварыў Маркс»[2].

[1] Багдановіч Максім. Збор твораў у 2-х тамах, т. 2. Мінск, 1968, с. 237. Далей спасылкі на гэта выданне даюцца ў тэксце; у дужках пасля цытат рымскай лічбай абазначаецца том, арабскай — старонка выдання.
[2] Березкин Г. Человек на заре. М., 1970, с. 71.

Дзякуючы М. Багдановічу ў беларускай паэзіі з'явіліся такія жанры, узоры страфічнай і рытмічнай арганізацыі верша, якія яна да таго часу яшчэ не ведала. Элегія, сяброўскае пасланне, раманс, санет, эпіграма і іншыя — усе гэтыя жанры лірычнага роду літаратуры выкарыстаў аўтар «Вянка». У сваёй кнізе паэт нават выдзеліў спецыяльны раздзел — «Старая спадчына», у якім падаў розныя формы верша, ад старажытнага да сучаснага (пентаметр, гекзаметр, санет, рандо, трыялет, тэрцыны, актава і г. д.). Багдановіч, які ў арыгінале чытаў еўрапейскіх паэтаў, перанёс на родны грунт свабодны верш (верлібр). Таму не дзіўна, што беларускія літаратуразнаўцы даследаванне многіх жанравых і відавых форм нацыянальнай лірыкі пачынаюць менавіта з Багдановіча.

Пашырэнне выяўленчых сродкаў, абнаўленне паэтычнага арсенала, акліматызацыя на родным грунце іншаземных паэтычных форм — такія задачы стаялі на пачатку XX ст. і перад украінскай паэзіяй. Гэта разумелі ўсе лепшыя пісьменнікі на чале з І. Франком, Лесяй Украінкай, М. Кацюбінскім. Так, Франко, які ў свой час горача падтрымліваў творчыя пошукі Лесі Украінкі, В. Стэфаніка, М. Чарняўскага, А. Крымскага, А. Алеся і іншых, вельмі востра крытыкаваў, у прыватнасці, вершы складальніка паэтычнай анталогіі «Українська муза» А. Каваленку за іх шаблоннасць, прымітывізм у галіне формы[1].Салідарызуючыся з Франком, Чарняўскі ў 1903 г. заяўляў: «Старое ў нашай літаратуры (пісьменнікі, і формы, і дух пісьменства) з кожным днём усё больш старэе, трэба ўсё гэта абнавіць, калі мы не хочам цягнуцца ў хвасце іншых народаў»[2]. Зразумела, што такое абнаўленне магло адбыцца як шляхам стварэння новых літаратурных форм і жанраў, так і праз «асучасненне» старых — уласных і запазычаных.

Добра вядома, якое вялікае значэнне мела для ўзбагачэння выяўленчага арсенала ўкраінскай літаратуры творчасць такіх пісьменнікаў, як Іван Франко і Леся Украінка. Варта нагадаць толькі пашырэнне тэматычнага дыяпазону санета ў «вольных» і «турэмных» санетах Франка або тое, з якой дасканаласцю валодала Леся Украінка актавай і санетам, гекзаметрам і верлібрам, арыгінальнымі страфічнымі формамі. І ўсё ж, кал і мець на ўвазе сутнасць зробленага М. Багдановічам у беларускай паэзіі, то, відавочна, тыпалагічныя паралелі павінны праводзіцца у некалькі іншым плане. Тое, што зрабіў Багдановіч у Беларусі, зрабіў, па сутнасці, адзін,— на Украіне

---

[1] Гл.: Франко Іван. Твори, т. 20, с. 610.
[2] Цыт. па кн.: Революційне оновлення літератури. Київ, 1970, с. 307.

выконвала цэлая кагорта паэтаў. Сярод іх адной з арыгінальных з'яўляецца постаць У. Самійленкі.

У 1916 г. М. Багдановіч ва «Украинской жизни» (№ 7-8) надрукаваў вялікі і выключна цікавы артыкул пра У. Самійленку. Характэрна, што ў артыкуле, даючы аб'ектыўную ацэнку ўсёй творчасці ўкраінскага пабраціма, Багдановіч значную ўвагу ўдзяляе характарыстыцы майстэрства паэта, яго наватарства ў галіне формы верша. Так, гаворачы пра прастату мовы, эпітэта, вобразнасці, гукапісу Самійленкі, паэт-даследчык тут жа адзначае: «На гэтым фоне стрыманасці і прастаты яшчэ больш значнай і каштоўнай уяўляецца цудоўная прада Самійленкі — праца над страфой, над архітэктурнымі збудаваннямі свайго мастацтва. Паралелі ёй мы не знойдзем ні ва ўкраінскай, ні ў велікарускай паэзіі таго часу» (ІІ, 195). Зазначыўшы, што паэт «знаходзіўся ў сферы прыцягнення раманскага свету, займаўся вывучэннем раманскіх моў, раманскіх культур» (як, дарэчы, у свой час і сам Багдановіч), аўтар артыкула падкрэслівае: «Пачаў ён паэтычную працу сваю з александрыйскага верша, затым хутка спыніў сваю ўвагу на белым пяцістопным ямбе, а далей — на гекзаметры, элегічным дыметры, актаве, секстыне, санеце. Асабліва любоўю Самійленкі карыстаўся санет... Вялікую даніну аддаў таксама элегічнаму вершу (гекзаметру з пентаметрам) і гекзаметру, такім сціслым і выразным, дзе ў яго цікава часам ужываюцца цэзуры. Ахвотна карыстаўся ён рэфрэнам, цікава праводзячы яго праз увесь верш» (ІІ, 195-196).

Тое, што сказаў М. Багдановіч пра У. Самійленку, можна з поўным правам аднесці і да яго ўласнай творчасці. Наогул, нямала думак, назіранняў, выказаных у артыкуле, нагадваюць самахарактарыстыку яго аўтара — настолькі шляхі Самійленкі і Багдановіча ў пошуках «тэхнічных» сродкаў верша былі падобнымі.

Пошукі паэтычнай формы звязаны з элементам думкі, рацыянальнага мыслення. Толькі мастакі, у якіх гэты элемент моцны, здатныя на пэўныя адкрыцці. Самійленка —«паэт-мысліцель; элемент думкі ў яго надзвычай моцна выяўлены, і ёю густа насычана відная частка яго творчасці» (ІІ, 190). Такім паэтам-мысліцелям, які любіў «усё абмеркаваць, абдумаць спосабы, і матар'ял, і мэту і горача любіў сваю свядомасць гэту» («Ліст да...»), з'яўляецца і сам Багдановіч. У аснове ўсяго, што ён зрабіў у паэзіі і прозе, крытыцы і публіцыстыцы, ляжыць думка, якая часам настолькі глыбокая і арыгінальная, што нават апярэджвае некаторыя нашы сучасныя развагі над сутнасцю жыцця і мастацтва. Зноў жа, кажучы словамі Багдановіча пра Самій-

ленку, думка ў яго самога — натуральная стыхія, «па-за якой ён не можа тварыць,— і яна ў яго простая, чалавечная і культурная» (II, 186).

Такім чынам, М. Багдановіч і У. Самійленка ўяўляюць сабой, па сутнасці, адзін і той жа псіхалагічны тып мастака. Гэта і давала ім мажлівасць вырашаць тыя аб'ектыўныя эстэтычныя задачы, якія паўсталі ў канцы XIX — пачатку XX ст. як перад украінскай, так і перад беларускай літаратурай.

Аднак выкарыстанне здабыткаў іншамоўных культур не вычэрпвае актуальных задач развіцця літаратуры. Патрэбна было выкарыстаць усе ўласныя магчымасці, звярнуцца да невычэрпных крыніц роднага фальклору. Толькі ў такім разе можна было ўнесці свой пасільны уклад у мастацкую скарбніцу ўсяго чалавецтва.

У літаратуразнаўчым даробку М. Багдановіча ёсць два творы пад назвай «Забыты шлях», у якіх ставяцца праблемы выкарыстання літаратурай вуснай народнай творчасці. Першы з артыкулаў напісаны ў выніку назіранняў над беларускім літаратурным працэсам. Другі (напісаны, дарэчы, на ўкраінскай мове) быў прысвечаны даследаванню нацыянальнай спецыфікі ўкраінскага класічнага верша. «Сотні год народ вытвараў сваю паэзію, выробляў прыпадаючыя да сваёй душы вобразы, параўнанні, эпітэты, сюжэты, творчаскія падходы. А чым нашы песняры скарысталіся са ўсяго гэтага? Бадай-што нічым»,— пісаў Багдановіч (II, 167). Гэта думка была для яго адпраўным момантам. Ужо сама назва артыкулаў гаворыць пра напрамак разваг даследчыка: ён заклікае літаратараў да «забытага шляху»— выкарыстання фальклору. Не толькі агульная карціна развіцця беларускай літаратуры, але і практыка ўкраінскага пісьменства сталі для Багдановіча тым грунтам, з якога выраслі яго перакананні пра спосабы і сродкі прыдання роднай паэзіі нацыянальнай выразнасці.

На пачатку XX ст. ва ўкраінскай літаратурнай крытыцы пачаў узнімацца голас супраць этнаграфізму ў мастацтве. Захапленне «бытавізмам», «этнаграфізмам», залішняя ўвага да дэкаратыўнага экзатычнага боку жыцця народа сапраўды рабіліся пэўным літаратурным анахранізмам. Літаратура станавілася ўжо на шлях псіхалагічнага паглыблення характараў, шырэйшай цікавасці да сацыяльных праблем грамадскага жыцця. Але разам з гэтым у крытыцы пачала праступаць і выразная тэндэнцыя ўвогуле дыскрэдытаваць рэалізм як літаратурны метад. А ў канкрэтных жа ўмовах украінскай літаратуры істотнай, гістарычна абумоўленай рысай гэтата метаду была якраз падкрэсленая ўвага да народнага побыту і этнаграфічнай арнаментоўкі. У прыватнасці, прэтэнцыёзны тэарэтык «Молодої музи» А. Луцкі, вульгарызуючы погляды класікаў украінскай літаратуры

Нячуя-Лявіцкага, П. Мірнага, Карпенкі-Кярага, Франка, называў іх усіх... «утылітарыстамі». Іншыя эстэцтвуючыя крытыкі тыпу М. Еўшана ўвядзенне этнаграфічных элементаў у літаратурны твор лічылі не толькі «ўстарэлай акцыяй», але і наогул «нізкім тонам»[1].

М. Багдановіч добра разумеў усю бязглуздасць агульнай формулы «смерць быту!». Ён слушна адзначаў, што «боязь вузкага этнаграфізму, супраць панавання якога ў паэзіі (і не толькі ў паэзіі) свядомае ўкраінскае грамадзянства ў свой час вяло адкрытую і нялёгкую барацьбу», становіцца надта «традыцыйнай» і ўстарэлай.

«Украінскі» артыкул М. Багдановіча «Забутий шлях» застаўся незакончаным. Невядома, якія матэрыялы ён выкарыстаў бы для яго напісання. Іншая ж яго праца — «Вобразы Галіцыі ў мастацкай літаратуры»— сведчыць, што Багдановіч добра ведаў творчасць М. Кацюбінскага і захапляўся яго «Ценямі забытых продкаў». Высокая станоўчая ацэнка твора была не толькі вынікам навукова аб'ектыўнага крытычнага мыслення беларускага паэта. Багдановіч знайшоў пэўную агульнасць задач дзвюх літаратур, што выявілася ў актыўным стаўленні іх да фальклору.

Аднак, акрамя агульнасці, мы сёння выразна бачым тут і адметнасць, выкліканую спецыфічнымііі асаблівасцямі і нераўнамернасцю разв'іцця літаратурната іпрацэсу на Украіне і Беларусі.

«Цені забытых продкаў» — глыбока аналітычны твор, эпічны малкшак жыцця Гуцульшчыны, яе насельнікаў. Сіла Кацюбінскагамастака ў тым, што на фоне фальклорных і этнаграфічных матэрыялаў, так званай вонкавай экзотыкі, ён паказаў жыццё народа, застыўшае амаль на першаснай стадыі грамадскага развіцця. У той жа час, як слушна піша сучасны крытык, «адлюстраваныя з'явы не толькі ўспрымаюцца як нешта арганічнае для Гуцульшчыны, але і гучаць па-сучаснаму, перагукваючыся з грамадскім жыццём пачатку XX ст. У аповесці адчуваем той самы канфлікт мары і рэчаіснасці, красы высокіх людскіх парыванняў і будзённага існавання... «Цені...» нараджаюць гордасць за чалавека, абуджаюць імкненне да прыгожага, волю да светлага, радаснага жыцця, гатоўнасць змагацца за яго»[2].

Тое самае можна сказаць і пра другі твор украінскай літаратуры, ці не найбольш паказальны ў плане творчага выкарыстання фальклору, якім з'яўляецца «Лясная песня» Лесі Украінкі. Насуперак

---

[1] Гл. пра гэта: Волинсысий П. К. Проблема становления реалізму в українській літературі.—«Радянське літературознавство», 1957, № 6.

[2] Іванов Л. Д. Михайло Коцюбинський,—У кн.: Історія української літератури (кінець XIX — початокXX ст.). Київ, 1967, с. 301.

дэкларацыям буржуазнай крытыкі паэтэса паказала, «што на старым этнаграфізме можна раскрыць важныя праблемы сучаснага жыцця — праблемы этычныя, эстэтычныя і нават глыбока філасофскія»[1]. Прапусціўшы старажытныя народныя легенды, казкі праз прызму ўласнага філасофскага светаўспрымання, Леся Украінка ўзняла іх да проблемных роздумаў агульначалавечага гучання.

Творчасць і М. Кадюбінската, і Лесі Украінкі была рэалістычнай. Выкарыстанне фальклору прыдавала асобным іх творам казачна-феерычную афарбоўку, рамантычны каларыт. Метад, якім карысталіся пісьменнікі пры напісанні «Ценяў забытых продкаў» і «Лясной песні», па вызначэнні Лесі Украінкі, «неарамантызм» быў тым новым рэалізмам, што паядноўваў глыбінны рэалізм з парываннем да вышынь чалавечага духу, інтэлекту, мары. Такім чынам, ва ўкраінскай літаратуры пачатку ХХ ст. наглядаецца новы творчы падыход да фальклорнага і этнаграфічнага матэрыялу. Паэтыка фальклору, якая пад пяром эпігонаў рэалістычна-бытавой школы пачала ператварацца ў штамп, у творах сапраўдных мастакоў слова паўстала ва ўсёй красе і нацыянальнай непаўторнасці. Вынікла, па сутнасці, новая функцыя фальклору, скіраваная на пашырэнне Творчых магчымасцей пісьменнікаў, эстэтычнай выразнасці рэалізму як мастацкага метаду літаратуры.

Што датычыцца М. Багдановіча, то ў яго творчасці выкарыстаннем фальклору прыцягвае перш за ўсё ўвагу вершаваны цыкл «У зачарованым царстве», навокал якога доўга не аціхалі спрэчкі. У апошнія гады найбольшую ўвагу цыклу ўдзялілі такія даследчыкі, як М. Грынчык, А. Лойка, М. Стральцоў, Р. Бярозкін. Бярозкін, у прыватнасці, бачыць пэўную сувязь паміж нізкай твораў Багдановіча «У зачарованым царстве» і такімі з'явамі рускага паэтычнага мадэрнізму, як «Пузыри земли» Блока, «Жар-птица» Бальмонта, «Ярь» і «Перун» Гарадзецкага[2]. Аднак, думаецца, больш верагодная іншая паралель, на якую звярнула ўвагу Э. Мартынава. Хоць у творчым даробку Багдановіча мы не знаходзім ніводнай згадкі пра Лесю Украінку, найбольш відавочнай уяўляецца тыпалагічная блізкасць гэтага цыкла да «Лясной песні». Абумоўлена гэта ў неапошняй ступені агульнасцю выкарыстання абодвума паэтамі адных і тых жа фальклорных крыніц, у прыватнасці зборнікаў палескага фальклору, у якіх украінскі і беларускі фальклор пераплёўся надзіва цесна, як ні ў адной з іншых мясцін Украіны або Беларусі.

---

[1] Денисюк І., Міщенко Л. Дивоцвіт. Львів, 1963, С. 76-77.
[2] Гл.: Березкин Г. Человек на заре, с. 28

Агульнавядома, што Леся Украінка да кожнай сваёй працы ставілася выключна сур'ёзна. Напісанню твора ў яе папярэднічала глыбокае вывучэнне матэрыялу (прыгадаем хаця б яе працу над творамі, тэматычна звязанымі з гісторыяй Егіпта і іншых блізка-ўсходніх краін). Таму цалкам лагічна будзе дапусціць, што перад напісаннем «Лясной песні» паэтэса праглядзела багатую бібліятэку свайго мужа — вядомага фалькларыста К. Квіткі, у якой знаходзіліся і шматлікія выданні беларускага фальклору. Ды і памяць магла многае падказаць. Маці Лесі Украінкі пісьменніца Алена Пчылка добра ведала розныя беларускія этнаграфічныя выданні, у прыватнасці М. Доўнара-Запольскага. З іх яна чэрпала народна-паэтычныя жамчужыны, калі расказвала малой Лесі розныя казкі і легенды, у тым ліку і пра Маўку. Так, лясныя духі з драмы-феерыі «Лясная песня»— Маўка, Лесавік, Вадзянік — Нібыта непасрэдна запазычаны з беларускай народнай творчасці, нібыта ўзяты з радні лесуноў і вадзенікоў М. Багдановіча.

Цікавую паралель таксама можна правесці і паміж Пералеснікам Лесі Украінкі і панам Падвеем і Завірухай М. Багдановіча. Гармачнае ўзаемаразуменне чалавека і прыроды, выяўленае ў вершах Багдановіча (у тым ліку і ў тых, што не ўвайшлі ў цыкл, напрыклад «Дзед»), з'яўляецца, па сутнасці, той самай ідэяй, носьбітам якой выступае ў «Лясной песні» дзядзька Леў. Апошняя ж страфа з верша Багдановіча «Па ляду, у глухім бары»— гэта ўжо нібы непасрэдны перагук з «Лясной песняй»:

Дауно пачаў «хадзяін» дбаць,
Каб пушча тут была нанова,
Ды толькі ведае дзед «слова»,
А то дабра бы не зазнаць (II, 74).

Асабліва неабходным нам здаецца супастаўленне творчых прынцыпаў і творчага метаду пісьменнікаў. Для Лесі Украінкі ці не наймацнейшым было імкненне вывесці на шырокія літаратурныя гарызонты авеяныя сівой даўнінай паэтычныя легенды і переказы роднага краю. Ёй важна было даказаць, што поруч з агульнавядомай і славутай міфалогіяй старажытных рымлян і грэкаў існуе не менш цудоўная міфалогія яе даўнейшых продкаў — усходніх славян. Міфалогія своеасаблівая, чароўная.

М. Багдановіч да цыкла «У зачараваным царстве» паставіў эпіграфам радкі з «Пекла» Дантэ, якімі заклікае «разумнага чытача» адгадаць павучанне, прыхаванае ў «незвычайных вершах». Правільнае прачытанне гэтага эпіграфа нам бачыцца ў развагах А. Лойкі, дапоўненых цікавымі назіраннямі Э. Мартынавай.

Цяжкасць расшыфроўкі эпіграфа заключаецца ў тым, што ў цыкле аб'яднана шмат розных твораў, у тым ліку нямала вершаў пра каханне, пейзажных замалёвак, не звязаных непасрэдна з этнаграфічным матэрыялам. А. Лойка падкрэслівае, што «зачарованае царства» — «гэта не толькі паэтычны свет міфалагічных істот, гэта наогул царства светлай прыроды, радасці адчування, што ты жывеш, царства светлага суму, не менш прыгожага ў Багдановіча, чым радасць»[1]. Суму, працягвае думку Лойкі Э. Мартынава, бо хоць краіна паэтавай любові прыгожая, чароўная, аднак яна «зачаравана», нібы тое царства з вядомай казкі, якое апавіла сном нядобрая, злая чарадзейка[2]. Скрайны настрой паэтычнага цыкла выключна роўны і светлы. І думаецца, Багдановіч сапраўды імкнуўся, каб яго вершы пераканалі разумнага чытача, што духоўная энергія народа, які мае такую цудоўную краіну, абавязкова яшчэ абудзіцца!

Іншыя даследчыкі, намагаючыся раскрыць філасофскі падтэкст цыкла, заходзяць у сваіх развагах, як нам думаецца, завельмі далёка. Вядома, што яшчэ бацька паэта, этнотраф Адам Багдановіч, даследуючы беларускі фальклор, асноўную ўвагу звярнуў не на своеасаблівасць і непаўторнасць паэтычнага светабачання народа, а на «перажыткі» ў яго светапоглядзе, прымхлівасць, цемнату і духоўную забітасць беларускага селяніна[3].

Гэта тэндэнцыя не-не, ды і дасць пра сябе знаць (хоць і ў некалькі іншай форме) у працах некаторых сучасных даследчыкаў трорчасці М. Багдановіча. Так, М. Стральцоў нават і зараз лічыць, што ў вершах «Зачарованага царства» няма «ні паэтызацыі, ні яднання з прыродай... ёсць страх перад ірацыянальным, зусім не дэкадэнцкі страх «рацыяналіста» Багдановіча», што «па-філасофску ставіць, вырашае пытанне аб «законнасці», «благодатности» розуму, таго розуму, з якога здзекваліся дэкадэнты, ды ці толькі яны!»[4]. Другі даследчык, Р. Бярозкін, бегла адзначыўшы, што ў цыкле Багдановіча няма парафрастычнага ўвасаблення сацыяльных сіл (лясун і вадзянік — зло і рэакцыя, сонца — дабро і прагрэс), зноў жа такі прыходзіць да высновы пра сімвалісцкую сістэму намёкаў на «падвойнасць» быцця, на «неслиянность его обличий»[5].

На нашу думку, найбольшую рацыю мае тут А. Лойка, які развівае думку самога М. Багдановіча пра асаблівы лад беларускай паэзіі

---

[1] Лойка Алег. Максім Багдановіч. Мінск, 1966, с. 40.

[2] Гл.: Мартынава Э. Некаторыя рысы блізкасці і своеасаблівасці развіцця беларускай і ўкраінскай літаратур пачатку XX ст.— У кн.: Старонкі літаратурных сувязей. Мінск, 1970, с. 192.

[3] Гл.: Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1895.

[4] Стральцоў Міхась. Загадка Багдановіча. Мінск, 1969, с. 71.

[5] Березкин Г. Человек на заре, с. 29.

як прадстаўніцы «ляснога краю». Багдановіч пісаў у свой час: «Край беларускі — лясны і балоцісты. Вось і трэба нам стварыць паэзію лесу, паэзію дрыгвы. Украінская стыхія — стэп, у нас наша стыхія — лес і балота. Тут ёсць свая, асаблівая краса, асаблівая рытміка, асаблівыя чары. Трэба іх паглядзець, знайсці і вынесці на шырокі свет...» Відавочна, класік беларускай літаратуры, працуючы над цыклам «У зачарованым царстве», вырашаў менавіта гэту задачу «падглядзець «асабістыя чары» народнай паэтыкі і вынесці яе на шырокі свет», а тым самым зрабіць больш нацыянальна выразнай родную паэзію.

Выкарыстаўшы беларускую дэманалогію, аўтар неўміручага «Вянка» стварыў цудоўныя лірычныя мініяцюры, якія па праву належаць да жамчужын сусветнай лірыкі. Апрача таго, М. Багдановіч сцвердзіў правільнасць высунутага ім пастулата пра неабходнасць творчага, актыўнага выкарыстання вусна-паэтычнай народнай творчасці. І ў гэтым ён блізкі да Лесі Украінкі. Але творчы падыход да фальклору не абавязкова павінен прадугледжваць толькі яго філасофскае асэнсаванне і пераасэнсаванне. Майстар малых форм, Багдановіч пераліў у творы згаданага цыкла сваю рамантычную ўлюбёнасць у родны край, які на далёкай чужыне паўставаў перад ім у беларускіх песнях, легендах і казках. І, відаіць, няварта шукаць у вершах Багдановіча за вобразамі Вадзеніка, Лесуна і іншымі глыбокага філасофскага падтэксту, сімвалаў-алегорый.

У артыкуле «Забыты шлях» М. Багдановіч, поруч з заклікамі да творчага выкарыстання фальклору, досыць актыўна адстойвае каштоўнасць таленавітых стылізацый пад фальклор, неабходнасць стварэння вершаў «асаблівага» беларускага складу. Даследчык праблемы «Максім Багдановіч і народная паэзія» М. Грынчык не прымае, і даволі слушна, гэтага палажэння паэта, раскрывае яго абмежаванасць, памылковасць[1]. И ўсё ж, думаецца, Багдановіч прыйшоў да гэтых перакананняў не стыхійна, выпадкова, а цалкам свядома. Яны ў пэўнай ступені былі абумоўлены патрабаваннямі часу.

Этінаграфізм у многіх літаратурах адыграў станоўчую ролю — як пачатковая форма народнасці. У найбольшай ступені характэрны для рамантызму, ён заставаўся прагрэсіўнай з'явай і на раннім этапе развіцця нацыянальных літаратур. Для беларускай літаратуры, як вядома, гэтыя праблемы нацыянальнага самасцвярджэння былі асабліва актуальнымі менавіта на пачатку XX ст. А ў тым, што веянні рамантызму ў тагачаснай беларускай літаратуры мелі месца, няма ніякага сумнення. Яна знаходзілася ў тых самых умовах, што і асаб-

[1] Гл.: Грынчык М. Максім Багдановіч і народная паэзія. Мінск, 1963.

ныя еўрапейскія літаратуры, у якіх патрэбы наіцыянальнага чытача «ў гераічным, ва ўзмацненні веры і энтузіязму падчас нацыянальнага ўздыму, нацыянальных рэвалюцый на пэўным этапе больш поўна задаволіў менавіта рамантызм і перш за ўсё рамантызм»[1]. Адсюль зразумелая цяга да фальклору, да народнага светаразумення, паэтыкі вусна-народнай творчасці.

Свае тэарэтычныя развагі М. Багдановіч увасобіў у вершах, а таксама ў паэмах, да якіх ён звярнуўся, марачы стварыць беларускі нацыянальны эпас. Цікавыя даследаванні прафесара М. Лазарука пра паэму паказваюць, наколькі быў захоплены Багдановіч фальклорнай стыхіяй. У прыватнасці, у «Мушцы-зелянушцы», якую, па прызнанні самога аўтара, ён пісаў, шукаючы «беларускага складу», у паэме «Максім і Магдалена» Багдановіч «настолькі захапляецца фальклорам, што нібы падпадае пад гіпноз фальклорных матываў»[2]. Зачараваны музыкай і экспрэсіяй трывалых паэтычных формул, ён, як заўважае Лазарук, страчвае кантроль над логікай характару героя; апрацоўка фальклору ў яго падчас адбываецца без дастатковай тыпізацыі вобразаў.

З цягам часу М. Багдановіч адмовіўся ад запрапанаванай ім жа самім стылізацыі пад фальклор і прысвяціў сябе рэалістычнаму адлюстраванню рэчаіснасці ў традыцыйных формах класічнага літаратурнага верша. Ён канчаткова зразумеў, што нацыянальнае выяўляецца не столькі праз вершаваны метр і рытм, колькі праз ідэі, тэмы, праблемы. Што ж датычыць украінскай літаратуры, то яна асноўны працэс такой «фальклярызацыі» перажыла яшчэ ў XIX ст. Відавочна, Багдановіч зразумеў гэта. Магчыма таму яго артыкул «Забутий шлях» так і застаўся незакончаным.

Як слушна падкрэсліў вядомы рускі філолаг В. М. Жырмунскі, «гісторыка-тыпалагічнае падабенства і літаратурнае ўзаемадзеянне дыялектычна ўзаемазвязаны і ў працэсе літаратурнага развіцця павінны разглядацца як два аспекты адной гістарычнай з'явы»[3]. Безумоўна, на фарміраванне светапогляду М. Багдановіча, на станаўленне яго, як майстра паэтычнага слова пэўны ўплыў, побач з родным фальклорам, беларускай, рускай і замежнай літаратурамі, аказала ўкраінская літаратура і ў найбольшай ступені творчасць Шаўчэнкі. Па ўспамінах бацькі паэта, ён «досыць грунтоўна ведаў

---

[1] Никольский С. В., Соколов А. Н., Стахеев В. Ф. Некоторые особенности романтизма в славянских литературах.— У кн.: Исследования по славянскому литературоведению и стилистике. Л., 1960, с. 220.

[2] Лазарук М. А. Беларуская паэма ў другой палавіне XIX — пачатку XX ст. Мінск, 1970, с. 96.

[3] Жирмунский В. М. Проблемы сравнительно-типологического изучения литератур,—У кн.: Взаимодействие и взаимосвязи национальных литератур. М, 1961, с. 56.

польскую літаратуру, але яшчэ лепш ведаў украінскую; у гэтай літаратуры ён ведаў не толькі выдатных, але і другарадных паэтаў. Валодаў украінскай мовай настолькі, што мог на ёй пісаць і нават, здаецца, рабіў спробу пісаць вершы»[1]. Уплывы, такім чынам, дапаўнялі тыпалагічнае падабенства. Яны перапляталіся таксама з фактамі кантактных сувязей, якія не толькі выраслі колькасна, але і набывалі падчас новую якасць. Пра гэта сведчаць матэрыялы з крытычнай і паэтычнай творчасці аўтара «Вянка».

М. Багдановіч стаў у дарэвалюцыйны час аўтарытэтным рэпрэзентантам беларускай літаратуры і культуры на Украіне. У часопісе «Украинская жизнь», які выдаваўся ў Маскве на рускай мове, паэт надрукаваў некалькі артыкулаў на беларускія тэмы. Адзін з іх менавіта так і называўся — «На беларускія тэмы» (1916, № 2). У ім, а таксама ў допісе «Пра гуманізм і неабачлівасць» (1914; № 11-12) паэт рэзка выступіў супраць розных спроб русіфікаваць і каланізаваць Беларусь, выкрыў найбольш вышуканыя сродкі і метады вялікадзяржаўных шавіністаў затармазіць развіццё беларускай культуры і нацыянальнай самасвядомасці народу. У карэспандэнцыі «Дзейнасць Мінскага беларускага камітэта» (1917, № 2) Багдановіч расказаў пра надзвычай цяжкія ўмовы, у якіх Беларускі камітэт дапамогі ахвярам вайны аказваў дапамогу падярпеўшым ад вайны, пра культурнаасветніцкую яго работу. Але найбольшай па памеры, самай важкай па сваёй грунтоўнасці беларусазнаўчай працай Багдановіча, надрукаванай у гэтым часопісе, быў артыкул «Беларускае адраджэнне» (1915, № 1-2; убачыў свет і асобны адбітак гэтага артыкула, пазначаны 1916 г.).

У гэтым артыкуле сістэматызаваны велізарны фактычны матэрыял, пададзены звесткі не толькі пра асноўныя з'явы беларускай літаратуры, але і пра другарадныя. Усе факты існуюць не самі па сабе, а для доказу таго палажэння, што беларуская літаратура «не монстр, не рарытэт, не унікум, а глыбока жыццёвая з'ява, што знаходзіцца ў рэчышчы агульнаеўрапейскага прагрэсу» (II, 215). Працягваючы традыцыі Іл. Свянціцкага і С. Палуяна ў азнаямленні ўкраінцаў з беларускай культурай, Багдановіч піша яшчэ адну своеасаблівую гісторыю беларускага пісьменства. Аднак у адрозненне, скажам, ад «Адраджэння беларускага пісьменства» Свянціцкага яго гісторыя значна багацейшая на факты. З «Беларускага адраджэння» ўкраінцы маглі даведацца пра многіх раней невядомых для сябе беларускіх пісьменнікаў старажытнай пары і XIX ст. Праца Свян-

[1] Богданович А. Страницы из жизни Максима Горького. Минск, 1965, с. 127.

ціцкага, як вядома, заканчваецца 1907 г. Багдановіч жа даводзіць агляд беларускай літаратуры да 1914 г., да падзей першай сусветнай вайны, называе цэлы шэраг новых пісьменніцкіх імён, расказвае пра новыя паэмы, вершы, апавяданні, крытычныя працы.

Даследчык удала спалучыў гісторыка-храналагічны прынцып падачы матэрыялу з аглядам навейшых здабыткаў беларускай літаратуры па жанрах (паэзія, проза). Прычым асоба літаратуразнаўца ў артыкуле адчуваецца даволі выразна. Развагі М. Багдановіча пра своеасаблівасць творчасці Я. Купалы, Я. Коласа, Ядвігіна Ш., А. Гаруна і іншых не страцілі сваёй каштоўнасці да нашага часу.

У 1916 г. «Беларускае адраджэнне» было перакладзена на ўкраінскую мову і выдадзена асобнай брашурай[1]. Дзякуючы гэтаму артыкул стаў вядомым і сярод заходніх славян. Менавіта ўкраінскае выданне яго з'явілася крыніцай беларусазнаўчых звестак для чэшскага славіста Я. Махала падчас напісання ім усеабдымнай «Гісторыі славянскіх літаратур».

Поруч з вывучэннем беларускай літаратуры і яе рэпрэзентацыяй на Украіне, М. Багдановіч надзвычай многа зрабіў для даследавання самой украінскай літаратуры і культуры, для яе папулярызацыі не толькі ў Беларусі, але і ва ўсёй Расіі. Амаль усе працы Багдановіча па ўкраіністыцы друкаваліся ў рускіх выданнях. Апрача ўжо згаданай «Украинской жизни», артыкулы паэта-даследчыка ўбачылі свет у яраслаўскай газеце «Голос», «Нижегородском листке», часопісах «Жизнь для всех», «Русский экскурсант», у асобнай выдавецкай серыі «Библиотечка войны». Актыўна перакладаў беларускі паэт творы ўкраінскіх літаратараў не толькі на беларускую, але і на рускую мону. Такім чынам, дзякуючы Багдановічу адбываўся пераход ад бінарных сувязей да шматпланавых, нараджаліся якасна новыя літаратурныя кантактныя ўзаемасувязі. Іх важнай формай з'явіўся пераклад.

Некалькі вершаў украінскіх паэтаў у перакладзе М. Багдановіча ўвайшло ў зборнік паэта «Вянок». Да сённяшняга дня, аднак, ніхто з літаратуразнаўцаў не задумаўся, чаму, побач з перакладам адзінага невялічкага верша Авідзія, паэт падаў у сваёй кніжцы пераклады менавіта з украінскай паэзіі, менавіта гэтых, а не іншых вершаў А. Алеся, А. Крымскага, М. Чарняўскага. Выказванні тыпу, што «гэтым паэт паказвае непарыўнасіць сувязей нацыянальнай паэзіі з культурнымі здабыткамі ўсіх часоў і ўсіх народаў»[2],— мала што тлумачаць.

---

[1] Білоруське відродження. Відень, 1916.
[2] Лойка А. Максім Багдановіч.— У кн.: Максім Багдановіч. Збор твораў у 2-х тамах, т. 1, с. 11.

Бо, зразумела, Авідзій і Украіна пачатку XX ст.— далёка не ўсе часы і не ўсе народы. Ісціна, здаецца, у іншым.

Як аднадушна адзначаюць даследчыкі М. Багдановіча, «Вянок» — «гэта сапраўды класічны зборнік, і, можа, перш за ўсё ён класічны сваёй кампазіцыяй, прадуманасцю» (А. Лойка). Пераклады ўкраінскіх паэтаў увайшлі ў раздзел кнігі «Старая спадчына». Менавіта ў ім паэт, апанаваны ідэяй прышчапіць беларускай літаратуры разнастайныя формы еўрапейскай паэзіі, даў прыклад рэдкасных яе ўзораў. Тут прадстаўлены такія віды рытмічнага малюнка, як старажытныя гекзаметры і пентаметры, такія формы кампазіцыйнай арганізацыі твора, як сярэдневяковыя санеты, трыялеты, рандо, актава, тэрцыны. Але як жа паяднаць усё гэта з творамі сучаснікаў Багдановіча, напісанымі да таго ж звычайнымі чатырохрадковымі строфамі — катрэнамі? Аказваецца, зразумець Багдановіча можна.

Вершы А. Алеся, А. Крымскага, М. Чарняўскага з ідэйна-тэматычнага боку вельмі добра «ўпісваюцца» як у раздзел «Старая спадчына», так і ва ўсю кнігу. У іх — той жа Багдановічаў роздум над складанасцю жыцця, сутнасцю творчасці. Што датычыцца верша Алеся «Астры», то і ён звязаны з рэчаіснасцю: алегарычны змест яго добра суадносіцца з рэальнымі абставінамі жыцця і трагічнай смерці С. Палуяна. Аднак, думаецца, нават не гэта — асноўнае, што паслужыла прычынай уключэння перакладаў у кнігу арыгінальных твораў М. Багдановіча. Галоўнае тое, што вершы Алеся, Крымскага і Чарняўскага пры ўсёй іх вонкавай «сціпласці» з'яўляюцца даволі складанымі ўзорамі вершаванай формы. І менавіта гэту іх якасць прымаў перш за ўсё пад увагу Багдановіч, ператвараючы раздзел «Старая спадчына» ў своеасаблівую арыгінальную мікрапаэтыку. Складанне такой паказальнай паэтыкі выклікалася трыма асноўнымі задачамі: даказаць, што беларуская мова прыдатная для ўзнаўлення разнастайных паэтычна-моўных і стылістычных фігур; прышчапіць беларускай паэзіі найбольш тонкія паэтычныя формы, набытыя еўрапейскай паэзіяй за многія сотні гадоў; даць у рукі беларускіх паэтаў своеасаблівую хрэстаматыю па паэтыцы верша. Усім гэтым задачам адпавядалі і пераклады з украінскай паэзіі.

Вершы А. Алеся, А. Крымскага, М. Чарняўскага напісаны традыцыйнымі, звычайнымі катрэнамі. Гэта так. Але паглядзіце, нібыта кажа М. Багдановіч, якімі значнымі выяўленчымі магчымасцямі валодае гэты самы катрэн, якія розныя напісаныя ім творы — нават з боку формы! Па-першае, спалучаючыся, радкі могуць утвараць вершы, розныя па сваім памеры — і ў 10 радкоў (Чарняўскі), і ў 12 (Крымскі), і ў 16 (Алесь). Архітэктоніка твораў таксама можа быць

самай разнастайнай. У Чарняўскага два катрэны аб'яднаны двухрадкоўем, у Крымскага тры катрэны існуюць паасобку. У Алеся ж ніводзін з катрэнаў графічна не аддзелены адзін ад другога —утварылася своеасаблівая 16-радковая страфа. Не менш цікавая і рыфмоўка твораў. Калі ў Крымскага катрэны звязаны парнай жаночай рыфмай, то ў Чарняўскага перакрыжаваная рыфма змяняецца парнай, мужчынскія рыфмы — жаночымі: Аб Аб ВВгг ДД[1]. І ўжо зусім складанае спляценне разнаякасных рыфмаў сустракаем у вершы Алеся: аВаггддІІееККлл. Да гэтай разнастайнасці рыфмаў, даволі няпростай архітэктанічнай пабудовы твораў неабходна дадаць яшчэ і арыгінальнасць іх рытмічнага малюнка. Тут мы сустракаемся з двума (з трох) відамі трохскладовых стопаў — дактылем і амфібрахіем. У вершы Крымскага выкарыстаны надзвычай рэдкі памер — 6-складовы харэй. Дарэчы, ён ва ўсім «Вянку» сустракаецца яшчэ толькі адзін раз (!) («Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог»).

Такім чынам, у чатырох творах засяроджаны цэлы арсенал разнастайных, падчас рэдкіх форм і сродкаў паэтычнага выяўлення. Тым самым пераклады ўкраінскіх твораў добра дапоўнілі раздзел, у якім знайшла месца ледзь не ўся так званая вершаваная тэхніка. Праўда, раздзел мае назву «Старая спадчына». І таму аўтар «Вянка» аддзяліў украінскія пераклады ад узораў сярэдневяковай лірыкі гекзаметрамі Авідзія. Спадчына сярэдніх вякоў, такім чынам, апынулася ў рамках старажытнага верша (пентаметрамі і пачынаецца раздзел). Перад чытачамі выразней акрэсліліся ўзоры як даўнейшых вершаваных форм, так і навейшых, сучасных. У выніку такога супастаўлення розных па «ўзросту» відаў верша сама сабой вынікала думка, што і сучасная М. Багдановічу паэзія мела значныя эстэтычныя каштоўнасці, ігнараваць якія ніяк нельга. Паказальна, што для пацвярджэння выказанай думкі класік беларускай літаратуры выбраў менавіта ўкраінскую літаратуру. У гэтым праявілася як падтрымка Багдановічам літаратуры ўкраінцаў у яе пошуках новых сродкаў мастацкага адлюстравання рэчаіснасці, так і асабістыя сімпатыі паэта да ўкраінскай культуры і літаратуры.

На беларускую мову М. Багдановіч пераклаў некалькі каламыек. Кіравала ім тут зноў жа імкненне ўвесці ў беларускую паэзію новую арыгінальную форму рытмічнай і страфічнай арганізацыі верша. Дарэчы, паэт хацеў зрабіць цэлы цыкл перакладаў народных песень, для якога, апрача ўкраінскіх каламыек, пераклаў некалькі песень

[1] Вялікімі літарамі абазначаны мужчынскія, малымі — жаночыя рыфмы.

рускіх, скандынаўскіх, іспанскіх, персідскіх, японскіх. Аднак поўнасцю гэту задуму ён не паспеў ажыццявіць.

Нямала папрацаваў М. Багдановіч і над перакладамі ўкраінскай паэзіі і прозы на рускую мову. Так, у 1915 г. у «Нижегородском листке» былі надрукаваны пераклады апавядання І. Франка «Муляр» з цікавай прадмовай паракладчыка (№ 94, 98) і верша Каменяра «На рацэ вавілонскай» (№ 188). У наступным годзе ў газеце «Голос» з'явіліся багдановічаўскія пераклады апавяданняў В. Стэфаніка «Кляновыя лісточкі» (№ 129) і «Смерць» (№ 137). Некалькі паэтычных і празаічных урыўкаў твораў украінскіх аўтараў у перакладах на рускую мову Багдановіч уключыў ў артыкулы «Вобразы Галіцыі ў мастацкай літаратуры», «Паміяцці Т. Р. Шаўчэнкі». Праўда, гэта было не правілам, а хутчэй за ўсё выключэннем з правіла: амаль заўсёды паэт прыводзіў ілюстрацыі на мове арыгінала. Найбольш беларускі іпаэт перакладаў з Шаўчэнкі («Н. Козачковському», «І небо невмите, і заспані хвилі...», «В неволі», «В неволі тяжко... хоча й волі» «Д. О. Козачковському», «Готово. Парус розпустили»). Апрача таго, дзякуючы яму на рускай мове з'явіліся вершы А. Крымскага («Пальмы гордые и лавры», «Теплый гром. Цветя, черешня»), У. Самійленкі («Те, что никого не любят...»). Ёаць таксама сведчанне, што Багдановіч перакладаў і некаторыя іншыя творы (навела В. Стэфаніка «Сіняя кніжачка», твор У. Самійленкі «Эльдарада» і інш.). На жаль, пераважная большасць яго перакладаў у свой час так і не пабачыла свету.

Пераклады М. Багдановіча з украінскай мовы на беларускую і рускую з'яўляюцца арганічнай часткай усяго перакладчыцкага дробку паэта, перакладаў ён шмат: са старажытна-грэчаскай і латыні, амаль з усіх еўрапейскіх моў — на беларускую; з беларускай і ўкраінскай — на рускую. Цікавы такі факт. Па дамоўленасці з адным кіеўскім выдаўцом Багдановіч у 1912 г. склаў вялікую — «каля 125 друкаваных старонак, у тым ліку 15-16 маёй прадмовы»[1]— анталогію беларускага апавядання. Анталогія павінна была выйсці на рускай мове. Для яе Багдановіч сам зрабіў усе пераклады. Кніга была выслана ў 1913 г. у Кіеў, але па невядомых прычынах не выйшла. Нават да гэтага часу не адшуканы яе рукапіс.

Мастацкі ўзровень перакладаў М. Багдановіча з украінскай мовы, як і ўсіх яго перакладаў наогул, высокі. Разам з Я. Купалам аўтар «Вянка» з'яўляецца заснавальнікам беларускага рэалістычнага мастацкага перакладу. Праўда, у асобных выпадках адчуваецца «ўмяшанне» перакладчыка ў тэкст твора, але гэта ішло, як правіла, па

[1] З ліста М. Багдановіча ў рэдакцыю «Нашай нівы» ад 14 лістапада 1912 г. (II, 502).

лініі некаторага скарачэння твораў, выкліканага не столькі перакладчыцкім сваволлем, колькі невялікай плошчай выдання, у якім твор друкаваўся. Так, у скарочаным выглядзе з'явіўся твор І. Франка «На рацэ вавілонскай» у «Нижегородском листке», навела В. Стэфаніка «Кляновыя лісточкі» ў газеце «Голос». Магчыма нават, што скарачаў не сам перакладчык, а хтосьці з членаў рэдакцыі газет. Наогул жа Багдановіч, як ён сам аднойчы выказаўся, «памятаў добра, што перакладчык — не рэдактар, асабліва калі перакладае з... блізкай мовы» (II, 503).

Цікавай і плённай была таксама праца М. Багдановіча ў галіне гісторыка-краязнаўчага і этнаграфічнага даследаваяня жыцця шэрагу славянскіх народаў. Найбольшую ўвагу звярнуў паэт на ўкраінцаў і Украіну. Паўднёвай суседцы Беларусі прысвечаны такія нарысы, як «Украінскае казацтва», «Галіцкая Русь», «Угорская Русь», «Чырвоная Русь», «Аўстрыйскія ўкраінцы», «Львоў». Амаль усе яны былі напісаны на пачатку першай сусветнай вайны, калі ўвага рускай грамадскасці была звернута на Галіцыю як на плацдарм ваенных дзеянняў, на Заходнюю Украіну наогул, якая ў недалёкім будучым павінна была стаць часткай Расіі. Адной з «найбольш неадкладных дзяржаўных задач» беларускі паэт лічыў «каранную перабудову адносін да нацыянальнага жыцця народнасцей Расіі». І ён імкнуўся, каб да вырашэння гэтай задачы рускае грамадства падышло «з дастатковым запасам фактычных ведаў». Дасягненню менавіта гэтай мэты і была падначалена публіцыстыка Багдановіча.

Веды М. Багдановіча піра Украіну былі сапраўды энцыклапедычнымі. Апісваючы гісторыю паўднёва-заходніх украінскіх зямель, ён выкарыстоўваў старажытныя летапісы, матэрыялы многіх тагачасных даследчыкаў. Самабытнасць украінскай народнай славеснасці, прыгажосць украінскай мовы аўтар «Вянка» раскрываў перад рускімі і беларускімі чытачамі на ўзорах вусна-паэтычнай творчасці, якую ён добра ведаў па зборніках А. Мятлінскага, Я. Галавацкага, З. Радчанка і інш. Апрача таго, у сваіх нарысах Багдановіч уважліва паставіўся да дэталей быту, адзення, звычаяў заходніх украінцаў, скарыстаўшы як ужо згаданыя працы, так і вялікае даследаванне Л. Васілеўскага «Сучасная Галіцыя», аповесць М. Каіцюбініскага «Цені забытых продкаў». Беларускі даследчык адзначае высокі ўзровень навукі і культуры аўстрыйскіх украінцаў, расказвае пра дзейнасць таварыстваў «Галицько-руська Матыця», «Просвіта», «Наукове товариство; ім'я Т. Г. Шевченка», музычнага таварыства імя Лысенкі. У нарысе «Львоў», які не надта даўно адшуканы бібліёграфам Н. Б. Ватацы і ўпершыню надрукаваны ў другім томе Збору твораў паэта (1968), ідзе гутарка

пра асаблівую ролю гэтага старажытната горада ў жыцці заходнеўкраінскіх зямель, у развіцці эканомікі і культуры краю. Малюнкі Львова настолькі каларыйныя, што падчас узнікае думка аб наведванні яго Багдановічам.

У сваіх нарысах пра Украіну М. Багдановіч быў далёкі як ад сентыментальнага этнаграфізму, так і ад нацыяналістычнай фетышызацыі краю. Сваю шырокую размову пра ўкраінцаў заходніх зямель ён вядзе з улікам сацыяльна-эканамічных умоў іх жыцця, расказвае пра сялянскія паўстанні, выкрывае прычыны эміграцыі сялян у Амерыку. Для больш глыбокага азнаямлення з краем і народам Багдановіч раіць чытачам звярнуцца да твораў найвыдатнейшых галіцкіх пісьменнікаў — Франка, Стэфаніка, Кабылянскай, Мартовіча і інш.

Нельга не згадзіцца з А. Лойкам, які піша: «Цяжка сказаць, чаго больш у артыкулах Багдановіча пра ўкраінскае казацтва, Галіцкую, Чырвоную, Угорскую Русь — апісальна этнаграфічных элементаў, выкладу гісторыі ці непрыхаванага хвалявання і цікавасці публіцыста, які супастаўляе долю свайго народа з кроўна блізкімі яму народамі»[1]. Беларускі паэт прадказваў для Галіцыі — пасля далучэння яе да Расіі — новы порыяд у яе гісторыі, новы ўздым культуры і літаратуры.

У шавіністаў і рэакцыянераў розных масцей артыкулы М. Багдановіча выклікалі шалёны гнеў. Асабліва востра супраць яго выступіла чарнасоценскае «Новое время» (1914, № 13 863) Аднак з'явілася нямала і прыхільных водгукаў у розных часопісах і газетах («Русская школа», 1914, № 9-10; «Что и как читать детям», 1915, № 1; «Вестник воспитания», 1914, № 8; «Речь», 1914, № 290 і інш.). І гэта цалкам зразумела. Тры братнія славянскія народы — рускі, украінскі і беларускі — былі для беларускага паэта дзецьмі адной маці. Яшчэ цяснейшаму іх згуртаванню, узаемаразуменню, дружбе прысвячаў Багдановіч усе свае сілы, час і здольнасці. Хто гэта бачыў, каму былі дарагія такія ідэалы, той непрадузята, аб'ектыўна мог ацаніць творчы даробак славутага беларускага публіцыста.

Пераклады М. Багдановіча з украінсікай літаратуры на беларускую і рускую мовы, яго гісторыка-этнаграфічныя артыкулы аказвалі уплыў на навуковую распрацоўку асобных пытанняў па ўкраінскай гісторыі і культуры, на працэс пашырэння ўкраіназнаўчых матэрыялаў па ўсёй Расіі і за яе межамі. Аднак толькі ў адносінах да літаратуразнаўчых прац беларускага паэта мы ў поўнай меры можам

[1] Лойка Алег. Максім Багдановіч, с. 321.

гаварыць пра ўплыў, гэта значыць пра тое, што вызначае асаблівасці генетычных сувязей між літаратурамі.

М. Багдановіч прысвяціў украінскай літаратуры некалькі прац. У адносна нядаўна выяўленым яго некралогу на смерць І. Франка («Жизнь для всех», 1916, № 7) даецца энцыклапедычна сціслая і глыбокая характерыстыка творчасці Каменяра. «У асобе яго,— піша Багдановіч,— сышоў адзін з буйнейшых украінскіх паэтаў з вершам энергічным, суровым і выразным і з ідэалогіяй цэльнай, прамалінейнай і бадзёрай; белетрыст, што ў сваіх шматлікіх апавяданнях, аповесцях і раманах асвятліў жыццё галіцкай вёскі, даў шэраг карцін дзіцячага свету, намаляваў турэмны быт, уваскрэсіў на сваіх старонках гістарычнае мінулае Галіччыны; крытык, трапны і праніклівы; умелы папулярызатар; перакладчык... вучоны, што распрацоўваў украінскую этнаграфію, гісторыю літаратуры... І ва ўсім гэтым не толькі яскрава гарэла полымя таленту, але і заўсёды адчуваўся пульс энергічнага розуму, здаровая і непарушная бадзёрасць духу» (ІІ, 178-179). Пра Франка беларускі паэт пісаў і ў невялічкай прадмове да публікацыі перакладу яго апавядання «Муляр». Там, побач з пералікам паэтычных зборнікаў Каменяра, яго празаічных твораў, Багдановіч адзначае і вялікую працу Франка-перакладчыка, падае біяграфічныя звесткі, характарызуе яго грамадска-палітычную дзейнасць.

Артыкул М. Багдановіча «Вобразы Галіцыі ў мастацкай літаратуры» («Русский экскурсант», 1915, № 1-2) арыгінальны перш за ўсё сваім фактычным матэрыялам. У ім аўтар упершыню сабраў і падаў ва ўласным перакладзе на рускую мову шматлікія мастацкія апісанні Галіцыі — яе прыроды, сацыяльных узаемаадносін і быту асобных народнасцей — бойкаў, лемкаў і гуцулаў, іх адзенне, звычаі, вераванні, а таксама вусную народную творчасць. Багдановіч выкарыстаў для ілюстрацыі асобныя творы польскага пісьменніка К. Тэтмайера, але ў найбольшай ступені — урыўкі з аповесці М. Кацюбінскага «Цені забытых продкаў», твораў І. Франка «Сам вінаваты», «Вялікі шум», «Лесішына чэлядзь», «Мірон», «Лясы і паша», «Гісторыя маёй сячкарні». Аўтар таксама адсылае чытачоў і да твораў іншых украінскіх пісьменнікаў: Ю. Фядзьковіча, С. Каваліва, В. Кабылянскай, В. Стэфаніка, В. Леантовіча, Л. Мартовіча, Н. Кабрынскай. Артыкул набыў пэўны даследчыцка-тэарэтычны ўхіл, выйшаў за межы звычайнай публіцыстыкі.

Ёсць у М. Багдановіча досыць вялікія па сваім памеры артыкулы, прысвечаныя творчасці Г. Чупрынкі і У. Віннічэнкі. Багатыя на фактычны матэрыял, асобныя слушныя назіранні, бліскучыя па сваім стылі, яны тым не менш маюць і пэўныя памылковыя палажэнні.

Аб'ектыўныя ацэнкі часам падмяняюцца ў іх чыста суб'ектыўнымі меркаваннямі. Даследчык, у прыватнасці, правільна ўказаў, што «менавіта на ўкладзе думак, на разумовых і эстэтычных густах Чупрынкі ляжыць зусім пэўны штамп — штамп плыні, якая супрацьпаставіла ідэі сацыяльнасці ідэю асабістай аўтаномнасці і публіцыстыцы ў паэзіі — аўтаномнасць прыгажосці»[1]. Аднак супярэчнасці ў светапоглядзе Чупрынкі і Віннічэнкі, хібнасць іх творчага метаду аўтарам артыкулаў да канца так і не былі ўскрыты.

Найбольшы поспех М. Багдановіча як даследчыка ўкраінскай літаратуры напаткаў пры аналізе ім творчасці Т. Шаўчэнкі. Артыкуламі «Памяці Т. Р. Шаўчэнкі» і «Краса і сіла. Вопыт даследавання верша Т. Р. Шаўчэнкі», надрукаванымі да 100-годдзя з дня нараджэння Каібзара («Голос», 1914, № 46; «Украинская жизнь», 1914, № 2), Багдановіч зрабіў важкі уклад ва ўкраінскае і ўсё славянскае шаўчэнказнаўства.

Наватарскі характар багдановічаўскага даследавання спецыфікі верша Шаўчэнкі (рытмікі, метра, рыфмы, гукапісу) агульнапрызнаны. Яшчэ ў 1921 г. украінскія літаратуразнаўцы высока ацанілі артыкул «Краса і сіла»[2]. Пазней Я. Колас[3] і М. Рыльскі яшчэ раз падкрэслілі, што Максім Багдановіч быў «адным з першых, хто ўлавіў тонкае майстэрства Шаўчэнкі і даў удумлівы аналіз формы яго вершаў»[4]. З думкай, што працай Багдановіча «распачалася новая старонка ў айчынным шаўчэнказнаўстве»[5], сёняя згаджаюцца ўсе, Аднак даследчыкі звычайна абапіраюцца пры гэтым толькі на працу «Краса і сіла». Другі артыкул паэта амаль не бярэцца пад увагу.

Сапраўды, у «Красе і сіле» М. Багдановіч пераканаўча сцвердзіў сусветнае значэнне Т. Шаўчэнкі як неперараўзыдзенага майстра мастацкай формы, паэта, наскрозь нацыянальнага нават у рытмічным малюнку твораў, іх метры, рыфмах і г. д. У артыкуле вызначаны асноўныя паэтычныя памеры, паказана «суадпаведнасць паміж рухам пачуцця і рухам верша» Кабзара. І калі да Багдановіча Шаўчэнка лічыўся вялікім толькі ў ідэйна-тэматычнай галіне творчасці, то беларускі паэт упершыню неаспрэчна давёў і высокую мастацкую дасканаласць яго твораў. Ранейшая легенда пра «невуцтва» Шаўчэнкі ў галіне паэтычнай формы пачала рассейвацца. Аднак і другі артыкул Багдановіча — «Памяці Т. Р. Шаўчэнкі»,— што, як правіла, засла-

---

[1] Багдановіч М. Збор твораў, т. 2. Мінск, 1928, с. 89.
[2] Гл.: Якубовський Б. Форма поезії' Шевченка.— У кн.: Тарас Шевченко. Кй'ів, 1921.
[3] Колас Я. Выдатны паэт і крытык.—«Літаратура і мастацтва», 1947, № 21.
[4] Рыльский М. Шевченко и современность.—«Советская Украина», 1951, № 6.
[5] Чабаненко В. А. Видатний поет і слов'янознавець М. Богданович.— У кн.: Слов'янське літературознавство і фольклористика, вип. 4. Кйі'в, 1968, с. 124.

няецца першым, таксама выключна наватарскі. У ім аўтар «Вянка», гаворачы ад імя рускіх чытачоў Шаўчэнкі, упершыню вызначае тое, што звязвае «душы рускіх чытачоў з душой памёршага паэта». Таму цалкам заканамерна ўзнікае супастаўленне Шаўчэнкі з рускімі літаратарамі, пісьменнікамі іншых нацыянальнасцей. Надзвычай важны вывад даследчыка, што «Шаўчэнка ва ўкраінскай літаратуры з'яўляецца не тым, чым быў Кальцоў у рускай ці Бёрне — у англійскай. Не, ахоп яго паэзіі намнога шырэйшы і ставіць яго на тое масца, якое ў Расіі, напрыклад, займае Пушкін, а ў Польшчы — Міцкевіч» (II, 152). Такім чынам, Багдановіч у найбольш агульных рысах вызначае напрамкі тыпалагічных паралеляў, што будуць разгорнуты ў працах пазнейшых шаўчэнказнаўцаў.

Чым жа дарагі Т. Шаўчэнка рускаму чытачу пачатку XX ст.? У асобе ўкраінскага паэта, гаварыць М. Багдановіч, «мы ўшаноўваем перш за ўсё «божай міласцю — паэта», чый верш быў поўны высакароднай прастаты, паэта, які ў формах строга нацыянальных выявіў агульначалавечы змест... Мы ўшаноўваем Шаўчэнку і як аднаго з першых прадстаўнікоў народнай інтэлігенцыі і як выразніка дагэтуль яшчэ не ўпаўне зжытых ідэалаў... з несумненна каштоўным дэмакратычным ухілам. Мы ушаноўваем яго, нарэшце, як чалавека вялікай ідэйнай цвёрдасці, не зломанай цэлым шэрагам нягод...» (II, 156-157). Варта толькі гэтыя развагі паставіць у кантэкст рускай рэчаіснасці дарэвалюцыйнага часу, пануючых у ёй ідэй і эстэтычных упадабанняў, каб убачыць, наколькі аб'ектыўна, глыбока выявіў Багдановіч не толькі агульнарускае, але і агульнакультурнае значэнне генія Шаўчэнкі. Даследчык не паддаўся спакусе вымяраць творчую спадчыну паэта толькі «законамі красы», як на гэта наштурхоўвала вершаваная і тэарэтычная практыка шматлікіх прадстаўнікоў тагачасных фармалісцкіх і дэкадэнцкіх плыняў. Багдановіч ацаніў творчасць класіка ўвраінскай літаратуры, зыходзячы з аб'ектыўных ідэйна-мастацкіх крытэрыяў. Адсюль — перакананальнасць яго думак і назіранняў. Нямала з таго, што раней успрымалася на веру, было, такім чынам, праверана і абгрунтавана «на выбраным спецыяльным матэрыяле».

У першых радках артыкула «Краса і сіла» М. Багдановіч падкрэсліваў, што творы Кабзара «ацэньваліся з усіх магчымых пунктаў погляду, вывучаліся шляхам самых разнастайных метадаў, і толькі метад эстэтычны заўсёды знаходзіўся ў цяні» (II, 140). Беларускі даследчык з вялікай карысцю для справы і пакарыстаўся гэтым метадам. Прычым у панящце «эстэтычны» ён уклаў і «ідэалагічны момант» — у разуменні змястоўнай функцыі формы, гарантыі змястоўнасці формы. У артыкуле Багдановіча логіка мыслення

даследчыка ішла не ад зместу да формы, а наадварот, багацце і ўсе характэрныя асаблівасці формы павінны былі ўрэшце падкрэсліць багацце і разнастайнасць зместу. Такі «эстэтычны метад» (у Багдановічавым разуменні) быў новым не толькі ў беларускім, але і ва ўкраінскім літаратуразнаўстве, асабліва калі мець на ўвазе Усходнюю Украіну (у Заходняй Украіне яго імкнуўся пашырыць І. Франко). Поруч з працамі Франка па эстэтыцы, яго крытычнымі публікацыямі, артыкул Багдановіча «Краса і сіла» аказваў, такім чынам, пэўны ўплыў на методыку літаратуразнаўчых даследаванняў, што з'ўляліся ў розных украінскіх выданнях. Формы і вынікі такога ўплыву пакуль што яшчэ не даследаваны. Але што ён існаваў — у гэтым няма сумнення. Больш таго, метадалагічныя прынцыпы Багдановічалітаратуразнаўца, што выявіліся ў лепшых яго працах, у тым ліку ў артыкулах пра Шаўчэнку, адпавядаюць узроўню сучаснай навукі пра літаратуру. Найбольш поўнае і рацыянальнае іх выкарыстанне - шлях да новых літаратуразнаўчых адкрыццяў.

У 1916 г. М. Багдановіч піша вялікае даследаванне «У. Самійленка», якое зноў жа было надрукавана ва «Украинской жизни» (1916, № 7-8). Гэта праца, разам з артыкуламі пра Шаўчэнку, дазваляе паставіць беларускага паэта ў авангард вядучых літаратуразнаўцаў пачатку нашага стагоддзя.

Творчасць У. Самійленкі атрымала ў дарэвалюцыйнай крытыцы ацэнкі досыць розныя. Да таго ж іх было колькасна няшмат[1]. Найцікавейшай сярод артыкулаў пра пісьменніка з'ўляецца, безумоўна, прадмова І. Франка да кнігі «Україні» (1906), дапрацаваная пазней у літаратурны партрэт «Уладзімір Самійленка. Спроба характарыстыкі» (1907)[2]. М. Багдановіч у сваіх роздумах пра паэта, несумненна, абапіраўся на думкі, выказаныя Каменярам. Аднак заслуга яго ў тым, што ён не паўтарыў ўжо вядомага, а ў сваіх развагах пайшоў значна далей Франка.

Па сутнасці, ніхто да М. Багдановіча (ды і доўгі час пасля яго) не даў такой усебаковай, прафесійна глыбокай характарыстыкі творчай спадчыны У. Самійленкі, як гэта зрабіў аўтар «Вянка». Праўда, даследчык па зразумелых прычынах аналізаваў толькі друкаваныя матэрыялы і не мог улічыць некаторых напісаных у той час твораў пісьменніка, што з'явіліся ў друку значна пазней. Аднак зробленыя Багдановічам агульныя высновы поўнасцю стасуюцца і тых, рукапіс-

[1] Гл. пра гэта: Таран В. П. Творчість В. Самійленка в оцінці дожовтневої критики.— У кн.: Українське літературознавство, вип. 10. Львів, 1970, с. 43—50.
[2] Франко Іван. Твори, т. 17, ç, 454-464. Далей усе цытаты з артыкула І. Франка прыводзяцца па гэтым выданні, старонкі паказваюцца ў дужках адразу пасля цытат.

ных твораў. Артыкул ўражвае перш за ўсё стройнай логікай даследчыка. Багдановіч пачаў з найбольш шырокага паняцця — вызначэння псіхалагічнага тыпу пісьменніка, затым спыніўся на ўплывах, што спрыялі фарміраванню яго тварчай індывідуальнасці. Вялікая ўвага звернута на аналіз зместу вершаў Самійленкі. Прычым змест разумеецца шырока, як «сукупнасць элементаў, што ўтвараюць уражанне, якое пакідае дадзеная рэч» (II, 190). Заканчваецца артыкул размовай пра майстэрства паэта.

Даследчык прапануе гаварыць пра творчасць У. Самійленкі як «пра цэласнае паэтычнае светаразуменне, названае гумарыстычным, дзе гумар — толькі адзін з састаўных элементаў, адно звяно ў іх непасрэдным ланцугу» (II, 186). У гэтым беларускі даследчык салідарызаваўся з І. Франком, які таксама адзначаў, што гумар Самійленкі — «ясны, пагодлівы, сонечны» (462). Як і Франко, Багдановіч не забыўся аданачыць «параўнальна моцны струмень сатыры ў яго вершах», дзе мова паэта дасягае «выключнай заразіцельнасці», падымаючыся да пафасу, абрушваючыся на ворагаў і разумна б'ючы па сваіх» (II, 187). Таму па меншай меры наіўна выстаўляць Багдановіча, як гэта робіць В. Таран, даследчыкам, які не адчуў сатырычнай «жылкі» Самійленкі і які нібыта гаварыў пра паэта, што «не можна лічыць яго сатырыкам»[1]. Гэта супярэчыць асноўным палажэнням самога артыкула Багдановіча.

І Франко, і Багдановіч адзначаюць, што Самійленка «на працягу дваццаці з лішнім гадоў сваёй дзейнасці зусім не змяняецца... не ўдасканальваецца яго вершаваная тэхніка, ані яго мова» (460), што ён «паэт усталены і заўсёды сабе роўны... яго творы растуць толькі колькасна, але не якасна» (II, 180-181). Абодва даследчыкі ўказваюць на нацыянальны дух паэзіі Самійленкі, яе сувязь з родным грунтам. Разам з тым падкрэсліваецца, што «Самійленка, па сутнасці, не столькі непасрэдны ўдзельнік жыцця, колькі яго назіральнік, хаця і далека не безуважны да таго, што адбываецца перад ім» (II, 185), што «ён не ўдаецца ў праграмы будучыні, не імкнецца маляваць грамадства такім, якога яшчэ няма і якога б яму жадалася» (462-463). Калі яшчэ дадаць тую высокую ацэнку, якая была дадзена Франком і Багдановічам (са спасылкамі на Франка) мове Самійленкі, то тым самым будуць акрэслены літаральна ўсе палажэнні артыкула Каменяра і ўсе моманты «перакрыжавання», «сутыкнення» з імі разваг Багдановіча. Далей пачынаюцца ўласныя Багдановічавы назіранні.

[1] Гл. названы артыкул В. Тарана, с. 50.

М. Багдановіч не згадзіўся з «такім зоркім крытыкам, як Іван Франко», у пытанні пра ўплывы, якія зазнала творчасць Самійленкі. У прадмове да зборніка паэта «Украіні» Франко пісаў: «Які быў яго духоўны росквіт, якія настаўнікі, якія ўплывы, што карыснага ці шкоднага адбівалася на фарміраванні яго душы і на яе выяўленні — яго творах? Нічога гэтага мы не ведаем» (II, 187). Прывёўшы гэту цытату, Багдановіч даволі рэзонна даводзіць уплыў на Самійленку «велікарускай літаратуры, з аднаго боку, старажытнагрэчаскай і раманскай літаратур — з другога» (II, 188). Прычым беларускі крытык прыходзіць да слушнай высновы, што «судакраненні яго з велікарускай паэзіяй разрозненыя і невялікія... Адбітак заходнееўрапейскіх літаратур значна больш выражаны» (II, 188). Тым самым Багдановіч не толькі ўстанавіў генезіс творчасці Самійленкі, але і яшчэ раз сцвердзіў надзвычай важны прынцып навуковай крытыкі. Бо «асаблівасці ў падборы і засваенні» камбінацый уплываў, што перапляталіся ў творчасці пісьменніка, «неабходна з'яўляюцца адным са складаемых у агульнай суме рыс, што характарызуюць асобу» (II, 187).

У артыкуле М. Багдановіча ўпершыню робіцца спроба перыядызацыі творчасці У. Самійленкі. Даследчык выдзяляе пачатковы перыяд творчасці паэта (1884-1885), «час росквіту і канчатковага фарміравання таленту Самійленкі» (1886-1892), «паласу бяздзейнасці» («паэт амаль зусім замаўкае, даўшы за ўвесь гэты перыяд аж да «дзён свабоды» дзесятка паўтара вершаў») — 1893-1904. «Апошняя ўспышка творчасці» Самійленкі, па вызначэнні Багдановіча, акрэсліваецца 1905-1906 гг., калі «цэнзурныя рагаткі былі зняты, а злоба дня давала такую багатую страву для гумару і сатыры». Потым Самійленка замоўк: «Для гарачай, баявой працы сатыры не было ўжо месца, а ад лірыкі ён і раней амаль адмовіўся». Аднак Багдановіч упэўнены, што паэт не пакінуў творчага шляху. Проста з яго творчасцю сталася так, як і з той крыніцай, што «часамі ўваходзіць у зямлю і доўга струменіць там, у глыбіні, невідзімкай, пакуль нечакана не праб'ецца дзе-небудзь зноў на паверхню». Доказ таму, зазвачае Багдановіч,— «пераклад «Мізантропа» Мальера, што надаўна выйшаў у свет» (II, 183).

Мы ўжо казалі пра Багдановічава вызначэнне У. Самійленкі як паэта-мысліцеля. Цікавае яшчэ адно назіранне даследчыка. Думка паэта, піша Багдановіч, «у моманты вышэйшага свайго ўздыму, дасягаючы найбольшай сілы абагульнення, набывае філасофскі характар («Герастрат», «Пакуль душою», «Дзве планеты», «Чалавецтва» і інш.)». Неабходна падкрэсліць, што гэтыя развагі Багдановіча блізкія

да сказанага пазней М. Рыльскім, які падкрэсліваў, «што схільнасць да роздуму адрознівае Самійленку ад яго плакучых і пяючых сучаснікаў і што ўлюбёнасць яго ў ігру думкі, супярэчнасці ідэй дазваляе нам бачыць у аўтару «Герастрата» папярэдніка Лесі Украінкі з яе геніяльнай дыялектыкай»[1]. Аднак Багдановічу як паэту важна было падкрэсліць некалькі іншы аспект светапогляду Самійленкі. Сам аўтар «Вянка» ў той час «упарта шукаў шляхі пераадолення чалавечай ізаляванасці, а што стасуецца яго ўласнай творчасці — шляхі зліцця свайго і агульнага, «асобнай песні» і «сусветнага аркестра»[2]. І таму Багдановіча ў творчасці ўкраінскага калегі цешыла тое, што «заўсёды, нават калі... філасофія носіць касмічную афарбоўку, Самійленка зводзіць сваю думку да лёсу чалавецтва, гаворачы ж пра чалавецтва, думае перш за ўсё пра чалавека» (II, 190). І далей: «Ён жыве інтарэсамі чалавечай асобы, менавіта яны з'яўляюцца для яго меркаю каштоўнасці сацыяльнага ўкладу, а ўразаць іх дзеля славы якога-небудзь ідала ці ідэала ён не спакусіўся ні разу» (II, 192). Менавіта гэта думка, увасобленая ў паэтычных радках, спакусіла Багдановіча перакласці на рускую мову верш Самійленкі «Ті, що нікого не люблять, бо серце глухе в них, холодне».

Те, что в холодных сердцах любви ни к кому не имеют,
Нам говорят, что они мир весь хотят полюбить.
Вот где сердец широта. В них каждому место найдется.
Только я в сердце таком места не стал бы искать!
Скажут они, что работают сразу для целого мира.
Где же народ на земле, пользу имевший от них?
Пусть только каждый распашет свое неширокое поле,
И зацветет вся земля цветом прекрасным везде.
Каждый трудится пускай только хоть для родного народа —
И все народы земли счастливы будут тогда.

М. Багдановіча, «што думаў пра гэта і так,— як слушна піша Р. Бярозкін,— легка ўявіць сабе адзін на адзін з многімі балючымі праблемамі будучых дзесядігоддзяў XX ст.»[3] Але ўявіць гэта можна і ў адносінах да У. Самійленкі, якога даследаваў беларускі паэт і ў творчасці якога знайшоў яшчэ адно пацвярджэнне сваім роздумам пра прызначэнне чалавека на зямлі.

У сваім даследаванні не абмінуў М. Багдановіч і пытання майстэрства У. Самійленкі. Валодаючы тонкім эстэтычным густам, вялікім вопытам аналізу паэтычных твораў, даследчык указаў на

---

[1] Рильський М. Твори в 10-ти томах, т. 10. Київ, 1963, с. 353.
[2] Березкин Г. Человек на заре, с. 59.
[3] Там жа, с. 60.

найбольш істотныя асаблівасці мовы, вобразнасці, рытмікі, гукапісу, рыфмоўкі, строфікі, кампазіцыйнай пабудовы твораў Самійленкі.

І да сённяшняга дня праца М. Багдановіча «У. Самійленка» застаецца каштоўнай крыніцай звестак пра ўкраінскага паэта, узорам аб'ектыўнага і ўдумлівата разгляду яго творчага даробку. Памылкова было б яе замоўчваць, абмінаць увагай, як гэта практыкуецца ў некаторых сучасных даследаваннях пра Самійленку. Разам з тым нельга і прымяншаць яе значэння, як гэта робіцца ва ўжо згаданай публікацыі маладога ўкраінскага даследчыка В. Тарана.

Месца Максіма Багдановіча ў гісторыі беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей выключна пачэснае. Многімі сваімі творчымі прынцыпамі блізкі да ўкраінскай літаратуры, беларускі паэт вельмі шмат зрабіў для яе папулярызацыі, крытычнага і навуковага асэнсавання, для ўмацавання культурных сувязей паміж беларускім і ўкраінскім народамі, паміж усімі братнімі славянскімі народамі наогул.

## РОЛЯ ЎКРАІНСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ Ў БЕЛАРУСКІМ ЛІТАРАТУРНЫМ ПРАЦЭСЕ

### На мове дружбы

Пачатак XX ст.— час паскоранага развіцця беларускай літаратуры. Разам з тым гэта час паскоранага развіцця беларуска-іншанацыянальных літаратурных сувязей, у тым ліку беларуска-ўкраінскіх. За няпоўныя два дзесяцігоддзі ў галіне сувязей было зроблена значна больш, чым за ўсё папярэдняе статоддзе. Уласна, гэтыя два працэсы — развіццё літаратур і развіццё мажлітаратурных узаемаадносін — ішлі поруч, узаемадапамагаючы адно другому. Разам з павелічэннем творчых здабыткаў літаратуры пашыраліся мажлівасці пранікнення яе ў сферу іншых культур. У сваю чаргу больш глыбокае азнаямленне з духоўнымі здабыткамі суседнята народа (а менавіта ў гэтым — сапраўднае значэнне ўсялякіх літаратурных сувязей) стымулявала развіццё ўласнага прыгожага пісьменства, паказвала, чаго ў ім яшчэ нестае, аберагала ад паўтарэння асобных памылак.

Рознымі шляхамі пранікала ў Беларусь украінская культура. Якія ж былі гэтыя шляхі? Як жа яна выконвала сваю высакародную місію ўзбагачэння ўласнай культуры беларусаў?

Адным з найгалоўных такіх шляхоў можна лічыць прагрэсіўны рускі перыядычны друк. Першаступенную ролю ў азнаямленні беларусаў з жыццём украінскага народа адыгралі выданні Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі — газеты «Искра», «Вперед», «Пролетарий», «Новая жизнь», «Звезда» «Правда» (выдавалася пад рознымі назвамі — «Рабочая правда», «Правда труда», «Пролетарская правда», «Путь правды», «За правду» і інш.). Усе гэтыя выданні мелі вялікае пашырэнне на тэрыторыі як Украіны, так і Беларусі. Ленінская «Искра», першы нумар якой выйшаў якраз на пераломе двух стагоддзяў, трапляла ў Беларусь пераважна праз Вільню, а таксама праз некаторыя іншыя гарады, у тым ліку і ўкраінскія (Адэсу, Львоў, Кіеў і г. д.). У Беларуси «Искра» мела сваіх пастаянных карэспандэнтаў у Мінску, Магілёве, Гомелі, Віцебску, Пінску, Смаргоні, Шклове, Копылі і іншых гарадах[1]. Другая бальшавіцкая газета, «Правда», таксама карысталася сярод беларусаў вялікім поспехам. Так, толькі ў 1914 г. у 48 беларускіх гарадах яе выпісвала 214 чалавек. У адной Магілёўскай губерні яе атрымлівала 150 падпіс-

---

[1] Гл.: Марцелев С. В. Печать Советской Белоруссии (исторический очерк). Мінск, 1967, с. 15.

чыкаў[1]. Яшчэ большая колькасць экземпляраў газеты па зразумелых прычынах распаўсюджвалася без падпіскі — нелегальна.

Усе тагачасныя выданні РСДРП былі па сваім характары грамадска-палітычнымі. Таму іх галоўная заслуга (калі мець на ўвазе беларуска-ўкраінскія сувязі) — у азнаямленні беларускіх працоўных, прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі з барацьбой украінскага народа за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, за палітычныя свабоды, паляпшэнне эканамічнага становішча (як і наадварот: у азнаямленні ўкраінцаў з жыццём і змаганнем беларусаў). «Искра» ў сваіх рубрыках «Хроніка рабочага руху», «Пісьмы з фабрык і заводаў», «З эканамічнага жыцця», «Хроніка рэвалюцыйнай барацьбы», «З вёскі», «Паштовая скрынка», адпаведныя раздзелы «Звезды» і іншых рэвалюцыйных газет змяшчалі шмат допісаў з Украіны.

Нямала як украінскіх, так і беларускіх матэрыялаў грамадска-палітычнага і эканамічнага характару публікавала на сваіх старонках легальная «Правда», якая адыграла вялікую ролю ў азнаямленні беларускіх працоўных з украінскім культурна-літаратурным жыццём. Так, праз «Правду» чытачы даведаліся, што Расійская акадэмія навук грунтоўна даследуе ўкраінскі фальклор і з гэтай мэтай пасылае на Украіну спецыяльную камісію для вывучэння народнай песні. Але тут жа чытачы газеты атрымоўвалі інфармацыю некалькі іншага роду— пра тое, што на Украіне існуе суровая забарона роднай мовы, а выкананне тых самых народных песень лічыцца страшэннай правіннасцю. У Палтаўскай губерні, напрыклад, «за спяванне каляды і песень на Купалу спевакі трапляюць... у халодную. А на ст. Рамадан начальства дазволіла праслухаць песні, але толькі... у асобным памяшканні і пры закрытых вокнах» («Правда», 1913, 5 лютага).

Надаючы вялікае значэнне пытанням літаратуры і мастацтва, «Правда» не раз пісала пра літаратараў — «сяброў рабочых», а сярод іх і ўкраінскіх пісьменнікаў. У 1913 г. газета адгукнулася шчырымі словамі спачування на заўчасную смерць геніяльнай Лесі Украінкі. Яна павяла шырокую размову пра пісьменніцу, лічачы яе жыццё і творчасць подзвігам барацьбіта-рэвалюцыянера. «Леся Украінка, якая стаяла блізка да вызваленчага грамадскага руху наогул і пралетарскага ў прыватнасці,— пісала «Рабочая правда» ў нумары ад 30 ліпеня 1913 г.,— аддавала яму ўсе сілы, сеяла разумнае, добрае, вечнае. Нам трэба сказаць ёй дзякуй і чытаць яе творы, што друкаваліся ў лепшых украінскіх часопісах». Далей газета адсылала сваіх чытачоў да асобнага выдання твораў Лесі Украінкі, першы том якога

[1] Там жа, с. 23.

выйшаў у 1911 г., да паэтычных зборнікаў «На крилах пісень», «Думи і мрії», «Відгуки». Каб даць чытачам канкрэтнае ўяўленне пра напрамак творчасці ўкраінскай паэтэсы, «Правда» друкуе ў перакладзе на рускую мову верш Лесі Украінкі «Досвітныя агні».

Асабліва шырока змяшчаліся ў «Правде» матэрыялы пра геніяльнага сына Украіны Тараса Шаўчэнку. Артыкул «Шаўчэнка і прыгоннікі», надрукаваны 18 лютага 1914 г., з'явіўся нібыта канспектам будучага выступлення бальшавікоў на пасяджэнні Дзяржаўнай думы, якое падрыхтаваў У. І. Ленін. «Не шанцавала Тарасу Рыгоравічу Шаўчэнку пры жыцці, не шанцуе і пасля смерці»,— горка іранізавала «Правда».

Як вядома, члены бальшавіцкай фракцыі ў Думе не змаглі выступіць з прамовай, у якой падкрэслівалася, што забарона ўшанавання памяці Шаўчэнкі яскрава характарызуе Расію як «турму народаў». Але ўважлівы чытач змог і сам прыйсці да такой высновы на падставе надрукаванай у двух нумарах «Правды» амаль стэнаграфічнай справаздачы пра пасяджэнне Думы, што адбылося 26 лютага 1914 г. («Путь правды», 1914, 1 і 2 сакавіка). Газета поўнасцю апублікавала прамову сацыял-дэмакрата Бур'янава, у якой яскрава малявалася карціна нацыянальнага ўціску ўкраінцаў. Бальшавік Бур'янаў праз галовы дэпутатаў Думы звярнуўся да ўсяго ўкраінскага народа. Хай Украіна памятае, сказаў ён, што ніякія выступленні, прамовы і дамаганні шавіністаў, чарнасоценцаў не дадуць жаданых вынікаў, «украінскія масы павінны рана ці позна заняць тую пазіцыю, на якой стаіць рускі пралетарыят... Тады магчымым будзе і святкаванне вялікіх сваіх пісьменнікаў». Такім чынам, бальшавіцкая «Правда», падводзячы сваіх чытачоў да правільнага класавага разумення антышаўчэнкаўскай афіцыйнай кампаніі, звярталася не толькі да ўкраінцаў, але і да іншых прыгнечаных нацый, у тым ліку і да беларусаў. Яна заклікала іх аб'яднацца з рускім пралетарыятам у барацьбе за свае сацыяльныя і нацыянальныя правы.

Апрача названых матэрыялаў, «Правда» ў дні Шаўчэнкавага юбілею друкуе артыкул «Памяці Т. Р. Шаўчэнкі», дзе даецца высокая ацэнка мастацкай спадчыне Кабзара, з захапленнем гаворыцца пра паэму «Гайдамакі», цытуюцца ў арыгінале ўрыўкі з паэмы «Сон», верша «Мінаюць дні, мінаюць ночы» і інш. («Путь правды», 1914, 25 лютага).

Украінскія матэрыялы літаратурнага характару змяшчаліся і ў грамадска-палітычным, літаратурным і навуковым часопісе «Жизнь». Часопіс з 1899 г. знаходзіўся ў руках «легальных марксістаў», але яго старонкі выкарыстоўвалі для прапаганды сваіх поглядаў і рэвалю-

цыйныя марксісты. Так, у 1899 г. тут быў надрукаваны «Адказ п. П. Няжданаву» У. І. Леніна, а ў 1900 г.— ленінская праца «Капіталізм у сельскай гаспадарцы».

Цікавым быў і літаратурны аддзел часопіса. Пра «Жизнь» У. І. Ленін пісаў: «... нядрэнны журнал! Белетрыстыка прама добрая і нават лепш за ўсіх!»[1] У часопісе пастаянна супрацоўнічаў М. Горкі. У 1900 г., будучы ў Мінску, Леся Украінка праз С. Мяржынскага пазнаёмілася з блізкім прыяцелем Мяржынскага вядомым тагачасным рускім пісьменнікам Я. Чырыкавым, які даў украінскай паэтэсе рэкамендацыйны ліст да рэдактара часопіса В. А. Пасэ. Чырыкаў, актыўны супрацоўнік пецярбургскай «Жизни», часта выязджаў з Беларусі, дзе стала жыў, у Пецярбург па рэдакцыйных справах. Акрамя таго, ён высылаў з Мінска карэспандэнцыі мясцовага характару, якія друкаваліся ў навуковым і палітычным аддзеле «Жизни». Такім чынам, ёсць усе падставы лічыць, што гэты часапіс быў добра вядомы ў Беларусі, у прыватнасці сярод прагрэсіўнай інтэлігенцыі Мінска.

У «Жизни» былі надрукаваны чатыры артыкулы Лесі Украінкі: «Два напрамкі ў навейшай італьянскай літаратуры» (1900, № 7), «Маларускія пісьменнікі на Букавіне» (1900, № 9), «Новыя перспектывы і старыя цені» (1900, № 12) і «Заметкі пра навейшую польскую літаратуру» (1901, № 1). У іх паэтэса ахоплівае надзвычай шырокае кола літаратурных з'яў, крытыкуе розныя плыні ў буржуазнай дэкадэнцкай літаратуры, выказвае сваё разуменне новага мастацтва як гарманічнага паяднання рэалізму з рамантычнай марай. У гэтых сваіх крытычных працах Леся Украінка імкнецца адлюстраваць жыццё народа ў сувязі з грамадска-палітычным жыццём краіны, салідарызуючыся тым самым з тагачаснай марксісцкай крытыкай. Агляд Лесі Украінкі «Маларускія пісьменнікі на Букавіне» знаёміў чытачоў часопіса з творчасцю ўкраінскіх пісьменнікаў арыгінальнага і моцнага таленту: Ю. Фядзьковіча, В. Кабылянскай, В. Стэфаніка.

Часопіс «Жизнь» пры садзеянні М. Горкага (яго У. І. Ленін залучыў да кіраўніцтва літаратурна-мастацкім аддзелам выдання) папулярызаваў у рускім перакладзе асобныя мастацкія творы І. Франка, М. Кацюбінскага, В. Стэфаніка, Л. Мартовіча, В. Кабылянскай і інш.

Несумненнае значэнне для азнаямлення беларусаў з культурным і літаратурным жыццём украінцаў адыгралі перыядычныя рускія выданні, якія выходзілі на тэрыторыі самой Беларусі. Яны, зразумела, былі неаднароднымі па сваёй палітычнай скіраванасці. Поруч з

[1] Ленін У. І. Творы, т. 34, с. 15.

прагрэсіўным «Северо-Западным краем» (1902-1905) і памяркоўнымі газетамі «Северо-Западный курьер» (1906), «Голос провинции» (1906-1907), «Жизнь провинции» (1907), «Окраина» (1907-1909), выдаваліся чарнасоценскія «Минская речь» (1906), «Минское слово» (1906-1912), «Северо-западная жизнь» (1912-1914). Ва ўсіх гэтых выданнях, а таксама ў правінцыяльных газетах «Витебский голос», «Бобруйские отклики», «Могилевский Голос» і іншых часам сустракаліся ўкраінскія матэрыялы: карэспандэнцыі пра грамадскі рух, культурнае жыццё на Украіне, запісы ўкраінскаіга фальклору і г. д.

Зразумела, што «истинно русские» (шавіністычныя, чарнасоценскія) выданні ўсяляк намагаліся давесці, што як беларускай, так і ўкраінскай мюівы «не было, няма і быць не можа» — цалкам у духу ультраправага «Киевлянина». Тым самым яны перагукваліся і з польскімі нацыяналістамі, якія нават у 1910 г. не хацелі прызнаць беларускую літаратуру і вуснамі паланізатара З. Пяткевіча безапеляцыйна заявілі: «Беларускі народ ніколі не меў і не мае сваёй літаратуры. Стварыла яе польская інтэлігенцыя. Створана яна штучным шляхам і ў значнай ступені не адлюстроўвае ні душы, ні яго звычаяў, традыцый, вераванняў, ні нават складу мовы» («Prawda», 1910, № 39). І гэта было напісана ў рэцэнзіі на «Адвечную песню» Я. Купалы — твор, які высока ацаніў М. Горкі, раіў перакласці на рускую мову!..

З тым большай увагай і павагай ставімся мы да кожнага добразычлівага і праўдзівага слова пра Украіну, што з'ўлялася на старонках тагачаснага друку. Сярод рускіх газет Беларусі сваёй выразна дэмакратычнай, а пазней і рэвалюцыйнай скіраванасцю вызначаўся «Северо-Западный край». Ён з'явіўся прадаўжальнікам «Минского листка» (1886-1902), спадкаемцам яго дэмакратычных традыцый, а ў бурным 1905 г.— выразнікам палітыкі і тактыкі Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі. Рэдагаваў «Северо-Западный край» член Мінскай арганізацыі РСДРП М. П. Мысаўской. Газету неаднойчы канфіскоўвалі, рэдактара кідалі ў турму, але ў кожным яе нумары зноў і зноў з'ўляліся «крамольныя» матэрыялы. Калі 28 кастрычніка 1905 г. пасля часовага закрыцця выдання зноў выйшаў яго чарговы нумар, бальшавіцкая «Новая жизнь» паведаміла сваім чытачам: «Выйшаў пасля чатырохмесячнага перапынку «Северо-Западный край» з ранейшай строга марксісцкай праграмай»[1].

Газета зрабіла нямала для папулярызацыі беларускай літаратуры і культуры. Дарэчы, менавіта на яе старонках быў апублікаваны верш Я. Купалы «Мужык» — першае выступленне паэта ў прэсе. Тут друка-

---

[1] Цыт. па кн.: Рожин Н. В. Газета «Северо-Западный край». Минск, 1970, с. 6.

валіся артыкулы па гісторыі і этнаграфіі Беларусі, змяшчаліся запісы беларускага фальклору. Шмат увагі ўдзяляў «Северо-Западный край» рускай і польскай літаратурам, друкуючы, у прыватнасці, матэрыялы пра п'есу М. Горкага «На дне», пра творчасць У. Караленкі, А. Чэхава, М. Някрасава. Крытык М. Ржэвускі знаёміў чытачоў з польскай паэзіяй, творамі А. Міцкевіча, Ю. Славацкага і інш.

У дадзеным выпадку для нас асабліва важныя тыя матэрыялы газеты, што датычацца ўкраінскай культуры і літаратуры. Словы «Украіна», «украінскі» сустракаюцца на старонках газеты даволі часта і ў розных выпадках. У розных месцах Украіны газета мела сваіх карэспандэнтаў. Нямала допісаў друкавалася з Кіева, а таксама з Заходняй Украіны, у прыватнасці са Львова. Поруч з асвятленнем палітычнай і эканамічнай барацьбы ўкраінскага народа, на старонках газеты паведамлялася пра падзеі ўкраінскага культурнага жыцця. У аглядах «Тэатр і музыка» было змешчана некалькі цікавых нататак пра гастролі ўкраінскай драматычнай трупы Максімовіча. Высока ацаніўшы ігру акцёраў Вяржбіцкай і Гамаліі, «Северо-Западный край» у той жа час адзначаў, што трупа, увогуле не асабліва багатая на драматычныя таленты, прыцягвае ўвагу гледачоў перш за ўсё сваім рэпертуарам — п'есамі Старыцкага, Крапіўніцкага і інш. «Гледачы заўсёды хочуць бачыць на сцэне такія творы маларускага рэпертуару,— пісаў «Северо-Западный край» у 1903 .г. (№ 102),— якія ўжо карыстаюцца папулярнасцю дзякуючы іх музычнай і мастацкай праўдзе».

«Северо-Западный край», які рабіў пастаянны агляд рускіх літаратурных перыядычных выданняў, востра выступаў супраць безыдэйнай і антымастацкай пісаніны асобных аўтараў. У адным з такіх аглядаў (1903, № 97) крыты к М. Ржэвускі прапануе чытачам звярнуць увагу на маладую ўкраінскую паэзію, прадстаўленую імёнамі Лесі Украінкі, А. Крымскага і некаторых іншых паэтаў, пра якіх ішла гутарка ў дзесятай кніжцы «Русской мысли» за 1902 г. у артыкуле Л. Старыцкай-Чарняхоўскай «Наівінкі ўкраінскай паэзіі». Дакладна спыніўшыся на творчасці Лесі Украінкі, М. Ржэвускі падкрэслівае выразную рэвалюцыйна-дэмакратычную скіраванасць яе твораў. «Свабода, роўнасць і братэрства — вось ідэя ўкраінскай паэтэсы»,— зазначае крытык. Тут жа ён прыводзіць урывак з верша Лесі Украінкі «Мой шлях».

Крытык звяртае таксама ўвагу на высокія мастацкія дасягненні маладой украінскай паэзіі, якая «славутая сваёй музычнасцю, прыгажосцю формы і сілаю выказвання». Для прыкладу зноў бярэцца Леся Украінка, цытуюцца дзве першыя страфы яе «Імправізацыі», што

ўвайшла ў цыкл «Крымскія водгукі». Гэтыя ўрыўкі з твораў Лесі Украінкі падаваліся ў рускіх перакладах Міхайла Старыцкага, які добра ўзнавіў ідэйна-мастацкія асаблівасці твораў украінскай паэтэсы.

8 сакавіка 1903 г. «Северо-Западный край» друкуе ў перакладзе невядомага літаратара, які схаваўся пад псеўданімам Перакаціполе, літаратурны партрэт І. Франка «Звезда народолюбивой поэзии (жизнь и деятельность Марии Конопницкой)». Цікава, што гэты артыкул Каменяра быў упершыню надрукаваны ў 1902 г. у нямецкім часопісе «Die Zeit» у сувязі з 75-годдзем з дня нараджэння вядомай польскай пісьменніцы. На ўкраінскай жа мове (у перакладзе з нямецкай) гэта праца была ўпершыню надрукавана толькі пасля Вялікай Айчыннай вайны ў дваццацітомным зборы твораў пісьменніка.

У заўвагах да рускага перакладу артыкула, змешчанага ў «Северо-Западном крае», перакладчык дае высокую адэнку даследаванню Івана Франка, называе яго «каштоўным і справядлівым» нарысам жыцця і творчасці польскай пісьменніцы. Не зважаючы на тое, што час юбілейных урачыстасцей ужо мінуў, зазначае перакладчык, «зусім дарэчы і зараз для нашых чытачоў пераклад гэтата здзіўляюча каштоўнага і справядлівага нарыса».

Традыцыі «Северо-Западного края» працягвалі іншыя рускія перыядычныя выданні Беларусі. На іх старокках з украінскай літаратуры асабліва часта сустракалася імя Т. Шаўчэнкі. Нярэдка яно з'яўлялася па суседству з імёнамі класікаў беларускай літаратуры, якія тады толькі пачыналі сівой творчы шлях,— Я. Купалы і Я. Коласа. Так, 23 жніўня 1908 г. у газеце «Минский курьер» з разгорнутай рэцэнзіяй па першы зборнік Купалы «Жалейка» выступіў крытык У. Самойла. Выхад кнігі ў свет рэцэнзент называе вялікім святам для ўсёй беларускай культуры, бо, як піша ён, «мы прысутнічаем пры вялікай падзеі, вельмі важнай для краю. Беларуская песня з галіны этнаграіфіі пераходзіць у галіну літаратуры». Заканчвае сваю рэцэнзію Самойла славутымі словамі: «Няхай ён (Купала.— аўт.) стане для беларусаў тым, кім быў Шаўчэнка для ўкраінцаў. Прыйдуць лепшыя часы, і за яго подзвіг родны народ заплаціць яму сваёй найбольшай удзячнасцю - бяссмерцем»[1]. Словы У. Самойлы аказаліся прарочымі.

З Т. Шаўчэнкам, яго жыццёвым і творчым подзвігам, некаторыя тагачасныя крытыкі супастаўлялі і другога выдатнага беларускага паэта — Я. Коласа. Мы ўжо гаварылі пра такое супастаўленне ў артыкуле Соф'і Русавай «Адраджэнне беларускай літаратуры», апублікаваным у часопісе («Познание России» (1909, № 3). Аднак яшчэ за год

[1] В. С. (Владимир Самойла). Большой праздник.— «Минский курьер», 1908, 23 августа.

да гэтага крытык П. Чарноцкі, горача выступаючы ў абарону беларускай нацыянальнай школы, пісаў у «Минском курьере» пра будучага аўтара «Новай зямлі»: «Адзін з народных пастаўнікаў памяняў пасаду вясковага настаўніка на яшчэ менш забяспечаную — пастаяннага супрацоўніка «Нашай нівы» і змяшчае ў ёй свае вершы пад псеўданімам Якуб Колас. Дачасна бачыць у яго асобе беларускага Шаўчэнку, але нельга сумнявацца ў шчырасці і арыгінальнасці яго таленту. Калі я пачаў чытаць яго калыханку[1] маладому настаўніку пачатковай школы, які намагаецца ў гутарцы не вымавіць ніводнага беларускага слова, яго змучанае застыглае аблічча асвятлілася шырокай радаснай усмешкай. Ён, мабыць, упершыню даведаўся, што на яго мове, ад якой ён так старанна адракаўся, можна не толькі размаўляць, але і пісаць і друкавацца»[2].

Такім чынам, руская перыёдыка пачатку XX ст. зрабіла пэўны ўклад у станаўленне беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей. Ролю пасрэдніка ў беларуска-ўкраінскім культурным узаемаазнаямленні яна працягвала адыгрываць і ў наступныя гады. Аднак калі ў выніку буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1905-1907 гг. нараджаецца беларускі нацыянальны друк, то менавіта ён бярэ на сябе асноўны абавязак па далейшым развіцці культурных сувязей паміж двума братнімі народамі. Зрэшты, аналагічную з'яву мы ўжо назіралі ў адносінах да ўкраінскай нацыядальнай перыёдыкі.

### З любоўю і зацікаўленасцю

Сярод нешматлікіх беларускіх перыядычных выданняў пачатку XX ст. («Наша доля», «Наша ніва», «Маладая Беларусь», «Лучынка», «Саха», «Беларусь», «Гоман» і інш.) найбольшую ролю ў развіцці як нацыянальнай літаратуры, так і міжлітаратурных сувязей адыграла газета «Наша ніва» (1906-1915). Яна з'явілася своеасаблівай бабкай-павітухай для многіх мастацкіх твораў — духоўных здабыткаў беларусаў. Дастаткова сказаць, што большасць дарэвалюцыйных вершаў і апавяданняў Я. Купалы і Я. Коласа, М. Багдановіча і Цёткі, Ц. Гартнага і З. Бядулі, іншых беларускіх пісьменнікаў, прасякнутых выразным дэмакратычным пафасам, пазначаных высокай мастацкай дасканаласцю, упершыню пабачылі свет на яе старонках. Пісьменнікі ахвотна супрацоўнічалі ў газеце. Купала, Колас, Бядуля доўгі час

[1] Маецца на ўвазе верш Якуба Коласа «Над калыскай», змешчаны ў «Нашай ніве» 20 красавіка 1907 г.
[2] Черноцкий Н. К вопросу о белорусской национальной школе.—«Минский курьер», 1908, № 64.

працавалі ў ёй літаратурнымі работнікамі. У 1914 г. Купала становіцца рэдактарам, а затым і рэдактарам-выдаўцом «Нашай Нівы».

Тут мы не збіраемся даваць агульную ацэнку гэтаму выданню. Грамадска-палітычны воблік газеты — у многім непаслядоўны, супярэчліны мы будзем улічваць толькі ў той меры, у якой ён пыяўляўся ў матэрыялах, што нас непасрэдна зараз цікавяць. Ды гэта ацэнка ўжо дадзена ў іншых навуковых публікацыях апошняга часу[1]. Вось што, у прыватнасці, піша пра газету «Большая Советская Энциклопедия» (Изд. 3. М., 1974, с. 381): «Наша ніва», штотыднёвая беларуская грамадска-палітычная і літаратурная ілюстраваная газета. Выдавалася ў Вільнюсе ў 1906-1915. Рэдактар і выдавец — А. Уласаў, з 1914 — І. Луцэвіч (Я. Купала). «Наша ніва» — масавая легальная газета агульнадэмакратычнага напрамку, прызначаная галоўным чынам для сялян і правінцыйнай інтэлігенцыі. Выступала супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, адстойвала права беларускага народа на самастойнае нацыянальна-гістарычнае развіццё. Аднак у рашэнні асноўных пытанняў грамадска-палітычнага жыцця «Наша ніва» займала асветніцкія, ліберальна-рэфармісцкія пазіцыі. Як адзіная легальная газета на беларускай мове была цэнтрам літаратурнага жыцця Беларусі. На яе старонках друкаваліся Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, З. Бядуля, Ц. Гартны, Ш. Ядвігін і іншыя беларускія пісьменнікі».

Што датычыць пазіцыі газеты ў галіне нацыянальных (міжнацынальных) адносін, то гэту пазіцыю найлепш, відаць, акрэсліў у свой час вядомы польскі публіцыст і гісторык, бацька выдатнай савецкай пісьменніцы Ванды Васілеўскай Леон Васілеўскі. Актыўны дзеяч Польскай сацыялістычнай партыі, адзін з кіраўнікоў яе левага, рэвалюцыйнага крыла, рэдактар органаў партыі «Robotnik» і «Przedświat» Л. Васілеўскі пісаў у 1912 г.: «Артыкулы палітычныя, грамадскія, гаспадарчыя, інфармацыі з краю, краіны, з-за мяжы, вершы і апавяданні, анекдоты і жарты, практычныя парады — вось змест нумароў «Нашай нівы»... Усё гэта пішацца мовай простаю, зразумела і папулярна пры ўдзеле ўжо сягоння соцень супрацоўнікаў, якія прыходзяць з народных мас або бліжэй за іншых стаяць да іх (сяляне, рабочыя, арганісты, народныя настаўнікі, інтэлігенцыя невялічкіх гарадоў). Паступовa «Наша ніва» пранікае ў найбольш глухія закуткі краю, будзіць грамадскую думку, чалавечую годнасць і народную свядомасць. «Наша ніва» стаіць на грунце інтарэсаў пра-

[1] Гл.: Шарахоўскі Я. Пясняр народных дум. Мінск, 1970; Александровіч С. Х. Пуцявіны роднага слова. Мінск, 1971; «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя», т. 7. Мінск, 1973, с. 462-463.

цоўных, прагне для іх хлеба, зямлі і асветы, хоча пашырыць сярод іх энергічнасць, салідарнасць і імкненне вызваліцца ад усіх балячак, эканамічных і грамадскіх... Прызнаючы за беларусамі права на самастойнае развіццё, як і за іншымі народамі, «Наша ніва» пашырае разуменне неабходнасці для Беларусі такога ладу, які забяспечыў бы развіццё беларускага народа... «Наша ніва» часта зазначае, што, адстойваючы інтарэсы беларусаў, не пашырае нянавісці ні да кога, паважае кожную народнасць. Яна таксама выразна падкрэслівае, што беларус дужа багата можа скарыстаць з вопыту цывілізаванай працы сваіх суседзяў, што ён павінен жменяй, колькі зможа ўзяць, чэрпаць асвету і навуку як з польскіх, так і з рускіх крыніц. Энергічна выступаючы ў абарону народнага самавызначэння Беларусі і беларускага народа, «Наша ніва» не дае сябе справакаваць рускім, польскім ці літоўскім нацыяналістам, якія гавораць пра беларускі рух або з неахвотай, або з падазрэннем. І часта сапраўды варты захаплення той такт і высакародныя вытрымка, з якімі выдаўцы «Нашай нівы» умеюць бараніць сваю справу перад нападкамі шавіністаў»[1].

У газеце вельмі часта друкаваліся пераклады асобных твораў вядомых рускіх (В. Бялінскі, Л. Талстой, М. Гогаль, А. Чэхаў, М. Горкі, У. Караленка, А. Купрын і інш.), польскіх (Э. Ажэшка, М. Канапніцкая, С. Жэромскі, К. Тэтмаер і інш.), літоўскіх (І. Білюнас) пісьменнікаў, змяшчалася інфармацыя пра эканамічнае і культурнае жыццё латышоў, эстонцаў, грузін, армян, якутаў, чувашоў і іншых народаў былой царскай Расіі. З'явіліся пераклады, прычым упершыню ў беларускай літаратуры, і з некаторых літаратур замежнага свету: англійскай (А. Уайльд), амерыканскай (Беламі), славацкай (Святазар Гурбан Баянскі), нідэрландскай (Мультатулі).

Трывалыя сувязі ўстанавіліся ў «Нашай Нівы» з Украінай. Можна смела сцвярджаць, што яны былі не менш моцныя і плённыя, чым сувязі газеты з тагачасным рускім і польскім грамадска-палітычным і культурным жыццём. У інфармацыйных аддзелах «Нашай нівы» часта змяшчаліся ўкраіназнаўчыя матэрыялы, прычым падбіраліся яны, як правіла, з прагрэсіўных, дэмакратычных пазіцый. Мясцовая цэнзура іх прапускала (ды і то далёка не заўсёды) толькі таму, што яны непасрэдна не датычыліся Беларусі. Трэба сказаць, што гэта своеасаблівае іншасказанне даволі часта выкарыстоўвалася газетай. Тагачасныя чытачы, спакушаныя ў розных формах «эзоповых речей» (У. І. Ленін), добра разумелі розныя намёкі, падтэкст, «затэкст» асобных газетных

---

[1] L. Wasilewski. Litwa i Białoruś. Kraków, 1912, s. 279, 281.

матэрыялаў, суадносячы апісаныя ў іх факты са сваім нялёгкім жыццём, так падобным на жыццё ўкраінцаў.

Пасля падаўлення рэвалюцыі 1905-1907 гг. у Расіі ўстанавіўся ваенна-палітычны тэрор. «Наша ніва», шырока выкарыстоўваючы ўкраінскія матэрыялы, знаёміла сваіх падпісчыкаў з грамадскім жыццём у краіне наогул. Так, у адным з нумароў паведамлялася, што ў Пецярбурзе адбыўся суд над прафесарамі Адэскага універсітэта Занчэўскім і Васькоўскім, якія ў 1905 г. «пазвалялі рабіць мітынгі ва універсітэце, аддалі адну залу на тое, каб складываць нябожчыкаў». Далей, яўна салідарызуючыся з ахвярамі царскага суда, газета піша: «Вашы імёны будуць напісаны светлымі літарамі і будуць прыпамінаць аб тых, што сталі за праўду, закон, навуку і дабро» (1909, № 11). З упартай паслядоўнасцю, з нумара ў нумар, малявала газета жахлівую карціну царскіх рэпрэсій, друкуючы паведамленні з Кіева, Харкава, Адэсы, Екацерынаслава, Палтавы і іншых украінскіх гарадоў. «У Екацерынаславе адбыўся суд над бастуючымі чыгуначнікамі. 41 смяротны прысуд (1909, № 1). «Кіеў. У с. Маянаве ўраднік з сотняй казакоў пераходзілі з хаты ў хату, секлі мужчын, дзяцей, забіралі дабро. Чатырох чуць жывых сялян прывезлі ў шпіталь» (1907, № 9). «Адэса. Па загадзе міністра асветы Касо многа студэнтаў, якія арганізоўвалі сходкі ва універсітэце, будуць высланы ў паўночныя губерні на высылку, некалькіх студэнтаў з Харкава сашлюць у Туруханскі край» (1911, № 4). Факты яскравыя і вымоўныя. Часта яны падаваліся самі па сабе, без каментарыя. Часамі ж газета шукала аднаведную літаратурную форму, каб патрэбная інфармацыя лягчэй даходзіла да сэрца і розуму селяніна-беларуса. Цікавая ў гэтым сэнсе замалёўка-анекдот «Хахлы і дракон»:

«Союз истинно русских людей», якіх у Расеі называюць «чарнасоценнікамі», раздае сярод хахлоў багата сваіх пракламацый. На некаторых ёсць і малюнкі. На адной пракламацыі быў нарысаваны крыж і св. Юрый, што коле пікаю дракона (вялікую гадзіну).

— Эге,— кажа хахол, зірнуўшы на малюнак,— глядзі, як стражнік з пікаю коле мужыка.

— Які табе стражнік,— навучае чарнасоценнік,— гэта ж св. Юрый цісне дракона.

— Дык той дракон і ёсць мужык,— здагадаўся хахол,— бо пан нашага брата іначай і не заве, як гадзінаю» (1907, № 7).

Часам адной нібы незнарок устаўленай у інфармацыю фразай з царскай улады зрывалася фальшывая маска добрапрыстойнасці. Апісваючы ў некалькіх нумарах крывавыя балі так званага «Союза русского народа» ў Адэсе, газета паказвала сапраўднага натхніцеля і

арганізатара садыстаў-чарнасоценцаў: «Падняўшы правіцельственны флаг, яны бегалі за праходзіўшымі людзьмі, урываліся ў хаты, білі мужчын, глуміліся над кабетамі. Паліцыя глядзела на іх работу і цешылася». І далей не без іроніі ў газеце заўважалася: «Не панясь нам, простым людзям, міністэрскага розуму: калі дазнаюцца, што чалавек належыць да якіх-небудзь сацыялістаў, то яго за гэта садзяць у турму, а чарнасоценцаў не караюць нават і тады, калі яны мучаць і забіваюць добрых людзей» (1907, № 7). Праўдзівыя і смелыя словы!

Рэпрэсіі царызму не змаглі зламаць рэвалюцыйнай барацьбы працоўных. Нібы агні маяка, успыхвалі ў цемры сталыпінскай рэакцыі паведамленні пра забастоўку шахцёраў Юзаўкі (1908, № 14), чыгуначнікаў Екацерынаслава (1908, № 1), пра паўстанне палітычных арыштантаў у Чарнігаўскай турме і арышт 19 сацыял-дэмакратаў у Кіеве (1909, №35-36). Перад беларусамі «наглядной агітацыяй» паўставалі прыклады мужнай барацьбы ўкраінскага рабочага класа, сялянства і рэвалюцыйнай інтэлігенцыі. Даведзеная да адчаю следчымі царскага суда, арыштантка адэскай турмы Алена Смірнова абліла сябе газай і запаліла, але перакананням сваім не здрадзіла (1908, № 10). У Екацерынаславе арыштаваным студэнтам удалося падарваць бомбай турэмную сцяну і ўцячы (1908, №10). У Жытоміры ў час вобыску ў семінарыі студэнты спявалі рэвалюцыйныя песні, жандараў і паліцыю закідалі абломкамі мэблі. Вобыск закончыць паліцыі так і не ўдалося (1908, № 11).

Рэвалюцыйныя падзеі ў Галіцыі таксама прыцягвалі ўвагу беларусаў. Так, сярод паведамленняў пра змаганне ўкраінскай студэнцкай моладзі «Наша ніва» друкуе і карэспандэнцыю пра падрыхтоўку ў Львове да свята Міжнароднага дня працоўных усяго свету — Першага мая. Таксама, як і ў гарадах Англіі і Францыі, Нямеччыны і іншых краін, у Львове адбываюцца «працэсіі работнікаў з песнямі і чырвонымі сцягамі, пад вечар — выставы і гулянні» (1909, № 17). У іншым нумары газеты паведамлялася пра перадсвяточныя захады кіеўскіх рабочых: «У Кіеве на беразе Дняпра арыштавалі 18 рабочых, найбольш членаў прафсіянальных хаўрусоў. Пры іх знайшлі пракламацыі аб святкаванні Першага мая» (1911, № Кі 17). Цікава, што гэтыя дзве заметкі былі змешчаны ў нумарах газеты, якія выйшлі ў канцы красавіка, напярэдадні першамайскага свята. Такім чынам чытачам газеты яшчэ раз нагадвалася пра свята і падказвалася магчымая форма, як яго лепш адзначыць.

Такіх паведамленняў з розных месц Украіны публікавалася нямала. Яны прымушалі беларусаў пільней прыглядзецца да свайго

ўласнага жыцця, такога ж горкага і бясправўнага, клікалі да змагання за лепшую долю.

Чарнасоценскае «Минское слово» (1908, № 427) з непрыхаванай злосцю пісала пра «Нашу ніву», быццам у ёй з'явіліся незамаскіраваныя заклікі да ўзброенага паўстання і захопу зямлі ў паноў, да непадначалення ўраду, забастовак і г. д., называла яе «сацыялістычнай». Зразумела, «сацыялістычнай» «Наша ніва» не была, як не было сацыялістычным ніводнае падцэнзурнае выданне, што выходзіла на тэрыторыі тагачаснай Беларусі. У ёй, як і ў іншых легальных дарэвалюцыйных выданнях дэмакратычнага кірунку, «немінучымі былі недарэчныя саюзы, ненармальныя «сужыцці», фальшывыя прыкрыцці» (У. І. Ленін). Асноўныя пытанні на яе старонках вырашаліся з пазіцый ліберальна-буржуазных. Так, калі ў 1906 г. у жыцці Расіі адной з важнейшых падзей сталі выбары ў Дзяржаўную думу, «Наша ніва» пэўны час схільна была бачыць у Думе надзейны шлях вырашэння некаторых балючых праблем сучаснасці. У гэтым сэнсе паказальныя таксама «ўкраінскія» матэрыялы. Газета пастаянна змяшчала паведамленні пра ход выбарчай кампаніі, друкавала партрэты асобных украінскіх паслоў у Думу, справаздачы сялянскіх дэпутатаў з Украіны перад сваімі выбаршчыкамі. У № 8 «Нашай нівы» за 1907 г. чытаем: «Кіеў. У горад прыехалі мужыцкія дэпутаты. Яны вязуць з сабой з вёсак наказы з тысячамі подпісаў. У гэтых наказах мужыкі трэбуюць зямлі і свабоды, роўных правоў для ўсіх народаў, агульнага абучэння, амністыі і скасавання смерці змагарам за волю, што знемагаюць у турмах». Газета адзначала згуртаванасць сялян, катэгарычнасць іх вымог. Пільна сочачы за гарацай Думы, выступленнямі яе дэпутатаў, «Наша ніва» не мінала і асобных фактаў здрадніцкай палітыкі царскага ўрада. У газеце з'яўляюцца паведамленні пра звальненне з працы ўпраўляючага Кіеўскім аддзяленнем Сялянскага зямельнага банка Ахрымовіча за абарону інтарэсаў сялян (1907, № 17), пра смерць у Бярдзічаўскай турме арыштаванага за агітацыю сярод сялян колішняга дэпутата II Думы Сапавенкі (1909, № 17). І калі раней газета, гаворачы пра пастаноўку ў Думе пытання «зямля — сялянам», толькі намякала, што «трэба народу самому не спаць, бо печаныя галубы толькі дурню далятаюць да губы», то з часам яна пачынае мяняць свой погляд. Так, заметкай «Хадок і дэпутаты», перадрукаванай з украінскай газеты «Рідна справа», чытачы падводзяцца да высновы: сепадзяванні на Думу — марныя, зямлю ад пануючых класаў можна адабраць толькі шляхам яе «принудительного отчуждения».

Украінскіх матэрыялаў на старонках беларускіх газет, у тым ліку і «Нашай нівы», з часам становіцца ўсё больш і больш. У 1909-1910 гг. украінская тэма гучыць не толькі ў шматлікіх заметках, паведамленнях, артыкулах і карэспандэнцыях, але і ў абагульненасістэматызаваным аглядзе пад назвай «Лісты з Украіны».

Агляд «Лісты з Украіны» належыць пісьменнікам Я. Журбе і С. Палуяну, якія ў той час атрымлівалі на Украіне вышэйшую асвету. Яны пастаянна інфармавалі беларусаў пра ўкраінскае грамадска-палітычнае і культурнае жыццё, цікавасць укранцаў да беларускай літаратуры і г. д. Іх допісы насычаны багатым фактычным матэрыялам, прасякнуты духам братэрскай павагі да Украіны і яе народа, напоўнены пачуццём удзячнасці за разуменне і дапамогу. Першы з «Лістоў» — «Пра еднасць між беларусамі і ўкраінцамі» («Наша ніва», 1909, № 13-14) — быў, па сутнасці, кароткім гістарычным аглядам украінска-беларускага яднання з XIV ст. і ажно да пачатку XX ст. Паэт Журба пісаў: «Жывучы на Украіне, я пераканаўся, што паміж намі, беларусамі і ўкраінцамі, ёсць багата чаго агульнага — як у гістарычнай долі, так і ў цяперашнім жыцці... Але найперш і найбольш гэту супольнасць бачым у нацыянальнай справе абодвух братніх народаў. Адрознасць толькі ў тым, што ўкраінская нацыянальная справа значна апярэдзіла беларускую». Беларуская інтэлігенцыя імкнулася ліквідаваць гэту розніцу. Прыкладам для яе на некаторы час стала праца ўкраінцаў па развіцці сваей культуры і літаратуры.

Прагрэсіўная ўкраінская інтэлігенцыя зрабіла нямала, каб данесці друкаванае слова, кнігу, часопіс у найбольш непісьменныя сялянскія і рабочыя масы, якія, па словах У. І. Леніна, «былі аграбленыя ў сэнсе асветы, святла і ведаў». Арыентуючыся на працу ўкраінцаў, беларускія пісьменнікі, публіцысты заклікалі сваіх землякоў браць прыклад з іх «карыснага пачынання». Так, беларусы дазнаваліся, што «ў Палтаўскім земстве адкрыта 14 новых бібліятэк, 20 аддзяленняў земскай кнігарні» (1909, № 40), што харкаўскія рабочыя пабудавалі за свой кошт (114 тыс. рублёў) будынак, дзе размяшчаецца тэатр, бібліятэка, рамесная і пачатковая школы (1910, № 2), што ўкраінская «Просвіта» налічвае 140 тыс. членаў, мае ў розных месцах 74 аддзяленні, 2468 народных чытальняў, 540 крам, 339 ашчадных кас, акрамя таго, адкрыла гандлёвую, сельскагаспадарчую, зямельную школы і школу для хатніх гаспадынь, арганізуе курсы для непісьменных, аплачвае за навучанне 43 вучняў і інш. (1913, N° 1). Палкая агітацыя праз газету сеяць у народзе зерні навукі, культуры, ведаў не была марнай. Дзе-нідзе і ў Беларусі пачынаюць

адкрывацца народныя чытальні. Газета дае парады, як арганізаваць бібліятэку, падае арыенціровачны спіс неабходнай літаратуры, раіць выпісваць танныя і даступныя выданні кіеўскай «Просвіти».

Гаворачы пра дзейнасць украінскіх асветніцкіх арганізацый дарэвалюцыйнага часу, неабходна падкрэсліць, што яна ў цэлым адбывалася ў рэчышчы буржуазнай плыні. Аднак сама гэта плынь была далёка не аднароднай, складалася з некалькіх струменяў: «буржуазна-дэмакратычнага, ліберальна-буржуазнага і буржуазна-нацыяналістычнага. Першыя эвалюцыяніравалі да дэмакратызму і садыялізму, іншыя — у бок кансерватызму і рэакцыі»[1].

У сваіх матэрыялах «Наша ніва» не заўсёды звяртала ўвагу на існаванне ва ўкраінскім асветніцкім руху гэтых струменяў, не адзначала розніцы паміж імі. Адна з прычын гэтага — у тым, што газета, як мы ўжо казалі, не была сацыялістычнай, узброенай перадавым марксісцка-ленінскім светапоглядам. Ёй, як і многім іншым агульнадэмакратычным легальным выданням, уласціва была пэўная вузкасць сацыяльна-палітычных ацэнак. Апрача таго, яна імкнулася прапагандаваць толькі лепшае, прагрэсіўнае, што было ў дзейнасці ўкраінскай «Просвіти». Рэакцыйнае, нацыяналістычнае (а ўкраінскія нацыяналісты ўвогуле пагарджалі ўсім беларускім) не бралася пад увагу, ігнаравалася.

Для беларускай і ўкраінскай перадавой інтэлігенцыі пачатку XX ст. агульнай была не толькі садыяльна-вызваленчая, але і нацыянальна-вызваленчая барацьба. Змаганне за нацыянальнае адраджэнне, якое асабліва ўзмацнілася ў час рэвалюцыйнага ўздыму 1905-1907 гг., было з'явай прагрэсіўнай. У. І. Ленін, падкрэсліваючы прагрэсіўнасць барацьбы супраць усялякага нацыянальнага гнёту, засцерагаў у той жа час ад абстрактнага ўспрымання такіх паняццяў, як «нацыянальнае развіццё», «нацыянальная культура», што ва ўмовах буржуазнага грамадства азначала зліццё двух класава процілеглых пачаткаў — буржуазнага і дэмакратычнага. Разам з тым У. І. Ленін, гаворачы пра ўкраінскі і беларускі нацыянальна-вызваленчы рух пачатку XX ст., выразна адзначаў, што «для ўкраінцаў і беларусаў, напр., толькі чалавек, які ў марах жыве на Марсе, мог бы адмаўляць, што тут няма яшчэ завяршэння нацыянальнага руху, што прабуджэнне мае да ўладання роднай мовай і яе літаратурай... тут яшчэ адбываецца»[2].

---

[1] Революційне оновлення літературн. Київ, 1970, с. 110.
[2] Ленін У. І. Творы, т. 23, с. 27—28.

Перадавая беларуская інтэлігенцыя ў асобе Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, Цёткі, Ц. Гартнага і іншых у адстойванні для сваёй мовы самастойнага месца ў сям'і іншых славянскіх моў кансалідавалася з прагрэсіўнымі сіламі ўкраінскага народа. У прыватнасці, узнімаючы пытанне пра выкладанне асобных прадметаў у пачатковай і вышэйшай школе на роднай мове, яна апелявала да фактаў украінскага жыцця. Права выкладаць у школе на роднай мове дамагаліся некаторыя дэпутаты II Думы; гэта ж пытанне было ў цэнтры ўвагі народных настаўнікаў Украіны, што сабраліся на свой першы з'езд у Екацерынаславе, стаяла на парадку дня работы Усерасійскага з'езда настаўнікаў у Пецярбурзе.

З найбольшай паўнатой гісторыя барацьбы за стварэнне ўкраінскай нацыянальнай школы асвятлялася ў «Лістах з Украіны» (лісты II, III — 1909, № 15-16). Адшуканыя намі розныя архіўныя матэрыялы сведчаць таксама, што «Наша ніва» падтрымлівала кантакты з многімі настаўніцкімі суполкамі Украіны, вяла абмен інфармацыяй з выданнямі «Український учитель» і «Рідна школа». Аднак усё гэта не толькі было звычайным абменам думкамі, маральнай і ідэйнай падтрымкай, але і мела сваё канкрэтнае, практычнае выяўленне. Відавочна, гэтыя сувязі ў немалой ступені стымулявалі выданне часопіса «Белорусский учитель», адкрыццё першых беларускіх нацыянальных школ. Цікава, што Віленская школьная камісія, улічваючы адсутнасць падручнікаў па беларускай мове, прапанавала выкарыстоўваць падручнікі на іншых, блізкіх і зразумелых, мовах. Гэта пастанова прадбачыла, у прыватнасці, выкарыстанне і ўкраінскіх падручнікаў[1].

У архіве «Нашай нівы» захаваўся вялікі, на дзве старонкі, спіс украінскіх школьных падручнікаў. Сярод іх: Пачовський Мих. Ф. Ілюстроване українсько-руське письменство в житі описах, ч. 1. Львів, 1909; Макарушка Остап. Короткий огляд русько-українського письменства від XI-XVIII ст. Львів, 1906; Левицький Юл. Географія для першоі кляси середніх шкіл. Львів, 1911; Рахунки для шкіл народних, ч. 2, 3, 4. Львів, 1914; Початки науки німецького язика для 3, 4 кляси народних шкіл. Львів, 1914[2].

З іншых архіўных матэрыялаў (кніга рахункаў, копіі лістоў ва ўкраінскія газеты і часопісы) відаць, што Віленскае выдавецкае таварыства «Наша хата», якое сур'ёзна рыхтавалася да выдання беларускіх падручнікаў, збірала з гэтай мэтай розныя кнігі —

[1] ДзАЛМ, ф. 3, воп. 1, адз. зах. 192, арк. 222.
[2] Там жа, арк. 1, 2.

падручнікі К. Ушынскага, кнігі для дзяцей Л. Талстога, а таксама ўкраінскія чытанкі.

Пэўнае значэнне для станаўлення нацыянальнай свядомасці беларусаў, асабліва моладзі, мела азнаямленне з украінскім студэнцкім рухам. У некаторых украінскіх універсітэтах, як паведамляла «Наша ніва», «завялі новыя навукі, каб студэнты пазнавалі і свой родны край, Украіну, і яго гісторыю, літаратуру... Пра Украіну вучаць цяпер па-ўкраінску — у роднай мове іхніх мужыкоў, якія да астатняга часу, як і нашы беларусы, уважалі яе за «хамскую», непрыдатную для навукі» (1907, № 33). Гэты прыклад украінцаў усяляў надзеі, абуджаў веру: «Зважаючы на тое, да чаго прыйшлі нашы браты-ўкраінцы, чалавек пачынае верыць, што і нашы беларусы, наша родная мова не загінуць дарэмна. Цяпер можна мець надзею, што пойдзе скрозь і па нашым краі святло навукі, што і наш цёмны беларус прачнецца ад цяжкага сну і пазнае ў сабе чалавека» (1907, № 33). Неажыццёўленая надзея штурхала да актыўнага дзеяння. Ужо самі беларусы пачынаюць дамагацца вывучэння ў Віленскім універсітэце гісторыі беларускага народа, яго мовы і літаратуры (1908, № 12).

С. Палуян у сваіх допісах з Украіны звяртаўся да беларускай і ўкраінскай моладзі з заклікам яднаць сілы, каб дапамагчы «свайму народу выбіцца з цемнаты адвечнай», здабыць светлае і шчаслівае будучае. Выказваючы глыбокую перакананасць у тым, што «Кіеў можа і павінен зрабіцца (пакуль у нас на беларускай зямлі не будзе вышэйшых школ, у якіх моладзь магла б вучыцца, не выязджаючы з роднага краю) адным з цэнтраў беларускай нацыянальнай працы», Палуян канчае свой допіс словамі-парадай вялікага Кабзара:

І чужому научайтесь,
И свого не цурайтесь.
Бо хто матір забувае,
Того бог карае... (Ліст IX, 1909, № 34.)

У іншым «Лісце з Украіны» (ліст VI) даецца характарыстыка атмасферы братняй узаемапавагі, разумення і падтрымкі, што існавала паміж перадавой украінскай і беларускай моладдзю той пары. Так, у 1909 г. прафесар Харкаўскага універсітэта Л. Пагодзін арганізаваў для групы студэнтаў падарожжа па Расіі і Аўстра-Венгрыі, каб азнаёміць іх з жыццём і культурай розных славянскіх народаў. З выпадку прыезду моладзі ў Кіеў прагрэсіўная ўкраінская грамадскасць наладзіла ва Украінскім клубе вечар дружбы рускіх, беларусаў і ўкраінцаў. На вечары выступіў Мікола Лысенка, які падкрэсліў, што «гэтыя першыя крокі да зближэння народаў і пазнання адзін аднаго маюць велізарнае культурнае значэнне». У вы-

ступленнях усіх прамоўцаў, у прыватнасці прафесароў Пагодзіна і Ператца, рускіх студэнтаў, беларускага крытыка Альгерда Бульбы, чырвонай ніткай праходзіла думка: «Жывую сілу адраджэння народа нельга стрымаць... настаў час, каб народы, забыўшы свае крыўды нацыянальнага ўціску, падалі адзін аднаму рукі» (1909, № 25).

У газеце была звернута ўвага на працу Усеславянскага з'езда прагрэсіўных студэнтаў, што па ініцыятыве чэхаў сабраўся ўлетку 1908 г. у Празе. Беларусы падалі і свой голас за тое, каб паміж усімі славянскімі народамі існавала дружба і ўзаемаразуменне, заклікалі да інтэрнацыянальнага яднання прагрэсіўнай студэнцкай моладзі.

У самавыяўленні кожнага народа вялікую ролю адыгрывае нацыянальная прэса. Перыядычны нацыянальны друк на пачатку XX ст. быў не толькі сведчаннем духоўнай сталасці нацыі, — ён сам актыўна спрыяў развіццю яе духоўнага патэнцыялу. Добра вядома, што газета з'яўляецца не толькі выдатным прапагандыстам тых ці іншых поглядаў, але і ў значнай ступені арганізатарам чытацкай аўдыторыі. Не дзіўна таму, што беларускія пісьменнікі і публіцысты, імкнучыся пашырыць даволі вузкае кола тагачасных перыядычных выданняў на беларускай мове, звярталіся да фактаў, звязаных з развіццём рускай і польскай, а таксама ўкраінскай прэсы.

У беларускіх газетах вельмі часта даваліся аб'явы на розныя ўкраінскія выданні, у прыватнасці «Літературно-наукоівий вісник», ілюстраваны каляндар «Просвіти» і г. д. Магчыма, некаторыя беларусы і выпісвалі гэтыя выданні. Але, думаецца, галоўны разлік тут быў не ў тым, каб залучыць украінскім выданням як мага большую колькасць падпісчыкаў. Трэба было паказаць беларусам, што ў суседзяў, прыгнечаных не менш, усё ж справы ў галіне духоўнага адраджэння ідуць значна лепш.

У адным з нумароў за 1909 г. «Наша ніва» змясціла на ўвесь газетны разварот фотаздымак. На ім чытачы маглі ўбачыць літаральна ўсе ўкраінскія газеты і часопісы, што выдаваліся на працягу 1905-1909 гг. У рэдакцыйнай нататцы падкрэслівалася, што так званая «свабода друку» стала фактычна фікцыяй. Па волі мясцовага начальства шмат украінскіх выданняў канфіскавана, іншыя закрыты на першым нумары, а некаторыя і зусім не атрымалі дазволу выйсці ў свет. Знамянальна, што на фотаздымку, які друкаваўся ў самы разгул контррэвалюцыйнай рэакцыі, былі паказаны і некаторыя адкрыта равалюцыйныя выданні. Сярод іх — адно з самых прагрэсіўных выданняў, адразу закрытых царскім урадам, першы гумарыстычна-сатырычны часопіс на Украіне — «Шершень» (1906). Фотаздымак суправаджаўся недвухсэнсоўным каментарыем: «Усе, для каго

непрыемна адраджэнне заціснутага народа, заўсёды косым вокам пазіралі на ўкраінскія нацыянальныя газеты. Але ўкраінцы так моцна трымаюцца за свой родны грунт, што нічым не запужаеш іх. Грошы на выданні дае сам народ, выпісваючы ва ўсе куткі вялікай Украіны газеты на роднай мове» (1909, № 38).

Фатаграфія, змешчаная ў газеце, з'явілася, апрача ўсяго, і своеасаблівым указальнікам адрасоў, па якіх можна было легка адшукаць лепшыя ўзоры ўкраінскага пісьменства. Так, ёй указвалася на асобныя творы І. Франка, Лесі Украінкі, М. Кацюбінскага, А. Крымскага, А. Алеся, В. Стэфаніка, Н. Кабрынскай, што займалі вядучае месца ў асноўным тагачасным літаратурным выданні на Украіне — «Літературно-науковим віснику», былі прадстаўлены ў тыднёвіку «Шершень». «Наша ніва» адпраўляла чытача таксама да газеты «Українська думка», адным з актыўнейшых супрацоўнікаў якой быў Б. Грынчэнка і якая «разбудзіла шырокую цікавасць да ўкраінскага друкаванага слова, стала першай штодзённай газетай, што досыць поўна адлюстроўвала рэвалюцыйны ўздым у Расіі і на Украіне, барацьбу працоўных супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту»[1]; да часопіса «Украіна», які на працягу 1907 г. уздымаў важныя праблемы грамадска-культурнага жыцця, розныя навуковыя пытанні, змяшчаў грунтоўныя працы пра развіццё ўкраінскай мовы і літаратуры.

Па-добраму зайздросцячы ўкраінцам, якія мелі значна шырэйшую, чым беларусы, магчымасць друкаваць як літаратурныя творы, так і навуковыя працы «па гісторыі, этнаграфіі, пра законы і правы роднага народа», «Наша ніва» прапануе беларускім літаратурна-навуковым сілам выкарыстаць заклік аднаго з кіеўскіх часопісаў і пачаць супрацоўнічаць ва ўкраінскіх выданнях. С. Палуян, выказваючы пачуццё глыбокай удзячнасці да ўкраінцаў за братнюю падтрымку, пісаў з гэтата выпадку: «Такі крок наперад... можна толькі горача вітаць, ён павінен прынесці вялікую карысць абодвум братнім народам» (1909, № 33).

У беларускай газеце было змешчана нямала і іншых матэрыялаў пра Украіну, яе грамадскае жыццё, украінскую культуру і літаратуру. Усе яны, актывізуючы барацьбу за духоўнае адраджэнне, развіццё (беларускай мовы, культуры і літаратуры, спрыялі адначасова і ўмацаванню дружбы паміж украінскім і беларускім народамі.

М. Горкі, гэты, па словах У. І. Леніна, «бясспрэчны аўтарытэт» у галіне пралетарскай культуры, пісаў у 1911 годзе ў артыкуле «Пра

[1] Історія української літератури, т. 5. Київ, 1968, с. 58.

пісьменнікаў-самавукаў»: «Чытачу варта было б паглядзець «Нашу ніву» — яна многа цікавага скажа яму»[1]. Буравеснік рэвалюцыі меў На ўвазе перш за ўсё творы беларускіх пісьменнікаў, што змяшчаліся на яе старонках, а таксама некаторыя матэрыялы грамадска-палітычнага характару. Аднак словы гэтыя ў няменшай ступені могуць быць адрасаваны і да ўкраіназнаўчых публікацый газеты.

### Сіла жывога слова

У літаратурным абмене паміж беларускім і ўкраінскім народамі на пачатку XX ст. былі агульныя формы рэпрэзентацыі славеснай культуры. Гэта перш за ўсё літаратурная інфармацыя, крытычны артыкул і літаратурны агляд, літаратурнае даследаванне, а таксама мастацкі пераклад. Аднак, апрача гэтага, украінская літаратура, у прыватнасці драматургія, драматычныя творы І. Катлярэўскага, Т. Шаўчэнкі, Г. Квіткі-Аснаўяненкі, М. Крапіўніцката, М. Старыцкага, І. Табілевіча, былі даволі шырока прадстаўлены беларусам са сцэны, у форме тэатральных паказаў. Гэтаму спрыялі частыя гастролі ў беларускіх гарадах і вёсках украінскіх тэатральных калектываў, што распачаліся ў XIX ст. і актыўна працягваліся на пачатку XX ст.

Як сведчаць матэрыялы Дзяржаўнага гістарычнага архіва БССР, а таксама тагачасная прэса, у Беларусі не было фактычна ніводнага больш-менш значнага горада ці мястэчка, не кажучы ўжо пра губернскія гарады, дзе б не выступалі да рэвалюцыі вандроўныя трупы ўкраінскіх акцёраў. Зыходзячы з самой сутнасці гастроляў (непасрэдная сувязь творчых прадстаўнікоў аднаго народа з іншым народам), а таксама прымаючы пад увагу тое, што ўкраінскія тэатральныя калектывы не толькі выконвалі функцыю азнаямленчую, але і аказвалі адчувальны ўплыў на развіццё беларускай культуры, у тым ліку тэатральнай, правільным будзе вызначыць гастролі ўкраінскіх артыстаў як своеасаблівае праяўленне кантактна-генетычных беларуска-ўкраінскіх сувязей.

Пачатак XX ст.— час станаўлення беларускага нацыянальнага прафесійнага тэатра. Пра значэнне тэатра ў духоўным жыцці нацыі добра сказаў яшчэ да рэвалюцыі М. Гарэцкі: «...У адраджэнні кожнага народа (украінцы) тэатр — сіла непамерная, а ў адраджэнні беларусаў, з іхняй псіхікай, іхнім дэмакратызмам, ён можа адыграць вялікую ролю». У свой час гэтыя словы Я. Купала паставіў эпіграфам да сваёй рэцэнзіі на першы паказ «Залётаў» В. Дуніна-Марцінкевіча

[1] Горький М. Собрание сочинений в 30-ти томах, т. 24. М„ 1953, с. 135.

сіламі Віленскай аматарскай трупы («Наша ніва», 1915, № 5). Прагрэсіўная беларуская інтэлігенцыя, адстойваючы права на існаванне нацыянальнай драматургіі і тэатра, з падмосткаў якога, як з трыбуны, можна было б выступаць у абарону прыгнечанага народа, звярталася да творчага вопыту ўкраінскага тэатральнага мастацтва.

Пра поспехі ўкраінскага тэатра пісалі ў Беларусі амаль усе тагачасныя перыядычныя выданні, як беларускія, так і рускія. Нават такія рэакцыйныя органы правінцыяльнай рускай прэсы, як «Минское слово» и «Минское эхо», рэцэнзуючы спектаклі трупы П. Саксаганскага, якая гастралявала ў Мінску восенню 1908 .г., не маглі не адзначыць яе высокага мастацкага ўзроўню. З гісторыяй развіцця і станаўлення ўкраінскага нацыянальнага тэатра беларусы знаёміліся і ў аглядах «Лісты з Украіны». Так, невядомы аўтар, што схаваўся пад крыптанімам «Я.Г.», расказваў пра нараджэнне ў 1882 г. першага ўкраінскага прафесійнага тэатра пад кіраўніцтвам М. Крапіўніцкага. «Хоць па закону ў тэатры дазвалялася ставіць п'есы толькі з сялянскага жыцця,— дазнаваліся чытачы «Нашай нівы»,— хоць у тых п'есах можна было гаварыць толькі, бадай, пра само каханне, але ўсё ж тэатр быў такім месцам, дзе гучала жывая ўкраінская мова, дзе можпа было ў жывых вобразах бачыць жыццё ўкраінскага сялянства» (1910, № 8). Накрэсліўшы асноўны напрамак развіцця ўкраінскага тэатра, які ішоў па шляху рэалізму і народнасці, карэспандэнт газеты знаёміў чытачоў з вялікімі сцэнічнымі талентамі, карыфеямі ўкраінскага тэатра — Крапіўніцкім, братамі Табілевічамі, Занькавецкай, «якія сваёй цудоўнай ігрой прымушалі хадзіць у тэатр не толькі ўкраінцаў, але і людзей іншых пацый».

У гады першай рускай рэвалюцыі ўкраінскае тэатральнае мастацтва канчаткова парывае з танным этнаграфізмам. Аўтар «Лістоў з Украіны» дае досыць аб'ектыўную характарыстыку тэатральнаму рэпертуару. «Старыя п'есы,— піша ён,— дзе толькі гаварылася пра каханне і пра выпіўкі і дзе абавязкова спяваліся песні і танцавалі «казачка», сышлі са сцэны, а іх месца займаюць пераважна рэчы, дзе можна пабачыць жыццё без якіх-небудзь прыкрас». Тагачаснае ўкраінскае мастацтва заваёўвала сабе месца поруч з мастацтвам іншых народаў свету. У рэпертуары тэатральных калектываў, апрача арыгінальных п'ес, з'яўляюцца і перакладныя, сярод іх творы Гогаля, Чэхава, Ібсена, Гаперстама і многіх іншых пісьменнікаў. Адраджаецца і ўкраінская опера. І тут, побач з уласнымі творамі, гучаць перакладныя — «Галька» Манюшкі, «Сельскі гонар» Маскані і інш. Ажыўляецца культурна-мастацкае жыццё ўкраінскага народа. «Забытая ўсімі Беларусь,— чытаем далей у тым жа допісе,— пазней за Украіну вый-

шла на сцежку нацыянальната развіцця, і яна па гэтай сцежцы павінна ісці, не губляючы са сваіх вачэй старшую сваю сястру — Украіну».

Безумоўна, арыгінальнае аблічча любога тэатра вызначае ў першую чаргу яго рэпертуар. Яшчэ І. Франко ў сваім гістарычным нарысе пра «Руска-ўкраінскі тэатр» горача адстойваў гэта палажэнне, востра крытыкуючы «ідэалістычны і фантастычны» план Л. Трашчакіўскага, паводле якога стварэнне ўкраінскага народнага тэатра ў Галіцыі павінна было пачынацца з падбору акцёраў[1]. Украінскія вандроўныя трупы мелі велізарны поспех сярод беларускага гледача менавіта таму, што ў іх рэпертуары былі шэдэўры ўкраінскай драматургіі, творы І. Катлярэўскага, Т. Шаўчэнкі, М. Крапіўніцкага, М. Старыцкага, І. Карпенкі-Карага. Зразумела, папулярнасці спектакляў садзейнічала і высокаталенавітая ігра многіх артыстаў.

Геній украінскага народа, што выяўляўся ў літаратуры і тэатры, звычаях, песнях і музыцы, жыццядзейна ўплываў на абуджэнне духоўных сіл беларусаў. Гледачоў уражвалі праўдзівыя, рэалістычныя карціны цяжкага народнага жыцця, прываблівала крытыка асобных бакоў існуючага ладу, адлюстраванне свабодалюбівых імкненняў народа. Сваёй сапраўднай дэмакратычнай скіраванасцю ўкраінская драма заваявала ў беларусаў такія сімпатыі, такую шчырую любоў і павагу, што на пэўны час стала амаль незаменнай у іх духоўным жыцці. Адсюль зразумела, чаму яна аказала такі вялікі ўплыў і на станаўленне нацыянальнай беларускай драматургіі і тэатра пачатку XX ст.

Першымі пастаноўкамі беларускіх драматычных аматарскіх гурткоў (як у Беларусі, так і за яе межамі), а таксама першага беларускага прафесійнага тэатра на чале з І. Буйніцкім, былі творы ўкраінскіх тэатральных класікаў — І. Катлярэўскага, М. Крапіўніцкага, І. Карпенкі-Карага. Так, драматычны гурток вёскі Астрамечава Гродзенскай губерні ў 1908 г. узяўся за пастаноўку «Наталкі Палтаўкі» Катлярэўскага. Трэба адзначыць, што гэта вёска жыла, як на той час, даволі інтэнсіўным культурным жыццём. У ёй была адкрыта ці не найбольшая тады ў Беларусі сельская бібліятэка. Грашамі і кнігамі атрымоўвала бібліятэка дапамогу ад самога М. Горкага. Апрача таго, сялянам Астрамечава прысылалі кнігі Л. Талстой і «Парыжскае таварыства сяброў рускага народа», старшынёй якога з'яўляўся вядомы французскі пісьменнік Анатоль Франс[2]. Безумоўна, у вясковай бібліятэцы было нямала розных драматычных твораў і

---

[1] Гл.: Франко Іван. Твори, т. 16, с. 244.
[2] Гл.: Максім Горкі і Беларусь. Мінск, 1968, с. 127.

інсцэнізацый. Аднак вясковыя аматары спынілі свой выбар менавіта на неўміручай «Наталцы Палтаўцы». Не маючы беларускага перакладу гэтага твора, шэсць хлопцаў і двое дзяўчат з дапамогай М. Раманскага, тагачаснага студэнта Пецярбургскага універсітэта, вывучылі на памяць украінскі арыгінал. 20 ліпеня 1908 г. «Наталка Палтаўка» з поспехам была паказана навакольным сялянам, што сабраліся ў прасторнай зале народнага вучылішча суседняга мяістэчка Арэнічы[1].

У другой вёсцы той жа Гродзенскай губерні, Вялікія Кленікі, сяляне па прапанове аднаго студэнта-беларуса паставілі п'есу І. Карпенкі-Карага «Разумны і дурань». Са сваёй пастаноўкай вясковыя артысты аб'ездзілі нямала навакольных вёсак і мястэчкаў. Падбадзёраныя і заахвочаныя гледачамі, яны аднойчы нават пяшком ішлі 18 вёрст, каб выступіць у Бельску, перад насельнікамі гэтага павятовага гарадка[2].

У адным з нумароў «Наша ніва» паведамляла (1908, № 26), што на Брэстчыне артысты-аматары, імкнучыся займець свой нацыянальны рэпертуар, пераклалі на беларускую мову ўкраінскую п'есу «Барацьбіты за мары», («Борці за мріі»). Цікава, што праз год зноў з'яўляецца паведамленне пра пераклад гэтага твора, на гэты раз ужо ў іншым месцы. У аддзеле рэдакцыйнай пошты чытаем: «Смаргонь. Н. М-ну. Як толькі пераложыце ўсю ўкраінскую драму «Борці за мріі», то прышліце. Збіраемся выдаць кніжку для беларускага тэатра». У тым жа нумары газета падае за подпісам нейкага М. інфармацыю пра гастролі ў Смаргоні ўкраінскай драматычнай трупы. Артысты ігралі добра, мясцовыя жыхары сустракалі іх дужа цёпла, таму ўкраінцы прабылі ў Смаргоні даўжэй, чым планавалася, і далі там некалькі прадстаўленняў.

Відавочна, што невядомы нам смаргонскі карэспандэнт, які паведамляў пра гастролі ўкраінскіх артыстаў, і перакладчык п'есы «Борці за мріі»— адна і тая ж асоба. Факт гэты цікавы ў тым сэнсе, што непасрэдна паказвае ўплыў украінскага тэатральнага мастацтва на культурнае жыццё беларусаў, станаўленне беларускай драматургіі.

У той час слава пра ўкраінскі тэатр пашыралася не толькі па ўсёй Расіі, але і за яе межамі. Беларусы, для якіх жыццё ўкраінцаў і іх творчасць былі асабліва блізкімі, з першых гадоў існавання ўкраінскага прафесійнага тэатра горача палюбілі яго. Яны імкнуліся бліжэй пазнаёміцца з тэкстамі п'ес. Некаторыя з пісьменных гледачоў хацелі мець друкаваныя тэксты ўкраінскіх твораў, каб глыбей зразу-

[1] «Наша ніва», 1908, № 17.
[2] «Наша ніва», 1909, № 40.

мецъ сутнасць тэатральнай пастаноўкі. Часам украінская п'еса трапляла ў вясковую чытальню і станавілася тады агульным здабыткам. Моладзь, як правіла, выкарыстоўвала яе для сваіх аматарскіх спектакляў. А здаралася і так (як гэта мы бачым з прыгаданай вышэй інфармацыі ў «Нашай ніве»), што твор трапляў да чалавека, які меў схільнасць да літаратурнай працы. У выніку гэтага ўзнікаў пераклад, а падчас і новы, беларускі варыянт украінскага твора. Праўда, да пэўнага часу ўсё гэта дзеелася ў рэчышчы звычайнай самадзейнасці. Аднак і такая самадзейнасць мела немалаважнае значэнне — як першы крок, падступ па шляху да планамернай, прафесійнай літаратурнай працы.

Як склаўся далейшы лёс беларускіх перакладаў «Барацьбітоў за мары», высветліць цяжка. Затое даволі выразна акрэсліваецца гісторыя «абеларушвання» іншых твораў украінскай драматургіі — «Пашыліся ў дурні» і «Па рэвізіі» М. Крапіўніцкага.

У артыкуле «Беларускі тэатр», змешчаным у віленскай газеце «Роман» у 1916 г., паведамлялася, што яшчэ ў канцы XIX ст. у Беларусі вясковая моладзь пачала ставіць камедыі, перакладзеныя, галоўным чынам, з украінскай мовы. «У 90-х гадах была перакладзена на беларускую мову камедыя М. Крапіўніцкага «Па рэвізіі»[1]. Іншыя крыніцы сведчаць, што пераклад п'есы «Па рэвізіі» быў ажыццёўлены ў 1902 г. Н. Чарноцкім; беларускі варыянт гэтага твора з поспехам ставіўся аматарскімі гурткамі падчас рэвалюцыйнага ўздыму 1905-1907 гг.[2] Як бы там ні было, а на пачатку 1908 г. «Наша ніва» паведамляла сваім чытачам: «Друкуецца для народнага тэатра «Па рэвізіі» Крапіўніцкага. Скора выйдзе» (1908, № 7). На жаль, выдавецкіх планаў ажыццявіць не ўдалося, а сам пераклад, зроблены Чарноцкім, да нашага часу не адшуканы.

Тым не менш пераклад гэтай п'есы М. Крапіўніцкага быў усё-такі выдадзены ў 1911 г. пецярбургскай выдавецкай суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца». Годам раней у тым жа выдавецтве выйшаў пераклад яшчэ адной п'есы Крапіўніцкага — «Пашыліся ў дурні». Абедзве п'есы выдадзены літаграфскім спосабам, першая тыражом у 400 экземпляраў, другая — 200 экземпляраў[3]. Аўтары перакладаў (пераробак) у выданнях не названы. П. Ахрыменка на падставе цікавых назіранняў даводзіць, што выдадзены ў Пецярбурзе

---

[1] А. Н. Беларускі тэатр.—«Гомон», 1916, № 69.

[2] Гл.: Кулеша Тодар. Беларускія спектаклі ў перыяд рэвалюцыі 1905 года.— «Літаратура і мастацтва», 1957, 18 снежня; Барышаў Г. Братнія сувязі.— «Літаратура і мастацтва», 1957, 23 кастрычніка.

[3] Пашыліся ў дурні. Жарцік у 3-х дзеях М. Крапіўніцкага. Пераложана (з папраўкамі) з украінскае на беларускую мову. Пецярбург, 1910; Па рэвізіі. Камедыя ў 1 дзеі. Перароблена з украінскае мовы. Напісаў па-ўкраінску Крапіўніцкі. Пецярбург, 1911.

пераклад «Па рэвізіі» не належыць Н. Чарноцкаму[1]. Такім чынам, гэта новы, другі па ліку пераклад украінскай п'есы. Рукапіс гэтага перакладу, як выявілася, захаваўся ў архіве «Нашай нівы»[2].

Што датычыць перакладу камедыі М. Крапіўніцкага «Пашыліся ў дурні», то, па ўсёй верагоднасці, ён усё-такі быў выкананы доктарам Н. Чарноцкім. На гэта меркаванне наводзіць невялічкая газетная аб'ява, якая прайшла паўз увагу беларускіх даследчыкаў. У № 8 за 1908 г. «Наша ніва» паведамляла, што ў рэдакцыю газеты «прыслаў д-р Чарн. 2 камедыі, перакладзеныя па-беларуску,— «Сватанне» Чэхава і «Пашыліся ў дурні» М. Крапіўніцкага». Газетнае скарачэнне «д-р Чарн.», па ўсёй верагоднасці, трэба чытаць не інакш, як «доктар Чарноцкі».

Як сведчаць ужо самі надпісы на тытулах выданняў твораў М. Крапіўніцката («з папраўкамі», «перароблена»), (пераклады ўкраінскіх п'ес былі выкананы з пэўнымі адступленнямі ад правіл рэалістычнага мастацката перакладу. Так, усе ўкраінскія назвы гарадоў і вёсак заменены на беларускія: Кіеў — на Вільню, славуты Чыгірын — на шырокавядомую ў Беларусі Смаргонь і г. д. («Па рэвізіі»), Адбыліся змены і ў назвах дзейных асоб: замест Арышкі з'явілаіся Ганулля, замест Сцяпана Дранька — Сдяпан Драўко («Пашыліся ў дурні»), Палажка заменена Таццянай, Іўга — Еўкай, у ролі Рындычкі выступае Пантурчыха, Проські — Параска («Па рэвізіі»). Такое вольнае абыходжанне з арыгіналам у той час можна, аднак, зразумець. Беларускіх п'ес яшчэ не было (калі не лічыць малавядомых тады драматычных твораў В. Дуніна-Марцінкевіча). Перакладчыкі імкнуліся вывесці на сцэну не толькі беларускую мову, але і саміх беларусаў з іх побытам, адзеннем, псіхалогіяй. Звычайны пераклад тут не дапамагаў, патрэбна была «пераробка». Перакладчыкі станавіліся такім чынам сааўтарамі твораў.

Асобныя, найбольш сутнасныя змены ў тэкстах п'ес былі выкліканы своеасаблівасцю рэжысёрскай трактоўкі ўкраінскіх твораў. Улюбёнасць украінцаў у музыку, спевы, выдатныя музычныя здольнасці многіх артыстаў спрыялі таму, што пастаноўкі ўкраінскіх драматычных труп паяднаўвалі ў сабе якасці як драмы, так і оперы. Пры гэтых трупах, як правіла, існавалі хор і невялікі аркестр. Спектакль «Па рэвізіі», напрыклад, набываў на ўкраінскай сцэне адзнакі аперэты, а «Пашыліся ў дурні» выконваўся як музычны вадэвіль. У беларускіх перакладах гэтых п'ес значна скарочана

[1] Гл.: Охріменко П. П. Шляхами братания Київ, 1968, с. 64-66.
[2] ДзАЛМ, ф. 3, воп. 1, адз. зах. 91, арк. 7—15.

колькасць вершаваных куплетаў, разлічаных на спяванне. Аісабліва шмат апушчана песень-дыялогаў у творы «Пашыліся ў дурні» (дзея першая — з'явы 1, 3, 4, 5, 6, 9, 12; дзея другая— з'явы 1, 3, 4, 9, 10; дзея трэцяя — з'ява 9). Некаторыя вершы-песні былі пераказаны прозай (дзея трэцяя — з'явы 5, 6). У выніку такіх «пераробак» украінскія п'есы на сцэне маладога беларускага тэатра некалькі страчвалі сваю рамантычную афарбоўку, набывалі выразныя адзнакі сацыяльна-бытаівой камедыі[1].

Выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» планавала стварыць цэлую бібліятэчку драматычных твораў прафесійных і аматарскіх беларускіх тэатральных калектываў. Яна выдавала пераклады не толькі ўкраінскіх п'ес, але і рускіх, польскіх. З украінскіх жа твораў, апрача п'ес М. Крапіўніцкага, у 1913 г. убачыла свет п'еса-жарт А. Валодскага «Як яны жаніліся». Сярод выданняў суполкі звяртае на сябе ўвагу інсцэнізацыя драматычнага твора Э. Ажэшкі «У зімовы вечар». На тытульнай старонцы кніжачкі чытаем: «На беларускую мову з рукапісу пераклаў Власт». Але, як вядома, аповесць польскай пісьменніцы была надрукавана яшчэ ў 80-я гг. мінулага стагоддзя. У 1893 г. М. Старыцкі напісаў для ўкраінскай сцэны драматычны эдюд п матывах гэтай аповесці. На той час гэта была адзіная драматычная апрацоўка твора Ажэшкі. Лагічна было б дапусціць, што перакладчык выкарыстаў рукапіс Старыцката. Аднак паміж творам украінскага драматурга і пiеракладам вялікая розніца. Які «рукапіс» лёг у аснову перакладу, пакуль што невядома.

Не толькі ўкраінскія, але і рускія і польскія п'есы перакладаліся на беларускую мову са значнымі адступленнямі ад арыгіналаў. Так, у вадэвілі А. Чэхава «Сватанне» героі «прымацоўваюцца» да беларускага жыцця зноў жа-такі праз «абеларушванне» імён, прозвішчаў (Чубкоў становіцца Чыбухом, Ломаў — Ламакай і г. д.). Хочацца звярнуць увагу на такі момант. Пераклад твора Чэхава ажыццявіў Н. Чарноцкі. Вадэвіль «Сватанне», як і ўкраінская п'еса «Пашыліся ў дурні», перакладзены ў адной творчай манеры. У імя вырашэння пэўнай рэжысёрскай задумы (а Чарноцкі быў пастаноўшчыкам і рэжысёрам асобных аматарскіх спектакляў) у абедзвюх п'есах узмоцнена іх бытавая аснова. Гэта яшчэ раз пацвярджае здагадку, што беларускі пераклад «Пашыліся ў дурні» М. Крапіўніцкага належыць менавіта Н. Чарноцкаму.

Асоба Н. Чарноцкага заслугоўвае нашай уівагі. На жаль, у беларускім літаратуразнаўстве амаль ніякіх звестак пра яго няма. У

---

[1] Гл.: Ахрыменка П. Летапіс братэрства. Мінск, 1973, с. 113—114.

той жа час гэта быў чалавек вялікіх здольнасцей, кіпучай энергіі, з шырокім колам грамадскіх зацікаўленняў. Доктар па прафесіі, Чарноцкі меў, несумненна, здольнасці літаратара, акцёра, рэжысёра. Перакладзеныя ім творы М. Крапіўніцкага доўгі час былі акрасай і беларускай савецкай сцэны. Чарноцкі ўнёс пэўны ўклад у развіццё не толькі беларускага тэатра, але і беларускай нацыялальнай асветы, у прыватнасці школьнай справы. Ён папулярызаваў сярод насельніцтва здабыткі маладой беларускай літаратуры, выступаў, як мы бачылі, і як літаратурны крытык, выявіўшы пры гэтым веданне і ўкраінскай літаратуры.

Такім чынам, беларуская драматургія развівалася на пачатку XX ст. пад непасрэдным уплывам літаратур і тэатра суседніх славянскіх народаў — рускага, украінскага і польскага. Як заўважана даследчыкамі, першыя арыгінальныя беларускія камедыі «Модны шляхцюк» К. Каганца (1910) і «Паўлінка» Я. Купалы (1912) перагукваюцца ў пэўным сэнсе з творамі М. Крапіўніцкага[1]. Аднак нельга не пагадзіцца з П. Ахрыменкам, што «ўплыў камедый М. Крапіўніцкага на беларускія драматычныя творы быў не столькі прамым, тэматычна-мастацкім, колькі, так сказаць, стымулюючым»[2]. Цікавыя ўспаміны Я. Ф. Сушынскага, знаёмага Купалы па Пецярбурзе, якраз пацвярджаюць гэту думку.

Драматычны гурток студэнтаў-беларусаў Пецярбургскага універсітэта абраў для пастаноўкі п'есы М. Крапіўніцкага. «Купала ў час пастановак ужо на сцэне і на рэпетыцыях камедыйных п'ес Крапіўніцкага гаварыў не раз: «Трэба нам мець свае п'есы — камедыі і драмы»[3]. Неўзабаве, як мы ведаем, Я. Купала напісаў некалькі п'ес — «Паўлінка» (1912), «Раскіданае гняздо» (1913), «Прымакі» (1913),— тым самым унёсшы велізарны ўклад у станаўленне беларускай драматургіі, яе розных відаў і жанраў.

Такім чынам, украінская рэалістычная драма адыграла важную ролю ў культурна-мастацкім жыцці беларускага народа пачатку XX ст. Яна выхоўвала беларускага гледача, рыхтавала яго да ўспрымання твораў уласнага прафесійнага тэатра. Украінская драматургія спрыяла абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, на лепшых яе ўзорах адточвалася рэалістычнае мастацтва беларускіх акцёраў. Але найбольшая заслуга ўкраінскай драматургіі і тэатра — у абуджэнні тэатральна-творчых сіл беларускага народа, стымуляванні

---

[1] Гл.: Няфёд У. Беларускі тэатр. Мінск, 1959, с. 96.
[2] Охріменко П. П. Шляхами братания, с. 76.
[3] Цыт. па кн.: Янка Шарахоўскі. Пясняр народных дум. Мінск, 1970, с. 73.

развіцця такога роду літаратуры, як драматургія, і такога віду мастацтва, як нацыянальны тэатр.

### Пісьменнікі зблізку

Як мы ўжо адзначалі, знаёмства беларускага чытача з украінскай літаратурай адбывалася ў вялікай ступені дзякуючы разнастайным інфармацыям, аглядам, навукова-крытычным артыкулам, што змяшчаліся на старонках перыядычных і асобных літаратурных выданняў. Беларускія крытыкі А. Бульба, Л. Гмырак, Р. Зямкевіч пры ацэнцы літаратурнай спадчыны ўкраінскіх пісьменнікаў зыходзілі з тых жа крытэрыяў дэмакратычнага мастацтва, якія так горача і паслядоўна адстойвалі ва ўкраінскай літаратуры І. Франко і яго паслядоўнікі. Глыбокае вывучэнне ўкраінскага літаратурнага працэсу дапамагала ім у выпрацоўцы ўласнага творчага крэда.

Гэтыя і некаторыя іншыя крытыкі, што вызначалі напрамак літаратурна-крытычных аддзелаў тагачасных беларускіх перыядычных выданняў, у пэўнай ступені ўплывалі на фарміраванне чытацкіх густаў, грамадскай думкі. Услед за Я. Купалам, Я. Коласам, М. Багдановічам яны нямала зрабілі для азнаямлення беларусаў не толькі з грамадска-палітычныім, але і з літаратурным жыццём Украіны, з творчаоцю многіх украінскіх літаратараў і перш за усё з творчасцю Т. Шаўчэнкі.

У 1909 г. да 95-годдзя з дня нараджэння Т. Шаўчэнкі «Наша ніва» (№ 11) змяшчае партрэт Кабзара, друкуе невялікі артыкул пра яго жыццё і творчасць, а таксама верш Я. Купалы «Памяці Шаўчэнкі». Верш гэты, як паведамляла газета, быў прачытаны на шаўчэнкаўскім вечары ў Пецярбурзе, дзе прысутнічала шмат беларусаў. Выяўляючы сваю шчырую павагу да вялікага песняра Украіны, беларусы паклалі каля яго бюста вянкі. На адным з іх былі словы з верша Купалы: «О слаўны ўкраінча, сын верны народа! Прымі, брат, і наш беларускі прывет!» Другая ю'білейная дата, 50-годдзе з дня смерці Шаўчэнкі, была адзначана з'яўленнем двух вялікіх літаратуразнаўчых даследаванняў — «Памяці Тараса Шаўчэнкі» А. Бульбы і «Тарас Шаўчэнка і беларусы» Р. Зямкевіча («Наша ніва», 1911, №8).

Праца Р. Зямкевіча для свайго часу з'явілаея сапраўдным навуковым адкрыццём, для нас сваёй цікавасці яна не страціла і сёння. Як упершыню давёў аўтар артыкула, Т. Шаўчэнка быў у блізкіх сяброўскіх стасунках з беларускімі пісьменнікамі Я. Баршчэўскім, Р. Падбярэскім і іх акружэннем. Кабзар «прасіў іх, каб чыталі яму свае беларускія творы, і асабліва зацікавіўся народнымі беларускімі

песнямі». Спасылаючыся на невядомы ліст Вінцука Рэута да Легатовіча, Зямкевіч піша, што Шаўчэнка крытыкаваў асобныя творы беларусаў, даваў ім свае парады і асабліва высока ацаніў ананімную паэму «Энеіда навыварат», заўважыўшы, што ў ёй найболей беларускага народнага элементу. У сваю чаргу Падбярэскі надрукаваў у газеце „Tygodnik Peterburgski" (1844, 5 снежня) артыкул пра творчасць Шаўчэнкі-мастака. Гэта, па сутнасці, была рэцэнзія на альбом Шаўчэнкавых малюнкаў «Живописная Украина». Аўтар яе даў вельмі высокую ацэнку як мастацкім, так і паэтычным творам Шаўчэнкі, у прыватнасці, ён прыгадваў кнігу «Кабзар», паэмы «Гайдамакі,», «Трызна», «Гамалія». Газета мела пашырэнне і на Беларусі.

Цікавячыся духоўным адраджэннем беларускага народа, Т. Шаўчэнка выпісаў літаратурны альманах «Rocznik Literacki», які выдаваў Р. Падбярэскі. У альманаху, разам з польскімі творамі, шырока змяшчаўся беларускі этнаграфічны матэрыял. У ім убачылі свет і некалькі вершаў Яна Баршчэўскага. «Шаўчэнка,— заканчвае свае развагі Р. Зямкевіч,— заахвочваў беларусаў, каб не пакідалі сваёй працы для народа, бо гэта іхні абавязак, а праца іх, нягледзячы на цяжкія абставіны, не прападзе дарэмна».

Асабліва гучна і часта ў Беларусі сталі гаварыць пра Т. Шаўчэнку ў год яго стогадовага юбілею. Вось некалькі найбольш характэрных паведамленняў, змешчаных у «Нашай ніве»:

1914, 7 лютага, Проці святкавання столетняй гадаўшчыны Шаўчэнкі:

Пецярбургская агентура разаслала паведамленні, што святкаванні шаўчэнкаўскай гадаўшчыны ў лютым г. г. не будуць пазволены.

1914, 13 лютага. Проці Шаўчэнкі:

— Сінод прызнаў, што святкаванне шаўчэнкаўскага юбілею пазволіць не можна.

— У Варшаве атрымалі спецыяльны наказ з Пецярбурга забараніць паніхіды ў дзень нараджэння Шаўчэнкі.

— Міністр унутраных спраў разаслаў губернатарам і граданачальнікам цыркуляр, у якім кажа забараняць народныя святкаванні памяці Шаўчэнкі, наймяноўваць яго іменем школы і вуліцы, назначаць стыпендыю і г. д.

1914, 7 сакавіка (гэты нумар упершыню быў падпісаны Купалам як афіцыйным рэдактарам газеты):

— Рэвізіі і арышты: У Кіеве зроблена маса вобыскаў і арыштаў у сувязі з святкаваннем шаўчэнкаўскага юбілею. Паміж арыштаваных шмат студэнтаў.

— На магіле Шаўчэнкі: На магілу Шаўчэнкі паліцыя ў дзень юбілею нікога не пускала. Цэлы дзень на магіле стаялі стражнікі са спраўнікам і земскім начальнікам.

— Канфіскацыя «Кабзара»: У Кіеве паліцыя канфіскавала кнігу Т. Шаўчэнкі «Кабзар». Забралі 10 тысяч экземпляраў. Выдаўцоў пацягнулі пад суд 129 стацці. Выданне гэтае нічым не розніцца ад выдання пецярбургскага «Кабзара», адно толькі, што на гэта выданне была паніжана цана.

Усе гэтыя шматлікія захады супраць ушанавання памяці Т. Шаўчэнкі, пра якія паведамляла газета, былі, па словах У. І. Леніна, «такой надзвычай добрай, дасканалай, на рэдкасць шчаслівай і ўдалай мерай з пункту гледжання агітацыі супраць урада, што лепшай агітацыі і ўявіць сабе нельга... Пасля гэтай меры мільёны і мільёны «абывацеляў» сталі ператварацца ў свядомых грамадзян і пераконвацца ў правільнасці таго выслоўя, што Расія ёсць «турма народаў»[1].

Матэрыялы, надрукаваныя ў «Нашай ніве» над рубрыкай «Супраць Шаўчэнкі», уключаліся ў агульную «агітацыю супраць урада», набывалі акрэслены палітычны характар. Да такіх матэрыялаў далучаюцца і публікацыі дзіцячага часопіса «Лучынка», адным з выдаўцоў якога стала пасля вяртання з Львова Цётка. У прыватнасці, у № 3 часопіса за 1914 г. быў змешчаны даволі цікавы артыкул А. Уласава пра жыццё і творчасць Т. Шаўчэнкі. Разлічаны на дзяцей, ён вызначаецца даступнасцю і папулярнасцю. Апошняе, мабыць, і прычынілася да таго, што даследчыкі ўкраінска-беларускіх сувязей абмінулі яго сваёй увагай. У той жа час у артыкуле сустракаюцца цікавыя факты. Так, мы даведваемся, што асобныя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі, у прыватнасці сам Уласаў, спецыяльна ездзілі на Украіну, каб пакланіцца зямлі, на якой нарадзіўся геніяльны паэт. Вось з якой шчырасцю, хвалюючай цеплынёй апісвае аўтар артыкула бацькаўшчыну Кабзара: «Здалёку на ўзгорку на Кіеўшчыне відаць гай вішнёвы, якім закрылася сяло Кірылаўка, Калі спусціцца вулічкай гэтага сяла ўніз паміж павіслых з двух бакоў, моў парасоны, вішань, апынімся каля става, у чыстае века якога заглядзеліся старыя вербы і, як у люстэрку, адбіваецца там паўднёвае неба. Перайшоўшы праз гаць, убачым, што на другім беразе на ўзгорку стаяла калісь хацінка.

Мене там мати повивала
І, повиваючи, співала,—

---

[1] Ленін У. І. Творы, т. 20, с. 201.

як пісаў пазней вялікі ўкраінскі пясняр Тарас Шаўчэнка. Хацінкі даўно ўжо няма, толькі ляжыць велічэзны камень з млына, а на ім напісана: «Тут была хата Т. Шаўчэнкі». Зразумела, што з такой яскравай «нагляднасцю» мог пісаць толькі чалавек, які сам пабываў у родных Шаўчэнку мясцінах.

З вялікім артыкулаім пра Т. Шаўчэнку ў юбілейным 1914 годзе выступіў таксама Л. Гмырак («Наша ніва», 1914, № 8). Артыкул складаецца з дзвюх частак: у першай падаецца падрабязная біяграфія паэта, у другой раскрываецца сацыяльная і нацыянальная сутнасць яго творчасці. Цытаты з твораў Шаўчэнкі падаюдца ў арыгінале. Эпіграфам да артыкула крытыгк узяў радкі з добра вядомага верша Я. Купалы «Памяці Шаўчэнкі»:

Эх! І нам будзь бацькам мілым,
Украінча слаўны!
Плывучы ўдаль, твая песня,
Гасцінцам не вузкім,
Знайшла водгалас пачэсне
У сэрцы беларускім.

У канцы сваей гутаркі пра творчасць вялікага сына Украіны крытык раіць беларусам шырэй і глыбей цікавіцца «найбольш дэмакратычным у свеце ўкраінскім пісьменствам», заклікае, каб кожны беларус прачытаў «Кабзара».

Маладыя беларускія крытыка і літаратуразнаўства звярнулі ўвагу, апрача Т. Шаўчэнкі, і на некаторых іншых выдатных пісьменнікаў. І не толькі звярнулі, але і пастараліся наблізіць іх творчасць, факты жыцця да беларускага чытача. Вось адзін з нумароў «Нашай нівы» (№ 45) за 1913 г. Тут мы бачым гутарку П. Гарадзецкага з выпадку 1500-годдзя армянскага алфавіта і 400-годдзя армянскага друку. А побач — вялікі артыкул «Іван Катлярэўскі (у 75-ю гадавіну смерці)». Крытык, што схаваў сваё сапраўднае імя пад псеўданімам Лішні, вядзе даволі кваліфікаваную размову пра літаратурную дзейнасць аўтара бессмяротных «Энеіды» і «Наталкі Палтаўкі», вызначае яго месца ў гісторыі ўкраінскай літаратуры. «Год 1798-ы,— піша ён,— навекі памятны для Украіны, бо ў гэтым годзе прыляцела першая ластаўка ўкраінскага нацыянальнага адраджэння — невялікая кніжачка, ад выхаду каторай у свет украінскі народ рахуе не толькі пачатак свайго пісьменства, але і новы зварот у гісторыі ўкраінскага народа; гэта кніжачка была «Пераліцованая Энеіда» Катлярэўскага». Гаворачы далей пра значэнне «Энеіды» як паэтычнага твора, крытык падкрэслівае, што ў ёй гутарковаія ўкраінская мова адстаяла сваё права на існаванне ў літаратуры, што «мова, да якой з пагардаю ставяцца вяльможнае пан-

ства і падпанкі... у руках праўдзівага майстра слова ператвараецца ў чароўны орган красы і глыбокіх думак». Лішні звяртае ўвагу чытачоў на сапраўдны патрыятызм украінскага пісьменніка, што ўключаў у сябе не толькі гонар за слаўнае мінулае, але і боль за сучаснае, ганьбіў тых, хто «любоў к айчызне прамяняў на любоў да чыноў, на грошы», клікаў да самаадданай грамадскай працы:

Де обще е добро в упадку,
Забудь отця, забудь і матку —
Лети повинность
Исправлять!

Словы крытыка гучалі заклікам-дэвізам і для тагачаснай беларускай моладзі.

Адну з найбольшых заслуг Катлярэўскага Лішні бачыць у тым, што, разам з вясёлым і дасціпным смехам, ён «смелаю рукою» знімаў маскі з багоў, паноў і падпанкаў. Сацыяльныя сімпатыі ўкраінскага пісьменніка, падкрэслівалася ў артыкуле, былі на баку простата люду: «Катлярэўскі ўмеў смела панам «сказаць праўду ў вочы». У пацвярджэнне гэтага крытык прыводзіць радкі, што набылі выразнае грамадзянскае гучанне:

Мужича правда есть колюча,
А панська — на всі боки гнуча...

У артыкуле аеноўная ўвага звяртаецца на «Энеіду»— твор, які, як мы сёння з поўным правам можам сказаць, прынёс яго творцу сусветную славу і пашану. Аднак упамінаюцца ў ім і іншыя творы пісьменніка. Канчаючы сваю размову пра творчасць Катлярэўскага, Лішні яшчэ раз падкрэсліваў, што ўкраінскі пісьменнік выступаў «у абарону мужычай праўды проці крыўд панскага ладу і тым даў пачатак новай народнай дэмакратычнай украінскай літаратуры. Такія заслугі перад народам народ не забывае, і праўду пісаў Т. Шаўчэнка пра славу, што навекі ўкрыла першага пісьменніка — бацьку новай украінскай літаратуры:

Будеш, батьку, панувати,
Поки живуть люди,
Поки сонце з неба сяе,
Тебе не забудуть».

Вядомай была на Беларусі і навуковая, грамадская дзейнасць М. Драгаманава, пра якога пісалася як пра нястомнага барацьбіта за еднасць усіх, усходніх і заходніх, украінцаў, за дэмакратычнае яднанне ўсіх усходнеславянскіх народаў («Наша ніва», 1909, № 25; 1914, № 46). На старонках беларускай прэсы («Наша ніва», 1914, № 46) знаходзім таксама цёплае слова пра М. Шашкевіча — змагара за

адраджэнне новай галіцка-ўкраінскай культуры і літаратуры, пра першую ластаўку гэтага адраджэння — альманах «Русалка Днiстровая».

Паўз увагу беларускіх літаратараў не прайшла і творчасць Б. Грынчэнкі, яго актыўная выдавецкая і грамадская дзейнасць. Памяталі тут заўсёды і пра карыфея ўкраінскага тэатра М. Крапіўніцкага, рэалістычным мастацтвам якога, высокім майстэрствам акцёра, спевака, кампазітара пачалі захапляцца яшчэ ў 80-я гг. мінулага стагоддзя, падчас гастроляў украінскіх тэатральных труп у Беларусі. Смерць Грынчэнкі і Крапіўніцкага болем адгукнулася ў сэрцах беларусаў. Рэдакцыя «Нашай нівы» паслала ўкраінцам тэлеграму з выказваннем спачування, а на магіле Грынчэнкі кіеўскія беларусы выступілі з прамовай і паклалі вянок. У газеце быў змешчаны ўсхваляваны некралог.

Адгукнуліся ў Беларусі таксама на смерць А. Тэсленкі (1911, № 25), Г. Барвінак (1911, № 34), маладога паэта А. Лысенкі (1910, № 25).

У 1913 годзе з выпадку смерці Лесі Украінкі «Наша ніва» (№ 30) надрукавала вялікі і надзвычай цікавы артыкул пра ўкраінскую паэтэсу. Сярод іншых шматлікіх водгукаў на смерць Лесі Украінкі, што з'явіліся ў розных газетах і часопісах[1], беларуская публікацыя вылучаецца як сваёй навуковай грунтоўнасцю, так і асаблівай цаплынёй, лірычнай усхваляванасцю. У артыкуле падкрэсліваецца, што ў асобе Лесі Украінкі гарманічна паядналіся вялікай сілы літаратурны талент і незвычайная мужнасць барацьбіта за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне народа. «Вялікая чэсць, давечная слава тым, каторыя з мячом і самапалам у руках ідуць здабываць долю і волю свайму народу, але яшчэ большая чэсць, вялікшая слава памяці тых ваякаў, каторыя вялікай любоўю ды моцным словам умелі ўдыхнуць бадзёрасць духу і светлую надзею, уліць жыццё ў канаючыя народы». І далей, што таксама адрасавалася непасрэдна да Лесі Украінкі: «Вечная слава памяці тых ваякаў... каторыя ў цемры ночы над жывымі нябожчыкамі ўмеюць запаліць агонь і ўліць жыватворную сілу ў душы іх. Каторыя з мерцвякоў робяць асілкаў, хай сабе гэтыя асілкі пакуль што будуць прыкутымі да зямлі, без змогі раздзьмухаць агонь».

З апошніх радкоў можна зрабіць вывад, што ў Беларусі ў той час ведалі «Досвітныя агні» Лесі Украінкі, а таксама былі знаёмы з празрыстай алегорыяй верша-казкі паэтэсы «Пра волата». Вобраз казачнага волата, якога паны-ворагі прыкулі да зямлі ланцугамі і тысячагоддзямі ссалі з яго кроў, пад пяром Лесі Украінкі стаў сім-

[1] Гл. пра гэта: Міценко Леоніла. Леся Українка в літературному житті. Київ, 1964, с. 178—180.

валам роднага краю, усяго працоўнага люду. Паэтэса верыла, што прыйдзе час,

І встане велетень з землі,
розправить руки грізні
і вмить розірве на собі
усі дроти залізні[1].

Верш-казку «Пра волата» Леся Украінка напісала ў апошнія месяцы свайго жыцця спецыяльна для зборніка ў гонар 40-годдзя грамадскай, літаратурнай і навуковай дзейнасці І. Франка. Гэтым творам яна, па сутнасці, і закончыла свой творчы шлях. Выклікае проста здзіўленне, як хутка да Беларусі даходзілі асабныя факты тагачаснага ўкраінскага літаратурнага жыцця.

У артыкуле сцісла, але дакладна былі разгледжаны матывы творчасці ўкраінскай паэтэсы. Перад беларускімі чытачамі яна паўставала як сапраўдная грамадзянка, патрыётка, палымяная рэвалюцыянерка. Асаблівая ўвага звярталася на творы Лесі Украінкі, што ўвайшлі ў цыкл «Нявольніцкія песні», у прыватнасці цытавалася страфа з верша «Таварышцы на ўспамін», напоўненая глыбокім сэнсам:

Нехай же ми раби, невільники продажні,
Без сорому, без честі,— хай же й так!
А хто ж були ті вояки одважні,
Що іх зібрав під прапор свій Спартак?..

«Песня Лесі Украінкі,— пісала беларуская газета,— была ў апошняе дзесяцігоддзе любімай песняй на Украіне, яе вольнае, гарачае і натхнёнае слова тварыла спачуванне, гартавала сэрцы, мацавала дух і падтрымлівала надзеі на лепшую долю для роднага краю». Далей у артыкуле падаюцца паасобныя звесткі біяграфічнага характару. Канчаецца ён шчырай верай у бессмяротнасць Лесіных ідэй, у непераходнае значэнне творчасці паэтэсы: «Сумна глядзець на дамавіну кожнага звычайнага чалавека, чуць аб чыей-небудзь смерці, але сто разоў сумней пачуць пра смерць перакананага грамадзяніна, які працаваў не пакладаючы рук для лепшай будучыні свайго народа і краю. Толькі калі сыходзяць у магілу такія людзі, як Леся Украінка, голас іх не замірае: пасля іх смерці застаюцца творы, якімі вялікія людзі клічуць да новага, лепшага жыцця, да змагання за дабро роднага краю, за шчасце людское».

[1] Украінка Леся. Твори в 10-ти томах, т. 2. Київ, 1963, с. 127.

Беларускія чытачы, такім чынам, яшчэ да равалюцыі пазнаёміліся з асноўнымі напрамкамі, характарам творчасці выдатнейшай украінскай паэтэсы.

У адным з нумароў «Нашай нівы» за 1914 год (№ 43) была надрукавана невялікая інфармацыя «Доля ўкраінскага пісьменніка». У ёй паведамлялася пра тагачаснае жыццё І. Франка, яго невылечную хваробу, цяжкае матэрыяльнае становішча. Тое, з якой надзвычайнай дакладнасцю пісалася пра ўсё гэта ў газеце, дае падставы заключыць, што ў Беларусі добра ведалі і гэтага славутага пісьменніка, яго жыццё і творчасць. На гэта, у прыватнасці, указваюць і асобныя архіўныя знаходкі апошніх гадоў. Так, даследчык беларускага перыядычнага друку С. Александровіч у архіве «Нашай нівы» адшукаў частковы вопіс рэдакцыйнай бібліятэкі. На V палічцы, дзе знаходзілася выключна марксісцкая літаратура, працы К. Маркса, Ф. Энгельса, Г. Пляханава, К. Лібкнехта і Р. Люксембург, стаялі калісьці і кніжкі Франка «Звярыны бюджэт», «Свінская канстытуцыя», «Гісторыя адной канфіскацыі»... Колькі было паліц у бібліятэцы і якія кнігі знаходзіліся на іх, застаецца невядомым. Але цалкам верагодна, што сярод іх былі і іншыя творы Івана Франка, якія прынеслі яму сусветную славу паэта-рэвалюцыянера, мысліцеля, Каменяра.

**І адгукнулася слова слову...**

Творы ўкраінскай літаратуры, прапанаваныя на пачатку XX ст. беларускаму чытачу ў перакладзе на яго родную мову, выразна падзяляюцца на тры групы. Да першай з іх можна аднесці гумарыстычныя і сатырычныя вершы і апавяданні. Невыносныя ўмовы жыцця, цяжкая праца, прыгнет не змаглі пагасіць ні ва ўкраінскім, ні ў беларускім працаўніку любові да добразычлівага жарту, дасціпу. Сведчанне гэтаму — шматлікія анекдоты, народныя жарты, жартоўныя песні, казкі, вершы і г. д.

Найбольшую цікавасць з твораў гэтай групы выклікаюць пераклады твораў С. Руданскага, дзве гумарэскі якога былі змешчаны ў «Нашай ніве» ў перакладзе А. Паўловіча. Адна з іх «У царкве» — пра «недарэку»-бацьку, які свістаў у царкве, і «мудрага» сына (1909, № 40). Другая — адна з першых «співомовок» Руданскага «Ці далека да неба» (1909, № 49), у якой дасціпна высмейвалася так званая «карчомная» палітыка царскага ўрада (праз кожныя пяць вёрст будавалася карчма). У 1910 г. выйшаў з друку зборнік Паўловіча «Снапок», куды аўтар уключыў названыя творы Руданскага, а таксама змясціў пераклад яшчэ аднаго гумарыстычнага верша ўкраінскага пісь-

менніка — «Баба ў царкве»[1]. Перакладаючы Руданскага, Паўловіч з гумарам паказаў беларускаму чытачу, як набожнасць простага чалавека можа паяднoўвацца з жыццёвым практыцызмам. Разважыўшы, што наперад невядома, дзе можна апынуцца пасля смерці — у пекле ці раі, старая кабета ставіць адначасова свечкі і святому Мікіту і... чорту. Растлумачваючы суседкам свой учынак, яна гаворыць: «Мець прыяцеля трэ ўсюды, каб нам мог спрыяці!»

Пераклады А. Паўловіча былі, па сутнасці, вольнымі пераказамі твораў С. Руданскага. Часам у іх, у параўнанні з арыгіналамі, павялічвалася колькасць вершаваных радкоў, мяняліся як будова строф, так і вершаваны памер. Так, у арыгінале чытаем:

Найшла баба і Микиту —
Святий чорта ціпить!..
Баба одну йому ставить,
Другу чорту ліпить!..[2]

У перакладзе гэтыя радкі значна мадыфікаваліся:

Во Святога ўжо Мікіту знайшла баба скора
(Той заняты: збароў чорта, нечымсь яго пора),
Запаліла свечкі, ставіць адну ля Святога,
А другую лепіць чорту, не зважаўшы многа.

Вершаваны памер арыгінала, як бачым,— чаргаванне чатырохстопнага харэя з трохстопным. Такі рытмічны малюнак забяспечваў аўтару «співомовок», кажучы словамі І. Франка, «дакладнасць і грацыю выказвання». У сваім жа перакладзе А. Паўловіч злівае два радкі арыгінала ў адзін (дакладней, «расцягвае» кожны радок). Яго сямістопны харэй надае вершу С. Руданскага пэўную аднастайнасць, манатоннасць. Тым не менш і ў перакладзе твор украінскага сатырыка не губляе сваёй жвавасці, рухавасці, паколькі цэзура пастаянна дзеліць вершаваныя радкі на дзве часткі (4 + 3). Цікава, што адна з гумарэсак («Ці далека да неба») у першым, «нашаніўскім» варыянце графічна адпавядала арыгіналу. Магчыма, змена яе графічнага выгляду была выклікана абмежаванасцю папяровай плошчы кнігі.

Наогул жа А. Паўловіч даволі дакладна зберагае сэнс фальклорнай першакрыніцы «співомовки»— анекдота, узнаўляе народны дух арыгінала, афарыстычнасць і дакладнасць народнага выказвання.

Трэба сказаць, што ў цэлым выбар украінскага гумару для перакладу быў у дарэвалюцыйнай Беларусі досыць выпадковым. Так, сярод перакладзенага сустракаем апавяданні, якія не вызначаюцца

---

[1] Паўловіч. Альберт. Снапок. Вільня, 1910, с. 20—21.
[2] Руданський Степан. Твори. КиТв, 1965, с. 177.

асаблівымі мастацкімі вартасцямі. Гэта — творы Шума «Шчырая дружба» (пераклад Ф. Бародзіча; 1911, № 5), Гваздзікі «Віясёлы злодзей» (1910, № 5), Ірадчука (П. Куліша) «Сівая кабыла» (пераклад М. Скальскага; 1911, № 13). Праўда, у перакладзе У. Галубка было надрукавана цікавае апавяданне Я. Грабінкі «Кручаная авечка» (1912, № 3). Аднак гэта, бадай, выключэнне.

Другая група перакладаў з украінскай літаратуры аб'ядноўвае паэзію і лірычную прозу.

Сярод іх — два творы пра глыбіню і вернасць мацярынскай любові. Абодва яны былі змешчаны (з паметкай «з украінскага») без указання прозвішча аўтараў. Гэта верш малавядомага паэта-настаўніка. І. Глібавіцкага «Тры кветкі» ў перакладзе Цёткі (1908, № 3) і апавяданне «Мацярынскае сэрца» (пераклад Швайкі; 1909, № 49), якое сюжэтна паўтарае выдатны твор М. Варанога «Легенда»[1]. У «Нашай ніве» (1912, № 11) у перакладзе К. Лейкі быў таксама надрукаваны верш М. Пятрэнкі «Нядоля», што з часам стаў любімай песняй украінцаў. Я. Окліч змясціў свой пераклад лірычнай мініяцюры М. Чарняўскага «Першы снег» (1909, № 47). Усе гэтыя творы хвалявалі чытача сваёй шчырасцю, лірычнай праніклёнасцю, цеплынёй выяўленага аўтарскага пачуцця.

На пачатку стагоддзя на беларускай мове ўпершыню загучала і слова геніяльнага Кабзара. Так, у 1911 г. «Наша ніва» (№ 8) друкуе ўрывак з вершаванага паслання паэта «І мёртвым, і жывым...» у перакладзе А. Гурло, а таксама верш «Цячэ вада ў сіне мора» ў перакладзе Ф. Чарнушэвіча. «Лучынка» (1914, № 3) змяшчае перакладзены А. Паўловічам Шаўчэйкаў верш «Мінаюць дні, мінаюць ночы».

Была перакладзена і першая паэма Т. Шаўчэнкі — «Кацярына». Гісторыя гэтага перакладу добра характарызуе тую атмасферу зацікаўленасці творчасцю Кабзара, якая панавала на Беларусі ў той час. Пераклаў паэму Хв. Чарнушэвіч, кравед з Капыля. Ён добра ведаў і любіў творы Шаўчэнкі. За удзел у рэвалюцыйным руху 1905-1907 гг. быў арыштаваны. У час вобыску паліцыя разам з некаторымі іншымі рэчамі забрала ў яго і «Кабзара». Пазбаўлены магчымасці чытаць і перачытваць творы любімага паэта, Чарнушэвіч звяртаецца ў «Нашу ніву» з просьбай прыслаць яму хоць якое-небудзь выданне вершаў Шаўчэнкі[2]. Атрымаўшы з Вільні ў канцы 1910 г. «Кабзара», ён адразу ж пачынае працу над перакладам «Кацярыны». Выданне твора было

[1] Гл.: Пісні та романси українських поетів, т. 2. Київ, 1956, с. 210; Вороний Микола. Вибрані поезії. Київ, 1969, с. 81.
[2] ДзАЛМ, ф. 3, воп. 1, адз. зах. 50, арк. 258.

ажыццёўлена ў 1911 годзе да 50-годдзя з дня смерці вяліката ўкраінскага паэта. Адрэдагаваў пераклад Я. Купала[1].

Пераклад паэмы «Кацярына» быў не толькі юбілейным захадам. На неабходнасць выдання на беларускай мове твораў украінскай літаратуры наогул і Т. Шаўчэнкі ў прыватнасці ўказвалі самі чытачы. У Дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва БССР захоўваецца ліст ў рэдакцыю «Нашай нівы» ад жыхара г. Канатоп Чарнігаўскай губерні Васіля Рэзнікава. Аўтар ліста, апрача просьбы выслаць яму асобныя нумары газеты, выказвае жаданне набыць творы ўкраінскіх пісьменнікаў, перакладзеныя на беларускую мову, у прыватнасці беларускае выданне «Кабзара»[2]. Цалкам магчыма, што менавіта такія лісты з'явіліся непасрэдным штуршком у працы па выданні паэмы Шаўчэнкі на беларускай мове. Выдаць жа цалкам «Кабзар» у той час было яўна не пад сілу ні літаратарам-перакладчыкам, ні невялікім беларускім выдавецкім суполкам. Упершыню поўнае выданне «Кабзара» было ажыццёўлена толькі ў савецкі час, у 1939 г.

Паэма Т. Шаўчэнкі «Кацярына» была выдадзена на звычайнай газетнай паперы, афармленне кнігі простае, нявышуканае. Аднак чытач сустрэў гэта першае, прычым вельмі таннае (10 кап.), выданне ўкраінскага паэта на беларускай мове з вялікай радасцю. З розных куткоў Беларусі і Украіны пачалі прыходзіць у Вільню просьбы выслаць кніжку. Украінскі часопіс «Дніпрові хвилі» адразу ж адгукнуўся на гэту неардынарную падзею ў культурным жыцці беларускага народа. У артыкуле «Шаўчэнка на беларускай мове» перакладу «Кацярыны» была дадзена высокая ацэнка. Перакладчыку, як пісаў рэцэнзент, пашчаслівілася правільна передаць не толькі сам характар шаўчэнкаўскай паэмы, яе паэтычны склад, але нават складанейшы, непаўторны рытм верша[3]. Цікава, што такой жа думкі прытрымліваецца і сучасная беларуская крытыка. «Калі прынясць пад увагу, што ў той перыяд, калі была перакладзена паэма, беларуская літаратурная мова была яшчэ ў стадыі станаўлення,— піша, у прыватнасці, С. Александровіч,— дык працу Хв. Чарнушэвіча трэба лічыць удалай не толькі для таго часу, але і ў цяперашнім разуменні. Паракладык добра пранік у аўтарскую задуму, умела перадаў склад шаўчэнкаўскага верша, яго рытміку, уважліва паставіўся да арыгінала, імкнучыся перадаць яго творча. У большасці выпадкаў шаўчэн-

[1] Тарас Шаўчэнка. Кацярына. У 50-летнюю гадаўшчыну смерці Т. Шаўчэнкі. Пераклад з украінскае мовы Ф. Чарнушэвіча пад рэдакцыяй Янкі Купалы. Вільня, выд. «Палачанін», 1911.
[2] ДзАЛМ, ф. 3, воп. 1, адз. зах. 50, арк. 93.
[3] Гл.: М. Ж. Шевченко на білоруській мові.— «Дніпрові хвилі», 1911, № 23—24, с.

каўскі радок гучыць лёгка і напеўна, Хв. Чарнушэвіч знаходзіць дакладнае народнае слова, каб перадаць аўтарскі вобраз»[1].

Пераклад Шаўчэнкавай «Кацярыны» сваім майстэрствам і дакладнасцю ў многім, безумоўна, абавязаны Я. Купалу. Беларускі паэт сумленна, з поўным разуменнем аднёсся да сваіх рэдактарскіх абавязкаў. Наогул, у нас яшчэ зусім не даследавана праблема «Купала — рэдактар». Думаецца, што і тут літаратуразнаўцаў чакаюць новыя адкрыцці іназіранні. У прыватнасці, калі б адшукаліся патрэбныя матэрыялы, многа цікавага магла б раскрыць праца Купалы па рэдагаванні перакладу «Кацярыны». Або, скажам, рэдагаванне рукапісу зборніка вершаў чатырнаццацігадовай Канстанцыі Буйло «Курганная кветка» (1914). Хіба мала тут павучальнага, карыснага і для нашага часу?..

Я. Купалу належаць і некалькі ўласных дарэвалюцыйных перакладаў з Т. Шаўчэнкі. Гэта перш за ўсё верш «Мінаюць дні, мінаюць ночы». Пераклад быў зроблены ў 1906 г., аднак у друку ён з'явіўся значна пазней, у 1930 г. У беларускім тэксце першыя два радкі арыгінала апушчаны, таму верш атрымаў іншую назву — «Пажоўкнуў ліст... Прыгаслі вочы». Два другія пераклады — «Нашто чорныя мне бровы» (у арыгінале «Думка») і «За думаю дума роем вылятае...» (у арыгінале «Гогалю»), датаваныя 1905-1907 гг., былі надрукаваны ў першым зборніку Купалы «Жалейка» (1908). Апошні пераклад («За думаю дума роем вылятае...») змешчаны ў кніжцы ў значна скарочаным выглядзе: з 28 радкоў арыгінала надрукавана толькі 16. Зусім верагодным уяўляецца меркаванне ўкраінскага даследчыка Б. Чайкоўскага, што строфы, у якіх Шаўчэнка выказаў сваю ўпэўненасць у немінучасці сацыяльнага і нацыянальнага разняволення народа, былі выкраслены з купалаўскага перакладу цэнзурай[2].

Ужо ў гэтых першых перакладах Я. Купалы відаць яго перакладчыцкае майстэрства, што найпаўней выявілася ў савецкі час, пры перакладзе і рэдагаванні Шаўчэнкавага «Кабзара». Зберагаючы еднасць зместу і формы арыгінала, Купала ўмела ўзнавіў усё паэтычнае багацце вершаў Шаўчэнкі, іх пафас, змест, нацыянальную форму[3].

Уяўленні дарэвалюцыйнага беларуса пра ўкраінскую літаратуру значна дапаўнялі пераклады з украінскай прозы. Усе яны аб'ядноў-

---

[1] Александровіч С. Янка Купала — перакладчык твораў Т. Шаўчэнкі.— У кн.: Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура. Мінск, 1964, с. 94.
[2] Гл.: Чайковський Б. Незабутия сторінка дружби, вид. 2. Київ, 1971, с. 144.
[3] Гл. пра гэта: Палітыка Д. Янка Купала — перакладчык. Мінск, 1959.

ваюцца агульнай сялянскай тэматыкай і складаюць трэцюю ўмоўную групу перакладаў.

У 1911 г. у сувязі са смерцю ўкраінскай пісьменніцы Ганны Барвінак у «Нашай ніве» быў надрукаваны некралог. З яго відаць, што ў Беларусі ведалі гэту пісьменніцу, былі, у прыватнасці, знаёмы з яе «Апавяданнямі з народных вуснаў», выдадзенымі Б. Грынчэнкам у Кіеве ў 1902 г. «Паэт жаночага гора» — гэта вызначэнне, якое даў пісьменніцы І. Франко ў шырокавядомым па ўсёй Расіі энцыклапедычным слоўніку Бракгауза і Эфрона, таксама не прайшло паўз увагу беларусаў. У некралозе, зразумела, не рабіўся глыбокі разгляд творчасці пісьменніцы, падкрэслівалася толькі, што «пісала яна багата пра свой народ і для яго, і ва ўсіх яе творах бачым шчырую любоў да роднай Украіны» (1911, № 34). Побач з некралогам друкавалася апавяданне Барвінак «Ліха не без дабра» ў перакладзе М. Скальскага. Беларускія чытачы, такім чынам, атрымалі магчымасць пазнаёміцца зболышага з творчасцю пісьменніцы, з бытам украінскага сяла, псіхалогіяй украінскай жанчыны-сялянкі.

У адрозненне ад твораў Г. Барвінак, апавяданні ўкраінскіх пісьменнікаў А. Тэсленкі і асабліва В. Стэфаніка вызначаюцца вострай сацыяльнай скіраванасцю, тонкім псіхалагізмам. З твораў Тэсленкі на беларускую мову перакладзена (з нязначнымі скарачэннямі) толькі апавяданне «Што б з мяне было» (1913, № 2). Аўтар перакладу не названы, але сам пераклад дае падставы меркаваць, што выкананы ён быў здольным літаратарам: ідэйна-мастацкія асаблівасці арыгінала захаваны поўнасцю. З найбольшай увагай паставіліся ў Беларусі да творчасці Стэфаніка. Беларускія пераклады асобных твораў славутага ўкраінскага навеліста занатаваны ў бібліяграфічным даведніку[1]. Пра іх упамінае ўкраінскі вучоны В. Лесін, гаворачы пра ўплыў В. Стэфаніка на творчасць З. Бядулі[2]. Аднак тэмай грунтоўнай навуковай гаворкі, спецыяльнага разгляду да гэтага часу яны не сталі.

Творчасць В. Стэфаніка ў Беларусі пачатку XX ст. была прадстаўлена змешчанымі ў «Нашай ніве» навеламі «Смерць» («Скін»; 1909, № 16), «Змярканне» («Вечірня година»; 1909, № 26), «Сіняя кніжачка» («Синя книжечка»; 1909, № 43), «Выводзілі з сяла» («Виводили з села»; 1909, № 49), «Сама самюсенька» («Сама саміська»; 1909, № 47), «Ліст» («Лист»; 1909, № 51-52), «Кацярынка» («Катруся»; 1910, № 44-45), «Анёл» («Ангел»; 1910, № 47), «Дарога» («Дорога»; 1911, № 43), «Сон» («Сон»; 1911, № 44). Як бачым, пералік твораў даволі

[1] Кущ О. П. Василь Стефаник (бібліографічний довіднйк). Київ, 1961,
[2] Гл.: Матэрыялы першай навуковай канферэнцыі.., с. 60.

ўнушальны. Дарэчы, так здарылася, што пераклады гэтыя да сённяшняга дня застаюцца асноўным набыткам «беларускага» Стэфаніка. У той час як творы многіх украінскіх пісьменнікаў не раз перакладаліся і выдаваліся на беларускай мове, са Стэфанікавай спадчыны было апублікавана ў Савецкай Беларусі ўсяго некалькі апавяданняў. Гэта «Кляновыя лісткі» («Чырвоны сейбіт»; 1928, № 6-7, пераклад К. Чорнага), «Злодзей» (там жа; 1928, № 9, пераклад У. Хадыкі), «Сіняя кніжачка», «Катруся», «Каменны крыж» («Полымя»; 1971, № 5, пераклад Я. Саламевіча).

Выбар твораў В. Стэфаніка для перакладу не быў выпадковым, усе яны — характерныя, істотныя для пісьменніка. Каб правесці асобныя з іх праз цэнзурныя рагаткі, перакладчык і супрацоўнікі газеты пайшлі на невялікую хітрасць. Так, з тэксту навелы «Анёл» было знята ўпамінанне (у негатыўным плане) маскоўскага царскага роду. У «Выводзілі з сяла» з'явіўся падзагаловак: «З даўнейшага жыцця». Такім чынам, увага (не чытачоў — яны ж ведалі сучаснае жыццё!— а цэнзуры) скіроўвалася на падзеі даўно мінулыя. У навеле «Ліст», наадварот, аўтарскае прысвячэнне — «Палітычным арыштантам-мужыкам на святы вечар» — было знята. Дзякуючы гэтаму востра сацыяльны твор пабачыў свет, ды яшчэ ў святочным, «каляднымъ» нумары газеты. Зусім своечасова, як таго і хацеў сам аўтар!

Усе навелы пераклаў Р. Зямкевіч. Для яго перакладаў, як і для тагачаснага беларускага мастацкага перакладу ўвогуле, было характэрна імкненне наблізіць творы да чытача, якому яны непаесрэдна адрасаваліся,— беларускага селяніна. Так, Марыйка і Іванка выступаюць у перакладзе як Марыля і Янук, слова «лес» гучыць як «сасновы бор» («Ліст»), Тымчыха і Тымко — як Тамашыха і Тамаш («Анёл»), Танасок — як Тамашок («Сон»), а фраза «А хто мені, небоже, кукурудзки висипае» стала «А хто мне, нябожы, бульбу выкапае» («Выводзілі з сяла»)... Праўда, такіх змен няшмат (у параўнанні з іншымі тагачаснымі перакладамі). Але яны ўсё-такі ёсць.

Пры перакладзе Р. Зямкевіч да асобных украінскіх прыказак, прымавак, народных ідыём, ужытых В. Стэфанікам, падшукваў неабходныя адпаведнікі з беларускай гутарковай мовы, фальклору: «Нема ек лиця вказувати» — «Ад стыду вочы гарэць» («Катруся»); «Аж у п'етах постивае» — «У пятах коліць»; «Бігме» — «Дальбог»; «Аби-м чогось жілувала»— «Каб я чаго пашкадаваць мела» («Анёл») і г. д. Разам з тым у перакладах Зямкевіча сустракаюцца недарэчнасці, выкліканыя звычайнай няўважлівасцю да тэксту арыгінала. Падчас гэта — пропуск паасобных слоў. У іншых выпадках — лексічныя недакладнасці. Так, «ліг хрестом» перакладаецца «лёг дагары наўзніч», дзе два пры-

слоўі па сваім сэнсе ўзаемавыключаюць адно другое («Сон»). Залішняе ўжыванне памяншальных форм назоўнікаў і прыметнікаў часам прыдае творам недарэчную сентыментальную афарбоўку. Элептычныя Стэфанікавы фразы — характэрную дзеяслоўнасць выказвання — Зямкевіч перадае часта поўнымі сказамі («Спаў цвёрда» — «Спаў ён цвёрда»).

Праблему пераўвасаблення дыялектызмаў перакладчык вырашае непаслядоўна. У большасці выпадкаў ён замяняе дыялектызмы адпаведнікамі з літаратурнай мовы. Праўда, дзеля справядлівасці трэба сказаць, што часамі гэта асаблівага значэння не мае. Так, пры перакладзе «Дарогі», дзе дыялектызмы не з'яўляюцца сродкам індывідуалізацыі персанажаў, такая замена успрымаецца як невялікая страта. У той жа час тут узрастае значэнне семантычнай дакладнасці самой замены. А гэта дакладнасць не заўсёды знаходзіцца на належным узроўні. Неразуменне перакладчыкам паасобных слоў прыводзіць падчас да скажэння аўтарскай думкі.

Герой «Дарогі», прачытаўшы на тварах сялян «розпуку й безсилу», «строівся». Слова гэта аднакарэннае са словам «отрута». Гарката народнага болю атруціла героя, ён «строівся», зняверыўся ва ўласнай сіле, у мэтазгоднасці сваёй жыццёвай дарогі. Перакладчык успрыняў слова як вытворнае ад... «стрій» — народнае адзенне, убранне. Таму ў яго перакладзе пасля слоў: «Сіла і гордасдь упалі на цвёрдую дарогу»— абсалютна недарэчы раптам вытыркае... «Прыбіраўся» (?!). І памылка тут не толькі сэнсавая. «Дарога» па сваіх жанравых адзнаках — гэта верш у прозе. Няправільны пераклад слова руйнуе моўную кампазіцыю ўсяго твора, якая выступае як адзін з арганізуючых элементаў славеснага рытму. «Строівся»,— піша В. Стэфанік. А праз некалькі радкоў, ужо ў наступнай частцы твора, мы чуем, як на просьбу Героя: «Хадзі» — яго каханая адказвае: «Не можу, бо ти отрута!»

Наогул жа пераклады сведчаць пра тое, што Р. Зямкевіч добра ведаў украінскую мову (у 1900-х гг. ён вучыўся ў Львоўскім політэхнічным інстытуце), у цэлым няблага разбіраўся ў своеасаблівай і тонкай манеры Стэфанікавага пісьма. Недахопы яго як перакладчыка абумоўлены не толькі суб'ектыўнымі прычынамі, а і адносна нізкім узроўнем тагачаснай перакладчыцкай думкі ўвогуле, асаблівай складанасцю пераўвасаблення твораў украінскага навеліста на іншую мову.

Такім чынам, у гісторыі азнаямлення беларусаў з украінскай літаратурай адной з самых дзейсных форм быў мастацкі пераклад. Дзякуючы перакладу адбываўся таксама і ўплыў больш развітай у той час літаратуры ўкраінцаў на маладую беларускую літаратуру. У

прыватнасці, для А. Паўловіча, які «зрабіў пэўны ўклад у развіццё апавядальных вершаваных форм... вершаванымі жартамі спрыяў фарміраванню ў беларускай паэзіі гумарыстычных жанраў»[1] творчай школай у пэўнай ступені сталі «співомовки» С. Руданскага, якімі ён цікавіўся, якія любіў і перакладаў. Як слушна адзначае сучасная крытыка, «пераклад— выдатная школа літаратурнага майстэрства і, магчыма, найлепшая школа стылю»[2]. У гісторыі ўкраінска-беларускага перакладу справядлівасць гэтай думкі найяскравей, мабыць, пацвярджаецца творчай практыкай Я. Купалы — перакладчыка Т. Шаўчэнкі.

Заўважаем тут і яшчэ адну заканамернасць. Калі перакладчык пры адборы твораў іншай нацыянальнай літаратуры зыходзіць не толькі з густу чытачоў, але і з патрабаванняў развіцця роднага пісьменства, перакладзеныя творы могуць стаць арганічнай часткай гэтага пісьменства. З украінскай літаратуры такая шчаслівая доля напаткала ў Беларусі творы В. Стэфаніка. Навелы Стэфаніка так «упісаліся» ў кола тэм і праблем беларускай літаратуры, нібы выніклі ў працэсе яе ўласнага гістарычнага развіцця. Яны арганічна прыўвайшлі сюды дзякуючы іх «сялянскай» тэме (у самым шырокім разуменні), у раскрыцці якой літаратура беларусаў мела досыць значныя традыцыі яшчэ ў XIX ст. (ананімныя паэмы і гутаркі, вершы, вершаваныя аповесці, творы Я. Чачота, В. Дуніна-Марцінкевіча, А, Вярыгі-Дарэўскага, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, А. Гурыновіча і інш.). Менавіта таму ўкраінскага пісьменніка-рэаліста, што належаў да тых мастакоў, якія, па словах А. Луначарскага, «малюючы мукі сяла, што разлагаецца, прама або ўскосна, часам самі таго не ведаючы, былі пад уплывам пралетарскай ідэалогі»[3], у Беларусі друкавалі з радасцю.

Пасля паражэння рэвалюцыі 1905-1907 гг. цікавасць да сялянскага пытання ў Расіі наогул значна ўзмацнілася. У літаратурных колах адбывалася сапраўдная баталія навокал сялянскай тэмы. Тыя з пісьменнікаў, што не разумелі сацыяльнай абумоўленасці «ідыятызму вясковага жыцця» (К. Маркс), паказвалі селяніна «грубым, некультурным, дзікуном, нейкай напаўжывёлінай, якая жыве тым самым жыццём і ледзь не тымі самымі інтарэсамі, што і хатняе быдла, тупым, сквапным, брудным і забітым»[4]. У той жа час пісьменнікі рэвалюцыйна-дэмакратычнага лагера, востра крытыкуючы адсталасць вёскі, падыходзілі да яе з выразна класавых пазіцый. Малюючы новыя сацыяльныя тыпы, новыя інтарэсы і новую мараль селяніна,

---

[1] Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры, т. 2. Мінск, 1969, с. 227.
[2] Чуковский К. Десятая муза.— У зб.: Мастерство перевода. 1969. М„ 1970, с.
[3] Гл.: Василь Стефаник у критиці та спогадах. Київ, 1970, с. 135.
[4] Боровский В. Литературно-критические статьи. М., 1956, с. 331.

яны з грамадзянскім пафасам сцвярджалі рост рэвалюцыйнай свядомасці народных мас. Веска ўваходзіла ў літаратуру як аб'ект ідэалагічнага і псіхалагічнага даследавання. Бальшавіцкая «Праўда» ў той час падкрэслівала, што «ад працэсу, які адбываецца зараз на вёсцы, у значнай меры залежыць лёс усяго нашага грамадскага руху. Зразумець і ўсвядоміць гэты працэс неабходна»[1].

Праблема зямлі — кардынальная праблема навелістыкі В. Стэфаніка — была адной з асноўнейшых праблем і беларускай літаратуры,

Набыць зямлю.
Прыдбаць свой кут,
Каб з панскіх выпутацца пут,—

вось да чаго імкнуцца гароі паэмы Я. Коласа «Новая зямля», гэтага, па словах А. Адамовіча, «цар-звона» ўсёй беларускай літаратуры. У згаданых словах — не толькі вытлумачэнне паводзін дзейных асоб твора. Гэта фраза з'яўляецца адпраўным момантам да разумення ідэйнай скіраванаісці ўсёй «Новай зямлі», у якой яскрава адлюстравалася жыццёвая філасофія дарэвалюцыйнага сялянства.

У паэме Я. Коласа можна знайсці «паэтызацыю зямлі», падобную на тую, якая была ў Г. Успенскага, П. Мірнага, В. Кабылянскай, У. Рэйманта. Можна ў яе гучанні адрозніць матывы, якія натадваюць гнеўны сарказм М. Салтыкова-Шчадрына, глыбокую засмучанасць М. Канапніцкай, пафаснае аратарства І. Франка[2]. Колас закранае, як і ўкраінскія пісьменнікі, у прыватнасці П. Мірны («Хіба равуць валы, калі яслі поўныя?», «Лімярыўна») і асабліва В. Кабылянская («Зямля»), праблему ўлады зямлі над чалавекам. Але ў той час як украінская літаратура мела даўнія традыцыі раскрыцця гэтай праблемы ў глыбока трагічным плане, беларуская літаратура праз творчасць Коласа дала ёй іншую мастацкую трактоўку.

Міхал — панскі ляснік, своеасаблівы вясковы пралетарый без сваёй зямлі і хаты. Ён — ахвяра характэрнага для эпохі капіталізму працэсу абеззямельвання, што асабліва інтэнсіўна пачаў развівацца пасля рэформы 1861 г. І ўсё ж ён не даведзены жыццём да адчаю, не страціў сваёй чалавечай годнасці. Праца для яго — не толькі сродак існавання, але і крыніца бясконцай эстэтычнай асалоды. «Новая зямля», такім чынам, становіцца гімнам сялянскай душы, працы хлебароба, гімнам сялянству як класу.

---

[1] Гл.: Дооктябрьская «Правда» об искусстве и литературе. М., 1937, с. 20.
[2] Гл.: Лойка Алег. «Новая зямля» Якуба Коласа. Мінск, 1961, с. 51.

Творы В. Стэфаніка засяроджвалі ўвагу чытача на іншых жыццёвых момантах — глыбока драматычных, а падчас і трагічных. Праўда, у адной з перакладзеных на беларускую мову яго навел («Сон») гучыць агульны для Коласа і Стэфаніка матыў «краснай вясны» на ўласным шнуры зямлі. «Грунт — то спосіб до всего, як твійб. Він зогріє, і накрие, і погодує, і честь тобі поведе... Землю цілуй, де си поступиш... Зубами держи і, кохай, як коли жінку...»[1] Аднак усё ж навелы ўкраінскага пісьменніка — гэта маленькія трагедыі, што скандэнсавалі ў сабе боль, гаркоту і адчай сялянскага існавання, выявілі ўсё гэта «коратка, моцна і страшна» (М. Горкі). Дзякуючы перакладам яны ўвайшлі ў славеснасць беларускага народа, пашырыўшы яе праблематыку, ідэйна-тэматычныя гарызонты. А гэта было надзвычай важным для беларускай прозы пачатку XX ст., якая толькі пачынала разгортваць крылы для будучага высокага лёту.

У знаёмстве беларускіх літаратараў з творчасцю В. Стэфаніка, якое адбывалася не толькі праз беларускія пераклады, але і непасрэдна праз арыгінал, а таксама тагачасныя рускія пераклады, ёсць яшчэ адзін важны момант, што выклікае на пэўны роздум.

М. Багдановіч у артыкуле «Забыты шлях» пісаў: «...За восемдзевяць год свайго праўдзівага існавання наша паэзія прайшла ўсе шляхі, а пачасці і сцежкі, каторыя паэзія еўрапейская пратаптывала болей ста год»[2]. Словы класіка беларускай літаратуры сталі своеасаблівай аксіёмай для многіх беларускіх літаратуразнаўцаў, якія спыняюцца на пытаннях паскоранага развіцця роднай літаратуры. Аднак, як нам здаецца, у дадзеным выпадку Багдановіч, маючы на ўвазе перш за ўсё вяршынныя дасягненні беларускай літаратуры, некалькі памыляўся ў вытлумачэнні канкрэтных шляхоў яе развіцця і вызначэнні прычын такіх яе вялікіх поспехаў. Нашто беларускай літаратуры патрэбна было праходзіць зноўку «ўсё шляхі, а пачасці і сцежкі» пісьменства, калі перад ёй быў гатовы вопыт літаратур іншых народаў, і ў першую чаргу суседніх славянскіх — рускага, польскага, украінскага?! Застаючыся сама сабою як чалавеказнаўства, беларусазнаўства, зберагаючы нацыянальную спецыфіку, літаратура «імпартавала» навейшыя дасягненні мастацкай тэхнікі, новыя формы, жанры і г. д. і такім чынам станавілася поруч з літаратурамі больш развітымі. Вось яскравы прыклад таму.

Як вядома, пад уплывам творчасці Л. Талстога, Дастаеўскага, Чэхава, Мапасана і інш. у еўрапейскай рэалістычнай літаратуры

[1] Стефаник Василь. Твори. Київ, 1964, с. 154—155.
[2] Багдановіч Максім. Збор твораў у 2-х тамах, т. 2, с. 167.

канца XIX — пачатку XX ст. узнік напрамак, які атрымаў назву «псіхалаігічнага рэалізму». Прадстаўніком яго «ва ўкраінскай літаратуры можна лічыць у першую чаргу Кацюбінскага і Стэфаніка»[1]. Што ж гэта быў за напрамак? Нам думаецца, найлепш яго ахарактарызаваў І. Франко ў артыкуле «З апошніх дзесядігоддзяў 19 веку»: «Калі ранейшая аповесць ці навела — не абавязкова натуралістычная, а нагогул усякая — мела больш або менш дакладна лакалізаваныя падзеі з матывlivанай завязкай, парыпетыямі і развязкай, выглядала як узведзены паводле правіл архітэктонікі больш або менш салідны будынак, то навейшая белетрыстыка робіць зусім іншае ўражанне. Вонкавых падзей у яе змест уваходзіць вельмі мала, апісанняў яшчэ менш: факты, што ствараюць яе галоўную тэму, гэта звычайна ўнутраныя, душэўныя канфлікты і катастрофы»[2]. Змяняецца і сама форма твора: больш важкай становіцца ўнутраная лагічная матывіроўка ў разгортванні сюжэта, а кампазіцыя — вальнейшай. «Засяроджанне на нейкім адным напружаным моманце, на псіхічных перажываннях гэтага моманту, адсутнасць цікавасці да шырокага акружэння вядзе да сцісласці, скандэнсаіванасці, ушчыльненасці стылю. Усё гэта знаходзіць выражэнне ў навеле, якая становіцца нібыта згусткам усіх гэтых наватарскіх тэндэнцый»[3].

В. Стэфанік, разам з рускімі пісьменнікамі Ф. Дастаеўскім, А. Чэхавым і інш., дапамог беларускай прозе адразу ж, амаль з самага пачатку яе ўзнікнення, стаць псіхалагічна заглыбленай, здольнай паказваць найтанчэйшыя зрухі чалавечай душы, ісці, як гаварыў І. Франко, «не ад індывідуалынай псіхалогіі да сацыялогіі, а, наадварот, ад сацыялогіі да індывідуальнай псіхалогіі»[4]. Менавіта гэтым можна растлумачыць той факт, што ўжо раннія творы Я. Коласа («Нёманаў дар», «Малады дубок»), М. Гарэцкага («Ціхая плынь»), З. Бядулі («На каляды к сыну»), Ядвігіна Ш. («З бальнічнага жыцця», «Зарабіў»), Цёткі («Асеннія лісты») і іншыя прыемна ўражваюць глыбінёй псіхалагічнага аналізу. Навука, як бачым, не праходзіла марна. І таму, думаецца, не варта, як гэта робяць паасобныя даследчыкі (А. Яскевіч, І. Чыгрын і інш.), абавязкова ставіць у пачатак беларускай навелістыкі літаратурную апрацоўку народнага эпасу, творы «пад фальклор», абы толькі было так, як «у людзей». Беларуская проза, пры ўсёй магчымасці адшукаць у ёй і такія адзінкавыя факты, пачынала не з гэтага. У

---

[1] Крижанівський С. Василь Стефаник.— У кн.: Василь Стефаник у критиці та спогадах, с. 230.
[2] «Літературно-науковий вісник», 1901, т. 15, с. 129.
[3] Денисюк І. О. Іван Франко про новаторство літератури кінця XIX — початку XX ст.— «Українське літературознавство», 1963, вып. 1, с. 41.
[4] Франко Іван. Приицппи і безпринципність.—«Літературно-науковий вісник», 1903, т. 21, с. 117.

нашай белетрыстыцы пачатку XX ст. псіхалагічнае апавяданне ішло не пасля літаратурна-фальклорных узораў, а існавала побач з імі — настолькі працэс нараджэння літаратуры быў разнастайны, настолькі моцна адчуваўся ў ёй ўплыў «псіхалагічнай школы» наогул, а Стэфаніка ў прыватнасці. Поўную рацыю меў Багдановіч, калі ўжо ў іншым месцы пісаў: «Наша пісьменства яшчэ толькі нараджаецца... У нас кожны напрамак можа мець цэннасць»[1]. Як сведчыць гісторыя беларускай літаратуры, асаблівую каштоўнасць у ёй мелі самыя сучасныя для таго часу формы, жанры, напрамкі.

Працэс станаўлення і развіцця ўкраінскай «малой прозы» быў своеасаблівым. У першы перыяд яе станаўлення (першая палова XIX ст.) такое суіснаванне розных празаічных форм (скажам, этнаграфічна-бытавога апавядання, псіхалагічнай навелы і фрагментарных жанраў — эцюд, абразок, эскіз, нарыс) было немагчымым. Спатрэбіліся доўгія дзесяцігоддзі і праца некалькіх пакаленняў пісьменнікаў, каб выпрацавалася навелістычная структура асаблівай канцэнтрацыі. В. Стэфанік — вяршынная стадыя эвалюцыі так званай «сялянскай навелы», якая паяднала ў сабе вопыт усей папярэдняй «малой прозы», сфарміраванай на ўкраінскім нацыянальным грунце, з самай навейшай «тэхналогіяй» сусветнай навелістыкі.

Традыцыямі псіхалагічнай навелістыкі В. Стэфаніка беларуская літаратары карысталіся не толькі на пачатку XX ст., але і пазней, у савецкі час. Як мы ведаем, плённым было творчае навучанне выдатнага беларускага пісьменніка К. Чорнага ў Ф. Дастаеўскага[2]. Але ў 20-я гг., якраз у час напісання раманаў «Зямля», «Ідзі, ідзі», апавяданняў, што склалі зборнікі «Пачуцці», «Хвоі гаворащь», «Вераснёвыя ночы» і інш., Чорны зацікавіўся і творчасцю Стэфаніка. Так, калі ў Дзяржаўным выдавецтве Украіны выйшлі «Твори» навеліста, беларускі пісьмеіннік надрукаваў у часопісе «Узвышша» разгорнутую рэцэнзію на гэта выданне. У ёй акцэнтавалася ўвага менавіта на псіхалатічным аспекце твораў, на ўменні Стэфаніка прасачыць і перадаць тонкія псіхалагічныя зрухі, змены думак і настрояў чалавека. «Калі чытаеш гэтую кнігу Васіля Стэфаніка (Збор навел і апавяданняў),— пісаў Чорны,— забываеш, што гэта кніга, а не само жыццё. Як жывыя праходзяць перад табою страшныя малюнкі чалавечых пакут, змучаная душа гэтых пакутнікаў. Паэт узнімае заслону перад чалавечай душою і паказвае, які вялікі і глыбокі свет там, у чалавеку. У герояў Васіля Стэфаніка няма «звычайнага» стану ў

---

[1] Багдановіч Максім. Збор твораў у 2-х тамах, т. 2, с. 501.
[2] Гл.: Адамовіч А. Маштабнасць прозы. Мінск, 1973.

іх настроях, характарах. Яны ўсе знаходзяцца ў стане той духоўнай напружанасці, якая бывае толькі ў якія-небудзь надзвычайныя моманты жыцця»[1]. У гэтых словах — не толькі характарыстыка творчага почырку славутага ўкраінскага пісьменніка, але і ў пэўным сэнсе самахарактарыстыка Чорнага. Іх можна з поўным правам аднесці да многіх твораў самога аўтара «Бацькаўшчыны» і «Трэцяга пакалення»[2]. Аднак традыцыі Стэфаніка ў беларускай савецкай прозе — асобнае пытанне, яно выходзіць за межы тэмы нашай гутаркі.

Калі гаварыць пра зараджэнне ў беларускай літаратуры асобных жанравых форм — навелы і верша ў прозе, то таксама нельга не прыгадаць В. Стэфаніка. Навела і верш у прозе на пачатку XX ст. даволі шырока бытавалі не толькі ва ўкраінскай, але і ў рускай і іншых еўрапейскіх літаратурах. Таму нацяжкай было б сцвярджаць, што гэтыя формы ў Беларусь прыйшлі з Украіны. Але ўплыў усё ж быў, хоць і не такі прасталінейны.

Практыка ўкраінскай белетрыстыкі, у тым ліку творчасць В. Стэфаніка, усяляла ў беларускіх пісьменнікаў адчуванне правільнасці і своечасовасці пошукаў імі сучасных форм мастацката выяўлення. Даследчыкі ўжо заўважылі падобнасць матываў, сюжэтных ходаў, асобных элементаў мастацкай формы некаторых навел Стэфаніка і Бядулі («Новина» — «Ашчаслівіла»[3], «Катруся» — «Тулягі», «Синя книжечка» — «Сымон», «Майстар» — «Бондар»)[4]. Такая вучоба ў той час была карыснай як для Бядулі, так і для ўсёй беларускай літаратуры наогул. Аднак, як слушна заўважае Э. Мартынава, «агульнасць, падобнасць літаратурных працэсаў, напрамкаў, жанраў, функцыянальных і індывідуальных стыляў можа тлумачыцца не толькі ўплывам, але і тыпалагічнымі заканамернасцямі»[5].

Вершамі ў прозе пачаў свой творчы шлях В. Стэфанік, называючы іх «малымі абразкамі», «абразочкамі». Характэрна, што і першы зборнік З. Бядулі, які быў выдадзены ў 1913 г. і куды ўвайшлі творы пераважна гэтай жанравай формы, меў назву «Абразкі». Вершам у прозе пісалі Я. Колас («Думкі ў дарозе»), М. Гарэцкі («Стогны душы») і інш. Пра тое, што пры зараджэнні новай жанравай формы маладая беларуская проза скарыстала таксама і вопыт Стэфаніка,

---

[1] «Узвышша», 1928, № 5, с. 193.

[2] На жаль, у цікавым і змястоўным зборніку «Василь Стефаник у критиці і спогадах» (Кіеў, 1970, складальнік і аўтар уступнага артыкула Ф. Паграбеннік) зусім не гаворыцца пра месца В. Стэфаніка ў гісторыі беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей, нават не робіцца спасылка на крытычны водгук Кузьмы Чорнага пра ўкраінскага навеліста.

[3] Смолкін М. Змітрок Бядуля. Мінск, 1961, с. 41—42.

[4] Лесін В. М. Пра ўплыў Васіля Стэфаніка на Змітрака Бядулю.— У кн.: Матэрыялы першай навуковай канферэнцыі.., с. 61—62.

[5] Мартынава Э. М. Некаторыя рысы блізкасці і своеасаблівасці развіцця беларускай і ўкраінскай літаратур пачатку XX ст.— У кн.: Старонкі літаратурных сувязей, с. 164.

сведчыць хаця б мініяцюра Бядулі «Маці». Ад яе можна правесці прамую лінію да верша ў прозе Стэфаніка «Дарога», на якім мы ўжо спыняліся, разглядаючы пераклад яго на беларускую мову.

Вядома, што вершам у прозе — гэтым невялікім, напісаным прозай літаратурным творам, які сваей эмацыянальнасцю, лірызмам, своеасаблівай рытмічнасцю мовы набліжаецца да паэзіі,— шырока карысталися мадэрністы. Тагачасны мадэрнізм, у прыватнасці польскі, што знаходзіўся найбліжэй да беларускага пісьменства, характарызаваўся, калі ўжыць азначэнні І. Франка, «бязмозглай і абсурднай фразеалогіяй», «неспакойным і напружаным мігценнем вобразаў», «наскрозь хваравітым звужэннем духоўнага кругагляду»[1]. Відавочна, што ўсяго гэтага не было як у В. Стэфаніка, так і ў творчасці беларускіх празаікаў дакастрычніцкай пары.

Такім чынам, Васіль Стэфанік, творчасць якога «можа зацікавіць і ўзбагаціць любую літаратуру свету» (Ф. Паграбеннік) — адна з велічных постацяў у гісторыгі беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей. Магутны навелістычны талент яго ўзібагаціў беларускую літаратуру пачатку XX ст., пашырыў яе ідэйна-тэматычны дыяпазон, дапамог у паглыбленні псіхалагізму, паспрыяў станаўленню новых жанравых форм, у прыватнасці псіхалагічнай навелы а верша ў прозе.

## „Будзь і нам жа бацькам..."

Многія сучасныя даследчыкі тэорыі і гісторыі перакладу лічаць, што пераклад мастацкіх твораў з'яўляецца адзіным шляхам, па якім здзяйсняецца ўплыў адной літаратуры на другую. Так, у прыватнасці, Я. Эткінд у прадмове да зборніка «Майстры рускага вершаванага перакладу» рашуча далучаецца да акадэміка М. П. Аляксеева, які заявіў: па-за перакладам не можа быць уплыву аўтара, што мысліць у формах іншай мовы[2]. На пачатку стагоддзя гэту думку з няменшай катэгарычнасцю выказаў Валерый Брусаў, які, як гісторык літаратуры і перакладчык, вельмі цікавіўся праблемай літаратурных сувязей. «Сапраўдны ўплыў на літаратуру робяць іншаземныя пісьменнікі толькі ў перакладах»,— пісаў ён[3].

Гісторыя беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей, аднак, дазваляе пэўным чынам удакладніць і канкрэтызаваць такія выказванні. І перш за ўсё — зняць з іх залішнюю катэгарычнасць. Толькі аднаму перакладу ўсе функцыі азнаямлення і творчага ўплыву могуць

---

[1] Франко Іван. Твори, т. 18, с. 226.
[2] Гл.: Мастера русского стихотворного перевода. Л., 1968, с. 7.
[3] Брюсов В. Предисловие переводчика.— У кн.: Э. По. Полное собрание поэм и стихотворении. М.—Л., 1923, с. 7.

належаць пры ўмове, калі сувязі адбываюцца між літаратурамі моўна далёкімі і гістарычна не роднаснымі. У асобных жа выпадках уплыў можа ажыццяўляцца і па-за перакладам.

Т. Шаўчэнка, які веліччу свайго сэрца сагрэў усё славянства,— гэта цэлая эпоха ў культурных сувязях беларускага і ўкраінскага народаў. Для беларусаў, як і для многіх іншых заняволеных народаў, ён стаў, кажучы словамі Я. Купалы, «бацькам мілым». Але ў беларускую літаратуру, у сэрды беларусаў Шаўчэнка ўвайшоў не толькі дзякуючы перакладам. Зразумела, што тыя пяць яго твораў, што на пачатку XX ст. з'явіліся на беларускай мове, не маглі перадаць усёй глыбіні, ідэйнай скіраванасці, пафасу яго творчасці. Шаўчэнка загаварыў з беларусамі перш за ўсё на сваёй роднай мове, і яны пачулі і зразумелі яго.

Па сведчаннях саміх пісьменнікаў, Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля і многія іншыя пазнаёміліся ўпершыню з творчасцю Шаўчэнкі праз украінскае выданне «Кабзара». Як аднойчы прыгадваў выдатны беларускі фалькларыст Рыгор Шырма, у Заходняй Беларусі пачатку XX ст. амаль кожны народны настаўнік меў на сваёй кніжнай палічцы «Кабзара» Т. Шаўчэнкі на мове арыгінала[1].

Аднак што прадвызначыла такое хуткае і трывалае далучэнне беларускай дарэвалюцыйнай паэзіі да Шаўчэнкавага «агню ў адзежы слова»? Чаму, нягледзячы на амаль поўную адсутнасць беларускіх перакладаў яго твораў, слова Кабзара стала такім шырокавядомым і любімым сярод беларускага народа? На гэтыя пытанні паспрабаваў адказаць яшчэ Я. Колас у артыкуле «Шаўчэнка і беларуская паэзія», напісаным у 1939 г., да 125-годдзя з дня нараджэння Кабзара.

Перш за ўсё маладую беларускую паэзію з Т. Шаўчэнкам яднаў высокі пафас творчасці пісьменніка, палкая любоў яго да заняволенага народа і лютая нянавісць да прыгнятальнікаў. «Ужо ў самых першых творах Я. Купалы і Я. Коласа адчуваецца гнеуны голас Шаўчэнкі, калі яны выступаюць супраць царскага прыгнечэння, супраць багачоў»,— чытаем у артыкуле Коласа[2]. Тут жа паэт зазначае, што тэма бацькаўшчыны і роднага народа, сум і журба ўростані з імі, перададзеныя Шаўчэнкам з «незвычайнай мастацкай сілай і эмацыянальнасцю», гучаць таксама ў многіх вершах Купалы («Я ад вас далека, бацькаўскія гоні», «Мая малітва», «Крыўда» і інш.). Сувязь творчасці Купалы і Коласа з паэзіяй Шаўчэнкі выяўляецца ў пэўнай тэматычнай падобнасці іх твораў, выкарыстанні агульных матываў (паэма Шаўчэнкі «Сон» і вершы Купалы «Перад віселькяй», «І як тут не

---

[1] Гл.: Ахрыменка П. Летапіс братэрства, с. 83.
[2] Колас Якуб. Збор твораў у 12-ці тамах, т. П. Мінск, 1964, с. 200.

смяяцца»; «Думы мае, думы мае...» Шаўчэнкі і «Да сваіх думак», «Плачуць мае песні» Купалы і г. д.). Іронія і сарказм, скіраваныя супраць бога і духавенства, якія гучаць у паэме Коласа «Новая зямля», вершы Купалы «Цару неба і зямлі» і іншых творах, маюць у аснове сваёй антыцарскі і антыбоскі пафас такіх твораў Шаўчэнкі, як паэмы «Неафіты» і «Марыя».

Творчасць вялікага Кабзара стала для маладых беларускіх пісьменнікаў невычэрпнай крыніцан паэтычнага майстэрства. Пра гэта выразна сведчыць паэтычная форма асобных твораў Купалы. Своеасаблівы «каламыйкавы» рытм шаўчэнкаўскай паэзіі, багатая інструментоўка верша, унутраныя рыфмы, паралелізм, народна-песенная вобразнасць і сімволіка — усё гэта ў вялікай колькасці знаходзім у Я. Купалы, самага таленавітага вучня і паслядоўніка Т. Шаўчэнкі.

Тэма «Шаўчэнка і Беларусь» пасля Я. Коласа даследавалася многімі беларускімі і ўкраінскімі літаратуразнаўцамі. Апрача шматлікіх артыкулаў, толькі невялічкая частка якіх сабрана ў зборніку «Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура» (Мінск, 1964), ёй прысвечаны грунтоўныя даследаванні П. Ахрыменкі («Тарас Шаўчэнка і Беларусь». Мінск, 1969) і Б. Чайкоўскага («Незабутия сторінка дружби». Киів, 1-е выд,—1964, 2-е выд,—1972). Важнейшыя думкі народнага паэта Беларусі былі паўтораны, удакладнены і развіты далей. Асобныя аспекты гэтай праблемы ўзняты літаратуразнаўцамі ўпершыню. Але ўсё-такі некаторыя пытанпі засталіся па-за ўвагай даследчыкаў або чакаюць свайго глыбейшага вырашэння. У прыватнасці, як нам здаецца, у сучасным літаратуразнаўстве яшчэ недастаткова даследаваны ўплыў нацыянальна-вызваленчых ідэй Т. Шаўчэнкі на беларускую літаратуру і грамадскую думку пачатку XX ст.

Даследчыкі сдвярджаюць, што «ад Шаўчэнкі беларуская літаратура ўспрыняла галоўным чынам выкрывальны пафас, гнеўны пратэст супраць прыгнечання»[1]. Канечне, рэвалюцыйны дэмакрат Шаўчэнка аказаў вялікі ўплыў на развіццё сацыяльна-вызваленчых ідэй у нашай літаратуры, у беларускім грамадстве ўвогуле. Нездарма Я. Купала пісаў:

На поўязень, на поўнач, на ўсход, захад сонца
На кобзах людскіх душ твой грае «Кабзар»,
У хатцы, ў падвале, ў цямніцы, ў карчомцы
Калоціш ты сэрцы, як звонам званар[2].

---

[1] Шубравський В С. Шевченко і літературой народів СРСР. Киів, 1964, с. 162.
[2] Купала Янка. Збор твораў у 6-ці тамах, т. 2. Мінск, 1961, с. 81—82.

І ўсё ж Т. Шаўчэнка на пачатку ХХ ст. стаў для беларусаў перш за ўсё званаром нацыянальнага адраджэння. Беларускай літаратуры сапраўднага дэмакратызму і сацыяльнай завостранасці ніколі, як кажуць, не трэба было пазычаць. Беларускіх пісьменнікаў, «косць ад косці і плоць ад плоці свайго народа» (М. Багдановіч), пратэставаць супраць сацыяльнай несправядлівасці штурхала само жыццё, якое яны мала сказаць — ведалі, якім — жылі. Апрача таго, тут пазначыўся найперш уплыў перадавых рускіх пісьменнікаў, рэвалюцыйных дэмакратаў В. Бялінскага, А. Герцэна, М. Чарнышэўскага, «музы мести и печали» М. Някрасава і інш. Словы Івана Франка, што творы рускай літаратуры «мучылі нас, абуджалі наша сумленне, будзілі ў нас чалавека, будзілі любоў да бедных і пакрыўджаных»[1], з поўным правам маглі сказаць пра сябе і беларускія літаратары пачатку ХХ ст. Вакантным заставалася месца паэта-трыбуна, які мог бы заклікаць беларусаў адначасова да актыўнага нацыянальна-вызваленчага змагання. Такім паэтам на першым, самым пачатковым этапе станаўлення нацыянальнай самасвядомасці, стаў Тарас Рыгоравіч Шаўчэнка.

У 1911 г. у артыкуле «Памяці Тараса Шаўчэнкі» А. Бульба пісаў: «Шаўчэнка тым дарагі для нас, беларусаў, што ён ужо больш як паўстагоддзя таму выказаў тыя самыя думкі, якімі мы цяпер жывём. Не адзін з нас прабудзіўся, чытаючы «Кабзара». Шаўчэнка нам указвае, як ісці»[2]. Чаму ж, аднак, беларусы «вярнуліся» да слова ўкраінскага паэта? Чаму ён асабліва актуальным аказаўся менавіта на пачатку ХХ ст.? Гэта абумоўлена аб'ектыўнымі працэсамі гістарычнага развіцця беларускага народа, на якіх мы ўжо спыняліся часткова. Так, мы гаварылі пра велізарнае значэнне рэвалюцыі 1905-1907 гг. для сацыяльнага разнявoлення і нацыянальнага адраджэння беларусаў. Каб пажаць добры плён, мала мець адборнае зерне. Трэба, каб і глеба была як след падрыхтаванай. Такой удзячнай глебай, на якую ўпалі зерні Шаўчэнкавых ідэй, і аказалася беларуская рэчаіснасць пачатку ХХ ст. Як і ўкраінцаў, сваіх суродзічаў, Кабзар пачаў вучыць беларусаў «любіць свабоду, родны край і мову» (Я. Купала). Праўда, пачатак гэтай «вучобы» для беларусаў аказаўся некалькі пазнейшым. Але праходзіла яна не менш актыўна і плённа.

Заканамерна, што літаратура народа, адроджанага да духоўнага і культурнага жыцця, імкнецца да нацыянальнага самавызначэння, сцвярджэння ў форме роднага слова, без чаго яна і не мысліцца як літаратура нацыянальная. У беларускіх літаратараў жаданне тварыць

[1] Франко Іван. Твори, т. 16, с. 139.
[2] «Наша ніва», 1911, 24 лютага.

на сваёй роднай мове ў значнай ступені прадвызначалася знаёмствам з творчасцю ўкраінскага паэта. «Нацыянальнае абуджэнне» адбывалася як праз непасрэдны ўплыў Шаўчэнкі, так і праз апасродкаваны. Так, Ф. Багушэвіча як беларускага паэта сфарміравала Украіна, і перш за ўсё творчасць Шаўчэнкі. У сваю чаргу, Ф. Багушэвіч аказаў уплыў на Я. Купалу. Вядома, што Купала пачынаў творчасць на польскай мове, але знаёмства з аўтарам «Дудкі беларускай», як пазней прыгадваў сам паэт, «канчаткова вырашыла, што я беларус і што адзінае мае прызванне — служыць свайму народу ўсімі сіламі сваёй душы і сэрца»[1].

Першыя вершы Я. Коласа, чалавека, выхаванага на традыцыях пісьмовай рускай культуры, узніклі пад непаерэдным уплывам І. Крылова і А. Пушкіна і былі напісаны на рускай мове. Да пісання на беларускай мове яго схіліў настаўнік славеснасці Нясвіжскай семінарыі А. В. Кудрынскі. Кудрынскі добра арыентаваўся ў развіцці нацыянальных славянакіх культур, выдатна ведаў не толькі творчасць Т. Шаўчэнкі, але і ўкраінскую культуру і літаратуру наогул. Ведаў настолькі, што нават друкаваў навуковыя артыкулы аб ёй. Так, у год першага выступлення Коласа ў беларускім друку ён апублікаваў у «Виленском календаре на 1907 г.» (Вільня, 1906) вялікае і надзвычай цікавае даследаванне «Казакі (агульны нарыс казацтва да XVII в.)». У сваёй рабоце Кудрынскі выкарыстаў мноства гістарычных і культурных крыніц, як старажытных, так і навейшых: летапісы Самавідца, Вялічкі і іншыя, сабраныя ў «Южно-русских летописях» Белазёрскага, працы М. Максімовіча, М. Кастамарава, П. Куліша, М. Лысенкі, А. Мятлінскага, У. Антановіча і М. Драгаманава. «Прыклад» Шаўчэнкі настаўніку Коласа быў добра вядомы, яго ён, відавочна, і меў на ўвазе, распачынаючы гутарку са сваім вучнем.

Вялікі ўкраінскі паэт, мысліцель, рэвалюцыянер-дэмакрат Т. Шаўчэнка спрыяў узмужненню і большаму класаваму акрэсленню нацыянальна-вызваленчага пафасу беларускай літаратуры. Агульнавядома, як моцна любіў Кабзар Украіну, яе народ, гісторыю і родную мову. Толькі такая велізарная любоў давала паэту права на знішчальны сарказм у яго звароце да землякоў:

Німець скаже: «Ви моголи».
«Моголи! моголи!»
Золотого Тамерлана
Онучата голі.
Німець скаже: «Ви слав'яне».

[1] Купала Янка. Збор твораў у 6-ці тамах, т. 6, с. 454.

«Слав'яне! слав'яне!»
Славим прадідів великих
Правнуки погані[1].

Гэтак жа востра высмейваў Т. Шаўчэнка «сваіх» рэнегатаў, што адракліся ад роднай мовы, цураюцца і сарамеюцца яе:

...всі мови
Слав'яньского люду —
Всі знаете. А своэи
Дастьбі... колись будем
І по-своему глаголить,
Як німець покаже,
Та до того й історію
Нашу нам розкаже...[2]

Я. Купала, якога яшчэ да рэвалюцыі назвалі «беларускім Шаўчэнкам», імкнучыся абудзіць нацыянальную самасвядомасць народа, таксама апеляваў да прыспанага сумлення сучаснікаў. З едкім сарказмам гаворыць ён пра пярэваратняў, «гладкіх панічкоў»:

То беларус, то палячок,
А чым папраўдзе — не згадаць.
Паслухай, гладкі панічок:
Пашто так скурай гандляваць?[3]

Такога пярэваратня — Мікіту Зноска — на ўвесь рост пакажа Я. Купала некалькімі гадамі пазней, у камедыі «Тутэйшыя». Прыблізна ў гэты час, у 20-я гады, маляваў свайго Цыбулевіча — Цыбульскага — Лукавіцына і К. Крапіва — персанажа, які, у залежнасці ад абставін, мяняе не толькі палітычныя ідэалы, але і нацыянальнасць, нават сваё прозвішча.

Абодва паэты, Т. Шаўчэнка і Я. Купала, нацыянальную бесхрыбетнасць чалавека звязвалі з яго сацыяльным паходжаннем. Рэнегатамі, касмапалітамі ў іх творчасці выступалі перш за ўсё прадстаўнікі пануючых класаў. У творы «І мёртвым, і жывым...» Шаўчэнка дае знішчальную характарыстыку пануючай вярхушцы, якая гандлявала народам, блакіруючыся з царызмам, з аднага боку, і з польскай шляхтай— з другога:

Раби, подножки, грязь Москви,
Варшавське сміття — ваші пани,
Ясновельможнії гетьмани.

---

[1] Шевченко Тарас. Повне зібрання творів у 6-ти томах, т. 2. КиТв, 1963, с. 332.
[2] Там жа.
[3] Купала Янка. Збоо твораў у 6-ці тамах, т. 3, с. 234.

У такім сацыяльным, класавым падыходзе да нацыянальнага пытання — адна з характэрнейшых асаблівасцей творчасці двух волатаў літаратуры славянскага свету.

Падобнасць ідэйна-творчых пазіцый украінскага і беларускага паэтаў відаць і ў іх звароце да гістарычнага мінулага родных народаў, імкненні ўзвысіць, гераізаваць гэта мінулае, даць народу адчуць цвёрды грунт пад сваімі нагамі. З болем пісаў Янка Купала пра тое, што нашчадкі забываюць пра слаўныя справы сваіх продкаў, не працягваюць іх вольналюбівых традыцый:

Перайшло, мінула,
Што калісь жыло,
У курганах заснула,
Зеллем парасло...[1]

Аднак не ў імя ідэалізацыі мінулага, як часам неабгрунтавана сцвярджалася ў беларускай крытыцы, звяртаўся беларускі паэт да фактаў гісторыі. Гаворачы пра мінулае, звяртаючы ўвагу найперш на гераічныя моманты гісторыі роднага народа, падкрэсліваючы, вылучаючы, тыпізуючы іх, Я. Купала, як у свой час і Т. Шаўчэнка, думаў і дбаў пра сучаснае яму грамадскае жыццё. Часам сучаснае і мінулае супастаўляліся, нават супрацьстаўляліся. Але ніяк нельга лічыць, што ў гэтых выпадках паэт па ўзору колішніх рэакцыйных рамантыкаў, што не хацелі бачыць грамадскага прагрэсу, быццам бы намагаўся павярнуць кола гісторыі назад. Усёй сваёй паэзіяй, усім сваім жыццём Купала імкнуўся сцвердзіць лепшае будучае, змагаўся за яго. Так, калі паэт заяўляў:

Я казак — не казак,
Што нагайкай свісціць,
А казак, што калісь
Знаў, як волю любіць!..
Што *кароны* ліхой
І *пасады* ўстрасаў,
А *законы* крывёй
*Самаўладцам* пісаў[2],—

то наіўна было б тут, як і ў іншых творах, бачыць ідэалізацыю сярэдневякоўай казацкай вольніцы. Варта толькі пільней прыглядзецца да выдзеленых намі слоў, у якіх увасоблены выразны класавы падыход паэта да гістарычных падзей, каб убачыць недарэчнасць такога меркавання. У творы відаць і супрацьпастаўленне мінулага сучас-

[1] «Наша ніва», 1909, № 46.
[2] Купала Янка. Збор тзор аў у 6-ці тамах, т. 3, с. 51.

наму. Але гэта супрацьпастаўленне здзейснена не дзеля ідэалізацыі мінулага, хай сабе і такога гераічнага, а дзеля запярэчання сучаснага ў імя сцвярджэння лепшага будучага. Верш выкрывае разбой царскіх палкоў, што тапілі ў крыві паўстанцаў, душылі свабоду падчас першай рускай рэвалюцыі.

Купала асуджае менавіта гэтых казакоў, якія нічога агульнага, апрача хіба назвы, не маюць з адважнымі, вольналюбівымі запарожскімі казакамі мінулых стагоддзяў.

Наогул, у мінулым, як і ў сучасным, Т. Шаўчэнка і Я. Купала выразна бачылі сацыяльную няроўнасць, класавае размежаванне. Гэта праявілася і ў рамантычных творах Кабзара, а найбольш — у рэвалюцыйнай па сваім характары паэме «Гайдамакі». У рамантычнай паэме Купалы «Бандароўна», сюжэт якой запазычаны, як вядома, з украінскай гістарычнай песні, вобраз вольналюбівай сялянскай дзяўчыны Бандароўны рэзка супрацьпастаўляецца вобразу пана Патоцкага, што «на Украіне... з сваёй хеўрай гаспадарыць над бедным народам». У паэме «Курган» стары гусляр і вяльможны князь знаходзяцца на розных полюсах чалавечай дабрачыннасці, па розныя бакі сацыяльпа-класавай мяжы. Сацыяльнае паходжанне герояў вызначае таксама характар іх учынкаў, абумоўлівае іх долю і ў паэмах Купалы «Зімою», «Нікому», «Адплата кахання» і інш.

Безумоўна, нельга бачыць ва ўсім гэтым, што падчае неапраўдана робяць асобныя даследчыкі, толькі навучанне беларускіх паэтаў, у прыватнасці Я. Купалы, у вялікага ўкраінскага паэта. Перш за ўсё выявіўся тут агульны падыход пісьменнікаў да рэчаіснасці, надзвычайная блізкасць іх светабачання і светаразумення. Менавіта ў гэтым плане трэба разумець выказванне М. Горкага, які гаварыў, што не ведае іншага паэта, акрамя Янкі Купалы, у якога б так поўна, так пранікліва выявіліся творчыя прынцыпы Тараса Шаўчэнкі[1].

Гаворачы пра папулярнасць творчасці Т. Шаўчэнкі не толькі сярод беларускіх літаратараў, але і ўвогуле сярод беларусаў на пачатку XX ст., неабходна спыніцца яшчэ на дным важным моманце. Ва ўсходнеславянскіх літаратурах цяжка знайсці мастакоў слова, якія б так арганічна, як Шаўчэнка і Купала, засвоілі і развілі традыцыі песеннай творчасці сваіх народаў. Мае пэўную рацыю літаратуразнавец Э. Мартынава, калі піша, што «некаторыя блізкія рысы паэтыкі Купалы і Шаўчэнкі тлумачацца не толькі ўплывам, як гэта пераважна сцвярджаецца (і не столькі ўплывам, удакладнім мы.— аўт.), але і

[1] Гл.: Айзешиток І. Традыцыі вялікага Кабзара.— «Літаратура і мастацтва», 1954, 3 красавіка.

агульнай народна-песеннай традыцыяй беларусаў і ўкраінцаў»[1]. У гэтым — адна з прычын папулярнасці Кабзара сярод беларускага чытача пачатку XX ст., творчага поспеху беларускіх перакладчыкаў яго вершаў і паэм.

Такім чынам, паэзія Т. Шаўчэнкі была тыпалагічна блізкай да беларускага літаратурнага працэсу пачатку XX ст. Гэта найбольш поўна і непасрэдна выявілася ў творчым яднанні Шаўчэнкі і Купалы, у агульнай ідэйна-тэматычнай скіраванасці іх творчасці, у падабенстве паэтыкі. Тым самым яшчэ раз сцвердзілася асаблівая роднаснасць двух волатаў літаратуры славянскага свету, кожны з якіх «гаварыў ад імя народа і голасам народа, глыбока і тонка разумеў мастацкія вартасці скарбаў вуснай паэзіі, акрыліў іх сваім геніем, узбагаціўшы чалавецтва ўзорамі высокай і самабытнай паэзіі»[2].

---

[1] Мартынава Э. М. Некаторыя рысы блізкасці і своеасаблівасці развіцця беларускай і ўкраінскай літаратур пачатку XX ст., с. 175.

[2] Пшыркоў Ю. Святло вялікіх ідэй.— У кн.: Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура, с. 137.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

У гісторыі беларуска-ўкраінскіх узаемасувязей пачатак XX ст.— адзін з найбольш цікавых і плённых перыядаў. Раней ўласна літаратурныя сувязі з'яўляліся састаўной часткай агульнакультурнага яднання ўкраінцаў і беларусаў, што развівалася насуперак палітыцы царызму, які перашкаджаў не толькі станаўленню нацыянальных культур народаў, але і іх збліжэнню. Так, беларуска-ўкраінскія сувязі ў XIX ст. не праходзілі як працэс, яны вызначаліся спарадычнасцю, выпадковасцю, а адсюль — і нязначнай прадукцыйнасцю. Узаемаазнаямленне народаў заўважалася пераважна ў галіне гуманітарных навук — гісторыі, этнатрафіі, фальклярыстыцы. Адначасовае ажыўленне сацыяльнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы ўкраінскіх і беларускіх працоўных прадвызначыла збліжэнне народаў, іх рэвалюцыйную садружнасць. Стваракоцца перадумовы ўмацавання і паглыблення культурных сувязей між народамі, пашырэння ўплыву рэвалюцыйных ідэй на самі нацыянальныя літаратуры. Яскравае сведчанне таму — падзеі 1863 г., дзейнасць арганізацыі беларускіх народавольцаў «Гомак», з'яўленне праграмы «Украінска-польска-літоўска-беларускага брацтва» і «Выдавецкай суполкі» М. Паўлыка і І. Франка, публіцыстыка М. Драгаманава і С. Падалінскага, рэвалюцыйна-агітацыйная дзейнасць А. Гурыновіча і ўсяго «Гуртка моладзі польска-літоўска-беларускай і маларускай». Перыяд XIX ст. азнаменаваны і работай І з'езда РСДРП, які адбыўся ў Мінску і ў арганізацыі якога самы актыўны ўдзел прынялі ўкраінскія (кіеўскія) і беларускія (мінскія) сацыял-дэмакраты.

Пачатак XX ст. прынёс новыя, нябачаныя дагэтуль сацыяльныя зрухі. Першая руская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя 1905-1907 гг. аб'яднала працоўных усіх народаў Расіі ў барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне. Пастаўленае Леніным пытанне аб праве нацый, увасобленае ў Праграме Камуністычнай партыі (1903), у розных партыйных дакументах, працах самога У. І. Леніна, пачала праводзіцца ў жыццё. Рэвалюцыя стала магутным паскаральнікам усіх грамадскіх працэсаў у краіне, што непасрэдна адбілася і на літаратуры як адной з форм ідэалогіі. І калі характэрнай рысай літаратурнага жыцця XX ст. з'яўляецца паскоранае развіццё літаратур, то ў гісторыі беларуска-ўкраінскага яднання пачатак XX ст. стаў часам паскоранага развіцця міжлітаратурных сувязей. Яны вылучаюцца з рэчышча агульнакультурнага яднання і становяцца самастойным працэсам з цэлай сістэмай гістарычна абумоўленых фактаў.

Важную і высакародную функцыю грамадска-культурнага ўзаемаазнаямлення беларусаў і ўкраінцаў выконвалі на пачатку XIX ст. прагрэсіўны рускі друк, выданні Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, а таксама паасобныя польскія перыядычныя выданні, што выходзілі на тэрыторыі Украіны і Беларусі. Калі ж у выніку рэвалюцыі 1905-1907 гг. узнікла нацыянальная ўкраінская і беларуская перыёдыка, то менавіта яна ўзяла на сябе асноўныя абавязкі па далейшым развіцці культурных і літаратурных сувязей між двума братнімі народамі.

Разам з пашырэннем каналаў інфармацыі ў міжлітаратурных беларуска-ўкраінскіх сувязях узнікаюць і новыя формы літаратурнай рэпрэзентацыі. У першую чаргу ўзаемаазнаямленне адбывалася праз шматлікія разнастайныя водгукі, паведамленні, нататкі. Больш глыбокае асэнсаванне літаратуразнаўчай інфармацыі давалі аглядныя артыкулы, літаратурна-крытычныя даследаванні, рэцэнзіі. Менавіта ў такіх формах былі прадстаўлены ў Беларусі І. Катлярэўскі, Т. Шаўчэнка, Леся Украінка, І. Франко, Б. Грынчэнка і іншыя, а на Украіне адбывалася знаёмства з агульнай карцінай раэвіцця беларускай літаратуры, творчасцю Я. Купалы і Я. Коласа. На пачатку XX ст. нараджаецца беларуска-ўкраінскі і ўкраікска-беларускі мастацкі пераклад як адна з надзвычай плённых форм літаратурных сувязей.

У той жа час асобныя факты сведчаць не толькі аб рэпрэзентацыі літаратур, але і пра творчае засваенне эстэтычнага вопыту адной літаратуры літаратурай другой. Як менш развітае ў той час, беларускае пісьменства выступала ў ролі ўспрымаючага. Найбольшы ўплыў на яго аказала творчасць Т. Шаўчэнкі, В. Стэфаніка, а таксама ўкраінская драматургія. Уплыў украінскай літаратуры адбываўся як праз пераклад (В. Стэфанік, драмы М. Крапіўніцкага), так і непасрэдна праз арыгінал (Т. Шаўчэнка, асобныя драматычныя творы). Апошняе растлумачваецца тым, што сувязі праходзілі паміж літаратурамі моўна роднаснымі, абумоўлівалічя выключнай тыпалагічнай падобнасцю літаратурных працэсаў.

Даследаванне фактаў беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей падвярджае думку некаторых вучоных пра існаванне «сустрэчных плыняў» (А. Весялоўскі) у літаратуры-ўспрымальніцы, падрыхтаванай да шырокіх кантактаў з іншай літаратурай, пераконвае ў тым, што літаратурны ўплыў — не выпадковасць, а з'ява, заўсёды абумоўленая «ўнутранай неабходнасцю такога ўплыву» (В. Жырмунскі). Так, агульнавядома, што Т. Шаўчэнка аказаў на беларускую літаратуру адчувальны ўплыў як у ідэйна-тэматычным плане, так і ў галіне паэтыкі. Але адбылоея гэта не раней пачатку XX ст., толькі тады, калі бурны

рост сацыяльнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы беларускага народа прадвызначыў асаблівую патрэбу ў ідэях, пафасе, форме шаўчэнкаўскага слова. Пераклады твораў В. Стэфаніка на беларускую мову садзейнічалі псіхалагічнаму паглыбленню ў беларускай літаратуры рэалізму, станаўленню новых жанравых форм, у прыватнасці псіхалагічнай навелы і верша ў прозе. Разам з іншымі фактарамі ўнутранага развіцця ўплыў Стэфаніка выявіўся ў прышчапленні беларускай прозе навейшай «тэхналогіі».

Украінская драматургія, і ў першую чаргу творы М. Крапіўніцкага, гастролі ўкраінскіх вандроўных труп, пераконвалі беларусаў у неабходнасці хутчэйшага стварэння ўласнага нацыянальнага тэатра, спрыялі паскарэнню гэтага працэсу. На лепшых узорах украінскай драматургіі не толькі выхоўваўся беларускі глядач, але і ўдасканальвалася майстэрства беларускіх акцёраў. Уплыў украінскай драмы быў актыўна стымулюючым. Творы М. Крапіўніцкага садзейнічалі станаўленню беларускай рэалістычнай драматургіі.

Рост і ўзбагачэнне беларускай літаратуры, уздым культурнага і літаратурнага жыцця на Украіне ствараюць умовы для наладжвання асабістых кантактаў паміж беларускімі і ўкраінскімі пісьменнікамі, літаратарамі. У сувязі з развіццём літаратур, пашырэннем кантактных сувязей вынікае паглыбленае асэнсаванне прадстаўнікамі адной літаратуры літаратурнага працэсу другой. Пачынаецца ўзаемадаследаванне літаратур (Свянціцкі і беларуская літаратура, Багдановіч і Украіна і г. д.).

На пачатку XX ст. адбываецца пераход ад бінарных сувязей да шматпланавых. Так, большасць сваіх украіназнаўчых прац і перакладаў беларус М. Багдановіч друкуе ў рускай прэсе, адрасуе ў першую чаргу рускаму чытачу. У той жа час рэцэнзіі і водгукі на выданні беларускіх літаратараў усё часцей пачынаюць з'яўляцца ў польскіх газетах і часопісах, што выходзяць на Уікраіне — у Кіеве, Львове. Чэшскі славіст Ян Махал, працуючы над трохтомнай гісторыяй славянскіх літаратур, выкарыстоўвае, з аднаго боку, матэрыял артыкула М. Багдановіча пра У. Самійленку, з другога — беларусазнаўчыя працы Іл. Свянціцкага і іншых украінскіх аўтараў. Што датычыцца багатага на фактычны матэрыял артыкула Багдановіча «Беларускае адраджэнне», то вучоны ведаў яго толькі ва ўкраінскім перакладзе. Зараджаецца, такім чынам, агульнаславякскае літаратурнае ўзаемадзеянне.

Усе найбольш значныя асаблівасці беларуска-ўкраінскага літаратурнага яднання пачатку XX ст. найпаўней выявіліся ў творчай практыцы М. Багдановіча. Ён адчувальна ўмацаваў фундамент

«мастоў братэрства», перакінутых праз тры ўсходнеславянскія культуры — беларускую, украінскую і рускую. У яго дзейнасці арганічна перапляліся ўсе тры тыпы літаратурных узаемаадносін. Гісторыка-тыпалагічнае падабенства прадвызначыла характар і сутнасць кантактных сувязей. У сваю чаргу яны абумовілі ўзнікненне генетычных сувязей. Дакладна акрэсліліся асноўныя формы беларуска-ўкраінскіх літаратурных кантактаў пачатку стагоддзя (пераклад, водгук, рэдэнзія, літаратурна-крытычны агляд, літаратуразнаўчае даследаванне). Кантактныя сувязі ўзмацніліся, пашырыліся, занялі вядучае месца ў працэсе міжнацыянальных літаратурных узаемаадносін. Творчы подзвіг М. Багдановіча — гэта вышэйшая ступень беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей дарэвалюцыйнага часу.

Заканчэнне творчай дзейнасці класіка беларускай літаратуры М. Багдановіча супала па часе з самым высокім уздымам рэвалюцыйнай хвалі, перамогай Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Пачаўся новы, савецкі перыяд беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей — перыяд літаратурнага ўзаемадзеяння.

**ЗМЕСТ**